— Трэба й нам свайго малога выправіць. Як ты думаеш, старая?— папытаўся Юстап у Прузыны, на Пакровы сьнедаць за стол сеўшы. Ён як ня быў п'яны заўсёды пытаўся ў жонкі парады: як лепей зрабіць. Як сам хоча, так, бывала, зробіць Юстап, але папытае:

— Што ты на гэта скажаш? як параіш?

— Як сам знаеш. Па мне—выпраўляй сабе,—дала Прузына свой спрадвечны адказ.

Юстапа некалі дарэктары вучылі. Руския і польскія вялікія літары ён знаў. Так і гэтак, калі дзе *надта* пільна прыдзецца, расьпісацца мог. Некалі, як Юстапа вучылі, дарэктар, як пастух, па чарзе з хаты ў хату хто гадзіў яго свае дзеці вучыць, пераходзіў. Тыдзень за дзіця дарэктара карміць трэ' было. Тыдзень у таго чалавека ў хаце зьбіралася школа. А тады далей школа і дарэктар ішлі па чарзе. Цяпер-жа многа начай было. Паставілі цесьлі проці папоўага дому школу. Туды штораніцы беглі дзеці з Баркаўцоў і з блізкіх вёсак. Не па хатах ад'ядаць за малых хадзіў настаўнік, а быў яму ў школе зроблены асобны комар і там ён сам сабе на казённай пэнсіі быў.

— Ну, Савоста? Як ты на гэта? пойдзеш вучыцца?—зрабіў прыклеп, папытаўся Юстап у малога.

— Чорт яго! Хто-ж тады нам каровы адпасе?! Ды вунь і авечая чарга блізка. Пакуль адбудзеш сваю рату за пятнаццацера штук, дык і ў школу хадзіць будзе не пара.

Добрыя, моцныя прычыны былі ў Савосты, каб у школу не хадзіць. А самую большую, самую мацнейшую прычыну такі ўтаіў малы Юстапчык. Ня прызнаўся, што—па праўдзе сказаўшы—ён ужо чытаць-пісаць і ўмеў крыху. Цэлыя тры літары на памяць вывучыў сьвіньня пасучы і так добра ўмеў з іх слова злажыць, што і настаўніку-б ня было чаго ў Савосты паправіць. А пісаць гэта слова быў так шчыра ўзяўся, што як папаў сьцізорык, ніводнай прысады цэлай не асталося. На кожным клёне, на кожным ясені Савоста пісьменнасьць была знаць. Толькі не пахваліўся ён бацьку гэтым сваім умельствам. Пабаяўся, каб Юстап не адлупіў папругай за такую навуку.

— Чорт яго пойдзе!—толькі Савоста сказаў.

Але заўтра, на другі дзень па Пакровах, як узяліся: маці за скарач, бацька за папругу, бачыць Савоста, што большага, лепшага праваду чакаць яму баязно. Абуўся ў патапцы ды пацісвуў ціхенька за дзьверы.

Школа стаяла на выгане, пры рэчцы. Рабілася гэта, каб настаўнік надта з мужыкамі ня братаўся, каб менш яны яму на вочы находзілі, каб надта не загавараваўся з імі, а больш, каб дармовыя дадаткі да „Нивы" чытаў, ды на рэчку, на хараство прыроды ўглядаўся. Напроці школы і папоўскі дом быў—акно ў акно. Гэта ізноў з розумам зроблена было: каб часьцей пападзянкі ў настаўніка на воку былі, каб—як прачытае адзін дармовы дадатак ды пакуль за другі возьмецца—было яму сякое-такое

разгарненьне. Трэба-ж вымеркаваць так, каб не саўсім зьдзічэў чалавек у адзіноце над дармовымі дадаткамі крукам гнучыся.

Як зімою, дык перш вуліцаю, а потым гасьцінцам дарога ў школу. А ўвосень, пакуль няма сьнегу, па загародзьдзі ў школу многа прасьцей і бліжай.

Выбачайце, таварыш чытач. Можа вам і нязручна цягацца за маімі абрыдзонымі героямі ўсьлед. Куды яны толькі не звалакуцца!? От як цяпер Савосьце: у такую гразкую мясьціну, ён нас завёў! На загародзьдзі на заручычах—як у нас завуць—кудэю ён у школу пашоў, нязвыкламу чалавеку надта-ж дрэнна: росна, гразка, абы ступіў—зараз-жа рыжая вада з рудою набягае ў твой сьлед. Дрэнна вам, таварыш чытач, ісьці за маімі гэроямі сьледам—сам гэта ведаю, але нічога іншага парадзіць не магу,—дрэнна, калі вы, часамі, у чаравіках. Сапсуіцё дарэшты свой абутак. Незалюбіць ваш хром баркаўскіх заручычаў—гэта добра ведаю,—назаўтрае-ж паколіцца, патрэскаецца і на сьметнік папросіцца ён у вас. Ня толькі хрому, але і панчохам будзе дыхту. Я пэўны, што цераз халяўкі набярыцё вады поўны чаравікі.

Выбачайце мне, таварыш чытач! Ну, што я зраблю!? Ну, чым я тут папраўляю!!? Зямлі-ж у закладку ня зложыш, каб гразкія, мокрыя месьціны схаваць, каб толькі посуху хадзіць. Не памыкайцеся пра мэліарацыю распачынаць гаворку! Я гэта ведаю. Але вы, мусіць, забыліся як далёка адышліся мы. Забыліся, што яшчэ перад вайною ходзім мы па гэтых заручычах. Дзе тады, скажэце, тая мэліарацыя была?!

А ведаеце праз каго псуецца ваш хром? Хто тут вінен, калі самакрытычна да гэтага пытаньня шчыльна—лоб у лоб, як цесьлі кажуць—падыйсьці? Мае гэроі. Цераз лад яны ўпартыя ўдаліся. Не павядзеш іх па навозах, дзе лепшая, сушэйшая дарога, калі яны ведаюць, што тудэю далей, кружней.

Ды ўрэшце, гэта як хто хадзіць умее. Вы папсавалі сабе хром, а Савоста ў патапцах—такіх лапцях з сукачоў—перайшоў, як чэрці яго перанесьлі: ані ног не папрамочаваў. Бо ён дарогу ведае; ведае дзе ступіць, каб на кладку, што зьверху мохам зарасла, трапіць. Ані ня знаць кладак на заручычах нам з вамі, а Савоста ведае, дзе каторая ляжыць.

Толькі вышаў з западзі на ўзгорак Савоста. Ажно там пад Заблоцкіх бярозаю стаіць Язукоў Клемка з лемантаром. Прышло на Клемку безгалоўе—ненавідная восень. Выганяе бацька з хаты. Нешта-ж надумаўся Язук Філончык. З сына чалавека зрабіць захацеў. Ды дзе там з Клемкі чалавек будзе, калі ён, малым быўшы, зашыў сабе розум. Бывала абы вырваўся гузік, ня меў ён моды даць мацеры ўшыць, а сам возьме нітку, сам завалачэ ў іголку і на сабе, нічога ў зубы ня ўзяўшы, верне гузік на яго даўнейшае месца. Ушые ды яшчэ і памацуе: ці моцна сядзіць.

Абы прышлі пакровы.

— Пашоў у школу,—чуе Клемка назаўтра ранічкаю.

Далася добра Філончыку школа ў знакі. Кожан год чакаў яго там злосны баркаўскі настаўнік Зубрыцкі, трымаў напагатове лінейку ў руцэ. Ня было над яго лепшага майстара лапы даваць.

Штогоду зношавалася ў Зубрыцкага на гэтай рабоцэ моцная, дубовая лінейка. Штовосені перад пакровамі рабіў яму сталяр новае гэта начыньне.

Толькі адчыніць, бывала, Клемка Філончык у клясу дзьверы.

— Ну што бальшун?—пытае Зубрыцкі; ня дасьць ён і разгледзіцца яму.—Ізноў у першазімцы?

Баяўся Клемка надта ў рукі холаду. Пакуль па пакровах назаўтрае пяройдзе ў школу, паробяцца яны ў яго, як карчы. Добра што Забрыцкі ня толькі настаўнік, але і доктар крыху быў. Умеў ён даць раду мярзьлявым рукам. Яшчэ ня змоліцца Клемка адказаць куды ён: у першазімцы ці ў першае гэты год сесьці думае, а ўжо настаўнік вітацца ў яго просіць:

— Дай сюды правую!

Толькі неяк не па-людзку вітаецца Зубрыцкі. Бярэ Клемкаву руку за самыя пальцы, моцна—каб ня вырваў—трымае. Пераверне далоняю ўверх, як мага больш выпучыць яе. Тады возьме лінейку з стала. Памаленьку, не сьпяшаючыся ўрэжа Філончыку пару лапаў. Зачырванеецца, гарыць рука, а Зубрыцкаму гэтага мала.

— Левую дай!

І ў тую ўкіне гэтулька сама лап, каб у крыўдзе не асталася.

Такую ўжо быў моду паняў баркаўскі настаўнік: перш зробіць рукі, як пампушкі, а тады дасьць лемантар у іх патрымаць.

— Ну, чытай! Ма... А як далей?

— Мы—а, ма...—добра пачне Клемка, але да канца гэтай мудрасьці ўсёроўна не чытаецца: не зьнясе гэтага яго зашыты розум.

— Мама мыла раму,—падкажа Зубрыцкі, як збрыдае яму ад Клемкі гэтага хітрага адказу чакаючы.—А што, надаўбень?! Я такі не памыліўся наперад даўшы гасьцінца. От ты цяпер і зарабіў яго.

Паглядзіць настаўнік на Клемкавы рукі: як вараныя ракі яны ў яго.

— У першазімцы.

Кожан год быў Філончыкаў першы дзень у школе падобен налеташні такі самы дзень: тая гаворка, тое чытаньне, тыя самыя чатыры лапы. І кожны год садзіўся Клемка на тую самую лаўку—на самую апошнюю, што стаяла ў самым кутку пры сьцяне. Яна самая высшая была ў школе. І была на ёй ад Зубрыцкага многа зацішней.

Гэтага-ж году меўся быць цуд. Ужо, калі шыў што Клемка на сабе, дык браў істужку ці палатна кусок у зубы. Трымаў яго так аж датуль, пакуль ня ўся ў яго работа была. Сьцярогся, каб хаця як незнарок ізноў розуму не сашыць. Пасталеў, паразумнеў Клемка, восім год у школу пахадзіўшы, і наважыў ён гэту восень з першазімцаў у першае перайсьці.

Ды й пара была, тымчасам: ці дасьцё веры?! васімнаццаты год ад першай прачыстай пашоў хлопцу. Цяпер з гэтага дзіва. А даўней гэта не пяршыня была. Па дванаццаць, па чатырнаццаць год некаторыя цягаліся ў пачатковую школу. Усё скончыць яе не маглі ніяк.

Дык от: стаіць Клемка Філончык—сам у сабе хлапец—на заручычах пад Заблоцкіх бярозаю і на ўсё поле сьпявае. (От бачыце, таварыш чытач, мы загаварыліся пра сёе, пра тое: пра чаравікі, пра немагчымую закладку на зямлі, пра патаемныя кладкі ў гэтым гразкім месцы і пра іншую дрэбязь, і ня чулі Клемкі за паўганей ад яго стоячы. І гэтак ён моцна і даўно тут чытаў! Можна-ж было вам многа раней яго пачуць).

— Мы-а, ма; мы-а; мама. Мы-ы, мы; лы-а, ла; мыла. Ры-а, ра; мы-у-му; раму. Мама мыла раму,—такі паўздужаў сяк так. Аж палягчэла Клемку, як пачуў, што на волі цяпер яго розум, не зашыты ўжо ён у яго. Весялей зірнуў на сьвет Філончык. Але не надоўга вясёлы быў яго пагляд. Убачыў Клемка малога Юстапчыка на заручычах.

— І ты ў школе?—пытае ў яго Савоста проста, па-сяброўску:

От тут і па ўсёй Філончыкавай радасьці было. Ізноў найшла хмара над яго яснымі, віднымі вачыма.

— У школу,—неяк не падумаўшы сарвалася ў яго слова з языка. Напусьціўся Клемка ды, як роўнаму, Савосту адказаў. І сам ён гэтаму быў ня рад.

— І я-ж у школу йду!

— Смаркач! Пайдзі ‘шчэ сьвіньня папасі. Які цябе дурань пryme?

— Той самы, што й цябе прымае.

Быў Клемка дужаваты хлопец. Ужо ціхенька ад бацькі на вячоркі хадзіў. І росту ня вобмаль было ў яго. А Савоста Юстапчык проці яго саўсім дзіця. Не выпадае Філончыку з ім разам у школу йсьці. І папрабаваў Клемка перш крыху шырай распусьціць свае доўгія галы. Але няма рады—Заблоцкіх малы бягом усьлед бяжыць. Тады Клемка нагаза-нагу папрабаў ісьці. Ідзе з ім пораўне і Савоста, як там і што ў школе, распытуецца. Тады стаў Філончык. І Заблоцчык стаіць, ня йдзе.

— Адыйдзі, жаба, ато як плюну зараз—згарыш!

О! гэта памагло:

Савоста, як меншы, папярэдзе пабег, а Клемка—многа за яго сталейшы—адзін, сам сабе, памаленьку ззаду за ім пасунуўся.

Не саўсім так, як летась, пачаўся сяголетні Клемкаў першы дзень у школе. Тымі самымі словамі яго Зубрыцкі стрэў, толькі выткнулася ў клясу з-за дзьвярэй добра знаёмая настаўніку шапка, тымі самымі чатырма лапамі—у вадну руку дзьве і ў другую дзьве—ён з ім прывітаўся. Ды ня тое, што летась на першы дзень было ў Клемкі чытаньне. І далей перайначылася крыху настаўніка ва мова:

— Памыліўся-ж я наперад табе даўшы гасьцінца. Не зарабіў ты яго ў мяне сягоньня,—сказаў справядлівы Зубрыцкі.—Але: дармо! Некалі

зьмяркуемся. Некалі тое за тое адыйдзе,—памеркаваўся ён.—Некалі яго заробіш. Быць-жа ня можа, каб ты на гэтым, нават, тыдні ў мяне лапы не зарабіў!

І не такая крыўда Клемку была, як пасадзіў яго Зубрыцкі ў першае, а Савосту прыняў у першазімцы. Але меў, патом, крыху ён на малога закалец: ня раз перападала Юстапчыку кухталёў, як нарвецца ён калі пад злосьць.

Не сьвяты быў Савоста Юстапчык; ня мінала, але частавата, нават, нарывалася на яго настаўнікава дубовая лінейка—то за дур, то за нявыдадзеную лекцыю, то за задачы. Сьвярбіцыў Зубрыцкі і яго рукі. Аднаго разу быў такіх гарачых лап яму ў абедзьве жмені палажыў настаўнік, што аж рукі ў рот хапіў з няпрывычкі, як-бы і не разагрэліся, а саўсім зьледзянелі яны. Так быў таго разу даўся яму Зубрыцкі ў знакі, што ня было сну на Савосту ўсю ноч, пасьля таго: дадумляўся ўсё Юстапчык—дзе-б яму лепшую, не такую балючую навуку знайсьці.

Дадумляўся і дадумаўся. Ня ў школу, а на рэчку назаўтра-ж ён пашоў з кніжкамі. Тут было многа мудрэй, як у школе. У кніжцы стольki, у першазімцах седзячы, і за тыдзень ня пройдзеш, колькі тут за адзін раз па лёдзе праедзеш. Хоць лапці драліся ад гэтай новай навукі, але за тое рукі цэлыя былі.

Разам з дзецьмі Савоста з дому йшоў, разам з імі і вяртаўся з школы. Але такі неяк дайшлося бацьку пра сынаву навуку. Калі выдаў Юстап яму дома баль! А ў школу як прышоў, там Зубрыцкі яшчэ папраўіў...

І ад тых дат пачаў ладзіць Клемка Язучок з Савостам Юстапчыкам, як пачуў сваё вяршэнства над ім.

## VII

Была восень. Быў вецер. Рос ясень над адзінокаю школаю. Восень гразкая. Вецер—дзікі, сярдзіты. Ясень — высокі, гучысты. Восень дрэва паабскубала. Вецер далёка іх лісты ад школы адмёў, растрос па выгане, па чыстым полі, нагнаў у высокае ад жняяркі скарбовае іржышча. І стаяў адзін-адным ясень над школаю, голымі цыбінкамі сварыўся з абрыдзонымі дажджамі, што праз частае маруднае сіта ліліся яму на абскубеную галаву. Нэндза яго заядала ад такой пацярухі. І прасіў сабе ясень весялейшых, жвавейшых летніх навальніц, прасіў звонкага грому, шытых бліскавіцаю цяжкіх, цёплых хмар. Але ўсё гэта на дварэ, усё за вакном. А ў вакне, калі мы з вамі, таварыш чытач, станем пад ясенім ды знадворку зірнем у школу, там—лямпа, настаўнік, кніжка...

Сам дзяціны страх Зубрыцкі—пажылы ўжо хлапец—памалу гартаў кнігу, з балонкі на балонку перабіраўся. Лямпа ў яго была—восьмы нумар, а кніга—дармовы дадатак да „Нівы“. Цярушыліся з таго дадатку на Зубрыцкага словы, як праз перша ўспамінанае, маруднае частае сіта на ясень дождж. Спацыравалі настаўнікавы вочы па дробных радкох,

а было ў яго крозах нешта лепшае, весялейшае, чаго й заваду няма ў дармавых дадатах.

Верныя каханкі, здрадлівыя жонкі, сьмешныя ашуканыя мужыкі, упартыя бацькі, сквапныя на багацьце і гонар... Усе яны ў кнігах мелі на сваім вяку гора, роспач і радасьць, а на 315 якой балонцы ці жаніліся ці, пакаяўшыся, ціха і прыгожа паміралі, ці пачыналі жыць з усім сьветам у злагадзе, сабе і сваім блізкім на радасьць і ўцеху. Усе яны, гэтыя кніжныя людзі, таго вечара з сваіх пярэсты, даўно чытаных балонак сышліся былі ў настаўнікаў цесны пакой. Утаміліся на спацыры Зубрыцкага вочы. І рад быў ён, перагарнуўшы карту, што ўбачыў новы разьдзел.

— А я сам?—папытаў Зубрыцкі ў самога Зубрыцкага, спыніўшыся перад новым разьдзелам.—Я сам на якой цяпер балонцы, у якім разьдзеле жыву?

Палажыў у сярэдзіну кніжкі палец, каб не закінуць дзе чытаў, ды захінуў Зубрыцкі свой дармовы дадатак. І калі мы з вамі, таварыш чытач, ня будзем трымацца ясеня, як сьляпы плоту, ды калі падыйдзем бліжэй пад акно, прыгнёмся ды зьнізу паглядзім, што за дадатак у настаўніка ў руках, дык на вокладцы круцялі заўважым, а крышку пад верх у чорных чатырохкантовых асадках, калі добра прыгледзімся, можна разабраць „Куприн“—Сочинения. Зубрыцкі не завешуе фіранкамі сваіх акон і крыху каля іх забавіўшыся, можна ўсё чыста, што ў школе робіцца, дасьледзіць.

Так трымаючы кніжку, разгледзіўся, раздумаўся настаўнік над сваім адзінокім жыцьцём. І заўважыў Зубрыцкі, што жыве толькі ў нуднай, няцікавай прадмове. Дзе быў, што рабіў і адкуль паходзіць толькі пісалася і пакуль-што пішацца ў настаўнікавым жыцьці. Усяго адно вясёлае, гумарыстычнае месца, вытрымка—з хто яго ведае якога разьдзелу—ёсьць у гэтай прадмове: яго ўлюбеныя лапы.

Але такі верыў настаўнік. Верыў і спадзяваўся, што такі будзе некалі і ў яго жыцьці першы разьдзел. Усёю сваёю тэўсьцю будзе ляжаць новы, дагэтуль нязнаны раман за тым разьдзелам. Нічога меншага ня хоча мець Зубрыцкі—ніякага дармовага дадатку.

Схілецеся за вушак, таварыш чытач! Бачыце: Зубрыцкі зірнуў у вакно.

Якраз напроці блішчалі вокны папоўскага дому. „Ніва“ казала, што адтуль павінен у настаўнікаў пачынацца першы разьдзел: з нуднага рассасуляваньня з папом, з нясьмелага заглядаваньня на пападзянак. Далей-болей пажыўшы — пачытаўшы якраз зложыцца праўдзівая аповесьць настаўнікавага жыцьця. Так казала „Ніва“ і віна праўда была. Але нешта ня блішчалі так у настаўніка вочы, як блішчалі ў паповым доме вокна, калі ён глядзеў на іх. Нешта ня відаць было ў тым поглядзе надзеі, што адтуль пачнецца настаўнікаў першы разьдзел. Ня так, як у дармовых дадатках, павінен пачацца ён: не з далёкай сенажаці, не з пазалеташняга дажджу,

не з трацяголетняй мяцеліцы. Не, настаўнікаў пачатак будзе просты і звычайны:

„Настаўнік Баркаўское пачатковае народнае школы“...

Застане ён Зубрыцкага з раніцы, у паўдні ці ўвечара, а то і ў самую ноч—усё роўна, хоць калі; зловіць неўспадзеўкі ў школе дыктоўку даючы, дому за полудзень сеўшы, а то і ў дарозе дзе. А далей і пойдзе балонка за балонкаю.

Надоўга быў Зубрыцкі на адным месцы дармовага дадатку перад новым разьдзелам застыў. Аж тут грукнулі ў сенячках дзьверы. Прахапіўся настаўнік. Сеў раўней. Пусьціў большы ў лямпе агонь. Падрыхтаваўся стрэць вялікія падзеі.

— Ці ня першы разьдзел?!

От з гэтага месца так і пачнецца: „настаўнік Баркаўское пачатковае народнае школы позна увечары (хоць цяпер і ня позна: гадзіны ня будзе, як агонь запаліў ды за дадатак узяўся—але ў рамане, калі ўвечары, дык трэба, каб і позна было) пры лямпе № 8, чытаў дармовы дадатак да „Нивы“, як адчынілася дзьверы і“...

Пачнецца першы разьдзел проста і трафарэтна, але потым, можа адбудуцца падзеі, вартыя таго, каб зьдзівіць сьвет. Просты і трафарэтны пачатак, каб большыя былі неўспадзеўкі. Ня так, як „Нива“ ўгадуе, пачнецца, і ня так, як у „Ниве“, разгорнуцца падзеі. „Нива“ будзе ўспамянёна толькі, як просты і малавыдатны эпізод, як дробны матыў у вялікай рэчы.

Таварыш чытач! Відаць, збрыдала вам па падоканьню стоячы. Мне хоць работа ёсьць—от гэта, што перад сабою бачыце. А вы што будзеце дарма мерзнуць на восеньскім холодным ветры?! Ажнак—вам час--пайдзеце.. памажэце (не скажу каму, трэ‘ было вам самым глядзець, як ён сюдэю ішоў пауз нас)... памажэце яму ў сенцах клямку знайсьці. Нешта доўга ён там забавіўся. Трэба, каб хутчэй у хату ішоў, а то Зубрыцкаму аднаму няма чаго там рабіць. Ужо як мае быць, пачаў у думках свой першы разьдзел, падрыхтаваўся і цяпер сядзіць, на дзьверы пазірае, вялікіх чакае падзей.

Не заўважыў, ня ведаю: як яно там было—памагалі вы ці яму самому трапіла клямка пад руку. Толькі добра гэта бачыў, што адчыніліся тугія дзьверы проста ў настаўнікаў пакой і Юстап, баркаўскі багатыр Заблоцкі, з торбачкаю за плячыма ячшэ з-за парогу.

— Дабрывечар, паночку!—настаўніку дае.

Аднак Юстап нагадзіўся. Каб не забыцца, раскажам адно здарэньне, што гэтымі днямі было яму.

Гэта ж пашанцавала-б старшаму Заблоцкаму ў бульбяніку на соннага зайца найсьці. Дармо, што той і сплючы пазіраў—ня угледзіў як Юстап яго за вушы згроб. Як ужо ўцякаць не пара было, хутка тады заяц прачнуўся. Само шчасьце багатыру ў рукі прышло. Толькі ня ведаў ён,

што гэтаму шчасьцю рабіць: печанае, сьмажанае ці абгатаванае есьці яго. З панскаю ядою ніякага толку ня можа зрабіць, нават, баркаўскі багатыр. І давай тады Юстап блізкіх паноў перабіраць, каб прадаць занесьці. Пачаў іх лічыць з нізу. Самага першага адлічыў пастуха. Адлічыў і добра над гэтым „панам“ падумаў: пан ён ці не? І вышла ў Юстапа, што ня толькі пан, але і над сваім рагатым войскам ён палкоўнік. Толькі як ты гэтаму пану прадасі, калі на зайца яго пэнсія мала: па капейцы зьбярэ з гаспадароў ад кожнага свайго салдата ды чакае восені, калі будуць ссыпшчыку ссыпаць, як адпасецца. Дзе такі пан зайца купіць?! Давай лічыць далей. Другі за пастухом па ліку настаўнік прыпадаў. На гэтым пане Юстап і спыніўся.

— Хлопец ходзіць. Трэ' было-б занесьці... Як ты думаеш, старая?

— Па мне: занясі сабе. Усёроўна тымі грашыма не запаможышся,— сказала багатырка Прузына.—Колькі там за яго будзе?!

Дык от якое здарэньне было Юстапу Заблоцкаму. Расказана яно ў гэтым месцы, толькі каб не забыцца. Адложым яго надалей: можа калі й згодзіцца. Цяпер паглядзім, што ў настаўнікавым пакоі дзеіцца.

Дык от:

— Дабры вечар,—ня ўсьлед адказаў настаўнік. Першы раз ён бачыць Юстапа ў сваім адзінокім пакоі. Падумалася Зубрыцкаму, што з далёкай дарогі гэты чалавек. Нешта цяжкое, пэўне, нясе ён у сваім мяшэчку за плячыма. Утаміўся, прыстаў. І падумалася яму на школу, што карчма— сюды пераначаваць зайшоў. Хто ён: тутэйшы, блізкі ці далёкі, прышлы—ня ведаў Зубрыцкі. І рад быў настаўнік што:

„Першы разьдзел пачынаецца з загалоўка „Герой і таемны незнаёмы“.

Зірнуў Зубрыцкі ў вакно. Няма бляску ад паповых акон. Пагас агонь у іх. Дагэтуль яшчэ краткам тулялася ў Зубрыцкага надзея: хто яго ведае, а ну можа „Нива“ спраўдзіць. Можа і адтуль пачнецца праўдзівая повесьць настаўнікавага жыцьця. Гэта як пападзецца. А цяпер пагас агонь і пагасла настаўнікава патаемная баязьлівасьць. І рад быў гэтаму Зубрыцкі. Каб ні незнаёмы чалавек у хаце, выставіў-бы ён „Ниве“ хвігу і ўсім яе дармовым дадаткам.

— Трасцу! Не табе мяне ўзяць у свае герої. Іншае, лепшае пачынаецца от,—каб сам сабе, каб нікога болей у хаце ня было, сказаў-бы так Зубрыцкі: нас з вамі, таварыш чытач, ён не пасаромяўся-б.

І праўда: іншае, лепшае пачалося... далей з няспрытнай гаворкі было відаць, што спрадвечны баркаўчанін гэтага вечара прышоў даведацца настаўніка і што яго сын ужо чацьверты год, як ходзіць у школу да Зубрыцкага. Так незнаёмы ў самым пачатку раскрыў сваю таямніцу. Але яшчэ ня ўсё вядома было Зубрыцкаву. Яшчэ была загадана яму загадка ў форме торбачкі, што Юстап Заблоцкі, па Зубрыцкага просьбе сеўшы на табарэцік, палажыў збоку каля сваіх ног. Ня ведаў добра настаўнік ці яму толькі так здавалася, ці й праўда нейкая адгадка вару-

шылася там. Нечага таемнага і неспадзяванага чакаў ён ад гэтай рэчы. Але далей сяк-так расказаў Юстап сваё здарэньне з зайцам ды й саўсім сапсаваў сваею пасьпешнаю моваю, цікавасьць гэтае мясьціны. А тады дастае зайца, як дармовы дадатак да свае блытанае гаворкі.

— Вазьмеце,—кажа на настаўніка,—Можа ў вас згодзіцца на што, ато мы здумаць не маглі якую яму даць раду. Можа ён у вас лепшы сабе знойдзе прытон.

— Колькі-ж вам за яго?

— Ат! Яшчэ што здумаеце?! Што я гадаваў яго, ці што? От ешце на здароўе.

Собіла-ж Юстапу-ж на такі благі час ды з такім смачным мясам і з такою добраю моваю якраз трапіць. Гола ў Зубрыцкага ў кішані было. Дабёр быў яму дарэмны заяц. Вялікая запамога. Але шкода страты. Шкода Зубрыцкаму, што Юстап блізкі, знаёмы, пасьля гэтага вечара, звычайны вясковы чалавек.

Так і не пачаўся ў Зубрыцкага першы разьдзел.

Крыху скрыва пазірау ён на Юстапа, што той падашукаў, што ня спраўдзіў такой упартай надзеі. Але ня сяк так было выправіць чалавека з хаты, што такую яму зрабіў ласку.

(Па даўнейшаму Зубрыцкі думаў—ласка, а па нашаму—проста хабар ад кулака.— Таварыш чытач, я думаю, што не памыліўся ў гэтым вызначэньні).

Даўно трымаў Юстап „Аставайцеся здаровы“ на языку, але ўсё неяк не адважаваўся так хутка пасьля „дабрывечара“ іх казаць. Так адзін на аднаго чакаючы, адзін аднаму ўважаючы, нехаця разгаварыліся, яны.

„Вучэньне—відната, а навучэньне—цемрадзь“—неяк гэтак пісалася ў ваднэй чытанцы з самага пачатку. От пра гэту віднату і зайшла была гаворка ў баркоўскага настаўніка Зубрыцкага ды з баркаўскім багатыром Заблоцкім. Як яна, тая гаворка, у іх ішла, доўга ўспамінаць.

Варта толькі сказаць, што аж да Савоставага почарку дайшла.

Толькі першую зіму пахадзіў у школу Юстапчык, а ўжо перад вербніцаю пахваліў яго Зубрыцкі ў клясе перад усімі дзяцьмі.

— З гэтага малога людзі будуць.

Таго-ж самага дня выклікаў настаўнік Клемку Філончыка з першага. Ня лапу даваць зьбіраўся яму, а так ціхенька пастаяць сказаў. І выклікаў пер пазімца Савосту Заблоцчыка, каб пачытаў.

Дараваў Зубрыцкі Юстапчыку рачную навуку ды пахваліў яго за чытаньне, а Клемку Язучка высарамаціў з астатніх слоў.

— От глядзі—надаўбень ты!..

Добра Савосту ў памяць той дзень. Заляпіў яму Філончык, дадому йдучы, ледзяка ў плечы, што аж дух заняло. Усю дарогу, да самай хаты з песьнямі йшоў ён.

Паўтарыў цяпер Зубрыцкі Юстапу Заблоцкаму тое сваё слова пра яго сына.

— Вам хлопца канечне трэба, як акзамінт здасьць, у гарадзкое да Хлюяску ці ў сэмінарыю да Несьвіжу аддаць. Ён за свае рукі, за галаву чалавекам будзе. А то што яму тут з вамі ў гэтым гнаі капацца?!

— Гэта, шчэ будзем бачыць. У яго ўсё ,шчэ наперадзе.

Такая была гаворка ў настаўніка з багатыром.

Гладка і добра быў эбыты заяц з няўмелых рук.

## VIII

Разгледзіўся Зубрыцкі, што ня хутка тое сьвята будзе, як за галоўнага героя свой першы разьдзел ён пачне. Не з яго носам, не з яго прозьвішчам. Зубрыцкі. Дзе ёсьць з такім прозьвішчам галоўны герой?

Раздумаўся: ці ня лепш будзе пры Савосьце Заблоцкім пачаць дыялёгам ды ўдвух прайсьціся па топкай дрыгве кніжных балон аж у самы канец. Тады і прозьвішча не пашкодзіць. Зубрыцкі! Тут і пытаць ня трэба. Адразу відаць, бяз ніякага тлумачэньня, што настаўнік, што аўтар прыпаручыў яму нейкую дробную, мізэрную ролю. І ня будзе чытач чакаць ад яго вялікіх падзей, ня будзе спадзявацца разам з Зубрыцкім трапіць у цікавыя прыгоды. Але баркаўскі настаўнік такі пастараецца намуляць чытачу сваім прозьвішчам вочы. Большага, лепшага чакаў ён, але—калі на тое пашло—і на гэта згодзен.

— Абы хутчэй! Абы з прадмовы ў першы разьдзел.

З заўтрашняга дня няшчасны врабіўся Савоста Юстапчык. Пачалася малому пакута. Узяўся каля яго Зубрыцкі, каб месяцаў за колькі, што аставаліся да акзамінту, як мае быць падрыхтаваць малога ў герої, каб гатовага выпусьціць з сваіх рук. Назаўтрае ў Савосты ў першага папытаўся вершу, што даваў дадому напамяць вучыць. Дзень-у-дзень з усім-усякім: і з чытаньнем, і з пісаньнем, і з задачамі ўзяўся Зубрыцкі яго ганяць. Упыну ня было на баркаўскога настаўніка.

Па весьняй Міколе меўся быць акзамінт. Ня так Савоста як Зубрыцкі баяўся яго. Хаця каб сышла на пшык яго надзея, каб ня сеў макам перад начальствам Юстапчык. Ніякага тады з яго ня выйдзе героя: пойдзе тады на бацькавым месцы за плугам ды й зьвякуе тут, у Баркаўцох. Але перабылі той гарт[1]) і рад астаўся Зубрыцкі. Савоста на „добра“ дыктоўку напісаў, а чытаньнем, адказамі яшчэ лепш паправіў.

Ні ў кога ў Баркаўцох агню ня было, а ў Заблоцкіх позна гарэў. Чакалі яны ўсёю сям'ёю Савосты з школы.

— Ну як-жа ты, Савостачка?—першая папыталася ў яго Прузына, толькі прышоў дадому.

---

[1]) Ня будзем апісваць як зьбіраліся, зьяжджаліся на той акзамінт. Каму цікава, можа пра гэта ў Коласавай „У палескай глушы“ прачытаць. Нічога ні паправіць, ні дадаць ня зьбіраюся. Было і ў Баркаўцох якраз, як там, у Палесьсі.

— Што як?

— Як-жа твой акзамінт?

— Так, як трэба.

— Здаў?

— Здаў. А вы як думалі?

Усе былі рады ў Заблоцкіх. Юстап, Пархім, Прузына. Рад быў і сам Савоста. Толькі не аднакія яны рабілі з сваей радасьці высновы. Пархім бачыць, што больш навінаў ня будзе. Чаго яму, скажэце, дома тарчаць? Яму ўвечар на сяло ўлетку штодзень схадзіць трэба. Узяў ён шапку з цьвіка, жакетку з шастка ды, надзеўшы, напрануўшы, машэр на вуліцу. (От удаўся валанцай! Ніколі лішняй хвіліны не забавіцца дома. Ня дасьць прыгледзіцца, што ён за хлапец).

— Ну й добра,—па Пархімавым адыходзе казала Прузына.—От грошы зьлічыць увазнаў і будзе з цябе. А ты цяпер, бацька, пакрысе дакладай да работы. Пакажы як баранаваць, каб ня пушчаў узрэхаў. Пакажы каб з канём завярнуцца, закіравацца ўмеў. Пакажы як плуг у руках трымаць, каб роўная скрозь скіба выходзіла.

Але нешта накшае думаў Юстап Заблоцкі.

— Яшчэ паглядзім,—цьмяна і нявыразна ён сказаў.—От пасьцялі ды кладземся спаць: ужо ня цеперся.

Назаўтрае з раніцы быў вецер з туманом у Баркаўцох. Людзі ў печах палілі. Слаўся дым па вуліцы, а праз яго, чуць запаметны, ішоў Зубрыцкі па вёсцы. І пытаўся тае раніцы у людзей настаўнік:

— Дзе тут Заблоцкі жыве?

— Тут два Заблоцкія ёсьць. Каторага вам трэба?

— Таго, што сын у школу хадзіў.

— Гэта—Юстапа. То заходзьце онь у гэну хату з прычолкам,—праз дым паказалі Зубрыцкаму асядласьць баркаўскога багатыра.

Была таго дня ні то нядзеля, ні то так нейкае вялікаватае сьвята А чаму сьвята? Бо пякліся бліны—першая прыкмета, бо спаў яшчэ ў ложку Пархім—большы Юстапчык. Ня будзіў яго гэтага дня стары Заблоцкі. Спагадаў, што позна ўчора гуляў хлопец, ды сам двое сваіх багатырскіх коняй на балота завёў.

На гарачыя скавароды налівала Прузына з дзежкі апалонікам цеста, стоячы пры печы.

— Папяку, папяку!..—гразілі цесту скавароды.

Шмат Прузыне работы было: глядзець у печы бліна, каб не прыгарэў трэба ды й паслухаць, што настаўнік кажа, хацелася. Пакуль Зубрыцкі Савосту за акзамінт хваліў, добрыя, жаўтаватыя бліны скідала Юстапіха.

— Трэба яму даць яец дзесяткі са два гасьцінца—думала багатырка.

Перш па адным бліне раскладала яна на скарачы, што па зэдліку засланы быў, а як крыху прастынуць, тады ў касьцёр іх клала. А пачаў

Зубрыцкі малёгаць, каб аддалі яны свайго хлопца да Хлюпску ў гарадзкое, вабылася Прузына ладу ды парадку ў блінох глядзець. З чапялою ў руках распачала яна перакорную гаворку.

— Дзе вы бачылі! Ці гэта нашага брата работа над кніжкаю марнець, сухотаў на сваю галаву старацца?! Хай паны вучацца. Яны ўжо да гэтага звыклі. Дзяды, прадзеды іх на навуцы зубы пазьядалі.

І падгарэў за гэтым разам у Прузыны блін на скавародзе, ды так дурна, што мусіла яна яго ў рашку выкінуць.

Пабудзіў Савосту гоман, што быў у хаце. Зірнуў ён, прачнуўшыся, сядзіць у іх на лаве настаўнік. Прыслухаўся Савоста—пра яго гаворка. Прапаў позны, смачны сон. Не давялося яму ўкрасьці сабе ў дня раніцы. Удвух яны з Пархімам спалі, але не аднакі быў у іх сон. Пархім ніпаху ад сьвежага бліна, ні гоману ў хаце—нічога ня чуў. За ўчарашні прагуляны вечар хацелася яму нагнаць. Толькі раз за ўсю раніцу на другі бок перавярнуўся, каб вачыма да сьцяны, у цямнейшы куток, быць. І спаў. Так другія і пшаніцу прадаўшы ня сьпяць. Пшаніцу прадаўшы баязно, каб хто грошай не падседзіў. А Пархіму што? Ён яшчэ ні сваіх грошай, ні гаспадарскага клопату ня меў.

І ня блізка была Прузына аддаваць малога ў навуку. Зубрыцкі што-ніщто, нічога ня помач. Не ўгаварыў кабеты. Ужо й адыходзіў ён, а Юстапіха казала:

— От хай жыве, як дзед, бацька жыў. Хай глядзіць гаспадаркі і добра будзе. Ато—дзе гэта відана...

Мелася Прузына даць гасьцінца настаўніку. Але зьненавідзела цяпер яна Зубрыцкага за яго мову. І толькі сама сабе падумала:

— За што даваць?! А трасцу! скулу! Ня знала-б дзіця яго аказаінту, шчасьлівейшае-б было.

Юстап-жа найболей маўчаў гэтай раніцы. Калі й скажа ўрэдкую слова—два, дык ні сюды, ні туды выходзіла ў яго. Цяжка было разабраць Юстапаву думку.

— Яшчэ будзем бачыць. Савостава ўсё ‘шчэ наперадзе.

Сядзеў ён на ложку ў запеку Курыў ды плёваў у гаршчэчак з пілавінамі. Толькі летась палажылі падлогу ў сваей старой хаце багатыры Заблоцкія. І шанавалі яны яе лепш, як вока ў ілбе.

Учора толькі перад вечарам перацягнула крыху Юстапіха падлогу мокраю анучаю, а каб сягоньня за раніцу гразка ня стала на ёй, пастаралася яна Юстапу гаршчэчка.

Так было, пакуль быў настаўнік у хаце, а як пашоў?

— А што ты думаеш, старая?—папытаўся Юстап у Прузыны.—Можа й праўда! Хай-бы Савоста ў людзі йшоў, а нас з табою і Пархім да сьмерці дахавае.

Прузына ціхая кабета. Але дала яна Юстапу пытлю, як пачула, што ня толькі на вуліцы, але і ў іх хату ўваб‘еццa ненавідны „курч“.

— Ой, згубіш, бацька!.. згубіш хлапца!.. Век з яго чалавека ня будзе. Ты слухаеш, што там які шалахвост чаго нагаворыць. Плюнь на гэта і нагою затры. Прыходзіў, каб далі што. Думаеш чаго? Але не папаў. От ты паглядзіш цяпер. Ніякага гарадзкога ён табе болей не ўспамяне. Абмінаць будзе, калі дзе ўбачыць. Ты таго ня думай! Усякі чорт толькі глядзіць, каб пацягнуць з нашага чалавека,—так прабірала свайго мужыка багатырка Заблоцкая.

І на Савосту насварылася яна, як той начэрпаў у конаўку вады, як падсунуў бліжэй да лавы сьвіное вядро, каб памыцца над ім.

— Ня слухай, Савоста! От пільнуйся гаспадаркі—будзе лепш. Я на благое цябе ня вучу.

І не дала яна яму памыцца ў хаце.

— Гэта-ж і на дварэ цёпла. Пашоў бы да студні ў карыта, што коні паіць. Ато будзе тут мне ў хаце на чыстую падлогу наліваць.

Ад таго разу не пашоў болей Зубрыцкі да Заблоцкіх. Але і ня спраўдзілася Прузыніна слова. Не абыходзіў настаўнік Юстапа. Разоў са два за ўсё лета стрэліся былі яны. І абудва разы пра Савосту ўспамінаў Зубрыцкі.

— Ну як-жа ваш малы?

Усякі раз не забываўся сказаць:

— Вам яго канечне трэба аддаць у навуку. Проста грэх будзе, калі вы яго пры сабе будзеце трымаць.

Хлюпскае гарадзкое лепш як Несьвіскую сэмінарыю раіў ён.

Казаў:

— Скончыўшы гарадзкое многа прастарнейшы яму будзе сьвет.

Усё лета было ціха ў Заблоцкіх, а як прышла восень, дык і сварка знашлася ў іх хаце. Толькі як ні бралася Прузына, а Юстапа яна не пераставіла. Як наважыў, свайго такі дамогся ён. Як прышоў верасень, аддаў Юстап Заблоцкі свайго Савосту ў гарадзкое да Хлюпску. Хоць і ня любіла Прузына слухаць яго мовы пра Савоставу навуку, але была ў Юстапа прывычка хваліцца ёй, што ён калі надумаўся рабіць, і чаму сама лепш зрабіць так, як ён хоча. От што казаў гэтага разу багатыр Заблоцкі.

— Яно можа й праўду казаў настаўнік, што прастарнейшы яму ў гарадзкім будзе сьвет. Ды тут і нам спрытней. Праўда, старая? Усё бліжэй як у Несьвіжы на настаўніка вучыць. Тут і яду, і адзежу зручней падаць, а там—у Несьвіжы—усё з капейкі жыць трэба.

Ды ня так з ядою, як з адзежаю цяжкавата было баркаўскому багатыру. Даўней значылі вучняў, як тых авец: баяліся—каб хаця дзе яны не адбіліся, ды да другога, няшкольнага, статку ня прысталі, каб, калі гэта і здарыцца, спрытней было іх вылучыць адтуль. Авечкам вушы рэжуць, знакі чапляюць, а вучняў значылі адменнаю шапкаю, аднастай-

ным палітонам. І ўсё гэта бацьку за свае грошы справіць трэ' было Прышлося небалазе Юстапавай багатырскай кішані.

Довяг падаўся Прузыне першы тыдзень без Савосты. Як дзень міне, то—год адлічвала яна. І на пятым годзе, што па даўнейшаму так і зваўся—пятніца, пачала яна ганяць Юстапа.

— Зьезьдзі ты прывязі яго. Хаця я пагляджу які ён цяпер.

Але без пары не паехаў Юстап. Пачакаў ён заўтрашняга дня. А заўтра якраз была субота. От тады, як ужо з паўдня зьвярнула сонца запрог каня Заблоцкі. Зьезьдзіў ён да Хлюпску, прывёз на нядзелю Савосту дадому.

Зглэдзіў Зубрыцкі з школы праз вакно Савосту дадому едучы ды зараз прышоў і ён да Заблоцкіх. Цікава было настаўніку, у малога распытаўшыся, успамянуць свае сэмінарскія, дураўныя гады.

— Ну што? Як табе паводзіцца?

— А што мне?! Прыдзе настаўнік—кніжку расхінеш або сшытак наверх дастанеш. А звавок зазвоніць—выйдзеш у калідор. Крычаць, бегаць там у нас ня можна.

Куды больш пачуў Зубрыцкі, як Савоста сказаў. І пачуў, і ўбачыў сваю сэмінарыю ён. Там была гэтак сама: і расхінёная кніжка, і сшытак, і настаўнік, і званок, і калідор. Не аднакая кніжка, не адзін сшытак, шмат усякіх настаўнікаў было. Не аднакі званок з лекцыі і на лекцыю званіў. Сьвятлеў, прастарнеў, намружысты, вузкі калідор у суботу па апошняй лекцыі.

— Ну а як-жа табе? ня цяжка?

— Не. Які там цяжар!? Гадзіны са дзьве, дык у мяне і гатова ўсё— любіў пахваліцца Савоста Юстапчык.

— А тады што?

— Тады нічога. Ніхто ка мне ня ходзіць і я ні да каго ня ведаю дарогі. Сяджу на кватэры.

— То падыйдзі ка мне заўтра пад вечар—я табе добры занятак дам.

Яшчэ ня выкамячыў добра Савоста гарадзкі курч на панскі кволы капыл. У нядзелю з раніцы як пашоў на вёску, дык да вечара ўсё сваё таварыства, што разам у пікара гулялі, абышоў. Пахваліўся, як яму там, у гарадзкім, паводзілася. Ня мінуў ён і Зубрыцкага. Ня гуляў з сваім настаўнікам Савоста ў пікара, дык да яго да апошняга перад самым зьмярканьням зайшоў.

— Дык дзе-ж ваш той занятак?

— Пачакай. Зараз дабяру.

Доўга капаўся ў кніжках Зубрыцкі—з месца на месца дармовыя дадаткі перакідаў. І нічога не знашоў такі пад імі. Мусіў тых дадаткаў эдабраць цэлы стус.

— От вазьмі хоць гэтыя. Няма лепшых... Якія ёсьць.

Курчыў Савосту курч у гарадзком, а цяпер яшчэ й дома па сваей ахвоце пачаў гнуць яго ў крук над тымі, ад настаўніка ўзядзенымі, дармовымі дадаткамі. Так шмат ён іх тады прывалок ад Зубрыцкага; так надоўга было яму іх чытаць, што аж нехаця ехаў ужо Савоста ў Баркаўцы. Як калі прыедзе па яго Юстап у суботу, дык

— Дарма вы, тата, толькі коні ганяеце,—скажа на бацьку крыху падвучаны сын. Шкода яму пераездкі—усё-б прачытаў балонак колькі. Але, каб не саусім марна сьцерліся сьвяточныя дні, ён возьме з сабою дадаткаў.

Бывае, памаліць іх узяць. Прачытае ды й выб'еўца з работы Юстапчык.

— Можа-б ты, Савоста, дзе на вёску схадзіў,—параіць яму Прузына, як убачыць, што ные малы.—Ато табе збрыдае дома аднаму.

— Нешта ня хочацца,—адкажа Савоста. І, калі няма ў запасе ніводнага дармовага дадатку, сядзе пад акном, будзе ціхенька сядзець, глядзець недзе далёка на пазебленыя навозы, шукаючы там у ветраную туманную восень хараства прыроды ў гразкой чорнай ральлі. І дождж пасыпле—не ўцячэ ён з акна: будзе сядзець і лічыць буйныя, зборныя кроплі, што спадаюць з капяжа.

— Можа ты нездароў?—папытаецца Прузына.

— Ат. Што вы здумлюеце, мамка?!

— Дык што-ж ты маўчыш, нічога не гаворыш?

— А што я з вамі гаварыць буду?!

— Хоць што.

Забылася пра курч Прузына і ніяк не разьбярэ: што яму, гэтаму хлопцу, далягае? якая журба ў яго на сэрцы ёсьць? І раіць яна апошні самы лепшы сродак:

— Можа-б ты лёг паспаў? Ці не палепшала-б тады, ці не павесялеў-бы.

— А йдзеце вы! Мне й тут добра.

Усяго баркаўскага, у гарадзком пабыўшы, забывацца пачаў Савоста Заблоцчык. Сваіх людзей, на месьце стрэўшы, не пазнаваў ён; ціхенька, слова ні да каго не прагаварыўшы, сунуўся Юстапчык куды яму трэ' было. Ды й само места пачаў абыходзіць. Хоць крыху кружней было па загуменьню, далей ад гарадзкога на кватэру, як мястэчкам цераз места, але любіў Савоста гэтую адзінокую дарогу і тудэю хадзіў, пакуль сьнегам сьцежкі не завее.

Ня то, каб каго—Клемку Філончыка не пазнаваў Савоста. Два разы яму трапілася Клемку ў Хлюпску стрэць. І абудва разы Заблоцчык не адзін—з другімі вучнямі з гарадзкога ішоў. Дык мала таго, што не пазнаў, але яшчэ ў другі бок адвярнуўся, каб хаця той ня ўлічыў Савосту ў свае людзі, ды не загаварыў—не асарамаціў перад таварыствам. Баяўся Юстапчык, каб не падумалі сябры, што з простых мужыкоў ён і віякага хвальбарку няма ў яго бацькі.

Хоць урэдкаю езьдзіў Савоста нядзеляваць у Баркаўцы, але нарваўся быў аднаго разу на гаворку пра Клемку Філончыка. Гаварылася тады нешта ў Заблоцкіх хаце і пра пошту і пра нейкага Махоўскага. Але набраў таго разу Савоста дадому даволі дармовых дадаткаў, каб ня ўслухацца ва ўсякія гаворкі. Так і праляцела гэта паўз вушы ў яго.

Бывала ў панядзелак ня ўпыніцца Юстапчык,—каб хаця ў гарадзков з дому не спазьніцца. Ад поўначы ўспорыцца ды ўсё ганяе бацьку, каб каня запрагаў. Але аднаго панядзелка вышаў быў раніцаю Юстап надвор'я паглядзець. Пацярушаваў сьняжок.

— Як сабе хочаш, а сягоньня я цябе не павязу,—сказаў Заблоцкі прышоўшы ў хату.—Вунь мяцеліца на двары—ані вон. Паедзем падвечар, а не—то заўтра раніцаю,—так сказаў ды пашоў ён аглядацца.

Скончыў воглядку Юстап—перасьціхла й мяцеліца.

— То зьбірайся,—ужо накшая была ў Юстапа мова, другі раз прышоўшы ў хату,—адвязу: нечага рупіць ня будзе.

Дарога была замецена. Пагнаць каня нельга было. Ехалі памалу. Як прыехалі ў мястэчка ды параўняліся з гарадзкім, там быў першы перапынак. Мала было вучням калідору—павыбягалі яны на вуліцу. Убачылі Савосту. Пасталі і пазіраюць: такія нягеглыя сані, такі стары чалавек... І разам вучань з іх школы—Савоста Заблоцкі, што ў яго бацькі цэлы хвальбарак.

Любіў багатыр Заблоцкі ў лапці белыя, чыстыя анучы абуваць. І так ён любіў белую адзежу. У ваднэй ісподняй, як зіма, як лета хадзіў. Верхніх шарачковых штаноў у яго і на грунце ня было. Страх як ня любіў Юстап Заблоцкі крамнай адзежы. Але была раз набрала яму Прузына ў анучніка за старызну крамніны на штаны й на кашулю. Белага Юстапу набрала—іншага ён ня любіў. А як пачала яму тыя строі шыць, дык выштукавала так, што яшчэ й сабе шнуроўка з астачы вышла. Выдабіла Прузына, што рукаўцы й калошкі, як дудачкі павыходзілі. Раскалоў быў Юстап, тыя крамныя строі надзеўшы, палена дроў, дык ад першага дня й даліся па цэлым яны на ём. А тая самая Прузына, калі пашые што з свайго палатна, дык—прасторнае, з напускамі.

Як дзе ў людзі Юстап ішоў, дык—ці ў мароз, ці ў гарачыню—адзяваў ён новы, доўгі, па пяты, кажух на верх, ушпіляўся ўсімі гузікамі. І добра, харашо, і нічога ня відаць было. А гэтага панядзелка на Юстапа, поверх кажуха, яшчэ і латаная бравэрка была. Але ў мястэчку расхінуліся былі і бравэрка і кажух і гарадзкія вучні дзівіліся з яго белых строяў.

На дзьве лекцыі таго панядзелка спазьніўся Савоста. А, як прышоў, абступілі яго вучні, пытаюцца:

— З кім гэта ты пад'яжджаў? Што гэта за ён?

— Бацькаў парабак,—кажа Савоста.

5 травеня 31 г., в. Ляхавічы.

(*Далей будзе*).

## ЗАРАНКАВЫЯ ПЕСЬНІ

**Т. Курбацкі**

I

З дальніх гор на сутонныя далі
Выплывае ліловае раньне.
Абудзіліся лісьці вяршалін,
Зашуршалі ў шэрым тумане.

Вішні долу губляюць пялёсткі,
На шырокі, колгасны двор...
... Рэзкі говар, парады і лёскат:
Гэта ўстаў вартаўнічы дазор.

яму шмат руплівыя працы.
Мяккі сьцелецца цень пад нагамі,
Калі просінь пачне сьмяяцца.
— Па паедуць у поле з плугамі.

Коні тупаюць... Просяцца коні
На прасторы ў пагоні ліхія,
Надзяюць хамуты непакойна
На іх буйныя, моцныя шыі.

Утаймуюць, за цуглі і—к плугу
Людзі днеюць на тварах румянцам...
.., Запраглі і раўлюсенькім цугам
— Добрым часам у поле на працу!

Плугары разьліваюць вяёлкі
У парывістай музыцы сьмеху,
Колькі радасьці, шчырасьці колькі,
Маладога жыцьця і пацехі.

Можа змора ахутаць захоча;
Мы змаганьнем мацнелі, жылі.
Ды ці-ж цяжка жыць працаю творчай,
Ды на творчай, калгаснай зямлі...

II

Глеба чорная, чорная глеба
Над ёй сонца спусьціла моністы,
Патане яна ў хвалях хлеба,
У калосьсях буйных, залацістых.

Глебу рэжуць, ўзымаюць плугамі,
Коні ходзяць раўнюсенькім статкам,
А за гэта адарыць снапамі,
Ды зямля хлебаданая матка.

Конскі гарт гэту далеч узьняў,
Але-ж ведаюць коні ўтому;
Хутка зьменім мы іх на каня,
Што ні есьць ні аўса, ні саломы.

Хвалі пылу, такая сьпякота,
У небе хмаркі-бы студзенькі сьнег,
Толькі сонца палі пазалотай
Ціха лашчыць у водырным сьне.

Змора... смага... ліе пот у вочы
Але-ж мы ў змаганьні жылі.
Ды-ці-ж цяжка жыць працаю творчай
Ды на творчай, колгаснай зямлі.

Глеба чорная, чорная глеба
На ёй сонца спусьціла моністы,
Патоне яна ў хвалях хлеба,
У калосьсях буйных, залацістых.

1931 г.

## ПОШЧАК З УСХОНАЎ

**Сяргей Астрэйка**

Ўчалесьніках даляў ня гаснуць агні,
Шугаюць агні няўпынёна.
Мінулага постаць скавыча, вугніць
Умуках страшэннага скону.

Ад працы заўзятай усхоны шасьцяць:—
У прышласьць выводзіцца прокід.
З сямнаццатай даты ў краіне наўсьцяж
Чутны рэволюцыі крокі.

Віхор перашкод ня стрыножыць яе,
У прорву блуканьняў ня скіне,
Яна нясьціхана усюды снуе,
Ня знае ўвярэды, спачыну.

Краіну узводзіць на сонечны тракт,
На затхласьць маланку красае.
І вось падыходзіць яна пад вятрак,
У пыл пашчапаны часамі.

Стаіць здатыкованы пасынак ніў:
Пабэрсаны думы і мары.
Дашчэнту зьнябыўся, дазваньня падгніў,
Спрэс мохам агорнены чмарым.

Навылет відно, што жыцьця не дадуць,
Ніколі ніякія лекі.
Вятрак пачувае трывогу, бяду,
Канцы адрыпелага веку.

Па целе збуцьвелым мурашкі паўзуць.
Ўспадае пудлівая замяць...
Ў зьнямозе наровіць, напруджвае зух,
Каб іх абагнаць крыламі.

І чуе, як нехта абуха занёс:
Хвіліны адлічвае скону,
І раптам ад стогну ўскідаецца плёс,
Зрываецца крык на усхоны...

Вятрак адрыпеў і назаўжды заціх,
Памкнулася ў небыт старое.
На полі загоен глыбокі націн,
Пашастаны гіблыя строі.

Шчапаецца ціша балотных гргагал,
Усхліпвае шэрасьць выжарын.
Каб нетраў балотных нашчадкі ўблагаць,
Турбіны поўзуць на амшары.

Распорвае грудзі іржавых балот
Рыдлёўка жалезным ускраем.
Узмахвае змрок пранізаным крылом,
Ад роспачы зубы сьціскае.

У багне паважыўся ён аблажыць
Усе няўпынёныя высьцігі.
Зіяюць вачэй агнявыя нажы,
Трасецца зыбаньнем ён лісьцевым.

Туманнымі сваімі вокны балот
Загортвае ў нэрваным спрыце.
Туды рэволюцыю ён завалок-бы,
Калі-б яна вышла упрыцем.

Разносяць падзеі у пэтрах, ушчэнт
І гэту нязвыклую брудасьць.
На зблочаных нетрах што раз, то ярчэй
Зарэюць агні Асінбуду.

Ні вораг,
ні змрок,
ні халодны туман
Ня скрышыць купчастыя ўсходы,
Ў шляхох рэволюцыю не затрымаць:—
Сячэ яна ў пыл непагоду.

Кладзе працяробы уласьніцкіх дум,
Стагодзьдзяў выполвае міты.
Напорна працоўныя ў прышласьць ідуць,
І шлях іх змаганьнем спавіты.

А зіркі бягуць з праварынаў вачэй,
Страчаюць агні будучыны.
Складаюць цагліны, мострують ачэс,
Падмурак узводзяць няспынна.

Ад працы заўзятай усхоны шасьцяць,
Іх пошчак лунае далёка,
На шырах Савецкай краіны наўсьцяж
Чутны рэволюцыі крокі.

## ДАЛЁКА ПЯЮЦЬ АСНАЧЫ

**Сяргей Астрэйка**

Зыбаюцца станы цыбатых ракіт.
Да вербаў густых выбягаюць пяскі.

Вячорнае сонца ў вадзе, як тапелец.
Ўжо вечар палотны на беліва сьцеле.

Зачуўся бярозы надломаны крык,
Ї спуджаным зайцам бяжыць у бары.

Вар'юецца пушча, ня моўкнуць альсі
(Піла 'шчэ ня скончыла дрэвы касіць).

Шыбуе заморанны дзень на спачын...
Далёка у пушчы пяюць аснaчы.

Да мора кіруюць віціны, плыты.
Їх сьпеў завісае на гольлі густым.

Дрыляныя дзіды узьняўшы высока,
Пакрыўджаным зіркам глядзяць Налібокі.

На голай лабэціне ўзгоркаў сухіх,
Як струпы, тырчаць дзе-ні-дзе пянчукі.

Работа варшаўская ўсюды відна:
Ступае „культура" па прошвах радна.

— Усходнія крэсы—няпэўная рэч,
Багацьці з іх выдаіць трэба скарэй.

Затым, што пажару рабіннага почат
Люструецца страхам на вобліку ночы...

Ангельшчыне ўзычылі шчырыя пушчы.
Ад страху трасецца дрымотная гушчар.

Даляры ў панскіх шамрацъ пулярэсах.—
Дашчэнту папляжаны Ўсходнія крэсы.

*

Плывуць туманамі, імжакай, слатой
Па Нёмнавых грудзях рабрыны плытоў.

Зайходзяцца болем хваіна, нягнойка,
Іх крык перакусвае віты палоек.

На большы мацунак зьвіняць ланцугі.
Малюецца неба ў тон чорнай смугі.

Няўрымсьціцца дрэва, скіголіць, трашчыць...
У пушчы спрадвечнай пяюць аснач.

Тралююць бярвеньне ў нязьмерную далеч,
Іх Нёмнавы хвалі вадой абліваюць.

Нязломная дужасьць напятых рамён,
Іх студні вачэй палымнеюць агнём.

Сьвіціцца там крыўды нязьмернае жар,
І помсты пісагі на тварах ляжаць.

Імкне наструнованы сьпеў нацянькі,
Што з панскае ласкі яны парабкі.

Уголас ім пушча ускіпвае варам,
Мяцёлкамі хвоеў зьмятаючы хмары.

А вочы бліскучыя з прагнасьцю сочаць,
Як зьяе пажару рабіннага почат.

Плывуць аснач ўнапруджаным чоканьні—
Ня век-жа ім быць парабкамі.

*

Пад змрочным крылом учарнелае ночы
Сьвіціцца пажару рабіннага почат.

Зыбаюцца станы цыбатых ракіт.
Ад спалоху хвалі імкнуць на пяскі.

Агнём сіняватым пылаюць карчы.
На Нёмне пяюць парабкі—аснач.

23-IV—31 г.

# ШУМІЦЬ БЯРЭЗІНКА

*Аповесьць*

**В. Сташэўскі**

Шуміць бярэзінка!

Шуміць яна на вузенькім дварэ. Туліцца галінка да галінкі, лісточак да лісточка.

Калышыцца яна.

Шуміць!

Бывае рэзвы шум, такі гульлівы, урачысты. А гэтая бярэзінка шуміць глыбокай скаргаю, сьлязьмі і стогнам свайго гаспадара.

Побач—нахіленая хатка з паімшэлаю страхою.

Адтуль прарваўся крык: ррату-уйце.

Дрыжаць у сенцах дзьверы, дрыжаць косыя вушакі. Нехта з сярэдзіны хоча прарвацца на двор.

Хруснула закрутка. Расчыніліся.

Гэта ўцякае з свае хаты гаспадар Марцін. На высокім, пасечаным зьверху парозе замітусіліся два мужчыны: гаспадар і жандар. Першы з іх вырываўся на двор, на сьвятло, на людзі, другі — ашчарэпіўшы за шыю, цягнуў назад у сенцы. Ён упёрся абсацам у высокі парог, а той схапіўся аберуч за вушак.

— Ррату-йце, душаць!

Захісталася ўся сьцяна. Выскачыў жандар з сянец, адарваў гаспадар ад вушака.

Абарваўся крык.

Пад бярэзінкай упаў Марцін. Галавой аб цьвёрдую зямлю. Здаецца здрыганулася зямля.

А на дварэ было ціха.

З пачырванелым тварам, напольнымі шырокімі крокамі набліжаўся жандар.

І шумела тагды бярэзінка мацней. Яна клікала сьведак. Ей жудасна было аднэй глядзець на сьмерць свайго гаспадара. А тут запыханы жандар яшчэ прыпёрся да яе. Захісталася маладая бярэзінка, напружвае сваё карэньне, каб ня ўпасьці.

У гародзе была гаспадыня. Яна ня ведала, што робіцца ў хаце, на дварэ.

— Ці твой Марцін дома?—запыталася суседка.

— Здаецца дома,—адказала Марцініха.

— А што?

— Мусіць да яго пайшоў жандар?

— Ня ведаю.

Марцініха трушком набліжалася да двара. З-за хляўчука яна ўбачыла, як нейк дзіўна хістаецца бярэзінка. Грукнула варотцамі. Схамянуўся жандар. Упёрся ботам у Марцінава цела. Не варушыцца.

— Што-ж гэта? Марцін! Марцінка! — катурхала жанчына. Адказу ня было.

— Гэта ты, ты яго забіў? — пыталася яна вялізнымі, жахлівымі вачыма. О, гэта страшны быў пагляд і жандар, абцягваючы на сабе адзеньне, стараўся адхіліць гэтыя дапытлівыя вочы:

— Чаго ты ўтаропілася ў мяне? Я не забіў, ён толькі ўпаў!

— Ты забіў!

— Ня крычы.

— Людзі добрыя! Забілі Марціна! Сынок мой, Паўлічак, глядзі, што з тваім бацькам!..

— Сьціхні, звяр'яцелая баба!—выгукнуў жандар.

— Сьціхнуць? Забі мяне, застрэль, тады буду маўчаць. Жанчына наступала на жандара, настаўляла рукі, ламала іх над галавою. Ён баранiўся, хаваўся за бярэзінку, спужана азіраўся вакол... Падбег дванаццаці гадовы Паўлік. Глянуў і адскочыў назад.

— А-ай...—застагнаў Марцін.

Жанчына схамянулася. Перавяла вочы на Марціна і ўбачыла, як падымаецца яго галава.

— Марцінка, ты жыў?—Яна кінулася, каб падняць. Нахіліўся і жандар. У гэты момант бярозавае палена стукнула жандара па галаве. Жандар пахіснуўся, абапёрся рукамі аб зямлю і падняўся. Выхапіў шаблю, замахнуўся і ўрэзалася яна ў бярэзінку. Паўлік быў ужо за хатаю.

Застагнала бярэзінка стогнам свайго гаспадара Марціна, залілася сьлязьмі жанчыны, зашумела бурнай злосьцю Паўліка.

Маўчала толькі паімшэлая страха.

З вёскі выяжджала фурманка. За ёю ехалі два конных жандары. Каго яны так пільна вартуюць, каму такая „пачэсная“ варта?

„Марціна вязуць. Марціна забралі. Марціна павезьлі,—гаманіла вёска.

Так. Везьлі хворага, тыдзень таму назад пабітага Марціна. Гэтая „працэсія“ не зьяўлялася нейкаю асабліва новаю, нечаканаю. А гаманіла вёска: „Марціна павезьлі, Марціна забралі“ проста па прывычцы. Учора везьлі Тодара, гаварылі: „Тодара павезьлі“. Заўтра возьмуць Лукаша,— скажуць „Лукаша павезьлі“. Большасьць-жа з іх такія самыя „злачынцы“.

З надворнага выгляду нібыта ўсё было звычайна і аж спакойна. А як б'ецца сэрца старога, сівога, кудлатага дзеда, які ніколі не пра-

пускае такое процэсіі, і заўсёды падыдзе, каб разьвітацца, ня ўсякі будзе ведаць.

Праз маленькія шыбкі большага акенца пазірала на фурманку жанчына. Яна трымала каля сваіх грудзей сваё дзіце. Што яна казала яму—ніхто ня ведае. А Марцініха, тая Марцініха, якая тыдзень таму назад магла крычаць, заліваюцца сьлязьмі, цяпер ішла ззаду на пятнаццаць крокаў ад конных і ні аднэй сьлязінкі, ні аднэй расінкі. Кажуць людзі, што ў яе скамянела сэрца. А ногі нейк самі ступалі, аж да канца вёскі, да весьніц. А там спыніліся і ногі. Фурманка зьнікла ў пералеску, а вочы ўсё яшчэ глядзелі ў той бок. Цяпер яны выглядалі большымі, чым звычайна, а нічога ня бачылі.

Толькі рух хлапчукоў, Паўлікавых таварышоў паказваў як бурлілася ў іх маладая кроў, якою нянавісьцю біліся іх буйныя сэрцы да тых, што забралі Марціна. Яны забягалі праз агароды наперад. Іх зыркія вочы праскаквалі ад Марціна да конных. Адзін з іх схапіў у рукі каменьчык, але спаткаўся з поглядам жандара — выпусьціў каменьчык сабе пад ногі і стуліўся за вароты. За весьніцамі яны кідалі пагрозы: „пачакайце, мы вам папомнім. Мы вам не даруем“.

Скамянелую жанчыну абудзіў голас.

— Ідзеце, мама, дадому. Ідзеце, мама.

Жанчына глянула на Паўліка.

— Дадому?

— Я-ж... ага, так... пайду.

Два тыдні думаў Паўлік аб сваім бацьку, аб другіх такіх людзях, аб тых конных, аб тым страшным доме, у які павезьлі яго бацьку. Думала аб гэтым бярэзінка. Думала аб гэтым стуліўшыся пад бярэзінкаю маці.

Гаварыў Паўлік матцы:

— Мама, татку мусіць ня скора выпусьцяць. Я пайду туды, мо' ўбачу

Ня ведала маці, што адказаць яму. „Яшчэ прападзе і сын, дзіця-ж яшчэ, ды такое неспакойнае“ — думала маці. Але-ж забралі хворага бацьку, напэўна будуць біць і можа...

— Не, сынок, можа я сама пайду, а ты пабудзеш дома,

— Не, мама, вы няграматная, вам цяжка будзе дапытацца ў горадзе.

— А нашто пытацца. Турма-ж вялікая—ўбачу.

— Далёка-ж трэба іці, мама. Вы-ж утоміцеся. А я хутчэй дайду.

— А ты яшчэ малы, ды згубішся дзе.

— Ай, гаворыце вы, мамка, няведама што, гэта я недзе магу згубіцца.

— Ты-ж ня разу ня быў у горадзе.

— І вы-ж таксама ня былі.

— Калі-ж ты неспакойны, сынок, ня здымеш каму шапкі, дык і пападзешся.

Так нібы спрачалася маці з сынам, каму з іх ісьці наведаць бацьку. Яна ведала, што пойдзе Паўлік, яна аб гэтым думала раней, але не хацела казаць, не хацелася самой выпраўляць. А супярэчыла яна толькі таму, каб навучыць Паўліка быць пакорлівым, спакойным. Раілася яна з суседзямі. Усе паказвалі на Паўліка:

— Ён знойдзе ход, хлопец разьбітны.

Паўлік рыхтаваўся ў дарогу. Да павятовага гораду Б. яму трэ' было прайці звыш ста кілёмэтраў, а то больш вузкімі дарогамі, праз лясы, узгоркі. Ёсьць у вёсцы чалавек—Захарык. Ён перамераў гэтую дарогу ад свае хаты да турмы некалькі разоў. Цяпер ён пакалечаны. На поле, ці на сенажаць ня йдзе, дома, у агародчыку капаецца.

Зайшоў да яго Паўлік, пытаецца пра дарогу. Захарык пералічыў усе вёскі, масточкі, лясы, павароткі, і для яснасьці невялічкім дручком накідаў на градцы плянік. Паўлік занатаваў сабе гэты плянік на паперы і палажыў у шапку пад цырату.

Ён хацеў ужо іці, але Захарык так напорна глядзеў у Паўлікавы вочы, што нельга было адыці. Здавалася, што ён скажа якую таямніцу, мажліва нешта страшнае. Паўлік нэрвова мружыў бровы і прыціскаў у пальцах цырату шапкі.

— Значыць ты пойдзеш туды?

— Пайду,—адказаў Паўлік.

— Та-ак... Быў я там, можа і яшчэ давядзецца... ну, што-ж, ня вылячаць яны мяне.

— Яны-ж там скалечылі вас.

— Яны калечаць, каб вылечыць, а тут не памагае. Я хворы і я здаровы. Я мацней ненавіджу іх. О-о, сынок. Доўга мяне трымалі, шмат мучылі, а ўсё роўна не зрабілі такім, якія ім патрэбны. Няма ў сьвеце такое турмы, якая-б пераварочвала на свой бок. Турма, браце, ня выратуе таго, хто не будуе. Не такі цяпер сьвет.

Захарык гаварыў і кідаў спакойны пагляд на вуліцы, на дрэвы, на хаты, аднак, ён быў настолькі ўважным, што зьяўленьне непажаданага чалавека прыкмеціў-бы нават тады, калі-б гэты чалавек набліжаўся ззаду. Захарыка навучылі бачыць вакол сябе і тады, калі ён нярухома ўглядаецца ў адну кропку. Вочы Паўліка былі прышыты да гэтага чалавека. Ён, бы мог доўга-доўга слухаць. Ды й сам дзядзька Захарык, нібы забыўся, што перад ім стаіць маладое хлапчанё, гатоў быў расказаць пра турму, пра паноў, жандараў, пра ўсё жыцьцё, паказаць нутро гэтага жыцьця, паказаць яго болькі.

Звычайна ён з малымі ня гутарыў на такія тэмы: „няхай не забіваюць галовы, няхай растуць з яснымі, вольнымі думкамі, няхай будуць радаснымі...“

Але-ж дзе тая радасьць у іх, нашых дзяцей? Вось твар аднаго з іх— твар Паўліка: нэрвова сьціснуты губы, у вачох неадгоннае пытаньне.

За што забралі майго бацьку? За што пакалечалі цябе, дзядзька? Ці доўга будзе гуляць жандарскі бізун? Ці скора мінуцца зьдзекі?

Не адказваць на пытаньні нельга. Дзіця аб гэтым думае і яму трэба даць правільны адказ. „Той не рэволюцыянэр, хто не перадасьць патомкам вопыту і наказу змаганьня з капіталам“ — казаў Захарык яшчэ ў турме.

— Дык вось, саколік, так пойдзеш, як я табе расказаў, а як вернешся, заходзь да мяне, пагутарым.

— Дзякую, дзядзечка, зайду, — адказаў Паўлік. Высокі частакол агародчыка разлучыў іх. На вуліцы нікога ня відаць было, але Паўлік адчуваў сябе так, нібы на яго ўглядаюцца з кожнага акна, кожнае хаты. Ён шпарка набліжаўся да варот свайго двара, прычыніў іх і кінуў погляд на вокны бліжэйшых суседзяў. Нікога няма. Толькі праз адно акно, увесь абданы цяплынёю надвячэрняга сонца, выглядаў кот. Ён, бедны, стаміўся лежачы ўвесь дзень у хаце, яму маркотна стала аднаму. Вось ён і выглядае, ці скора вернецца з поля гаспадыня, прыгоняць каровак, тады зацуркоча праз цадзілку малако і ён сваім шаўкавістым хвосьцікам так ціханька, далікатна дакранецца да нафарбаваных сонцам яе ног; калі-ж яна не пачуе гэтага дакрананьня, ён тады мурлыкне, а калі і гэта ня будзе заўважана заклапатанаю гаспадыняю, ён тады лёганька драпне па спадніцы і адбяжыцца да чарапка, нібыта пакажа куды ўліць малака. О, хітрун, коцік! А калі павячэрае, тады яго ў хаце ня ўтрымаеш. Абабяжыць і свой, і суседні двор, аблазіць клёнік, і вішанькі і бярэзінку. А пасядуць хопцы і дзяўчаты пад вішняю, ён залазіць на вішню і высядзіць там пакуль не паразыходзяцца ўсе. „Добра гэтаму кату“ падумаў Паўлік.

— А, ліха яго бяры з катом,—адказаў ён сам сабе і пайшоў у хату. Над сталом і на вокнах гулі мухі. Яны густа поўзалі па скамечаным абрусе і стараліся пралезьці пад яго, каб напасьці на акраец хлеба.

— А сю-у-у!—гукнуў Паўлік, махнуў рукою, узагнаў іх уверх і адламаў кавалак скарынкі. Рэшту яшчэ лепей укруціў у абрус.

Ад маленькага люстэрка, што вісела на сьцяне, бліснуў на твары Паўліка зайчык. Ён дастаў паперку — плянік дарогі і палажыў за гэтае люстэрка.

Грызучы скарынку хлеба, ён выходзіў за вёску. Яго таварышы на выгане пасьвілі каровы і лузунамі шпарылі кацёлку.

— Гэй, Паўлік, сюды на кацёлку!

— Да нас, да нас, Паўлік!

Кожная партыя кацёлачнікаў старалася заманіць Паўліка да сябе. Падыходзячы бліжэй ён, нават крыху ўсьміхнуўся:

— Вось табе лузун.

— У іх ярундацкія лузуны, вось бяры з нашае партыі.

Паўлік глянуў на таварышоў:

— Не, браткі, сёньня ня буду гуляць. Я іду на поле.

— Куды ты на поле? Ужо-ж вечар на дварэ,—загулі хлопцы.

— Мамка казала, каб прышоў.

— Ххі, людзі ідуць з поля, а ён на поле,—усьміхнуўся Гаўрык.

— Можаш сабе сьмяяцца, а я, калі вышаў, дык і пайду.

— Ну, дык і йдзі ў балота.

— Маўчы, задзіра!—спынілі хлопцы Гаўрыка,—бо самога адправім.

З бярэзьніку вышлі дзьве жанчыны. Адна была маці Паўліка.

— А вунь-жа яго маці ідзе дадому,—зноў падаў голас Гаўрык. Паўліку стала ніякава: маці можа падумаць, што ён у такую клапатлівую надвячэрную пару кацёлачкаю забаўляецца. Хлопцы адчулі гэта і пачалі гутарыць цішэй.

— Мы доўга ня будзем качаць, бо такі пара гнаць быдла дадому, лупянём колькі разоў, ды ўсё. Паўлік яшчэ ня даў згоды, але таварышы зразумелі, што ён згодзен і падалі яму бярозавы лузун.

— Каці, Гаўрык.

— Бі, Паўлік, як па жандару.

Паўліку было прыемна гэта чуць і ён старанна адбіваў кацёлку. Было весела.

Але ў самай мірнай, спакойнай дзіцячай гульні трапляецца, часамі, няпрыемнасьці. А тут сабраліся ўсе хлапчукі, ды з каламі, а кацёлка аж гудзе, пералятаючы ад аднае групы да другое. Ну, і бывае, што стукнецца аб чыё-небудзь каленка ці лоб. На гэты раз яна ад Паўліковага ўдара забурчэла і стукнула па назе Гаўрыка, ды яшчэ па самай костачцы. Адразу прысеў хлопчык. Завойкаў.

Гульня скончана.

Чулі людзі, ідучы з поля, як енчыў Гаўрык, дазнаўся яго бацька аб тым, што гэта Паўлічак „падстроіў штучку“. Як ні стараліся хлопцы даказаць, што тут ніхто не вінаваты, што ў такой гульні такія выпадкі трапляюцца, нічога не памагала.

— Бачыш ты, як яны ўзяліся бараніць яго, — спыняў іх Гаўрыкаў бацька, — гэта яму не жандара біць паленам па галаве. Лыпае вачыма, астрожнік.

Апошняе слова нібы калючым дротам сьціснула Паўлікава сэрца. Хацелася адказаць дзядзьку, зашавяліліся губы, але слоў ніхто ня чуў.

— Вось, пайду раскажу тваёй матцы, паглядзім, што яна адкажа.

— Ня бойся, Паўлік, мы пойдзем усе і табе нічога ня будзе.

— Ня трэба, хлопцы, я адзін пайду.

Паўлік ведаў, што калі ён ішоў абараняць таварыша перад яго бацькамі, дык часам так памагаў, як галоднаму „лявоніха“ на балалайцы. Але хлопцы не паслухалі і сьцяною сталі каля Паўлікавых варот. І толькі Гаўрыкаў бацька распачаў сваю скаргу, як яны ўсе зашчабяталі:

— Няпраўда, Паўлік не вінаваты, Паўлік не вінаваты! Адзін нават выгукнуў:

— Гэта я даў адбой кацёлцы, ад майго адбою сеў Гаўрык.

Паўлікава маці моўчкі выслухала і пашла даіць карову. Гутарка будзе ў часе вячэры, Паўлік гэта ведаў, але ніколі ня мог падумаць, што маці можа запытаць пра той плянік, які Паўлік накідаў у агародчыку дзядзькі Захарыка.

Ды што-ж тут такога? Хіба-ж ён рабіў з гэтага таямніцу?

О, за тое зусім ня так думала суседка, якая пазірала праз шчыліну ў сваіх сенцах: „во, нешта-ж ён яму расказвае, а гэты малы піша... у шапку кладзе паперку, пад цырату залажыў... яшчэ настаўляе малога“... хоць слоў Захарыка яна ня чула, як ні настаўляла вуха, але, па яе думцы, паперка была найбольшаю таямніцаю.

І толькі ўзыходзіла Паўлікава маці на свой двор, за ёю кацілася суседка:

— А я цябе нават чакала, скоранька ідзі ў сені, раскажу. Можа дзьве гадзіны твой Паўлічак сядзеў у агародчыку з Захарыкам, разглядалі нейкія паперы, кніжкі. Пасьля дастаў ён нешта вельмі, вельмі сакрэтнае і перадаў Паўліку: „на,—кажа,—хавай на векі вечныя“. Той узяў, азірнуўся навакол і палажыў у шапку пад цырату. Гэта-ж ня ўсё: пасьля ён, Захарык, нагінаецца пад куст, дастае нешта, азірнуўся навакол і аддае Паўліку. Той схапіў і палажыў запазуху.

— Што ён палажыў?

— Ля-вор-вар,—прашыпела суседка.—Я добра ня бачыла, але гэта напэўна быў ён. Давядзе ён Паўліка. Я нікому не сказала-б, толькі табе Глядзі, мо' гэта ён і Марціна твайго загнаў туды.

— Не, галубка, пра гэта я ніколі не магу падумаць, — адказала Марцініха.

— Я-ж не кажу, што гэта ён, але ўсё-такі падумаць варта. Гэта я кажу толькі табе. Пабягу-ж.

Марцініха засталася ў сенцах і думала: што робіцца ў гэтай хаце, у вёсцы, на сьвеце? А тут зараз-жа скарга Гаўрыкавага бацькі, гурт абаронцаў Паўліка...

Пакуль маці ўходжвалася, Паўлік запаліў газоўку і рыхтаваўся на начлег: скончыў віць пута і ўзяўся за рамонт аброці.

Маці моўчкі паставіла Паўліку вячэру. Паўлік моўчкі вячэраў, „значыць нешта ёсьць“ падумала маці.

— Чаму гэта ты ня скінеш за сталом шапкі? — Паўлік скінуў. Маці падышла ўзяла шапку, адгарнула цырату. Нічога няма.

— А дзе тая паперка?

— Якая?—зьдзіўлена пазіраў Паўлік.

— Чаго глядзіш? Дзе тая паперка, што ты сёньня палажыў яе?

— Паперка ёсьць. Я вам дам яе.

Але Паўлік не варушыўся. Гэтае пытаньне было зусім нечаканым, і дзіўным, яно ашарашыла яго.

— Ну, дык варушыся.

— Я дастаю. Ды вунь яна за люстэрачкам.

Мацi дастала кавалачак паперкі, разгарнула, пакруцiла яго ў руках і задумалася. У Паўліка прабег лёганькі сьмяшок, але ў момант ён стрымаўся і пашкадаваў, што мацi няграматная. Прачытала — лягчэй было-б тлумачыць.

— А дзе ляворвар?

— Ляворвар? Што вы, мама, які ў мяне ляворвар?

— Паўлік, ня губі сябе, кажы дзе ён?

— Мама!..

— Паўлік!.. Пасадзілі бацьку, а ты сам сябе хочаш загнаць туды.

Паўліку стала горка. Ён маўчаў. На яго зрэбную кашулю ўпала некалькі буйных сьлязінак.

— У Захарыка быў?

— Быў.

— Што ён табе даў?

— Нічога ён мне не даваў.

— А гэтая паперка? Каму ты гаворыш?

— Чаго вы спужаліся гэтае паперкі? Тут-жа нічога страшнага няма. Пакажаце яе каму хочаце.

— Што тут накрэйзана?

— Я вам раскажу: я распытваў у Захарыка дарогу ў горад, каб да турмы дайцi, каб праведаць татку. Ён расказаў мне, а я запісаў. Вось і ўсё. А вы пра нейкі ляворвар. Хто гэта выдумаў?

— А кніжкі, якія ён табе раскладваў?

— Ніякіх кніжак я ня бачыў. Мацi задумалася.

— І тут яшчэ з гэтаю кацёлкаю... скардзіцца чалавек, і ўсё на цябе. Няхай-бы на каго іншага.

За вакном пачуўся голас: „выяжджай, Паўлік“.

Паўлік хутка ашушкаўся і вышаў на двор. Другім часам, дык ён не зьвярнуў-бы ўвагі на гэты голас, бо гэта гукаў самы раньні і старэйшы начлежнік дзед Трыгубiца, які заўсёды выяжджаў тады, калі хлопцы і ня думалі яшчэ. Праедзе праз усю вёску, пагукае, пастаiць каля кожнага гурту і старых і маладых, пакурыць, пагутарыць, а то бывае і засьне седзячы на сваім дэрашы. Тады хлопцы цiхенька падыдуць, здымуць з каня аброць і наяжджаюць гуртам, каб увабраць яго ў сярэдзіну. Прачнецца дзед, пачне тузаць каня, каб выехаць з гуртку, бо любіў ехаць ззаду, а конь і вухам не вядзе. Сьмяюцца тады хлопцы, жартуюць: „едзе, як езусак на асьле“.

Паўлік любіў начлег. Любіў корпацца каля агню і слухаць расказы пра партызан, іх спрытных атаманаў, іх геройства ў змаганьні з жанда-

рамі, асаднікамі яму ўяўлялася, як нешта вельмі вясёлае. Паўлік шырока раскрываў вочы, калі слухаў: „дык вось абкружылі яны Івана Біпана, так што няма выхаду. Хаваўся, хаваўся ён за кусты, а пасьля бачыць, што ўбяруць такі яго, адзін жандар, нібы выжал, так і смаліць па сьлядох. Лёг тады Іван, так што ногі пры дарожцы, каб відаць былі, а тулавам значыць больш у кусты падаўся. Ідзе жандар задраўшы галаву і наступае на ногі. Іван не варушыцца. Жандар штурхець нагою, не варушыцца. Значыць ня жывы. Ён тады нагінаецца, адхіляе галінкі, каб глянуць на галаву чалавека, а Іван ляворварыкам тыц яму ў нос. Жандар і сеў Іванка бярэ ў яго стрэльбу. „А цяпер здымай мундыр і шапку“. І гэта ўсё ціха і мірна. Надзеў Іван гэтую форму, начапіў стрэльбу і кажа жандару: „Я магу зрабіць, што ты ніколі больш яе не адзенеш і не паднімешся з гэтага месца, але ў цябе мусіць ёсьць малыя дзеці?“ „Ёсьць, панок дарагі, пашкадуйце“, пачаў маліцца жандар. „Я не панок, а Іван Біпана,—дай мне слова, што ніколі больш такога мундыра не адзенеш і паном служыць ня будзеш“. Жандар пачаў клясьціся, што не адзене. Іван падаў яму руку і пайшоў. Ступіў гэта ён некалькі крокаў, насустрач ідзе асаднік з дубальтоўкаю — таксама памагае лавіць Івана ван спыніўся і махнуў рукою, каб асаднік, значыць падышоў да яго Асаднік ідзе. Падыйшоў і бачыць, што незнаёмы „жандар“. „Пшапрашам, я вас не заўважаў“ — пачаў асаднік. „Трэба заўважаць“ адказаў Іван. „Якая ў вас фузя (стрэльба)“ „А нішто сабе“ адказвае асаднік. „Пакажэце“ кажа Іван. Асаднік дае стрэльбу. Іван вешае яе сабе на плячо, настаўляе рэвольвар і камандуе: „павярніся ў той бок!“ Асаднік хацеў нешта запытаць, але Іван сказаў, хто ён такі, дык ён закалаціўся і пашоў туды, куды Іван загадваў. Адвёў ён яго далей ад тых двух жандараў, што набліжаліся, вывеў на ўскрай лесу і сказаў: „валі проста па сенажаці і не азірайся, а сам закурыў і пашоў куды яму трэба“.

Паўлік падскаквае, слухаючы такое апавяданьне. Да таго, што ён чуў, яго фантазія дадавала яшчэ шмат новых цікавых малюнкаў. Расказваючы сваім таварышом, якія ня езьдзяць на начлег і ня чулі якоганебудзь расказу, ён стараўся перадаць усё найбольш яскрава, найбольш цікава, нават з дапаўненьнем сваіх малюнкаў. Ён інсцэнізаваў „Ты будзеш жандар. Ты ідзеш і шукаеш Івана Біпана. А ты асаднік, такі плюгавы чалавек, са стральбаю за плячыма. Сабе ён пакідаў ролю атамана і выконваў яе надзвычайна цікава. Калі таварышы протэставалі і браліся за выкананьне гэтае ролі, у іх так ня выходзіла.

Сёньня выехаў Паўлік на начлег з другім настроем. Сёньня ён ня прымаў удзелу ў жартах. Прынёс сваю долю дроў і моўчкі сядзеў каля агню. А ў думках вілася дарога да бацькі. Усплывала гутарка з Захаркам, з маткаю. „Адкуль яна ведае пра запісачку? Чаму яна пытае пра нейкі рэвольвэр? Я-ж ня Іван Біпана. А Івану крута прыходзілася? Паўлік пачаў разважаць, што ня так Івану весела, калі за іх ходзяць

са стрэльбамі, як за якою зьвярынаю. „Іван спрытны і ня хоча давацца ў рукі жандараў. А хто не такі адважны і спрытны, таго забіраюць. Бацьку забралі. А што рабіць чалавеку, які ня можа бараніцца? А ці ўбароніцца самы здаравенны, самы адважны, калі ён будзе адзін?“

Вось аб гэтым яму сёньня хацелася гутарыць. Ён абвёў вачыма чатырох начлежнікаў, якія сядзелі вакол агню, хацеў пачаць гутарку, але рашыў, што яны не падтрымаюць, пабаяцца. Паўлік чакаў, што моʻ каторы запытае пра яго бацьку, тады лягчэй будзе разгаварыцца. Маўчаць. А можа яны не спачуваюць гору Паўліка, не шкадуюць яго бацьку?

Не. Бацька быў добры чалавек, яны шкадуюць, яны бачаць страшэнную няпраўду і таму так глыбока маўчаць. Можа гэта такая натура беларускага прыгнечанага мужыка — чым большая крыўда, тым глыбей хаваецца ўнутры яго слова і тым даўжэйшае маўчаньне.

Сёньня Паўлік не ваяваў за месца. Звычайна крайнім ад лесу спаў дзед Трыгубіц. Паўліку ня страшна было легчы нават на вотшыбе, але ён разаслаў гуньку побач з дзедам, накрыўся кажушком і нават прыкрыў свой твар.

У абрэчку закрычаў драч. Паўлік адхіліў кажушок, вочы яго спаткаліся з мільёнамі зорак. Колькі іх там мітусіцца. Хоць-бы адну яму. Але-ж кажуць, што яна большая за ўсю зямлю, на якой мы жывём, маленькаю выглядае, бо страшэнна далёка ад нас.

Зорачкі, мае зорачкі.

Далёка вы ад мяне...

А татка ня вельмі й далёка. Усё роўна пайду. А ці бачыць ён цяпер зоркі? Можа ў цёмным паграбе засадзілі...

Тра-тра-та-та-там—закрычаў у абрэчку драч.

Паўлік пацягнуў на галаву кажушок.

Захарык думаў, адкуль ішла выдумка пра рэвальвэр, які ён нібыта перадаў Паўліку.

— Вось бачыш, галубок, якія ёсьць людзі,— казаў ён Паўліку.—Ідзі дадому, я зараз зайду да вас, пагавару з маткаю.

Паўлік пашоў дадому і сказаў матцы, што скора прыдзе дзядзька Захарык.

— Ты зноў быў у яго?—накінулася маці.

— Вось ён прыдзе сам і раскажа вам.

— Так я яму і паверу, што ён мне раскажа.

У вокнах мільганула згорбленая постаць Захарыка. Марцініха змоўкла. У яе мільганула думка: „Можа і Марцін вернецца з турмы такім пакалечаным.

— Сядай, Захарык,—прыветна запрасіла Марцініха.

— А я думаў ты з качаргою сустрэнеш мяне.

— Я здаецца нікога нэ сустракала.

— А на хлопца чаму так напала?

— Людзі-ж пачынаюць гаварыць... баюся-ж я.

— Якія гэта людзі? Хто гэтыя людзі, што пад выглядам добрадзеяў капаюць нам яму? Аб іх ня трэба маўчаць. Кажы Марцініха.

Марцініха маўчала. Захарык чакаў адказу.

— Твая братава казала.

— Так і я думаў, што гэта яе, гадзіны язычок. А ты-ж ведаеш, што яна здатна на ўсякія пакасьці, дык чаму ты не абліла яе памыямі такую суку?

— Калі-ж я цяпер усяго баюся, Захарык. Лягу спаць, а ў мяне, ведаеш, стаіць у ваччу гэты жандар, што біў Марціна. Калачуся, дарагі мой, каб не забралі ўсіх нас.

— Не калаціцца нам трэба... ну, ладна, ты будзь спакойна, будуць калаціцца некалі і яны, пабачыш. А Паўлік няхай праведае бацьку. Я ведаю якая гэта радасьць, калі хто прынясе і перадасьць табе тваю-ж зрэбную кашулю, альбо кавалак хлеба. Я Паўліку дарогу расказаў. Пускай яго сьмела. Няхай праведае бацьку.

Паўлік у любы дзень гатоў быў адправіцца ў дарогу, патрэбна было выбраць такі час, калі-б маці спакойна адпусьціла яго. Але-ж якая гэта маці спакойна адпусьціць у далёкую незнаёмую дарогу сваё адзінае дзіця? Толькі-ж там пакутуе хворы бацька гэтага дзіцяці...

Паўлік заўважыў, што маці падрыхтавала бялізну і нават дастала недзе кавалак сала. Значыць яна вырашыла.

Так, маці вырашыла і вось намервалася сказаць і даць настаўленьне як трымаць сябе сярод чужых людзей.

— Сёньня мо' ня трэба ехаць на начлег, лажыся, сыночак, раней спаць, ды заўтра раненька мо' пойдзеш у дарогу.

Паўлік узрадаваўся.

— Вось добра, я раненечка ўстану, вось толькі пашукаю зараз свайго ножыка,—і ён затупаў па хаце і пачаў шукаць там ножык, дзе ён здаецца ніколі ня мог быць. Маці заўважыла яго радасьць і ласкава глянула на яго.

Раптам расчыніліся дзьверы і ў хату ўляцеў Паўлікаў стрэчны брацік Сьцёпка.

— Каб ты ведаў, што зараз было на вуліцы: едзе п'яны канарык, а мы стаімо каля весьніц. А яны зачынены. Дык ён падняў галаву, лыпнуў на нас вачыма, ды захрыпеў: „адчыняйце, вароты“. А мы маўчым. Дык ён: „ну, каторы з вас тут разбойнік“—гэта мусіць пра цябе. А мы адказваем: няма ў нас ніякіх разбойнікаў. „Вы ўсе тут разбойнікі“—зароў ён. А мы на яго. „Ты разбойнік і п'яніца“,—ды наўцёкі.

Паўлік абурыўся:

— Раз абзывае разбойнікамі, дык трэ' было браць калы, ды біць яго.

Закалацілася матчына сэрца.

— Паўлік, што ты сабе думаеш? Загінеш ты. Ня пушчу я цябе, нікуды ня пушчу.

— А куды ты хацеў іці?—Запытаў Сьцёпка.

— Да таткі.

— Ня пойдзеш ты. Я сама пайду. Можаш ехаць на начлег,—цьвёрда заявіла маці.

Паўлік і Сьцёпка моўчкі вышлі з хаты.

Першы незадаволены быў, што нарваўся Сьцёпка, а другі, што ня споўнілася таварышава жаданьне. Паўлік моўчкі аддзіраў ад гнілога паркана кавалачкі і крышыў іх у сваіх пальцах на парахню. Сьцёпка паглядаў то на яго, то на вокны хаты, то проста моргаў вачыма і ня ведаў куды іх дзець. Ён адчуваў, што крыху не ў пару ён падскочыў са сваімі навінамі і, счакаўшы крыху, пачаў:

— Значыць цябе ня пускаюць?

— Ты-ж чуў,—не пазіраючы на яго адказаў Паўлік.

— А табе мусіць ня трэ' было гаварыць, што калом біць асадніка.

— А табе ня трэ' было расказваць,—злосна адказаў Паўлік.

— Ну калі так, дык я пайду.

— Можаш іці.

Сьцёпка не адыходзіў. Ён не хацеў пакідаць таварыша ў такім настроі.

— А можа цётка адпусьціцца, а калі-б мяне татка пусьціў, дык і я пайшоў-бы разам з табою. Праўда, Паўлік?

— Як гэта ты пойдзеш, калі твайго татку не забралі?

— А я так, каб табе было весялей.

Паўлік глянуў на яго:

— Ну паглядзім, ці пойдзеш ты, а я то ўсё роўна пайду, бо ў мамкі нага нарывае.

Гэтым часам падыходзіў Гаўрык і хлопцы спынілі пра гэта гутарку.

Ня спалася Паўліку гэтае ночы. У думках ён праходзіў вёскі, засьценкі, лясы, уваходзіў у горад, а там убачыў за кратамі свайго бацьку... тут-жа ўспамінаў матку і злаваўся крыху на яе. А што калі вазьму торбу, ды пайду? Чаго яна так баіцца пускаць мяне? Пазлуецца як заўважыць, што мяне няма дома, а як вярнуся, дык і нічога. З гэтаю думкаю Паўлік вярнуўся з начлегу.

Маці ўходжвалася каля печы і асьцярожна ступала на пальцы левае нагі, бо пятка нарывала. Паўлік прыглядаўся і з некаторым задавальненьнем сам сабе зазначыў: „не, яны з такою нагою ня пойдуць. Каня таксама запрагаць ня будуць, бо і конь слабы на такую вялікую дарогу, ды невядома колькі там часу трэ' будзе змарнаваць, пакуль адведаеш татку“.

На вуліцы пасьвістваў Сьцёпка. Ён заглядаў у вокны Паўлікавае хаты, але захадзіць не адважваўся. Ён спадзяваўся, што Паўлік скора

выйдзе з хаты. Але час ішоў і з хаты ніхто ня выходзіў. Сьцёпка пабег дадому, узяў сваю выменяную ўчора дудку з дзевяцю перабіванкамі і пачаў іграць. Ідзе паўз Паўлікавы вароты і быццам не глядзіць, толькі мацней іграе, каб той пачуў. Адно толькі няшчасьце, калі ён дзьмухае слаба, павольна, дык дудка дае прыемны нізкі гук, але ціхі а дзьмухне мацней, дык яна тады дае высокі, але піскьлявы тон, а ўжо Сьцёпку вядома, што Паўлік такога тону ня любіць. Тады Сьцёпка стаў на лаўку і быццам паглядае далёка ў канец вуліцы і ў гэты час іграе нізкім голасам. Ды нават уся дудка відна Паўліку.

Скрыпнулі дзьверы. Сьцёпка не абарочваецца. Іграе.

— Пакажы дудку,—пачуў ён голас Паўліка.

— Гэта ў мяне новая, — хутка адказаў Сьцёпка і дае Паўліку на ацэнку. Паўлік не асабліва любіў хваліць чужыя рэчы, але пакруціўшы ў руках гэту дудку сказаў:

— Ніштаватая. Пойдзем на рэчку.

Была позьняя нядзельняя раніца. На рэчцы было шумна. Мужчыны купалі коні. Дзеці з кошыкам на бродзе лавілі пяшкуроў. Паўлік на хвіліну спыніўся каля мужчын і пашоў па сенажаці сьцежкаю паўз бераг. Сьцёпка ня ведаў куды ён ідзе, але стараўся не адставаць. Далёка ў аеры відаць быў саламяны капялюш, Паўлік туды і накіраваўся. Падышоўшы зусім блізка, ён раптам павярнуўся і пашоў назад.

— Чаго гэта ты назад?—запытаў Сьцёпка.

— А чаго я пайду далей?

— Я-ж ня ведаю, ты-ж нечага ішоў.

— Ішоў, бо думаў, што тут вудзіць дзядзька Захарык, ажно гэта дзед Трыгубіца.

Сьцёпка больш ня пытаўся і моўчкі за ім ішоў. Раптам Паўлік спыніўся:

— А ведаеш што, Сьцёпка, я зараз пайду.

— Куды?

— Да таткі.

— А маці пускае?

— Усё роўна. Пайду і ўсё.

— Дык я цябе крыху правяду, — залапатаў Сьцёпка,—я пашоў-бы з табою скрозь, але тата будуць лупцаваць мяне, дык я правяду цябе ды вярнуся, добра?

— Добра, хацеў я толькі яшчэ раз пабачыць дзядзьку Захарыка, але яго няма дома.

Хлопцы накіраваліся дадому.

Была ціхая, павольная раніца. Сёньня ніхто не працуе, не сьпяшаецца. Сям-там на лаўках пад дрэўцамі сядзяць мужчыны, жанчыны. Хлопцы ўзыходзілі на Паўлікаў двор. Пад бярэзінкаю сядзела маці. Яны зусім ціхенька ўвайшлі ў хату і маці іх не заўважыла.

Яе думка была за гэтым вузенькім дваром — на шырокай панскай сядзібе. Можа выйдзе пан, тады кінецца яна яму ў ногі і будзе прасіць, каб вярнуў Марціна. Але-ж, праўда, былі ўжо такія, што хадзілі і прасілі, а пасьля праклінялі сябе за гэта. Панскае слова перадавалі дваровыя сабакі. Думка вярнулася з панскага дзядзінцу на свой дворык. Погляд упаў на тое месца, дзе ляжаў Марцін. Вось тут, на гэтым месцы ён нежывым ляжаў. Тут пад гэтай бярэзінкаю жандарскі бот ціснуў яго да зямлі. Ты-ж чула, бярэзінка, ты шумела, калыхалася, я нават з агароду ўбачыла. І цябе параніў ён шабляю.

Схілілася цяпер маладая бярэзінка і ціха, але трывожна шалясьцела сваім маладым лісьцем.

У сенцах суседняе хаты дзяўчаты сьпявалі.

У нядзельку раненька
Узышло сонца яснenька.
Татка коніка поіць,
Дужа жаласна плача...

З хаты з торбачкаю выходзіў Паўлік. За ім азіраючыся Сьцёпка. Ён ціхенька прычыніў у сенцах дзьверы і меркаваў драпануць у вароты, але на яго зьдзіўленьне, Паўлік стаў ля дзьвярэй як укопаны.

— Уцякайма, яна ня бачыць, — прашаптаў Сьцёпка. Паўлік яшчэ хвілінку пастаяў, паглядзеў на матку і накіраваўся да яе. Сьцёпка непакоіўся.

Весялей шалясьцела маладая бярэзінка сваім маладым лісьцем.

Глянула маці на Паўліка. Стаіць хлопчык, нічога ня кажа, толькі пашавялілася ў руках торбачка, — тужэй зацісьнуў яе паясок, а ў вачох маці — ніякага дакору. З глыбіні самотнага сэрца бліснула іскарка радасьці, іскарка ўцехі сваім дзіцём. Гэту няпрыкметную для дарослых уцеху добра разумеюць дзеці і Паўлік адразу адказаў непакорлівым марганьнем вачэй.

Усьміхалася бярэзінка маладою, сонечнай раніцай!

Паднялася маці.

— Ну, ідзі, сынок. Ці ўсё-ж ты ўзяў?

— Усё мамачка... Толькі, каб дзе грошай крыху. Сваіх у мяне ня больш за два злотых.

Маці пашла ў хату. Да Паўліка сьмялей падбег Сьцёпка.

— Пускаюць?

— Пускаюць. Пашлі шукаць грошай.

— Эх, шкада, што я аддаў свае грошы за чмялёвыя гнёзды, а то пазычыў-бы табе. Але чакай, я зьбегаю папрашу ў дзеда. Добра? Ты пачакаеш? Я скоранька.

Паўлік толькі кіўнуў галавою і Сьцёпка, нібы тая кацёлка, выскачыў за вароты.

Ножык ёсьць, толькі трэба мацней прывязаць яго. Запалкі таксама няхай будуць.

— Хадзі сынок, сюды,—пазвала з сянец маці. — Схавай-жа гэта, каб ня згубіў, аддасі бацьку. Ён ведае што болей няма. Скажы, што ячмень узышоў добра... што... ідзі, сынок...

І яе высахшыя, як ральля ад сонца, губы прытуліліся да выцьвіўшае ад сонца Паўлікавае шапкі. Паўлік зьняў шапку і пацалаваў матчыну руку.

— Ня згубіся, сынок...—і яшчэ нешта хацела гаварыць маці, але Паўлік перабіў:

— Ды не, я дарогу ведаю, у мяне запісана, а то дапытаю, я скора вярнуся, а можа разам з таткам.

На вуліцы піснула Сьцёпкава дудка. Гэта ён засопшыся наляту дзьмухнуў.

— Дастаў! Дзедка адразу даў, але нямнога.

— А ты-ж куды, Сьцёпачка?—запытала Паўлікава маці.

— Я буду праводзіць Паўліка.

— Ідзеце, дзеткі, праз агароды, ня трэба вуліцаю.

Вузенькім узьмежкам ішлі хлопцы праз агарод. На вузенькіх градах расьцьвітаў чырвоны мак. Кволыя пялёсткі поўніліся сокам зямлі, шчодрым падарункам чэрвеньскага сонца, звонам працавітых пчолак. Чырвонае возера абдымае сялянскія будынкі. Шпарка плывуць па ім Паўлік і Сьцёпка. Чырвоным макам расквітаюць маладыя думкі. Паўлік нібы ня чуе пад сабою зямлі, ён плыве, але яму нібы маладому сакалёнку хочацца ўзьняцца вышай, сьмела махнуць сваімі крыльлямі і хутчэй даляцець да бацькі. Сьцёпка яшчэ ловіць пчаліныя гукі, шукае чмялінага „баса“.

Невялічкая аселіца, плот і чырвонае возера застаецца ззаду. Наперадзе рэчка, невялікі мост. Абапал яго плюхаюцца дзеці. Іх тут поўна ў вадзе і на беразе. Здалёку, дык—нібы гусі чупырацца і жыруюць па вадзе, а зблізку вы бачыце нейкае сваясаблівае войска, вы бачыце генэральную схватку, узьлятаюць уверх пырскі, а далей група змайстравала сабе „пантоны“ мост і перапраўляецца на другі бераг, пад мост, на плюшнікавых лаўках плывуць на сьпіне два трупы. Яны, вядома, не шавяляцца, але горда пазглядаюць уверх на мост.

— Паўлік, гу-гу,—крыкнуў адзін з іх. Гэта значыць: паглядзі, як я плыву.

Сьцёпка ўжо схіліўся над парэнчаю, а Паўлік ішоў проста.

— Ідзі, Сьцёпка, няма там чаго глядзець. Я даўно забыўся так плаваць, а ён толькі пачынае вучыцца.

Хлопцы мінулы мост. Частка „войска на вадзе“ выскачыла на бераг і гукала: „куды вы, хлопцы?“ Адказу ніякага ня было. Паўлік нават не азірнуўся, а Сьцёпка і рад-бы прыпыніцца, але ўсё такі падбегам сыпле за Паўлікам. Выгукі з рэчкі прымушалі яго паварочвац

назад галаву, але не маглі спыніць. Але як толькі мінулі луг і пачалі набліжацца да поля, Сьцёпка ня стрымаўся:

— Ведаеш, Паўлік, мне то нічога, я пакупаюся яшчэ сёньня можа разоў з сем, а табе мусіць не давядзецца ўжо, дык можа ты пакупаўся-б перад адходам, лягчэй было-б іці.

Паўлік адчуваў на сабе торбачку, доўгі брыль у шапцы хоць і закрываў твар ад высокага сонца, але затое на ілбе ўсё больш зьяўлялася капелек поту і ён насунуў шапку на патыліцу, спыніўся, глянуў на Сьцёпку... А Сьцёпка:

— Мы ня будзем варочацца назад туды, дзе ўсе купаюцца, мы вось у гэтым месцы. Тут хоць і спрытны бераг, але ня вельмі глыбока. Добра?

Гэта было апошняе месца, дзе рэчка блізка падыходзіла да поля, апошняе блізкае месца да іх, а далей—дарога Паўліка і рэчка разыходзяцца і ніколі нідзе ня сустрэнуцца. Але Паўлік ведаў, што ня сустрэнецца дарога з гэтаю, сваёю рэчкаю, дык сустрэнецца з якою-небудзь іншаю, ды не адной. А Сьцёпка:

— Два тры нырцы дамо і пойдзем.

— Ідзі ты, Сьцёпка, і давай сабе хоць сто нырцоў, а мне няма калі тут бавіць час,—заявіў Паўлік, павярнуўся і пашоў.

— Не, дык і я іду, толькі дзеля цябе гэта...

Паўлік маўчаў і толькі павялічваў свае крокі. Узыходзілі на ўзгорачак, міналі кудзерку леса, пачыналі палеткі другое вёскі. Свае вёскі ўжо ня відаць, ня чутно гоману з рэчкі, здаецца можна было-б іці побач, але і далей Сьцёпка заставаўся ззаду на крокаў 4—6. Ён паглядаў у бакі, спатыкаўся на каменьне, затрымліваўся, падбягаў. У яго ня было такіх роўных крокаў, якімі мераў дарогу Паўлік і калі яны прайшлі па вузкай з глыбокімі каляінамі дарожцы кілёмэтраў два, Паўлік адчуў, што яго нібы штось тарнуе і не дае яму шпаркага ходу. „Ну, добра, каля першага хутару трэ' будзе яго адправіць" рашыў Паўлік. Сьцёпка яшчэ ня думаў варочацца назад, а што нейк няспрытна ішлося, дык ён жа не вінаваты, што воддаль панастаўлялі хутароў, ігруш дзічак, каменьне накідалі з поля. Дык вось яно і выходзіць: на адно заглядзішся—на другое спатнешся.

Падыходзілі да хутара. Забрахаў сабака. Сьцёпка адразу падбег бліжэй да Паўліка:

— Няхай толькі выбяжыць сюды, вось мы яму задамо.

Другім бы разам, дык Паўлік парагатаў-бы са свайго таварыша, а цяпер ён спыніўся, глянуў на яго:

— Пакуль у цябе лыткі цэлыя, бяжы, браце, дадому, а я адзін пайду.

Такое слова можа абразіць самага трусьлівага чалавека і, вядома, Сьцёпка таксама абразіўся:

— Ён мне абарве лыткі? то ці пазьбірае ён зубы,—і Сьцёцка ўхапіў каменьчык і нават вышаў наперад. Паўліку стала забаўна, ён з палкаю ў руках прымушаны быў іці ззаду.

Невялікі, чорны касматы сабака, нейкаю чорнаю бомбаю, каціўся да іх. Загарэліся Сьцёпкавы вочы:

— На, патрымай дудку!

Ён скоранька перадаў яе Паўліку і сам адвёў руку з каменьчыкам. Ён рашыў спаткаць праціўніка за паўганак. Шпурнуў камень, нагнуўся, каб схапіць другі, але ў такіх гарачых выпадках, звычайна, патрэбнае рэчы пад рукамі і няма, а калі ёсьць блізка, дык не заўсёды заўважыш. Пакуль Сьцёпка круціўся на месцы, дык чорненькая „бомба" была каля ног. Паўлік ваюе адзін. Ён проста махае перад сабою палкаю і йдзе далей. Але сабака хіцёр—кідаецца ў бакі. Сьцёпка, схаваўшыся за Паўліка, таксама скача ў бакі. Сабака заўважыў яго і кінуўся назад. Сьцёпка пасьпеў заскочыць наперад. Разоў шэсьць пабег Сьцёпка. Паўліка ён нават не заўважыў, як Паўлік, махаючы палкаю, зьнячэўку цокнуў яму паназе і толькі за другім разам крыкнуў: „ня бісяǃ"

— Гэта-ж ня я,—адказаў Паўлік. Сабака адбегся.

— Гэта ён ушчыпнуў цябе.

— Калі гэта ён пасьпеў?—што я не бачыў?—пакрыўджана сказаў Сьцёпка.

— Ну, падымі калошу.

Сьцёпка падняў калошу і ўбачыў сінявата-чырвоныя значкі Сабака сваё зрабіў і толькі, каб не адразу парваць знаёмства з хлопцамі, адбегся і, вінавата аблізваючыся, падзякаў, і падаўся дадому.

— Ну, яе табе не дарую!—пагразіў Сьцёпка на сабаку.

— На тваю дудку, вярніся, бо толькі клопат мне з табою.

Так сказаць, гэта значыць падштурхнуць хлапца іці далей. Сьцёпка трымаўся за пакусанае месца і цяпер раптам разагнуўся.

— Вунь бачыш, сабака панёс дадому зубы,—жартаваў Паўлік.

— А ты думаеш я яму дарую?

— А што ты яму зробіш?

— Я такі ўбяру яго ў свае рукі, не цяпер, дык у чацьвер.

— Ну, хіба ў чацьвер, а цяпер бяры дудку і смалі дадому.

— А вот і пайду далей.

— Бяры, кажу, дудку,—цьвёрда заявіў Паўлік.

— Дудку я магу ўзяць,—нясьмела адказаў Сьцёпка.

— Ідзі дадому і нікому не кажы, каб ня ведала мая мамка, а то падумае, што і мяне пакусаў.

— Ну, добра, я пайду, але... але дудку вазьмі з сабою, мо' калі пайграеш дзе, а я абыдуся, добра?

— Ну, добра.

Хлопцы разьвіталіся.

Азіраючыся больш на хутар, чым на Паўліка, подбегам аддаляўся Сьцёпка. Калі мінуў страх, што сабака пагоніцца за ім, хлапец увесь аддаўся думкам помсты злачыннаму сабаку. Шмат узьнікала розных плянаў, але найбольш спадабаўся такі: возьме з сабою Грышку і Пятрука, прыдуць пад гэты хутар, паставяць сіло, усіляць сабаку і тады ён, Сьцёпка, падбяжыць і пачне лузуном, альбо частаколінаю перыць. „Вось табе, каб цябе ваўкі, вось табе! Ага, ага папаўся! Будзеш кусацца?..“ выгукваў Сьцёпка, выбягаючы на дарогу.

Паўлік быў далёка за хутарам. Уперадзе невядомая, амаль трохдзённая дарога, а ззаду... ня было і Сьцёпкі. Сумна стала і ніякава перад самым сабою, што так няўважным быў да Сьцёпкі, што сказаў „толькі клапот мне з табою“. Той-жа і грошай выпрасіў у дзеда, і не пашкадаваў дудкі, і праводзіў... а ён нібы прагнаў Сьцёпку ад сябе. Праўда, Сьцёпка ўсёроўна павінен быў вярнуцца, але-ж трэ' было інакш разьвітацца. Так разьвітацца, каб Сьцёпка чакаў яго, каб ён кожны дзень выходзіў сустракаць.

А хіба-ж Сьцёпка будзе злавацца? Не, ён не такі чалавек. Самая цяжкая крыўда ад свайго таварыша ня доўга ляжыць на яго сэрцы. Толькі-б ведаць яму, калі будзе варочацца Паўлік, ён абавязкова падрыхтуе ўсе навіны свае вёскі, вызначыць важнейшую, каб сказаць яе першаю і абавязкова сустрэне. Ну, а сустрэўшыся, дык можа адразу выпаліць і тое, што зусім не ўваходзіла ў плян, як скажам: „у Марціна Лявонавых акацілася авечка, дык ягна ўзяло ды здохла“.

Паўлік ідзе і заспакойвае сябе думкаю, што мо' трапіцца напаткаць у горадзе які губны гармонік, ці што іншае, дык спэцыяльна купіць для Сьцёпкі.

А вось і дзьве раўналежныя сьцены высачэзных таполяў. Свая вёска засталася ззаду амаль на трыццаць кілёмэтраў. Так зазначылася ў запісцы, якая заложана была пад цыратаю шапкі: „да маёнтку 30 кіл.“ Ніякае болі ні ў нагах, ні ў чым Паўлік не адчуваў, толькі шырока адкрытыя на працягу дня вочы занадта многа ўбіралі ў сябе розных незнаёмых месц. Пераскаквалі стракатыя палеткі, напруджваліся вочы, каб прасякнуць далячыню дарогі і дзеля таго ласкава прасілі спакою, адпачынку.

Глянуў Паўлік на маёнтак: не-е, тут нельга начаваць. Каб было яшчэ рана, ён-бы як-небудзь абышоў-бы яго, хоць у пляніку і зазначана, што павінен прайці па прысадах праз маёнтак, а там далей будзе невялікі засьценак. А вось далёка, ці блізка гэты засьценак у пляніку не адзначана. Ну мо' хто ў маёнтку скажа.

Шкада было пакідаць звычайную нават ня зусім гладкую дарогу, тым больш, што яна здавалася яму найбольш пэўнаю і найбольш кароткаю да горада. Чамусьці ўяўлялася, што горад якраз у тым баку, куды

пашла гэтыя дарога. Але-ж дзядзька Захарык не памыліцца. А ён ясна сказаў: „пойдзеш па прысадах“.

Пайшоў Паўлік.

Просьценкая, роўненькая дарога. А як цяжка па ёй іці. Нават страшна. На дарозе адзін Паўлік. Абапал высачэзныя маўклівыя таполі. Роўненька стаяць. Не варушацца. Гэта-ж пастаўлена нейкая варта. Аж да самае брамы. Здаецца, што яны прапускаюць цябе, а ззаду гэтыя два рады шчыльна злучаюцца і назад табе дарогі не дадуць.

Паўлік жахліва азірнуўся.

Ён цяпер заўважыў, што на адным баку дарогі, крыху на ўсход ляжалі даўжэзныя цені.

Цішыня.

Адны жукі кудысьці імчаліся, гаманілі, раўлі на розныя галасы. Трудна згадаць, куды яны імчаліся і што за песьню выводзіў кожны з іх. Толькі Паўлік заўважаў, што яны чамусьці снавалі вакол яго да самае брамы.

Чатыры мураваныя шэрыя слупы. Ад двух крайніх, крыху меншых адыходзілі старыя высачэзныя, густа сплеценыя зелянінаю платы. Брама расчынена. За ёю абапал таўшчэзныя дрэвы сваім гальлём зыходзіліся ўгары. На дарозе ў гэтым месцы, амаль заўсёды вільготна. Халадком абдало Паўлікаў запацелы твар. Ен зьняў шапку, выцер рукавом лоб і ў гэты час кінуў наўкола свой погляд. Абапал аборы. Толькі з аднаго боку высокая, вузкая, з невялікімі пад страхою вокнамі, а з другога—шырокая, ніжэйшая, але з большымі вокнамі. Прыглядаецца, на акно другое аборы: адна шыба заткнёна нейкім халатам, а вось і вузкія дзьверы. Значыць тут жывуць людзі, а не паны. Падышоў бліжэй. О, так і ёсць. Тут жывуць парабкі. З адных дзьвярэй выскочыла ў доўгіх зрэбных кашулях трое дзяцей і пабеглі да нейкае фігуркі. Адтуль ішоў дзед, яны ў момант даляцелі і абчапілі яго. Весялей стала і Паўліку, ён таксама шпарчэй накіроўваўся да дзеда.

— Ці далёка, дзедка, засьценак Качаны?—пытае Паўлік.

Дзед нічога не адказвае, ідзе сабе далей. Паўлік ізноў:

— Ці далёка, дзедка, Качаны?

Дзед не адказвае, толькі нешта гаворыць дзецям. Нарэшце, большая дзяўчынка заўважыла, што Паўлік ідзе за імі і спыніла дзеда. Паўлік яшчэ раз запытаў: Тады дзед нагнуўся, дзяўчынка абхапіла яго за шыю, прылажыла свае губы да вуха, ды на ўвесь голас:

— Ка-ча-ны!!!

— А-а, Качаны недалёка, дзьве вярсты. Вось сюдэю, — паказаў ён пад фігурку,—паўз гумно, ды праз лясок.

Падышоў Паўлік да фігуркі—што за ліха: нейкае вялікае кола нібы ў малатарню, і вал таўсты. Прыглядаецца аж да яго па вяроўцы прышчэплена нейкая невялікая бочачка, а з яе цуркоча вада.

— „Во-о-о, дык гэта-ж калодзеж“. Паўлікавы засмаглыя губы пацягнуліся пад халодны струмень глыбокае вадзіцы.

Густы бэз з чаромхаю закрывалі шырокі газон і панскі дом. Толькі прашоўшы крыху, Паўлік заўважыў бляск, мусіць на вэрандзе, і пачуў жаночы сьмех. Ён ціхенька ступаў, нават не апіраўся на палачку, каб ня стукнула аб каменьчык. Баяўся ён людзей з гэтага дому, але яшчэ больш баяўся іх сабак, а вядома—дзе паны, там ёсьць і сабакі. Паўлік недзе чуў, што калі ня дыхаць, дык сабака ня счуе чалавека і ён стараўся ня дыхаць.

А вось і другая, меншая брама, а за ёю больш вузкія і меншыя прысады. Шпарчэй і сьмялей пайшоў Паўлік. Здаецца відней стала на дварэ, калі ён выбраўся з панскае сядзібы. Аднак позьні змрок зрабіў вакольныя прадметы нявыразнымі, а набліжацца да зусім незнаёмага лесу трэ' было мець ня толькі сьмеласьць, але і ўпартасьць. Паўлік меў і тое і другое, але іці далей яму было цяжка.

Раптам у цемені лясное заслоны бліснуў агеньчык. Паўлік прыгнуўся, ступіў крыху ў бок ад галінастага дрэва і ўбачыў даволі вялікі агонь.

Начлежнікі,—казаў ён сам сабе.

Цяпер яму непатрэбна ніякая вёска, ні хата! Начлежны агонь улетку—найлепшая, найвесялейшая хата. Ён ішоў нібы да кастра начлежнікаў сваe вёскі, нават хацелася гукнуць таварышоў па імю. А вось і мост. Якраз як у іх. Э-э, толькі-ж кароценькі, слабая рэчка.

Агонь павялічваўся.

Набліжаецца Паўлік, прыслухоўваецца — ціха. Ня відаць нідзе і коняй. А што калі нікога няма? Тады аднаму каля агню яшчэ больш страшна, бо цябе ўсякі можа бачыць, а ты нікога. Чуе стук сякеры: А мо' цыганы? Трэба ціханька падыйці. Паўлік пакідае дарогу, занатоўвае толькі месца і накіроўваецца проста да кастра. Ціхенька ён працiснуўся праз маладзенькі сасновы гушчаняк і прытуліўся да старое, галіністае елкі. Адсюль добра відаць усё, што робіцца каля кастра.

Вось адзін чалавек расьцілае коўдру. Значыць начлежнікі. Паўлік падышоў. У гэты час чалавек расьцілае коўдру з намаляваным тыграм Прыгожая коўдра—дыван. Другі чалавек, з боку складае насечаныя карчы. Спачатку гэтыя людзі так былі заняты, што нейкі момант нібы не заўважылі Паўліка.

— „Нейкія дзіўныя начлежнікі“,—мільганула ў думцы Паўліка, можа ўцячы пакуль не заўважылі.

У гэты момант, той што расьцілаў „тыгру“, не падымаючы галавы, пытае:

— Што скажаш, хлапец?

— Тут, дзядзька начлежнікі?—пытае Паўлік.

— Начлежнікі. А табе што?

— Я іду ў Качаны, але... цёмна стала' дык я... мо' я тутака пабыў-бы, пакуль разьвідніцца.

— Хочаш пабыць тут? Добра, добра. Вось сядзеш на гэты дыван. Я-ж ведаў, што ты прыдзеш, дык вось для цябе і разаслаў.

Паўлік адчуў насьмешку і калі гэты чалавек павярнуўся, дык няма чаго маргаць. Толькі хлапец крануўся з месца і ступіў тры крокі, каб пакінуць гэтых таемных начлежнікаў.

— „Стой!“—пракаціўся па лесе густы моцны голас.

Да Паўліка набліжаўся той чалавек, што складаў карчы. Гэта быў высокі, худы, сярэдніх гадоў мужчына.

— Не ўцякай, падыйдзі сюды, — кажа гэты чалавек, — і скажы мне: што ты за чалавек?

— Я, дзядзечка, па дарозе... Я ў Качаны...—спужана адказваў Паўлік.

— Папершае, ты ня пужайся і значыць толкам скажы: адкуль ты і што ты?

— Я іду да таткі, ён у горадзе.

— А што ён там робіць?

— Ён у турме, дык я хачу пабачыцца.

Падыйшоў і той, што расьцілаў „тыгра“. Разгаварыліся.

— Доўгая-ж табе дарога, сынок, — зусім іншым тонам сказаў гэты чалавек.—Толькі ня трэба хадзіць уначы.

— Я хацеў падначаваць, але там быў маёнтак, а я хацеў, каб дайці да вёскі.

— Не, галубок, да вёскі яшчэ ня так блізка.

— А мне дзед у маёнтку казаў што ўсяго дзьве вярсты.

— О-о-о, гэты дзед ходзіць сваёю сьцежкаю, ты на ёй заблытаешся і ўдзень.

Збоку маёнтку зноў пачуўся знаёмы Паўліку жаночы сьмех. Чуваць быў мужчынскі рогат, топат коней.

— Ну вось едуць і начлежнікі,—сказаў адзін мужчына.

— О, дык я тут і падначую,—сказаў Паўлік.

Мужчыны ўсьміхнуліся.

— Не, галубок, табе тут ня будзе месца. — Вось што я табе раю, вярніся ў маёнтак і пераначуй у мяне. Запытаеш там кватэру Сымона: табе кожны пакажа, а там скажаш майму хлапцу Аляксею, што я цябе прыслаў. Адразу ня выходзь на дарогу, няхай праедуць, тады пойдзеш.

— Пачакай мы зробім лепей, — сказаў высокі мужчына, — ты стань там пад ёлкаю, а я табе скажу калі ісьці.

Гэты мужчына гаварыў хутка, бо і сам сьпяшаўся ісьці ад агню. Паўлік адышоўся пад ёлку. Страшна стала яму. „Трэба ўцякаць“. Азірнуўся вакол. Яму здалося, што гэты лес напоўнены нейкімі жывымі істотамі, ад якіх ён нідзе не схаваецца, што яны завядуць яго далёка ў глыб лесу і будуць рагатаць. Жаночы сьмех пачуўся зусім блізка. Захраплі коні.

— Сюдэю, сюдэю!—загукаў мужчынскі голас.

Чамусьці Паўліку кінулася думка, што тут напэўна будуць каго біць, ці рэзаць. Ён адскочыў і ўкленчыў за невялікім густым кусьцікам. Тут яго ня ўбачыць той высокі мужчына.

А вось ён ідзе назад да кастра, а за ім пара стаенных коняй. У фоэтоне, жанчыны, мужчыны. Тапырацца коні на агонь, ня хочуць надыходзіць блізка. Да фоэтону падбег той мужчына, што запрашаў Паўліка начаваць. Усе вылезьлі з фоэтона. Два мужчыны са стрэльбамі. Адзін у вайсковай форме. Адна жанчына падбегла да агню і пачала пішчаць і дрыгаць нагамі. Мусіць ана скакала, бо ўлетку не павінны памерзнуць ногі. На „тыгра“ панастаўлялі нейкіх прыгожых кошыкаў. Да жанчыны падбег нейкі элеганцік у капялюшы.

— Ну, як вам падабаецца мой парк?

— Цудоўны, цудоўны!—адказала яна і рагоча.

— Ня сьмейцеся, пана Мальвіна, гэты натуральны кавалак прыроды будзе злучаны з маім штучным паркам спэцыяльнымі алеямі і такім чынам...

Далей Паўлік не разабраў, бо другая паненка пачала нешта гукаць панове, панове!..

Цяпер Паўлік зразумеў, што гэта за начлежнікі.

— Панове, гляньце сюды,—паказала яна рукою на ёлку,—вы бачыце? Паўлік зусім прылёг да зямлі.

— „Няўжо яна ўбачыла“. Усе ўтаропіліся ў той бок.

— Дзе, што,—што?—загаманілі яны, а вайсковы нават схапіў стрэльбу. А яна:

— Якое цудоўнае дрэва!

Паўлік пачаў ажываць. Зноў падняў галаву. Да ёлкі набліжаўся той высокі мужчына. Ён-жа сказаў пачакаць тут, так умаўляліся, але паказвацца яму на вочы страшна.

Паны гаманілі, сьмяяліся, вымалі нешта з кошыкаў. Высокі мужчына тупаў каля ёлкі і пазіраў, каб знайці Паўліка. Кашлянуў. Наблізіўся да таго кусьціка, дзе быў Паўлік. Хлапец ня ведаў, дзе яму дзецца. Пашавяліўся. Мужчына нагнуўся.

— Вылазь, я-ж цябе шукаю. Паедзеш начаваць. Паўлік дрыжаў і нічога не адказаў.

— Ня бойся, ідзі.

У баку пры дарозе стаяў фоэтон. Мужчына падвёў да яго Паўліка

— Садзіся, фурман цябе давязе і пакажа Сымонаву кватэру.

— Садзіся,—сказаў фурман.

Пара добрых каней імчалі фоэтон, а ў ім, стуліўшыся, з аднаго боку, на шырокім раскошным сядзеньні ехаў Паўлік. Ніякае прыемнасьці ён не адчуваў. Зморана за дзень, напужаны „начлежнікамі“, ён яшчэ ня мог зразумець, што з ім робіцца. Толькі, калі за брамаю ў маёнтку спыніліся коні, Паўлік адразу выскачыў з фоэтону. Фурман павярнуўся.

— Вунь, бачыш у акне агеньчык? Там побач двое дзьвярэй. Пойдзеш у правыя. Там Сымонава кватэра.

Фоэтон пакаціўся далей.

Зноў ціхенька яшчэ з большаю трывогаю набліжаўся Паўлік да знаёмага калодзежа. Паглядзеў на акенца і асьцярожна ўзяўся за клямку дзьвярэй. Лёганька і зусім ня страшна бразнула яна. Ступіў хлапец у сенцы нібы ў глыбокую разору. Цёмна. Мацае ён хатнія дзьверы, шукае клямкі. У хаце пачулі, што нехта шарыць у сенцах.

— Хто там?—пачуўся юнацкі голас з хаты.

— Я,—адказвае Паўлік.

Расчыніліся дзьверы.

Сустрэў Паўліка дзесяцігадовы Аляксей. Болей у хаце нікога ня відаць было.

— Твой татка сказалі мне пераначаваць, я іх бачыў каля агню, пачаў Паўлік.

— А ты адзін?—запытаў гаспадар.

— Адзін.

— І ты адзін?—запытаў Паўлік.

— А вунь яшчэ адзін,—паказаў Аляксей на стол.

За сталом, за сінім гладышом штосьці пашавялілася. З-за яго, ціхенька стуліўшыся выглядаў чатырохгадовы брацік Аляксея. Адным словам тут Паўлік самы старэйшы. Выгляд хаты і яе гаспадароў гаварыў за тое, што тут людзі свае і можна будзе сьмела адпачыць. Заспакоіўшы сваю начлежную думку, Паўлік з прыемнасьцю паставіў у качарэжнік палачку і сеў на ўслончыку ля стала.

Вячэралі разам. Моцна гулі на стале і вакол іх мухі. Ціха гаманілі хлопцы, але ня доўга.

Блакітным чыстым звонкім небам, яснаю зарою пачынаўся дзень. Званок абуджаў маёнтак. Падымаліся людзі. Бразгалі клямкі, засаўкі ў хатах, аборах, стайнях. Не расплюшчваюцца ў Аляксея вочы, ён вобмацкам, наўгад накручвае на нагу каравую анучку. Абуў лапці. Будзіць трэба „гасьця“—Паўліка і шкада. Аляксей тупаў, стараўся грукнуць чым, каб той сам прачнуўся. Не памагае. Яму памог пастух. Ён падышоў да вакна пабудзіць свайго памоцніка—Аляксея. Забарабаніў у шыбу і разбудзіў Паўліка. Хлапец у момант стаў на ногі і бядняжка чуць устоіў, нібы згінула ў іх пруткасьць.

— Ты хацеў раненька ўстаць, дык вось і пара ўжо, — сказаў Аляксей,—а як будзешісьці назад, дык ізноў заходзь начаваць.

Выйшлі хлопцы з хаты.

— Там за брамаю пачакаеш мяне,—сказаў Аляксей,—я цябе праваджу і пакажу простую дарогу на Качаны.

Абуджаўся маёнтак, выходзілі людзі з абораў—кватэр, выходзілі на шырокія лугі, палеткі, на доўгі, доўгі дзень.

Праз кусты бэзу, чаромхі Паўлік сёньня лепей разгледзеў той высокі белы дом, дзе ўчора бурна рагатала нейкая жанчына. Цяпер там цішыня. Там яшчэ ня рыпнулі ні адны дзьверы. Там сьпяць. Там адпачываюць тыя „начлежнікі“, якія ўчора ў фаэтоне выяжджалі ў лес. Смачна сьпяць і позна будуць спаць, ніхто будзіць іх не пасьмее. А ўстануць — смачна пасьнедаюць і будуць думаць як ім прагуляць сёння ні дзень. Гарачынёю ў парку ў гамаках, ну, а пад вечар мажліва гаспадар прапануе гасьцём прагуляцца конна і да ганку у момант пададуць сядланых стаеньнікаў.

Каля лесу Рыгор, Дзям'ян, Тодар параконнымі плугамі ўздымаюць зямлю. Многа перавярнулі за дзень. І чым больш узаруць, тым мацней стаіць панскі палац.

Паўз лес едуць конныя. Наперадзе — пан Стась і панна Мальвіна. А побач на полі—Стась скідае гной, а Мальвіна разьбівае гэты гной на полі. У Стася ў руках жалезны крук — у пана Стася — стэк. Рукі Мальвіны ў гнаі—рукі панны Мальвіны ў мякенькіх пальчатках.

Усе чалавекі. Усе радзіліся па аднаму закону прыроды—голенькімі.

Паехалі паны дарожкаю, каля лясной сьцяны.

Стась скідае гной. Мальвіна разьбівае.

Рыгор, Дзям'ян, Тодар аруць панскую зямлю.

Аруць зямлю і ўзворваецца цаліна глыбокіх думак аб жыцьці і праўдзе на зямлі. Чорная зямля чакае чырвонае баразны.

У гарадох выкоўваюцца бальшавіцкія плугі.

— Сьпеце, паны, каб вы не паўставалі,—сказаў Паўлік, пакідаючы браму гэтага маёнтку.

Ой, як-жа баляць ногі! Як сёньня цяжка йці!

Падбег Аляксей.

— Ну, вось, я зараз пакажу, як карацей прайці ў Качаны. А цяпер глянем на тое месца, дзе паны гулялі.

Над густым маладым сасоньнікам, побач з вядомаю Паўліку елкаю, уздымаўся дымок.

— А можа там яшчэ ёсьць хто!—выказаў думку Паўлік.

— Не, я думаю, што ўжо ў доме,—адказаў Аляксей. Цяпер Паўлік зусім сьмела набліжаўся да агню. Праўда, наперадзе ішоў Аляксей. Падыйшлі.

На вялікім вогнішчы дыміліся два карчы. Там дзе Аляксееў бацька расьцілаў „тыгра“ ляжалі кавалкі булак, вянгліны, каўбасы, крышку воддаль—вялікія розныя бутэлькі. Падыйшлі да елкі, а тут парассыпаны цукеркі.

— Аж не паелі ўсіх, — заўважыў Паўлік. — А вось тут пад гэтым кусьцікам я сядзеў і калаціўся, бо ня ведаў, што тут робіцца.

Хлопцы пазьбіралі цукеркі. Паўлік яшчэ ўкінуў у сваю торбачку кавалак каўбасы і крыху булкі, патупалі яшчэ крыху каля вогнішча, Аляксей вывеў Паўліка на дарожку і тады разьвіталіся. Разьвіталіся, як даўно знаёмыя, як лепшыя сябры.

(*Працяг будзе*).

## РАХІЛЬ

Віктар Казлоўскі

*(Лірычная веянь)*

1-шы вянок.

Мне часта марыцца,
Мне часта, часта сьніцца
Далёкая мінуўшчына падзей,
Калі душой
Згараў я ў навальніцах
Ї ў вочы сьмерці
З роспачу глядзеў.

Калі ішоў
З распаленаю помстай
Шукаць зямлі
Расьпітую красу,
Калі жыцьця
Патоптаную лотаць
Перад зарой
Выносіў я на суд.

Стрывожан я
Душою маладою,
Адвечная бяссоньніца ў вачох...
А дні ідуць
Напружанай хадою,
Жалезнай зброяй
Бразгае жыцьцё.

Здаецца зноў
Маўклівою такою
Стаіць Рахіль
Ля схіляных сяней.
Цьвітуць вачэй
Чароўныя куколі
Пад чорнымі
Завеямі брывей.

Здаецца зноў
Увечары на ганку
Я чую твой
Надломаны напеў.
І погляд твой—
Пужлівае дзікаркі—
Здаваўся мне
Ад сонечных ляпей.

Здаецца, зноў
Выходзіць на спатканьне
З букетам руж
Кудлатых на руках.
Шляхі-ж твае
Завеяны пяскамі.
Ня прыдзеш зноў
Мяне ты сустракаць.

І як цяпер, вось,
Любая, забыцца
Пра жоўтыя
Мне восеньскія дні...
Кружылася
Скрываўленае лісьце—
Ўгару...
            ды...
                  ўніз...
Ўгару...
            ды...
                  ўніз.

Пылалі дні,
Пылалі дні,
І гасьлі.
Пылала ты
Прад раньняю красой.
Ішлі мы ў сьвет,
Ішлі шукаць мы шчасьця.
Ішлі мы сум
Таптаць ў сыры пясок.

А месяц плыў,
А месяц плыў
                  і
                  плакаў.

Расьсьпеўвалі
Начніцы ў цішыні...
Ці празьвініш
Зноў зломанаю клямкай?
Ці выйдзеш зноў
Мне дзьверы адчыніць?

Ці будзеш зноў
Увечары ля ганку
Зьбіраць дзяўчат
Вясёлы карагод?
І ўсьмешкамі
Пужлівымі дзікаркі
Ўзьнімаць душы
Руйнуючы агонь?

Я чуў як часта
Срэбнымі ключамі
Званіла поўнач
Ля маіх вакон.
І я ішоў...
Цябе-ж не сустрачаў я.
Ня чуў твой—„звон
Запясьця“ над ракой.

Бывала йшоў
Я ўвечары з пакосу,
Яна стаяла
Моўчкі ля вакна.
Прад ёй айцец—
Абрам сівавалосы
Сваю старую
Голаву схінаў.

Яна часала
Пальцамі худымі
Яго асмуглы
Кужаль галавы.
І толькі змрок
Дыміўся прад дзьвярыма
Зялёным пахам
Скошанай травы.

Абрам стаяў
Стамлёны непакоем.

Туліў тугу
Адцьвіўшага жыцьця.
І толькі дум
Закілзаныя коні
Ірваліся нястрымана ў прасьцяг.

— „А што-ж калі
Рахіль мяне пакіне?
Дык хто-ж маю
Прыхіліць галаву?..
У даль пайду
З бярозавым я кіем
Раскідаць дзён
Пажоўклую траву.

І моўчкі я
З-за чорнай ваканіцы
Яе усьмешкі
Палкія скрадаў,
Хацелася
Яе красою ўпіцца
І ўсё жыцьцё
За морак воч
аддаць.

Ня жураvoў
Трывожных вераніцы
Ляцелі з дальніх
Змучаных зямель
Сьпіваць ваду
Халодную ў крыніцах,
Сьпіваць спакою
Вольнага струмень.

То пазлядаў
Яе вясёлых стаі
Садзіліся на ружах
Воч маіх.
Зачараваным
Прад вакном
Стаяў я,
Паўстаньне мар
Зьняволеных таіў.

Падходзіла,
Мне рукі падавала
Ї крала сэрца
Юнае ў палон.
Ї песьні мне
Па свайму расьпявала.
Я захапляўся
Музыкаю слоў.

„А лібэ гэйптцэх он
фун ашмэйхалэ.
Фун ашмэйхалэ біз акус.
А лібэ нэмт оп
ба дэр шэнстэр дэм сэйхалэ.
Дэр шэнстэр майдэлэ
мах дос цум нішт... [1])
Тар-ля-тар-ля,
та-ля-ля-ля.
Та-ля-ля-ля
тар-ля-тар-ля“.

Ї першы раз
Вучыўся пазнаваць я
Таемнасьць гэтых
Нячуваных слоў.
Ї адчуваў
Няведамае шчасьце,
Як да яе
Я з гэтай песьняй шоў.

Ї ўмела мне
Яна сьпяваць па-наску
Пра ружу-цьвет
Ї сумную вярбу.
Ї я зьбіраў
Расквецяныя краскі
Яе красы
Пад гоманамі бур.

[1]) Каханьне пачынаецца ад усьмешкі,
Ад усьмешкі да пацалунка.
Каханьне аднімае ў найпрыгажэйшай розум,
Гэтую найпрыгажэйшую дзяўчыну зводзіць на нішто.

А ноч-зладзейка
Чорнымі рукамі
Зрывала зор
Жывую прыгажосьць.
Мяне Рахіль
Чамусьці папракала,
Што я ня ўмеў
Кунежыць маладосьць.

Ой, чаравала
Чорнымі вачыма.
Запал вачэй
Я з роспачу хватаў...
. . . . . . . . . . .
І зноў зьвінела
Швэйная машына
І калаўротак
Лёгка сакатаў.

І часта-часта
Стомленыя вокны
Гублялі бляск
Тужлівы ў далячынь.
І ткала ноч
Маўклівых сноў палотны
Над коўдрамі
Шумлівымі лагчын.

І кожны дзень
Ад раньня
І да змроку.
І кожну ноч
Ад змроку
Да відна
Чуваць машыны
Стомленае лёскат
І неспакойны
Звон верацяна.

І дагарала
Ціхая газьніца,
На стол спадала
Смуглае сьвятло.

— „Ах, майн готт!
Ах, дзе да шчасьця выйсьце!
дзе ж знайду
Акрадзены мой лёс,

Ня толькі мы,—
Нас тысячы гаротных.
Ой, катуе
Нас жорсткае жыцьцё...“
. . . . . . . . . .

Ĭ з вышыні
Ў расхлістаныя вокны
Халодны зырок
Праменьні зор прасьцёр.

— „Пакінь, пакінь,
Дачушка дарагая!
Дагараюць
Зарніцы ў вышыні.
Я чую звон
Сьвітаньня за гарамі...
А гутэ нахт!..
Засьні...
Засьні...

Стамлёны сон
Забразгае нажамі,
Рахіль прад ім
Нахіліць галаву.
Абрам глядзіць
На змучаную з жалем.
Ĭ толькі думак
Лебядзі плывуць.

Падыйдзе моўчкі,
Ў скроні пацалуе
Ĭ завіе асмуглую касу...
Ĭ зноў машына
Швейная ніцуе
Аблемаваньне срэбнае кашуль.
. . . . . . . . . . . .
. . . . . . . . . . . .

2-гі вянок.

І ўсё прайшло.—
І ўсё адшалясьцела.
Жыцьцё людзей
На зямлю прывяло,
Каб прыгажэць
У адвечным лятуценьні,
Схіляць прыроду
Прад сваім чалом.

Жыцьцё й агонь,
Агонь, краса
І шчасьце
Ўзьнімаецца...
Дагарвае... Й няма
Былых вякоў.
Натруджаныя пальцы
Да дальніх зор
Працягвае зямля.

Шляхі-ж бягуць,
Зьбягаюцца край сьвету,
А людзі з імі
Мчацца ў далячынь.
Маёй душы
Ўскудлачаная цьвецень
Губляецца зарніцамі ўначы.

Шляхі і дні,
Шляхі і дні,
Й юнацтва
Губляюцца ў прасторах векавых.
Ня ўмею я
Ні плакаць,
Ні сьмяяцца,
Ні ў роспачы нахільваць галавы.

Ня ўмею я
Над іншымі глуміцца
Й тугою радасьць
Катаваць чыюсь...
Зямля красу дала
Ці-ж для карысьці?
Ці-ж для карысьці
Жаўранкі пяюць?

Які ўспамін!—
Сьпяваюць быццам флейты.
Пад гэты сьпеў
Юнацтва я страчаў.
Цяжар жыцьця
Разьбітага дашчэнту,
Я узьнімаў
На згорбленых плячах.

Ліхіх людзей
Зьвяроджаныя ўсьмешкі
Спакою мне
Спрасоньня не даюць.
Апоўначы бадзяюся па ўзьмежках,
Дзе сустракаў
Прыгожую маю.

Я не тужу,
Ня клічу...
І навошта?
Ня сыйдуцца
Зноў нашыя шляхі.
Была ты гэткай
Ціхаю і простай,
Рахіль мая!
Каханая Рахіль!

Пад шэлест ніў
Я часта ўспамінаю
Шум кос тваіх,
Пазычаны ў півонь.
І толькі дум
Трывожнае паўстаньне
Ўзьняло падзей
Мінулых перазвон.

І вось, калі
Жыцьцё ўсё маладзее,
Калі пакут
Зруйнованы Крыжы
Я ўспамянуў
Адплыўшыя падзеі,
Жахлівыя
Паўсталі міражы.

3-ці вянок.

МІРАЖЫ МІНУЎШЧЫНЫ.

Туман, туман,
Туман
І змрок,
І холад.
Туман, туман.
А сосны шалясьцяць.
Змаўкае сьмех
І шчасьця юны шолах,
Змаўкае звон
Раздольнага жыцьця.

А я бы ў сьне
Бадзяўся ў амшарах.
Наўкол зьвяр'ё
Зубамі ляскаціць.
Вятры! вятры!
Чарнее неба ў хмарах.
Душа сьпівае
Помсты нікацін.

Галосіць чайка
Дзесьці над лугамі.
Ўзьнімаюцца
Начлежныя агні.
Ў раздум'і дуб
Схіліўся над курганам:
Загаманіў...
Замоўк...
Загаманіў.

Дажджы!
Дажджы!
Ліхія навальніцы!
А змрок ўзьлятае
Тысячамі крыл...
Вятры!
Вятры!
Скаголяць і скавычуць.
Вятры!
Вятры!
Страшэнныя вятры!

Што-дзень,
Што-дзень
Чарнее колер твару.
Што-дзень,
Што-дзень
На сэрцы болей плям.
Мая зямля
Дагарвае ў пажарах,
Мая зямля!..
Мая зямля.

А мора сьлёз,—
Крыві
Ўздымала штормы.
І карабель свабоды выплывае
І гнеўна пырскі
Кідаў у прасторы
Апошні вал—
Дзевяты вал.

Ідуць рабы
З затоенаю помстай,
Ідуць зямлю
Жыцьцём амаладзіць.
І гэткі цьвёрды
Нясупынны поступ.
Нішто ня зможа
Сілу іх спыніць.

Ідуць палкі
Магутныя паўстанцаў.
Іх кожны крок
Акуплены крывёй.
Ідуць за волю
Гордую змагацца.
Ідуць у бой,
Апошні бой.

А ворагаў
Спалоханыя орды
Ўцякалі
Ожэл бялы каб схаваць.
І чуўся стогн
Над вёскаю і горадам.
І чуўся енк
І плач.

І на шляху
Ўсё нішчылі дашчэнту.
— „Ты комуністы?
Хлоп?
— Бі!.. кулю ў лоб!..

Пярэчыць будзеш
Ты яшчэ тут?
Каб так усіх вас—
Бунту ня было-б"...

Заржалі ў цьму
Ўстрывожаныя коні.
А над сялом
Зьлятае стук
Паломаных падкоў.
А над сялом,
Затомленым і сонным,
Зьвініць пажар
Пажоўклым языком.

А над сялом
Нырцуе цьма начная.
А над сялом
І ляманты, і крык,
Бы тысячы
Людзкіх галоў сьцінаюць,
Бы караблі
Расьцёрліся між крыг.

Адна Рахіль
Затомленая ў сенцах
Туліла сон халодны да грудзей.
Абрам у сьвет
Пашоў з машынай дзесьці
Знайсьці кавалак
Шчасьця між людзей.

Чатыры лютых
Злыдні—афіцэры
— Пры боку шаблі,
Браўнінг ў руцэ—
Пабілі вокны,
Выламалі дзьверы...
. . . . . . . . . .
Хапала пал
Памятая пасьцель...

Агонь жыцьця,
Букет красы забралі...
І павялі кудысьці за сяло.
Рахіль ў зьнямозе
Клікала Абрама.
„О, маін фатэр!"
Клікала да сьлёз.

І за сялом,
У полі адзічалым
Ўзьнімаўся енк,
Трывожны тупат ног...
. . . . . . . . . .

Ці-ж не з зарою
Землю павянчалі
Пад дзікі крык
Разьюшаных званоў?
. . . . . . . . . .

. . . . . . . . . .

4-ты вянок.

Хацелася мне ў росквіт
Волі верыць.
Хацелася
Жыцьцём адважных жыць...
Пайшоў у сьвет
Я з лютым сэрцам зьвера.
Зьляталі дум
Халодныя дажджы.

І я пазнаў
Хто ворагам быў наскім.
Хто йшоў наш край
Свабоды расьпінаць.
Крывавы дзень
Зубамі помсты ляскаў
Ішоў зладзеям
Голавы сьцінаць.

І я стаяў,
Две колішнія сенцы.
Бражджалі косьці
Страшныя руін.

З маіх грудзей
Параненае сэрца
Я даставаў
Атрутай напаіць.
. . . . . . . . . .
. . . . . . . . . .

Назаўтра,
Сонца йшчэ не засьвяціла,
Яшчэ рыдала
Ў роспачы зара,
Прыйшоў з машынай
Швейнай за плячыма
Да родных хат
Расхлістаны Абрам.

Аж толькі дым.
Аж толькі чорны попел.
Аж толькі клён
З асмуглай галавой.
А небасхіл
У сонечным патопе
Губляе шум
Усьпененых трывог.

Стаіць Абрам
Над гурбаю асмалаў
І пазнае свой колішні прытул.
— „Было дагэтуль
Шчасьця для нас мала...
Апошняе няхай канае тут".

І доўга, доўга
Стомлены ля клёну
Стары Абрам
Задуманым стаяў.
Сьціскалі кій
Касьцістыя далоні.
І бушаваў пачуцьцяў акіян.

З трывогаю
Выходзіў на дарогу.
Глядзеў тужліва
Ў дальнія шляхі.

— „Куды ўцякла?
Ці-ж кінула старога?
Рахіль мая...
Рахіль!..
Рахіль"..

Расхлістаны.
Пажоўклы галавою.
Ідзе бадзяцца
Ў дальнія палі.
А між палёў
Заплаканая хвоя
Ўзьнімае жаль
Скрываўленай зямлі.

— „Куды-ж пайду?
Да любае Рахілі?
І дзе-ж знайду?
Пайду я ў белы сьвет.
Ніхто мяне
Сягоньня не прыхіліць.
Ніхто дадому
Спаць не пазаве.

Куды пайду?
Я выпятраў душою.
Вяргінь маіх
Асыпалася зьвень.
Мне чуецца
Вятроў шалёны шолах...
Здаецца ў даль
Яна мяне заве?..

О, дзе знайду
Дачушку дарагую?
Ах, вы, мае
Аплаканыя дні!
А ўвечары
Зноў выйду за гару я,—
Яе расьпеў
Ізноў не празьвініць.

Я не магу...
Ніколі ня паверу,
Што ёсьць краса,
І радасьць на зямлі.

Я падружыў-бы
З самым лютым зьверам,
Халодны-б камень
Сэрцам распаліў.

І хто пасьмеў
Глуміцца над красуней?
І хто пасьмеў
Сьмяяцца над жыцьцём?..
Зноў не заўю
Асмуглую касу ёй
Ня ўчую звон
Звычайны верацён.

Пажарам жорсткім
Жальбы дагару я.
Дап'ю пакут
Усьпенены кіліх
І лірніку
Прыду я падарую
Сваёй душы затроены кілім.

Дажджы!
Дажджы!
Вятры!
Вятры ліхія.
Куды ісьці
Мне змучанаму ў сьвет?
Ніхто мяне
Сягоньня ня прыхіліць
Ніхто мяне
Спачыць не пазаве",

Незнаёмы голас:

„Замоўклі струны
Маёй гітары.
Сьціскаюць пальцы
Разьбіты грыф.
Ня кліч красуні,
Старэнькі старац,
Яе ня ўзьніме
І звон зары".

. . . . . .

Абрам стаяў
Прад гордаю сасною,
А на сасьне...
Хістаюць труп вятры...
І вуснаў пал,
Абсыпаны зямлёю,
Разьвеяны
Парваныя страі...

— „Ці-ж ты?...
Няўжо-ж?..
Зладзеі!..
Сьмерць...
Няма ўжо...

І дагарэў
Тваіх вачэй агонь.
Дай кучараў
Сярэбраную пражу
Абсыпаць звонам
Жалобным півонь..."

І ўліплі вусны
Ў зранёныя скроні.
Глядзеў у змрок
Астуджаных вачэй...
— „Вятры!
Вятры!
О, дайце мне настрою!
Пайду я душу
Вырыдаць нашчэнт.

Пайду я зграі
Ворагаў зруйную.
Пайду зямлю
Крывёю напаіць.
За юны сьвет,
За волю маладую
Аддам жыцьцё,
Я рэшты сіл сваіх.

Змывайце сьвет
Ліхія навальніцы.
Змывайце крыўду
Змучаную хат
О, сьвет!

Завый галодную ваўчыцай!
О, сьмейся, сьвет!
Шалей.
Ха-ха!
Ха-ха!..

Атруты мне!
Прагорклае стрыхліны!
О, распаліць-бы
Прагнае нутро...
— Ня крой-жа, кат,
Растрэлянай краіны!
Ў астрог яго!
Праклятага ў астрог!..

— О, пролетар!
Адчытвай прыгаворы!..
О, пролетар!
Крычы на ўвесь сусьвет...
Памрэ, памрэ,
Хто бедным люты вораг,
Зруйнуем чорнай
Крыўды мы і сьлед!..

— Пагром...
Нажы..
Ашчэраныя зубы...
Іржуць,
Іржуць
Худыя касьцякі...
Аддайце мне
Жыцьцё дачушкі любай...
Пакінь, о, сьмерць!..
Рахіль маю пакінь!..

Цяпер мае
Супыненыя сьцежкі
І цьвет надзей
Маіх пазасыхаў...
Дажджы валос
Зьліваюцца на плечкі..
О, плач, сусьвет!
О, сьмейся!
Ха-ха-ха!

Рыдай, зара!
Трывогу грайце, горны.
Дазвольце мне
Зямлю перавярнуць!
А чалавек прыкраўся
Чорны-чорны!
Здымае в плеч
Жалезную труну.

Чаго стаіш
З нажом над галавою?
Чаго іржэш,
Разьюшаны кашчэй?..
Бяжыць за мной
Скалечаная хвоя;—
— „Няхай Рахіль
Прыхіліцца яшчэ!

Няхай касой
Асмуглаю красуня
Абвее зноў
Па-колішняму сум.
Няхай сваёю
Зрэбнаю кашуляй
Зьбірае кроз
Халодную красу“.

І зноў Абрам
Укленчыў на калені,
Цалуе рук
Астуджаную высь.
Вачэй чароўных
Чорнае зацьменьне
Акурвае асмужаную высь.

— „Ці-ж гэткаю
Ты стала сёньня гордай?
Чаго-ж маўчыш,
Зязюленька мая?
Хіба-ж цяпер
Табе мяне ня шкода?
Цябе-ж...
Няма...
Няма...
Няма...

Кленчыць і плача:
— „Ах, пальчыкі, пальчыкі,
Белыя пальчыкі,
Вас я калісь цалаваў.
Помню маленькаю
Бегала з мячыкам
Айстрай цьвіла галава“.

Старац (Абрам).

Крывёй прапахлую зямлю

Пастух на жалейцы.

Ту-лю, ту-лю.
Ту-лю-нь-лю-лю.

Старац.

З тугой да сэрца прытулю.

Жалейка.

Ту-лю, ту-лю.
Ту-лю-нь-лю-лю.

Абрам.

„Пайду жабрачыць.
Душой галоднай,
Зьбіраць скарынкі
Крывавых мук.
Зноў ня ўзьніму
Дачушкі роднай,
Як не разьвею
Начную цьму“.

Толькі падаюць сьлёзы
Ў халодны пясок—
Адна...
За...
Аднэю...
Адна...
За...
Аднэй.

Толькі зоркі лятуць,
Разьвяваюць красой—

Адна...
За...
Аднаю
Адна...
За...
Аднэй.

Лісьце сыплецца з дрэў,
Лісьцё сьцелецца ніц,—
Адны...
За...
Аднымі...
Адны...
За...
Аднымі.
Дні за днямі лятуць,
Ў далях губяцца дні.
Дні
За
Днямі.
Адны...
За...
Аднымі

Незнаёмы голас.

„Замоўклі струны
Маёй гітары.
Сьціскаюць пальцы
Разьбіты грыф.
Ня плач па дочцы,
Старэнькі старац,
Жыцьцё па своему гарыць.

Абрам.

Жыцьцё гарыць,
Ды толькі не пасвойму,
Жыцьцё выходзіць
З вызначаных рэйк...

І грамадой
Ў апошні пойдзем
Бой мы,
Я пролетар!
Змагар,
Я чалавек.

Я чую йдуць,
Ідуць з Усходу людзі.
Нясуць зару
Свабоды на руках.
Ніхто зары
Свабоды не астудзіць.
І ня зруйнуе
Грозных барыкад!

Незнаёмы голас.

Замоўклі струны
Маёй гітары
Сьціскаюць пальцы
Разьбіты грыф...
Паўстане грозны
Пролетары,
Зямлю сагрэе
Агнём зары.
. . . . . .
. . . . . .

Ідуць за палкамі
Палкі,
Імчыцца чырвоная коньніца.
Вось яны—
БАЛЬШАВІКІ
За белымі зграямі
Гоняцца.

— Хто там?
— Хто там?
— Хто там?
Дарогу чырвонам ротам!
Праз кроў...
Праз сьмерць...
Праз труп...
Пад гром трывожны труб
Пойдзем страчаць зару...

Ідуць за палкамі палкі
Імчыцца чырвоная коньніца...
— Слу-хай каманду!
На штыкі.

Хай моц наша белым запомніцца.
— Гэй, барабан, барабаны!
Трывогу трубі, труба!

Чуецца стогн і крык...
Каманду падаў камбрыг:
Брыгада
Трымай
Фронт!
Раз!
Два!
Залп!
Наперад напорней крок,
Ні кроку назад.

Ўзьняўся агонь атак.
Тру-ту-ту-ту-та-та-та,
Бу-бу-ўууу-уу...ух
— Эх-х!
— Ух-х!

— Рыхтуй!..
Прыцэль шэсьць!
— Агонь!
„Агонь!
Яшчэ!
Яшчэ!
Плі!
Калі!
Каб пыл з зямлі
Зьмялі"...

Грурррррр—рррурру-ру
бу-бу-уух-х
бб-ба-ах.
— Ух-х!
— Ах-х!
Дзін—зззззз
Дзін—дзізідз.
Зьзііііі... ффі!
Фіі-іі!
Толькі дрыжыць паўкорч...
Сьмерць з жыцьцём
Увайшлі ў азарт.
— Наперад адважней кроч.
Ні кроку назад!

Пакуль, 'шчэ зброя ў руках,
Штурмуй зямлю і неба.
Упарта трэ' сьмерць сустракаць
Упарта здавацца ў небыт.

— Хто там?
— Хто там?
Хто там!?
Дарогу чырвоным ротам!
Дарогу!
Дарогу!
Дарогу!

Грайце гарністыя перамогу!..
Тру-ру-ру-ру
Тра-ра-ра-ра...
. . . . . . . . .
Раз!
Два!
Левай!
Левай!
Левай!
Давай, запявала, сьпевы!..
Уздымамі творчых сіл,
Паходам вялікіх армій
Створым мы край красы
Прыйдзем да берагу чар мы.
Адважней!
Адважней
і ўпарцей
Мы будзем ствараць край красы,
За край юнай волі змагацца,
Старое дашчэнту крышыць.

Цьвёрды і горды крок!
Стройна трымайце рытм!
Разьвеем мы чорны змрок
Пажарам-агнём зары.
Адважней!
Адважней
і ўпарцей
Мы будзем ствараць край красы,
За край юнай волі змагацца,
Старое дашчэнту крышыць.

Пройдзем цярністы шлях,
Будзем мы жыць інакш.
Зьнішчым законы плах...
Музыка—
Музыка—
Марш!
... Тру-ру ру-ру-ру
Тра-ра-ра-ра-ра...

А з лесу—настрэчу Абрам.
— Хто вы такія?
— Стой!
— Я—цар!
Я—уладар!
Болей я не жабрак!
Мне пярэчыць ня сьмее ніхто!

Рахіль мая дзесьці адна
Сьпіць пад сасною няхай.
Прыйдзе мяне абняць...
Дачушка...
Устань!
Зьнікла чорная ноч...
Устань!
Ды весела сьмейся са мной
Ха-ха-ха,
Ха-ха-ха...
Прыйдзі-ж мяне, старца, абняць...
Устань жа
Устань!...
... Спыні горкі мой плач!
— Стой, стары!
Супакойся!
— Адкуль?
Хто прытомнасьць тваю адняў?
Ці мо' ты
Ад гармат
І куль
Гэты рогат ліхі пераняў?!

Абрам.
— „Прыйшлі яны,
Ліхія ліхадзеі,
Горш ад зьвяроў,
Ад лютых эпідэмій.

Маю Рашэль,
Маю пацеху за нішто...
Нажамі грудзі
Юныя спаролі...
Аж—ні цяпер
Чуваць жахлівы стогн,
Праглівы ляск
Разьюшанае зброі..."
. . . . . . . . . .

А ў гэты час
З амшару на паляну
Вярхом угрунь
Бяз шпораў і стрымён
Чырвоныя імчацца партызаны.
А зброя—
Кій,
Бярданка,
Кулямёт.

І першаю—
Дзяўчына са штандарам
(Крывёй змаганьня
Быццам-бы абліт)...
— „Мы рэволюцыі
Бураю—пажарам
Здабудзем волю
Фабрыцы і зямлі".

І блізяцца.
А смуглая дзяўчына
Ўзьнімае горда
Вышыты свой сьцяг.
Настрэчу ім
Бяжыць Абрам няспынна,
Прасьцёршы рукі
Хілыя ў прасьцяг.

Бліжэй...
Бліжэй...
Знаёмая дзяўчына.
І песьню нам
Знаёмую пяе...

— „Адкуль?..
О, як?..
Скажы, якім-жа чынам?—
Абрам Рахіль
Адразу пазнае.

Дык гэта ты?
О, любая Рашэль!
Няверыцца...
Няўжо ты ажыла?
Узьнімай-жа сьцяг!
Ўзьнімай
  Вышэй,
  Вышэй!
Красуй, сьпявай
Свабодная зямля!

Кажы хутчэй
І як-та магло стацца?
Расстрэлянай
Ляжала-ж ля сасны.
О, майнэ тохтэр.
Майнэ гутэ шчасьце...
А... можа...
  Зданьне?..
А можа...
Я сасьніў?

Падай руку...
Дык прыхілі-ж старога.
О, так...
  Бліжэй...
    Мне сэрца заспакой.

Я змучаны,
Я сплакан да зьнямогі.
Журбою мне
Ўсю душу запякло.

— „Мяне вялі
На сьмерць белапалякі.
Вялі ў даліну
„Суму і журбы“.
А тут амшар
Ля чорнае палянкі—
Там штаб
Чырвоных партызанаў быў.

Пачулі крык—
Прыйшлі на дапамогу.
Знайшлі мяне
Пры сьмерці на зямлі.
Блудзіла сьмерць
І роспач па разлогах
І кроў
Пяскі праглівыя
Пілі.

А там ляжыць
Замучаны другая,
Ішлі мы з ёю
Разам паміраць,
Адпомсьціць катам
Лютым як прагла я?
Пылала з намі
Помстаю зара.

А ты аплакаў
Мерцьвяцоў камуны.
Аплакаў ты
Расстрэляную быль.
Ня ўкленчыць сьвет
Адноўлены і юны
Прад крыжам
Зьдзекаў,
Крыўды
І журбы.

Глядзі!
Штандар чырвоны
Па-над краем
Ўзьняла рука
Магутных перамог!
КАСТРЫЧНІКА
НІХТО
НЕ
РАССТРАЛЯЕ!
ПРАД ІМ
І СЬМЕРЦЬ
ПРЫЙШЛА
Ў ПЕРАПАЛОХ.

. . . . . . . . . .
. . . . . . . . . .
. . . . . . . . . .

**Каманда.**

— Армія!
Фронт!
Узвод!
У новы
Рыхтуйся
Паход!..

**Армія.**

... —Дык ат дайгі
Да брытанскіх марэй
Армія чырвоная
Ўсіх мацней.
Дык хай чырвоная
Свой штык гартованы
Трымае моцнаю рукой.
І ўсе павінны
Мы бязупынна
Ісьці ў сьмяртэльны, апошні бой?..
... — Ў апошні бой...

*

Зямля ў агні,
Зямля ў агні паўстаньня.
Зямля ў агні
Ўстрывожаных падзей.
Пажоўклых дзён
Падстрэляныя статі
Губляюцца аплаканымі дзесь.

Плывуць чаўны,
Плывуць чаўны з аддаляў.
Плывуць чаўны
Інакшага жыцьця.
Жывой крывёй
Усьпененыя хвалі
Нязьведанае шчасьце шаласьцяць,

І ў адвітаньне
Песьняй лебядзінай
Над сёламі заплакала бяда.
Якая даль
Зноў знойдзецца радзіма?
Якая даль?
Якая даль?

А людзі йдуць,
А людзі йдуць край сьвету,
Шукаюць зьяў
Нязьведаных дасюль.
Ідуць у даль
Да вызначанай мэты
Зьбіраць жыцьця
Чароўную красу.

*

— Глядзі!
Цягнік імчыцца нясупынна.
Ты чуеш рытм напруджаны калёс.
Далёкі шлях,
Што вокам не акінеш—
На тысячы, мільёны вёрст.

Ніхто размах
Сталёвых ног ня спыніць,
Ніхто цягнік
Ня зьверне пад адкос.
Цягнік імчыцца
Ў дальнюю краіну—
Ў краіну мар,
Ў краіну шчасьця й кроз.

Ня зьменіць шлях
Наш верны машыністы.
Ня перадасьць
Чужынцам свой ён жэзл.
І толькі ў даль
Трывожна галасіста
Жалезны конь
Разьюшана іржэ.

Імчыць цягнік,
Імчыць палкі паўстанцаў.
Ён абміне
Вятры і дні, і сьмерць.
Прымчыцца ўдаль
Да вызначанай станцыі
Да станцыі
СССР [1]).

11/V-29—14/VI-30 г.
Менск.

1) СССР—Сусьветны Саюз Сав. Соц. Рэсп.

## САЙД УН

*(Урыўкі з агітпроп поэмы аб прымусовай працы)*

**З. Бандарына**

Онсбі Гор—гуманны міністр.
„Але мы заўсёды будзем казаць
пра гуманнае“.

... Рубану
кавуном
крыгу,
Прымушу мяцеліцу
воўкам
галодным выць...
Там дзе сонца
спаліла пустыр...
— Мацеры тузэмцаў,
Калі загаворыце
вы?!.
Там дзе сонца
спаліла пустыр:
— Мы сеем рыс,
Мы зьбіраем рыс...
Мы ніколі не ямо рысу.
Абет, абет!!![1]
Вось адсуль ад грудзей
Яны адарвалі дзіцёнка...
Абет, абет!
Вось забралі нашых мужэй
У Нана-Пу да прызыдэнта Кінга.
Абет, абет!!
Яны паміраюць там,
Мы гінем тут...
Абет, абет!!
Яны паміраюць там,
Мы гінем тут.

[1]) Слухай.

Сінь бяздонная
„Ці-ха-га акіяну
Пяшчоты тропіка...
Бананы..
„Белы чалавек“,
„Белы чалавек“...
Маці туземка
над мёртвым дзіцём шапоча
... „белы чалавек“...
Сьмерчам эмоцый
штурмам агіды
Нянавісьць
— Наша моц
да „белых—гу-ма-нных“ лідараў.
Жанчыны Лібэрні,
маткі Баррабо
Ня верце,
Ня верце „беламу чалавеку“
Жанчыны Лібэрні,
маткі Баррабо
Паўстаньце!
Праз Чорнае мора,
Дняпро і Дунай
Паўстаньне!
За вамі паўстане ўвесь край!

*

Мора
і сонца...
Сонца і далі...
Далей,
далей!
Мяккай бавоўнай,
белай бавоўнай
у карабу
лёг хлапок...
Доўга,
ці доўга
хмарай бяздоннай...
Каменем скаргі
мора затопіць...
— Сайд-Уі,
Сайд-Уі!

Зьвярнеце мне сына,
Сына дайце!..
Хвалі полымем
Ліжуць калені,
Полымя
шугае з роту:
— Сайд Уі,
Сайд Уі!!
Зьвярнеце
мне сына,
Сына дайце!!!
Чорная жанчына
у лахманох аддзеньня
Кінулася ў мора
за параходам.
Хвалі боль сольлю скавалі
Іодавыя водарасьлі
рану ня згояць...
Там у Бедабо
дзіцёнка малога
У рабства
кляймілі сягодня!
— Сонца! ты
сьвеціш??!
Ты, зноў
усьміхаешся ветла?!
О хвалі,
о вецер,
Крышэце,
ламайце!!!
У цэлым Сусьвеце...
Там у Бедабо
організаваны
першы
стачачны комітэт,
Там у Бедабо
над акіянам
слова таямнічае:
— Комінтэрн...
Хвалямі і ў плянтацыі
Пырскамі у сэрцы:
Ліга нацый
з сябе патрабуем адказу
за неперялічаныя сьмерці.

Табе праклёны
голых,
асіроцелых матак...
Нянавісьць бяздомных,
помста паўстаўшых.
О хвалі,
о вецер,
Крышэце, ламайце.
У цэлым Сусьвеце!
Там у Бедабо
над акіянам
Кулаю вагністаю запала
мэта і імкненьне:
— К о м і н т э р н!!!

Масква 31 г.

# ПЕРАМОГА [1])

А. Якімовіч

## ЧАСТКА ДРУГАЯ

### 1. Колгас кліча!

Раённы гарадок толькі што прачынаўся. Звонка бразгацелі жалезныя пранты, раскрываліся акавіцы. З хат выглядвалі заспаныя людзі, праціралі прыплюшчаныя вочы і дзівіліся, якая сёньня пагода. Уночы прайшоў дождж. Нямошчаныя каравыя вуліцы ў нізінах набраклі гразёю. Хмары пад гарадком яшчэ не разьвеяліся, хоць дажджом і не сьлязіліся. Віселі хмары, як у мяшку, спакойна, нярухома, у вялікім задуменьні, нібы разважаючы: пастаяць яшчэ тут ці сплысьці дзе ў другое месца?

На вуліцу першымі выходзілі козы і каровы. Каля платоў за цёплую даждлівую ноч адскочыла крохкая, сіня-зялёная росная траўка. А былі такія глухія вуліцы, дзе трава расла ўсьцяж, як на мурожным прыгуменьні. Звычайна тут і пасьвілася праз усё лета жывёла.

Калі зычны гудок лесапільні неўзабаве патрывожыў ранішнюю яшчэ санлівую цішыню гарадка, майстэрні і фабрыкі былі ўжо гатовымі да новага працоўнага дня.

У невялічкай друкарні газэты „Комунар" наборшчык Міляўскі борзьдзенька выхватваў праваю рукою з наборнай касы лацінскі корпус і роўненька, шчыльна складаў яго ў вярстатку, якую трымаў у левай руцэ.

Звычайна спакойны і задуменны, Міляўскі на гэты раз чамусьці вельмі сьпяшаўся і хваляваўся. Смугла-жоўты, густа маршчыністы, твар яго выразна паружавеў, што бывае вельмі рэдка, заіскрыўся крывяным крупінкамі. Рукі ад нэрвовасьці калаціліся...

У наборнай панавала поўная ціхата. Усе завіхаліся, ніхто, здавалася, ня гутарыў нават са сваім суседам. Гутарка многа перашкаджае ў рабоце наборшчыка. Варта толькі пачаць думаць аб чым іншым, ці загаварыць—гэта адразу выявіцца ў рабоце: гранкі будуць перапоўнены памылкамі, у вярстатку пачнуць скакаць непатрэбныя літары і блытаць словы. На усёй рабоце будзе адчувацца гэтая звычайная гутарка наборшчыка. Бывае, што з наборнай адлучыцца куды старшы па цэху. Тэле-

[1]) Канец. Пачатак глядзі ў № 5.

**фонны званок тады можа трашчаць хоць гадзіну—яго амаль што не пачуюць. Уся ўвага, уся пільнасьць наборшчыка паглынаецца яго работай.**

**Калі Міляўскі пачаў хвалявацца, ён сам заўважыў, што гэты набор упяршыню за апошнія гады будзе з бракам. Міляўскі—ударнік. Яго работа павінна быць узорам для іншых.**

**А памылак тут не схаваеш: карэктура зловіць і выявіць кожны недагляд наборшчыка.**

**Стрымліваючы гарачае абурэньне, Міляўскі набіраў:**

*„Ахвяра кулацкіх драпежнікаў.*

*Забойства старшыні колгасу „Перамога".*

Уночы з 15 на 16 ліпеня сын мясцовага кулака Вінцэся Быліны засек на сьмерць лепшага актывістага, старшыню колгасу „Перамога" Язэпа Махнача.

Кулак Вінцэсь у хаўрусе з падкулачнікам Трахімам, былым сваім парабкам і былым старшынёю Борскага сельсавету Баравіком праз увесь час змагаліся супроць колгасу. Гэта рабілася з іх боку гладка і чыста. І таму доўгі час ніхто з колгасьнікаў пра гэта ня ведаў. Кулак Вінцэсь угаварыў свайго былога батрака, цёмнага, неасьвечанага бедняка Трахіма трымацца яго рукі, ня ісьці ў колгас. А вораг колгасу, сын аднаго кулака з Смаленшчыны, старшыня сельсавету Баравік скарыстаў такі выпадак і не дапусьціў раскулачыць хутаранца Вінцэся, што канешне патрэбна было зрабіць пры суцэльнай колектывізацыі. Баравік угаварыў колгасьнікаў, што няма такога закону выгнаць ворага Вінцэся, бо жыве яшчэ бядняк Трахім, які не ў колгасе... І што, такім чынам, вёска яшчэ ня ўся ў колектыве. Колгасьнікі былі паверылі яму, як старшыні сельсавету. А гэта давяло „Перамогу" да разбурэньня Тройка ворагаў колгасу выкарыстоўвала ўсё, каб разбурыць „Перамогу". Дзеля гэтага былі спалены колгаскія стагі сена, патручаны сьвіньні, падпалены толькі што збудаваны млын і інш.

Старшынёю сельсавету Баравіком пашыраліся розныя плёткі пра абвяўленьне Польшчаю вайны... Наш колгас знаходзіцца зусім блізка каля граніцы. Насельніцтва было перапалохана. І многа хто пасьля гэтага вышаў з колгасу.

Толькі дзякуючы сыну падкулачніка Трахіма, Сьцёпку, удалося выкрыць шайку ворагаў і разабрацца ва ўсім, што нарабілася.

Сьцёпка ведаў пра шкодную работу „тройкі". Доўгі час маўчаў, хоць нямала пакутваў праз гэта. Сьцёпка прасіўся вясною, каб прынялі яго ў колгас бяз бацькі. Але яго ня прынялі па малалетнасьці. Да бацькі прыстаць ён ня мог, і ад колгасу яго адкінулі. Таму так і здарылася, што Сьцёпка доўга ня ведаў, што рабіць, ня мог адважыцца сказаць пра ўсё, што ведаў. Ён доўга выбіраў паміж колгасам і бацькам—за кім пайсьці ў гэтым змаганьні? На-

рэшце, Сьцёпка ўсё-ж адрокся ад падкулачніка—бацькі і расказаў старшыні калгасу т. Язэпу Махначу і другім праўду аб усім, што здарылася і што рабілася.

Ворагі былі злоўлены самімі колгасьнікамі ў час банкету ў Віпцэся і перададзены ўладзе. У гэтай схватцы з ворагам і загінуў наш лепшы таварыш Язэп Махнач.

Цяпер колгас ажывіўся. Але мы ня маем другога таварыша Язэпа. Няма каму добра, так, як нябошчык, пакіраваць колгасам у час такой вялікай будоўлі і змаганьня з нашымі ворагамі.

Мы спадзяемся, што нашы шэфы—рабочыя друкарні—адгукнуцца на гэта, прышлюць і ў наш колгас для працы „дваццаціпяцітысячніка“ як гэта ўжо ёсьць у суседнім колгасе.

Сялькоры *Юзік Лаўрыновіч і Сьцёпка Парабкоўскі*“.

„Падшэфны колгас кліча! Колгас—тая ж фабрыка, фабрыка хлеба. Бяз гэтай фабрыкі мы ні шагу ня ступім уперад“. „Колектывізацыя павінна быць у асноўным скончана к канцу пяцігодкі“,—розныя думкі загаманілі ў пасівелай галаве наборшчыка Міляўскага.

І ён цьвёрда парашыў зараз-жа прасіцца ў сваіх таварышоў адпусьціць яго для працы ў падшэфны колгас.

## II. У дарозе

Ужо седзячы ў вагоне, Міляўскі ўспамінаў той нядаўны час, калі ён набіраў невялічкую, скупую заметку пра вялікае клясавае змаганьне ў вёсцы, пра забойства чалавека, якога ён едзе замяніць. Праўда, тут ня было выпадковасьці. Гэта толькі канчаткова аформіла жаданьні Міляўскага ехаць на колгасны фронт, які заклікаў да сябе лепшых рабочых-ударнікаў. Яму жыва ўспомніўся нядаўны вайсковы фронт, калі ён разам з мільёнамі такіх-жа байцоў пад градам куль і знарадаў змагаўся за права будаваць і заводы, і колгасы. На гэтае права, заваёванае ў агнёх Кастрычніка і грамадзянскай вайны, здабытае ахвярамі соцен тысяч лепшых людзей, накінуліся астатнія, тады яшчэ недабітыя, драпежнікі, каб агнём і мячом вырваць гэтае права з рук мільёнаў, зьнішчыць яго, спаліць, заліць крывёю.

Міляўскага адпусьцілі адразу-ж. „Раз сам захацеў—гэта лепш,—сказаў сакратар партыйнай ячэйкі.—Толькі глядзі—ты едзеш на фронт, хоць людзей тваіх год на фронт па закону не пасылаюць... Тут твая поўная добраахвотнасьць. Не забывайся пісаць паведамленьні. Мы заўсёды стаім за тваёю сьпіною, ты робіш і сваю, і нашу справу. Нават і справу сусьветнай рэволюцыі... Колгас „Перамога“—прыгранічны колгас“.

„Таварыш Жук,—адказаў на гэта Міляўскі,—мне ўжо мала засталося пажыць. І гэтае жыцьцё я не хачу патраціць без карысьці, якую я здолею яшчэ прынесьці ў такі кіпучы час“...

Гутарка на гэтым скончылася. Жук добра ведаў свайго члена бюро ячэйкі—таварыша Міляўскага. Цяпер ён асабліва выявіўся перад Жукам ва ўсёй сваёй постаці. Цёмныя вочы Міляўскага гарэлі па-юнацкаму, і на пажаўцелым, маршчыністым твары красаваліся ўсьмешкі маладосьці.

Адно толькі непакоіла цяпер Міляўскага—гэта слабаватая граматнасьць у сельскай гаспадарцы. Даўно ўжо як адарваўся ад зямлі. Ды якая там зямля была? У сваім родным мястэчку ён быў больш балаголам, чым земляробам. Потым, калі забралі на вайну, гаспадарка яго запусьцела, дзеці былі яшчэ зусім малыя. Каня прышлося прадаць, каб пракарміць дзяцей.

Адбыўшы ўсю вайну, Міляўскі парашыў пераехаць у горад. Усё роўна трэба было пачынаць жыць спачатку.

„У колгасах нам патрэбны ў першую чаргу добрыя арганізатары, якія змаглі б накіраваць энэргію і волю бядняцка-серадняцкіх мас на будаўніцтва соцыялізму, на ліквідацыю кулацтва як клясы на аснове суцэльнай колектывізацыі. А такім арганізатарам таварыш Міляўскі зможа быць“,—добра запомніў ён словы сакратара ячэйкі друкарні тав. Жука на сходзе рабочых, прысьвечаным пасылцы Міляўскага ў колгас „Перамога“.

Думкі Міляўскага перапыніліся звычным, галасістым званком. На пэроне людзі заварушыліся, мацней загаманілі, забегалі, замахалі рукамі...

Засьвістаў гулка паравоз і шумна дыхнуў на ўсе свае волацкія жалезныя грудзі. Ад гэтага подыху цягнік здрыгануўся, выпрастаўся, забразгатаў буфэрамі і рушыў уперад.

Спачатку павольна, нібы боязна, цяжкою ступою, а што далей—усё шпарчэй і гарэзьней зачахкалі калёсы—чах-чах-чах! Чах-чах-чах!

Міляўскі ў апошні раз зірнуў на маленькую станцыю, што хутка адбягалася ўзад, акінуў вокам свой зялёнагаловы, кучаравы гарадок і спакойна ўсьміхнуўся.

— Вы, мусіць, на дачу? — запытаўся ў яго сусед па купэ — нізкі, пульхны, карчакаваты, круглы, як калодка, яўрэй з поўным ротам залатых зубоў, з гладка падголенай барадою.

— Але... на дачу...—неахвотна матнуў галавою Міляўскі, не адрываючы вачэй ад вакна.

Гаварыць ня было ніякага жаданьня. Хацелася думаць, марыць, успамінаць пад гэтую ціхую аднастайную песьню калёс.

— А дзе ж думаеце спыніцца?

— Аж у колгасе, ня бліжэй,—зноў неахвотна адказаў Міляўскі.

— Як гэта—аж у колгасе? Дзе? У якім?—упарта выклікаў на гаворку сусед з залатымі зубамі.

— А вы куды?—пацікавіўся ў сваю чаргу Міляўскі.

— Таксама у колгас... Вы ў які?

— Дык вы, значыцца, таксама ў колгас? — паравёў ён зацікаўлены зірк з вакна на суседа.—Я еду ў „Перамогу“—дадаў, крыху счакаўшы, Міляўскі.

— У „Перамогу“? А-а ведаю, ведаю... Я, значыцца, ваш сусед, можна сказаць... Я жыву... у колгасе... „Чырвоны Прамень“...

Чалавек з залатымі зубамі зацікавіў Міляўскага. Мужчыны пазнаёміліся, разгаварыліся. Міляўскі распытваў пра характар той мясцовасьці, куды ён едзе, пра людзей, пра апошнія здарэньні ў колгасе „Перамога“. Чалавек з поўным ротам залатых зубоў выявіў сваю поўную асьвядомленасьць ва ўсіх пытаньнях.

Так неўзаметку, у гаворцы, прайшоў час. Зычны, праразьлівы сьвісток паравозу неўзабаве паведаміў пасажыраў, што цягнік падыходзіць да станцыі.

Міляўскі зірнуў у вакно. Шырокае балота разгарнулася ўздоўж палатна чыгункі. Кепскае балота—адно куп‘ё, ледзь пакрытае рэдкаю травічкаю.

— А дзе-ж станцыя?

— Справа, справа яна. Зараз убачыце. І якая станцыя! Польскія цягнікі прыходзяць...—хваліўся чалавек з залатымі зубамі.

На станцыі Міляўскі наняў падводу і выехаў у „Перамогу“.

Было яшчэ рана. Сонца толькі што зварочвала з поўдня. Летні дзень драмаў у салодкім сьне, пад ціхую музыку вялікай прыроды. Сухавейны ветрык зьлёгку, асьцярожна гьмаціў са сьпелымі познымі аўсамі. А ў сіняве заліваліся песьнямі цьвіркуны-жаваранкі.

„Чаму-ж гэта нешта людзей ня відаць“,—падумаў Міляўскі. „З поля яшчэ ня ўсё прыбрана“.

Ён запытаўся аб гэтым у хурмана.

Хурман, скурчыўшыся, драмаў у перадку і, па прывычцы, праз сон галёкаў на каня, калі той сьцішаў ход. Спаў ён вельмі чула і часта могсплючы гаварыць з чалавекам.

— Што вы сказалі?—прахапіўся хурман ад голасу Міляўскага.

— Чаму гэта на полі нікога няма?

— Сьвята сёньня—нядзеля,—адказаў хурман.

— Вось як! Забі мяне—не сказаў-бы які дзень. Ведаю чысло, свае выхадныя дні і ўсе. Тут прыдзецца зноў прывучыцца да ранейшага распарадку.

Хурман адказаў і зноў пачаў „кляваць“ носам аб калені. Міляўскі таксама замоўк.

Нейкай радаснай урачыстасьцю павявала ад палёў. Грудзі лёгка разьнімаліся, каб убіраць у сябе здаровы летні сухавей. І якім шырокім ды прывабным здаецца гэты прастор пасьля цеснай, доўгай будынiны іхняе друкарні, пасьля густога дыму ад махоркі і цяжкага паветра з валавяным пахам! Толькі прывычка згладжвае вастрату гэтага валавянага паху

і вечнага шуму вэнцілятара. Міляўскаму ўспомнілася, як аднаго разу ў іхняй друкарні страціў прытомнасьць зусім здаровы малады дзяцюк-журналіст. Ён толькі што застаўся быў у газэце выпускаючым. І ў той дзень газэта вярсталася вельмі доўга,—выходзіў пашыраны сьвяточны нумар. Гэта і было прычынай, што ён з няпрывычкі ня вытрымаў і страціў прытомнасьць. Цяпер сам дзівіцца, як гэта здарылася.

„Так, усюды праца нялёгкая“, думаў Міляўскі. Для яго цяпер здавалася, што працаваць на полі, у сельскай гаспадарцы нават лепш і лягчэй. Чалавек будучага ня будзе падобны да цяперашняга—ён будзе аднолькава прыстасаваны і аднолькава адносіцца да ўсялякай работы. Міляўскі хоць на старасьці сваіх год убачыў і адчуў гэтага новага чалавека ў самым сабе. Яшчэ ўчора стаяў за наборнаю касаю і борзда выхватваў з маленькіх каморачак цяжкія адшліфаваныя кавалачкі волава, на канцох якіх высечаны розныя літары. А сёньня ён—земляроб, колгасьнік.

## III. Неспадзяваная дружба.

Бацюшка Борскай царквы, нізкі і пузаты, у доўгім, да пят, палатняным халаце, без капялюша, з пакудлачанымі, запушчанымі валасамі, бегаў з гарэхавай палкай у руцэ ,па дзядзінцы і зганяў у хлеў гусей. Гусі ані ня слухаліся яго, моцна керкалі, злаваліся, што іх трывожаць, і ўсяляк наравілі ўцячы назад на мурожны дзядзінец.

— Антось!—крычаў бацюшка Куродым.—Хадзі памажы!

Антось, пачуўшы гаспадара, вышаў з калашніка, дзе ён прыводзіў у парадак розную мякіну.

— А каб іх трасца пабрала! Каб яны ўсе павыдыхалі!—лаяўся ўсхваляваны ад гусінай упартасьці бацюшка.—Чаму гэта я не завёз іх у тую чортаву стругу. Качкі-ж мілыя стварэньні, а гэта чэрці з усяго сьвету.— Войкаў поп, страціўшы ўсялякую надзею даць рады гусям.

... З бацюшкавымі качкамі ня так даўно здарылася вялікая бяда, і пра гэтую бяду бацюшка век не забудзецца. Нават у царкве, сьпяваючы сьвятыя песьні, бацюшку часта прыходзяць на памяць качкі. Тады ён пачынае хвалявацца, успамінае ўсё мінулае, а праз гэта зьбіваецца з толку і замест сьвятога Мікалая ці маткі боскай успамяне качара альбо качку. Набожныя бабулькі ня вельмі разьбіраюцца ў паповых песьнях на незразумелай славянскай мове, ім хоць-бы што слухаць, абы адбыць законную чаргу—пабыць у царкве. А дзячок ужо колькі разоў дагаварваўся:

— Што гэта, бацюшка, з вамі сталася, вы сьпяваеце пра нейкіх качак у сьвятых малітвах?

— Вам пачулася, мабыць, Ферапонт Аксеневіч,—адказвае, пачырванеўшы бацюшка, і на гэтым звычайна размова канчаецца.

А было яно так. Бацюшка павёз прадаваць качкі. Антось, яго парабак, у той час хварэў, а кірмаш меўся быць багатым. Бацюшка ня выцярпеў,

паехаў у мястэчка сам. Доўга стаяў з качкамі на рынку. Усё трымаўся вялікай цаны. Ужо зьмяркацца пачало, сонца на захадзе села, кірмаш разьехаўся, а бацюшка ўсё чакае багатага купца. Нарэшце дачакаўся. Падыходзіць да возу высокі, стройны малады чалавек, з шырокімі, як добрыя мяхі, галіфэ, выфранчаны, пры манішчы.

— Прадаеце, бацюшка?

— Прадаю.

— Колькі хочаце?

— Ды, каб не таргавацца,—па чырвонцу за штуку, ня менш і ня больш. Пятнаццаць чырвонцаў за ўсю скрынку.

— Дарагавата, бацюшка, але нічога. Я забяру.

Малады чалавек адразу-ж выявіў сябе вясёлым і гаваркім.

— Я заплачу вам,—сказаў ён,—але вы завязеце іх мне дахаты, у саўгас, „Замосьце“.

Бацюшка абрадаваўся такому багатаму купцу, згадзіўся, тым больш што „Замосьце“ было якраз па дарозе.

Хоць малады чалавек і незнаёмы, але ня выклікаў у бацюшкі ніякай падазронасьці. Па дарозе малады чалавек расказаў, што ён тутэйшы загадчык саўгасу, што прыехаў сюды зусім нядаўна, і таму яго тут яшчэ мала хто ведае.

Да саўгасу ад мястэчка недалёка. Прыехалі яшчэ повідну.

— Ну, вось тут мы спусьцім качак,—паказаў малады чалавек на невялічкае бруднае возера, што знаходзілася блізка, на водшыбе ад саўгасу „Замосьце“.

— А яны не паўцякаюць?—здаўмеўся бацюшка.

— Што вы—гэта-ж не вароны! Яны ў мяне тут і жыць будуць,— заспакоіў бацюшку малады чалавек.

Потым ён дастаў з кішэні кашалёк, адчыніў яго ды пачаў памаленьку, не сьпяшаючыся, лічыць грошы. Бацюшка ў гэты час ухапіўся за работу—даставаў з скрынкі качак і кідаў іх на ваду. Тыя весела квакалі, здаволеныя, што іх вызвалілі, і ахвотна нурцавалі ў возера.

— Ведаеце, бацюшка,—сказаў сур'ёзным тонам малады чалавек, новы загадчык саўгасу,—мала пры сабе грошай, я скокну ў кватэру і, пакуль вы ўсіх павыпускаеце, вярнуся з грашыма.

— Добра, таварыш загадчык,—адказаў бацюшка, захоплены сваёю работаю, а больш думкамі аб вялікай суме грошай, якая вось-вось пераплыве з кішэні загадчыка ў яго кішэню.

— Я толькі вазьму адну, бацюшка, качку, няхай жонка рэжа ды гатуе вячэру...

Бацюшка згадзіўся і з гэтым. Як-жа—трэба дагадзіць новаму загадчыку, усё ж начальства, можа і прыцерціся калі прыдзецца.

Малады чалавек выбраў самага большага качара і борзда, не аглядаючыся на бакі, проста, траха ня подбегам, пашыбаваў пад будынкі.

Бацюшка тым часам павыкідаў качак, сеў спакойна на воз і чакаў сабе купца з кучаю грошай. „Лоўка выходзіць, падумаў ён, грошы самі плывуць у кішэню. Яшчэ прадам пад восень гусей дзесяткаў са два, тады зажыву“... Тут жа ўспомніў бацюшка, што ўжо год, як ён жыве удаўцом і носіць жалобу па пакойніцы жонцы. Пара-б падумаць і пра другую жонку, не дажываць-жа веку так, халасьцяком. На памяць усплыла настаўніца нямецкай мовы ў сямігодцы. Праўда, стараватая ўдава, але і бацюшка немалады кавалер. Якраз і грошы зьбяруцца, вясельле можна талковае справіць. І бацюшка Куродым весела ўсьміхнуўся ад такога блізкага шчасьця. Усё лепш, калі кабеціна ў хаце, а то што гэты Антось, ніяк ня можа навучыцца пячы бліны. Вечнае з ім гора. То недакіснуць, то перакіснуць бліны, то соды залішне ўсыпле, кепска скавараду падмажа,—толькі псуе такую та хвацкую грэцкую, мяккую муку.

Многа думак і клопату ў бацюшкі.

„Але дзе-ж ён падзеўся, гэты загадчык? Можа, няма грошай, ці раздумаў“.

Ужо і лёгкая цемень агарнула зямлю, над возерам і балотам закурыліся шэрыя вячэрнія туманы, а загадчыка ўсё няма. Качкі выкупаліся у ахвоту ды паселі, сьцішыўшыся на высьпе ў траве, што ўздымалася пасярод возера.

Нейкі страшны непакой ахапіў бацюшку.

„А што, калі гэта так які жулік?“

І яго пачынала трэсьці і ад павеваў вячэрняга вільготнага паветра, і ад непакойства.

Нарэшце, ня вытрымаў бацюшка, саскочыў з возу, падняў свае полы, каб не абрасіць у траве, ды кінуўся подбегам на кватэру загадчыка.

Жах ахапіў бацюшку, адразу кінула ў пот, калі даведаўся ён, што такога загадчыка тут ніколі і ня было, што стары загадчык і ня думаў нават пакідаць свае пасады.

Жонка загадчыка зьдзівілася, калі бацюшка, такі ўсхваляваны і заклапочаны, кулём кінуўся з хаты, нічога больш не сказаўшы.

Доўга пасьля гэтага плёхаўся поп Куродым па гразкім брудным возеры, скінуўшы штаны і палатнянку. Войкаў, клікаў качак, ледзь ня плакаў, просячы іх, але тыя ані блізка не падпускалі да сябе гаспадара.

Увесь запэцканы ў гразь, у аднэй кашулі і ў капялюшы на галаве, бацюшка быў падобны цяпер на сапраўднага чорта з пекла, якога малявалі на абразох. Ён доўга не здаваўся. Шкада было адрачыся. Нарэшце раптоўна ўскочыў у самую гразкую твань. Ногі заблыталіся і апускаліся, як у мяккае, ліпкае цеста... Адчуўшы вялікую страшную бяду, ён, з роспачы залапатаў рукамі па вадзе, як спужаная качка, і трывожна залемантаваў, клікаючы людзей на ратунак.

У гэты час пазьбягаліся людзі і выратавалі бацюшку.

— Няхай лепш сам сканае, можа ў рай пападзе, бо ў балоце чэрці душу схопяць,—жартавалі маладыя ратуючы папа.

Пасьля гэтага ён праляжаў два тыдні ў пасьцелі, але нікому не сказаў аб сапраўднай прычыне хваробы.

Вось якая гісторыя здарылася з бацюшкавымі качкамі.

У той час, калі ён лаяў гусей і ўспамінаў пра здарэньне з качкамі, пачуўся ззаду незнаёмы голас:

— Што гэта, бацюшка, гусям рады не дасьце?

Бацюшка павярнуў назад галаву.

— Добры вечар!

— Добры вечар!—адказаў ашаломлены поп.

Ён надта зьдзівіўся, калі ўбачыў перад сабою гэтага чалавека.

Ніколі ніякага асабістага знаёмства з млынаром Ёселем поп Куродым ня меў, хоць так чуў пра яго і ў твар ведаў. Малоць, звычайна, вазіў яго парабак Антось, стары халасьцяк, бежанец, які прыблытаўся да папа ў час вайны, прывык і так парабкам дажываў тут веку.

— Вы да мяне?—запытаўся, апамятаўшыся, поп Куродым.

— Але, але, бацюшка, маю да вас важны інтэрас...

— Так... так...—мармытаў поп, паглядаючы на Антося, які ваяваў з гусямі замест яго.

— Дай гэтаму чубатаму гусаку па баку, дай яму аскабалка, не пашкадуй,—ня стрываў бацюшка, убачыўшы, што гусак вырваўся з-пад рук Антося ды імчаўся назад, пад сьвіронак.

Поп страшна ня рад быў такому госьцю, але „важны інтэрас“, відаць, адразу зацікавіў яго.

— Ну, то хадзем у хату,—адвярнуўся ён да госьця.—Пазнавата ўжо, цёмна...

„Чаго яго чэрці прынесьлі нанач, гэтага антыхрыста?“—бянтэжыўся бацюшка.—„Якія гэта могуць быць інтарэсы ў нехрысьці з хрышчоным чалавекам?“

Млынар Ёсель, чалавек з поўным ротам залатых зубоў, у хаце зьняў шапку, чаго ён звычайна ніколі не рабіў.

— Вы на мой прыход не спадзяваліся, бацюшка?—штучна ўсьміхаўся млынар Ёсель, круцячы ў руках шапку, не знаходзячы ёй месца.

Цяжка было разгаварыцца такім далёкім адзін другому людзям. Поп Куродым страшэнна ня любіў людзей іншай веры. Ня вельмі ж любіў папа і Ёсель.

— Дзіўлюся, дзіўлюся... мусіць, важны інтэрас у самога?...

— Але, бацюшка...—адказаў млынар і абвёў вачыма хату.

Поп заўважыў гэта:

— Можна сьмела, нікога няма...

— Я прышоў знарок пытаць у бацюшкі, што гэта будзе? Гэта-ж магіла і мне, і вам... Нешта трэба рабіць...—пры гэтых словах млынар Ёсель махаў рукамі за вакно ў бок колгасу.

Бацюшка адразу згадаўся, аб чым тут гаворка. Ён чуў, што, як пабудавалі ў колгасе млын, дык усе людзі адразу шуснулі сюды, бо тут і таней, і лепш мелюць, і што млын Ёселя праз гэта ледзь ліпеў. Ёсель, такім парадкам, хоць і „антыхрыст“, але станавіўся блізкім, сваім, родным цяпер для бацюшкі чалавекам. Гэта-ж думае пра колгас і сам поп Куродым. Гэткія-ж трывожныя думкі ні на хвіліну не пакідаюць і яго. Колектывізацыя вакольных вёсак разьлівалася бурлівай вясеньняй паводкай і вось-вось пагражала затапіць апошнія ўзгоркі, на якіх яшчэ ледзьве ліпяць і бацюшка Куродым, і яго сябар па няшчасьці млынар Ёсель. Зьмірыцца і чакаць пустога для сябе канца, гэта значыла пахаваць сябе жывым. Але, калі справа даходзіць да сьмерці, ніводзін чалавек ёй спакойна ў рукі не даецца. Чалавек доўга трапечыцца, змагаецца, чапляецца часта за саломінку, каб адсунуць ад сябе сьмерць, хоць і недалёка. Так і з папом Куродымам. Асабліва востра дапякалі яго думкі аб страце ранейшага дабрабыту, калі аб гэтым хто напамінаў папу.

— Сядайце, сядайце, Ёсель,—замітусіўся поп Куродым, толькі цяпер разабраўшыся ва ўсёй важнасьці і карысьці для яго гэтага „антыхрыста“.— Як гэта я раней ня ведаў, што вы жывіцё на сьвеце? Я з вамі зусім згодзен, згодзен,—мармытаў бездапаможна, як дзіця, бацюшка Куродым, і нэрвова мітусіўся па пакоі.—Я з вамі згодзен, Ёсель... але...

— Але...—перабіў яго Ёсель,—Вы многа страцілі. Мы страцілі Вінцэся і Баравіка... Мы тады не далучыліся да іх. Вось за што трэба нас біць. Гэта так заўсёды: калі чалавеку лішне не прыпірае, дык ён не клапоціцца. Цяпер горш... цяпер трэба зьбіраць сваіх людзей з усяго сельсавету. Вы чулі, што Борскі сельсавет з восені пераходзіць на суцэльную колектывізацыю? Як вам гэта падабаецца, бацюшка? Пакуль што ў нас толькі адзін сур'ёзны вораг—„Перамога“. І зламаць гэтага ворага, значыць адбіць ахвоту ўсім з сельсавету ад гэтай праклятай колектывізацыі...

— Я ўсё чуў, Ёсель. Усё ведаю. Я многа думаў...

— Дык раз вы ведаеце, бацюшка, вы не павінны прапусьціць ні аднае мінуты дарма. У нашых руках царква, а гэта многа значыць. Скажэце— з „Перамогі“ шмат у вас веруючых?

— Слаба... слаба... і з кожным тыднем людзі адступаюць... Гэты „антыхрыст“ Міляўскі зусім збаламуціў прававерных... Галота ўся пашла за ім, адцуралася ад усявышняга бога...—разьбедаваўся поп, забыўшыся на гэты момант, перад кім ён так спавядаецца.

— Дарагі бацюшка,—расплыўся ўсьмешкаю Ёсель,—гэты Міляўскі для вас найлепшы козыр. Яго нам проста сам бог прыслаў... Ён хто?—задаў пытаньне Ёсель, і сам-жа адказаў:—жыд! Камуніст! Хіба-ж вы ня можаце зрабіць з гэтага вывад? Для мяне гэта таксама найважнейшы козыр, хоць я з імі аднае нацыі. Але ня ў гэтым, бацюшка, справа. Справа ня ў нацыі. Цяпер на гэта не глядзяць. Цяпер такога сваяцтва па нацыях

і верах ня можа быць. Хто вам прыяцель, бацюшка—я ці колгасьнікі, якія адракаюцца вашай царквы?

— Ну, дык аб гэтым і гаворкі ня можа быць,—нібы прасіў выбачэньня поп Куродым.—Ясна, ясна, як божы дзень...

— Я з вамі гавару, як са сваім родным чалавекам, бо ведаю, што вы мой сёньня лепшы прыяцель. Я вам веру, а вы павінны верыць мне. У нас з вамі, бацюшка, адзін бог,—Ёсель паказаў пальцам на столь,—і адзін чорт,—махнуў ён рукою ў бок колгасу. Давайце-ж будзем трымацца адзін аднаго і рабіць адну справу...

Бацюшка Куродым зусім зьмякчэў і гатоў быў верыць хоць самому Майсею, абы толькі той дапамог яму вярнуць назад ранейшую парахвію і ранейшы дабрабыт.

— Добра, добра, я згодзен, Ёсель. Я зраблю ўсё, што змагу. А вы організуйце, памагайце мне, выяўляйце лепшых нашых людзей..,

Пасьля багатай неспадзяванай вячэры, бацюшка Куродым разьвітаўся з Ёселем, як самы лепшы, шчыры, даўно знаёмы яго прыяцель.

## IV. Галіца будзе асушана

Міляўскі з першых-жа дзён горача ўхапіўся за новую работу. Ён папрасіў сакратара праўленьня комсамольца Клімовіча падабраць увесь матар'ял пра становішча колгасу: розныя сьпісы, пратаколы, пляны... Потым некалькі дзён падрад сядзеў доўгімі вечарамі, вывучаў свой колгас. Трэба ведаць, з чым маеш справу. Трэба ўсё ўлічыць, уважыць так, як на заводзе, як у іх друкарні, дзе кожны чалавек мае сваё месца і работу, а кожная работа—сваю чаргу і час. Апрача таго, трэба добра прадумаць і прызначэньне кожнай рэчы, яе карысьць для агульнага разьвіцьця. Трэба ў час заўважыць тыя тормазы, якія шкодзяць рабоце.

Чым больш уваходзіў Міляўскі ў курс справы, тым ясьней для яго складалася думка, што ў рабоце колгасу патрэбны неадкладныя зьмены. Перш за ўсё, яму кінулася ў вочы вялікая разьбежнасьць паміж ворнаю зямлёю і сенажацьцю. Ворнай зямлі лічылася ў колгасе 150 гектараў, а сенажаці толькі 50. Зямля ў гэтай мясцовасьці ў большасьці пяшчаная, кепская, і вывад для Міляўскага быў ясны—браць курс на жывёлагадоўчую, а не на зярнёвую фабрыку. Ворная можа быць толькі памочнікам у такой справе. Самае галоўнае—кармовая база.

У старым пляне вёскі, які праглядаў Міляўскі, значылася вялізарная прагаліна пад балотам—няўдобішчам. Балота гэтае зацікавіла яго.

— Якое гэта няўдобішча?

Сакратар растлумачыў, што такое балота сапраўды ёсьць і лічыцца за іх колгасам, але карысьці з яго ніхто ніколі ня меў. Балота гнілое, і трава на ім не расьце.

— Трава будзе расьці,—сказаў Міляўскі, выслухаўшы сакратара.

— Як гэта будзе?—зьдзівіўся сакратар.

— Мы яе прымусім,—падцьвердзіў старшыня.—З гэтага і трэба пачынаць.

І ў той жа дзень усе ведалі праз Клімковіча аб такой дзіўнай навіне—Міляўскі хоча асушыць Галае балота. Гэтага ўжо ніхто ад яго не спадзяваўся.

— Ну, відаць, што новы чалавек, нічога ня ведае,—недаверліва гаварылі мужчыны.

Другое, на чым асабліва спыніўся Міляўскі,—коні. Іх было ў колгасе аж 35 штук. Пры гэтым, большасьць старыя, гаргары, як называлі іх жартаўліва колгасьнікі.

— Гэта зусім неэканомна,—даводзіў Міляўскі.—У нас дваццаць пяць недабойкаў. Пакуль не завалілі хлявоў—прадаць і набыць дзесяць, пятнаццаць добрых, маладых. Хоць і гэта ня выхад. Мы будзем разводзіць кароў і сьвіней, а ня коняй. Налета нам, канешне, патрэбен свой трактар. Толькі з гэтага будзем пачынаць і разьвіваць сапраўды буйную патрэбную і даходную ў гэтай мясцовасьці колектыўную гаспадарку.

Сакратар Клімковіч яшчэ больш зьдзівіўся. Ніколі ён і ў мысьлях ня меў, што каровы і сьвіньні выгадней за коняй, і што дзесяць коняй маладых лепш за дваццаць пяць старых.

Апрача гэтага, зьмены Міляўскага закраналі і другія важныя бакі жыцьця колгасу. Ён парашыў абавязкова ў Доме Культуры, калі будзе скончаны, у першую чаргу адкрыць сталовую і дзіцячыя ясьлі. Гэта адразу аслабаніць жанчын ад лішняй бескарыснай работы і дасьць колгасу некалькі дзесяткаў лішніх, так патрэбных рабочых рук.

Потым Міляўскі заўважыў, што праца ў колгасе дагэтуль вялася без усялякага пляну. Рабілі паводле звычайнага сялянскага календара, бяз жаднай нормы і падліку зробленага... І ў гэтым Міляўскім кіравала зноўжа друкарня з яе жыцьцём і распарадкам. Кожная работа павінна мець свой пэўны час і пэўных людзей. Кожны чалавек павінен ведаць сваю норму работы. А каб гэтая норма выконвалася з посьпехам, патрэбна зьдзельшчына, якая ўжо даўно ўведзена ў іхняй друкарні.

Аднак з усіх зьмен найбольшую ўвагу Міляўскага займала Галае балота—сто гектараў твані, з якой можна зрабіць ня толькі прыемны для вока заліўны бераг, а нават поплаў, а то і палетак, дзе будзе расьці самая сапраўдная сакаўная канюшына. Дзеля гэтага варта папрацаваць!

Галіца—так празвалі алёхаўцы Галае балота—спрадвеку лічылася крапашчаю. Улетку туды рэдка хто мог дабрацца,—мох уздуваўся, як надзьмуты пузыр, а пад ім дзіка квахталі глыбокія стругі гразі і твані. Траплялліся такія мясьціны, дзе неасьцярожны чалавек мог на век загінуць, уваліўшыся ў стругу. Нездарма амаль кожная такая струга мае пэўную назву ад імя чалавека, што знайшоў у ёй магільны прытулак. Гэта ўсё розныя „Лаўрэнавы“, „Цімохавы“, „Мыліцавы“ стругі... Цэлыя

лягенды з пакаленьня ў пакаленьне перадаюцца пра гэтыя памятныя для тутэйшых людзей жахлівыя бяздніцы.

Галіца была для ўсіх няпрыступнай крэпасьцю. Ніхто ня верыў, што такое балота наогул можна калі-небудзь асушыць, хоць-бы яго ўсё перарэзаць каналамі. Потым-жа, маленькая рэчка, што абхінае балота з захаду, мае вельмі слабую цягу, і спадзявацца на яе зусім рызыкоўна. Рэчка ўлетку мяльчэе, зарастае тваньню, і яе канешне трэба прачышчаць.

Міляўскі-ж адразу ўхапіўся за Галае балота, як за аснову ўсяе работы на бліжэйшы час.

— Галіца павінна быць асушана!—даводзіў ён на праўленьні колгасу.—Тое, што не магла зрабіць ранейшая вёска Алёхаўка, цяпер будзе зроблена колгасам „Перамога“, хоць-бы для гэтага і прышлося прачышчаць раку. Пачынаць разьвіваць колгас будзем з Галіцы.

Праўленьне згадзілася з прапановаю Міляўскага. Але праведзены даеля абмеркаваньня гэтага пытаньня агульны сход нічога канкрэтнага ня даў. Усе згаджаліся з важнасьцю справы, аднак ніхто не адважваўся пачынаць такой вялізарнай рызыкоўнай работы, якая магла скончыцца бяз жадных вынікаў.

Міляўскі баяўся прапусьціць сёлетняе лета. Сёлета балота на дзіва высахла, і пачынаць работу патрэбна было, ня трацячы ніводнай лішняй гадзіны. Да васеньніх дажджоў заставалася ня менш месяца, а за гэты час можна правесьці галоўныя канавы-магістралі, каб налета вясною пачаць ачыстку ракі, калі будзе патрэбна.

Таму Міляўскі, доўга не разважаючы, парашыў даць нарад на асушку балота. Зацяжныя абгаварэньні пляну асушкі былі зусім лішнімі. Кожны прапушчаны дзень мог прынесьці непапраўную шкоду. Раённыя організацыі спачувальна адгукнуліся на замеры Міляўскага. Даклярвалі ўсялякую дапамогу, прызначылі тэхніка. К гэтаму часу ўсё з поля было прыбрана, а для асеньняй работы Міляўскі спадзяваўся на дапамогу раёну і сельсавету. Праўда, аб гэтым ён яшчэ нідзе не гаварыў. Раней трэба ўзварушыць работу і на справе паказаць яе выгады ня толькі для „Перамогі“, а і тых, што ня сёньня—заўтра далучацца да колгасу.

## V. „Нязгоднікі“

У сем гадзін раніцы шырокі школьны дзядзінец гудзеў гудам. Кожны гаварыў, што хацеў. І кожны лічыў сваім абавязкам гаварыць. Некаторыя гаварылі проста самі з сабою, бо слухаць іх ня было ахвотнікаў.

Звычайна для такой гаворкі цяпер, улетку, мала часу. А сёньня нешта нейкае? Міляўскі сядзіць, спакойны, на бервяне з Паўлюком і таксама аб нечым паціху гамоняць. Такая бястурботнасьць старшыні перадавалася і ўсім колгасьнікам.

— Я вам кажу, мужчыны, што з гэтага квасу піва ня будзе,—гарачыўся ў аднэй групцы гаваруноў Якімка Бандарчук.

— Чаму гэта ня будзе?—насядаў на яго зяць Лявон Кушнер.—Мала што табе цяпер, дзяцей пагадаваўшы, нічога ня трэба. А нам патрэбны і сталоўка і ясьлі.

— Як гэта я, скажэце на міласьць, на старасьць буду есьці тое, што мне дадуць? Мне многа ня трэба, але я хачу, каб яно ўсё было да толку... Вось што? А гэта, як той кажа, еж з карыта...

— А хіба-ж яно будзе бяз гэтага „толку"? Жывуць-жа людзі ў горадзе, што ядуць і ў сталоўках. Добра, чыста, і клопату бабе няма,—не здаваўся Лявон.

— Гавары, гавары... ведаем мы гэтую чыстэту, пане ты мой,—падтрымліваў Якіма Цімох Гарэза, той, што першым прышоў быў выпісацца з колгасу ў час паражытай нядаўна завірухі.—Хлеб мясіць будуць ня рукамі, а нагамі, бо дзе, пане ты мой, рук набрацца на такое горла? Гэта-ж ня сам сабе... Бульбу варыць будуць з лупінамі ды чарвямі... Ведаем мы гэтую чыстату, пане ты мой. Я-ж кажу...—угрунтаваў свой довад Цімох.

— Вы як сабе хочаце, а я не...—сказаў нарэшце цьвёрда Якімка Бандарчук, грызучы бязьлітасна ад хваляваньня ніжнюю губу.—Бо сёньня сталоўка, а заўтра яшчэ якое ліха выдумае. Унь, Галіцу хоча асушыць,—паказаў ён рукою на Міляўскага.—Дзе гэта відана, скажэце? Не, з гэтага квасу піва ня будзе, скажу я вам адкрыта. Як сабе хочаце. Унь што,—махнуў ён рукою.

— А што ты хацеў, каб век пражыць на сваёй печы?—уступіўся за Лявона Міхалка Саўчык.—Каб цябе не патурбавалі, пана такога? Мо' яно табе і ня трэба нічога. Але-ж не адзін ты з Цімохам жывеш на сьвеце. Нават і не адзін толькі наш колгас жыве на сьвеце, калі хочаш ведаць...

— Ат, плявузгае нямаведама што,—плюнуў са злосьці Цімох.—Да чаго ты гэта?

— А да таго, што большасьць ня будзе лічыцца з меншасьцю. Ты думаеш, князь Радзівіл і тысяча іх другіх хацелі пакідаць нам зямлю і маёнткі?

— Ого. Каб яны так жыць хацелі, гады,—перапынялі Міколку мужчыны—слухаючы.

— Дык вось, гэтак і з табою, Якім, і з усімі, хто пойдзе проці колгасу. Мы жывем і робім ня кожны сам на сябе, а для ўсіх, для ўсяе дзяржавы, калі хочаш ведаць... і сталоўка, і ясьлі патрэбны ня толькі нам, а ўсёй дзяржаве, калі хочаш ведаць. Будзе сталоўка і ясьлі, мы будзем мець больш рабочых, больш зробім. А дзе гэта дзенецца? Не прападзе-жа яно. Таксама і з Галіцай. Для нас яно мо' і хопіць таго што ёсьць, але я зноў скажу, ня толькі-ж мы адны жывем на сьвеце.

А тыя, што робяць машыны, працуюць у капальнях, здабываюць жалеза і газу,—яны-ж хлеба ня робяць...

— Ня робяць, дык затое і ня маюць,—стараўся ўкалоць Якімка свайго супрацоўніка.

— Эт,—пачаў злавацца Міхалка,—што з табою гаварыць. Ты ведаеш усё, але ты... ты проці нас ідзеш, вось што, калі хочаш ведаць.

— Я іду, як усе, аднэю дарогаю... хіба-ж я ня з вамі?—не здаваўся Якімка.

Якімка Бандарчук жыў адзін з бабаю. Меў сякія-такія запасы, дзяцей ня было, жылося яму добра. Сам яшчэ трапяткі і рухавы, працаваў ня горш за другіх маладзейшых.

Скупасьць і дасьціпнасьць адчуваліся ва ўсёй гаспадарцы Якіма: дзесяткамі кублоў, кадушак, павозак, колаў, і іншага, часта зусім непатрэбнага хламу, былі запоўнены яго будынкі. Ён шанаваў усё гэта, калаціўся за кожную макулінку, зьберагаў, хаваў, хоць і сам ня ведаў, дзеля чаго яно. Адзіную дачку сваю Алесю Якімка выдаў замуж за Лявона бяз жаднага пасагу, хітра адгаварваючыся тым, што і сам некалі не атрымаў па жонцы нічога. Лявон Кушнер ня вельмі, праўда, і даганяўся пасагу, але гэты выпадак усё-ж быў важнаю прычынаю таго, што цесьць і зяць з першых дзён іх блізкага знаёмства недалюблівалі адзін другога.

У колгас Якімка запісаўся апошнім. Доўга думаў, ня спаў начэй, траха ня страціў розуму, і толькі калі ўжо ўся вёска рушыла ў колгас, Якімка адважыўся на такі рашучы і боязны для яго паварот. Ён з замілаваньнем праз усю зіму аглядаў сваё дабро—хлеў, гумно, сьвіронкі, дзе ўсяго было поўна, успамінаў, гледзячы на гэты набытак, увесь свой пражыты век, і трудна было цяпер расставацца з думкаю, што ўсё гэта будзе не яго, уласнае, а ўсіх—колектыўнае.

— Як-жа гэта—я век душыўся, галеў, усё зьбіраў, а цяпер чорт лысы спажываць будзе?—прыставаў да кожнага Якімка з такім запытаньнем.

— То на чорта ты душыўся? Хто цябе прымушаў душыцца? Мусіць ты ў гэтым меў смак? Дык хто табе вінават,—адказвалі Якімку, жартуючы, колгасьнікі.

Гэта яшчэ больш злавала і абурала яго. З такой злосцю і прышоў Якімка ў колгас.

Зусім другім чалавекам быў Лявон. У першыя гады жыцьця жанатым Лявону цяжка было ўзьбірацца на сваю гаспадарку, каб хоць як можна было пражыць. Ён адразу-ж выдзяліўся ад старэйшага брата, які нічога ні не каліва не пераступіў яму, меншаму ў сям'і. Падзяліліся, як кажуць, і „кол у пол". Трысьцень хлява не маглі ніяк падзяліць, дык раскідалі ды разабралі па бервяну. Прышла чарга да варот. Ніводзін не хацеў пераступіць. Лявон даводзіў брату, што ён меншы і гэта трэба ўзяць на ўвагу, а той са скупасьці і ганарыстасьці ўзяў ды са злосьцю раскаваліў вароты папалам.

— Вазьмі,—сказаў ён,—сваё, а я сваё,—і шпурнуў частку варот Лявону.

Лявон змаўчаў, сьцяўшы зубы, але тут-жа, пры брату, хапіўся за сякеру і дашчэнту пашчапаў сваю, нікуды непатрэбную частку старых трухлявых варот.

І гэтае „сваё“ з таго часу стала агідным для яго, нялюбым.

Потым, калі крыху адбудаваўся, новы клопат сустрэў Лявона: абсыпалі дзеці. Але жывы чалавек Лявон не здаваўся, ён, як уюн, круціўся, трапятаўся, кідаўся на розныя хітрыкі і промыслы, каб пражыць самому і пракарміць дзяцей на двухдзесяцíннай гаспадарцы.

Лявон змалку меў цягу да сталярнай работы. Цяпер, у трудныя для яго часы, усё часьцей і часьцей браўся ён за сталярку. З-пад яго рук выходзіла на дзіва вышліфаваная, чыстая работа. Цяпер у колгасе Лявон першы маханьнік па сталярцы. Ён адзін за весну нарабіў гонтаў гэтулькі, што іх хапіла накрыць млын і засталося многа яшчэ і на Дом Культуры.

Міляўскі скора заўважыў сярод іншых здольнага і шчырага работніка Лявона. Ён вылучыў яго адказным за скончэньне пабудовы Дому Культуры. Раней адказным быў Якімка Бандарчук. Гэтае новае здарэньне выклікала цэлую буру з боку Якімкі, і яно-ж пракапала яшчэ глыбейшую прорву паміж цесьцям і зяцям.

Праўда, Міляўскаму не падабалася, што Дом Культуры будуецца з бярвеньня. Агледзеўшы нізіны гэтай мясцовасьці ён знайшоў тут многа гліны. Чаму-ж не зрабіць, у першую чаргу, цагельню, хоць невялікую? Тады-ж зусім іншая справа.

* * *

Тэхнік па мэліорацыі Вішнеўскі спазьніўся на цэлую гадзіну. Ён ішоў пяшком, і таму забавіўся ў дарозе. Куртка, штаны, боты, з высокімі халявамі, шапка—усё на ім было скуранае. Колгасьнікі з цікавасьцю аглядалі гэтага незнаёмага чалавека, стараючыся угадаць, чаго-б ён прышоў.

Калі ўсё было гатова, Міляўскі сьцішыў людзей і коратка паведаміў:

— Па пастанове праўленьня колгасу з сёньнешняга дня мы пачынаем работу на Галіцы. Няма больш зручнага часу, як гэты месяц: па-першае, балота за гарачае сухое лета на многа ачэрсьцьвела і на яго можна ўзыйсьці, па-другое, мы ўжо налета павінны мець з Галіцы тысячы пудоў лепшага сена для нашага колгасу. Прапусьціць гэты месяц, значыць адразу, з першых-жа дзён, сумысьля перашкодзіць разьвіцьцю колгасу „Перамога“. Наш колгас павінен быць, як вам ведама, жывёлагадоўчым. Такім ён і будзе. А для гэтага нам патрэбны тысячы пудоў сена. Палохацца Галіцы нам не да твару. Грамада, калі захоча, дасьць рады і не такому балоту. Апрача таго, мы не адны: нам прыдуць на дапамогу і раён, і сельсавет, і тыя, што ня сёньня—заўтра далучацца да

нас. Я ад імя праўленьня даю сёньня нарад на асушку Галага балота. Праз дзесяць хвілін усе павінны сабрацца ў дарогу са спраўнымі рыдлёўкамі...

Калі Міляўскі скончыў, усе загаманілі адразу. З вялікага шуму найбольш выразна вылучаліся галасы, што бязупынна паўтаралі:

— Гэта згуба для колгасу!

— Нікуды ня пойдзем!

— З нас, пане ты мой, людзі будуць сьмяяцца!..

— З гэтага піва квасу ня будзе...

Людзі адразу падзяліліся на два лягеры: адны заклікалі ісьці зараз жа, другія, нападаючы на іх з лаянкамі, расьпіналіся нема процi выхаду на работу.

Міляўскі трымаў сябе, як ніколі, спакойна і вытрымана. Калі ўсе нагаманіліся, абвясьціў:

— Хто ня згодзен—можа заставацца дома. Ніякай другой работы няма. Астатнія праз дзесяць хвілін павінны выступіць.

Гэтыя словы зрабілі сваю справу. Грамада раптам прыціхла, нібы гэта былі ня словы Міляўскага, а нечападзяваны гром.

— Хадзем, Міхал, хадзем, хлопцы!—гукаў Лявон, адыходзячыся ад людзей.—Гэткі бо страх—Галіца! Возьмемся гуртам—за тыдзень лягуць канавы.

— Ах, каб цябе абложыла, ды не ўзьняло, зяцёк ты мой!—вылаяўся ўсьлед яму Якімка Бандарчук.—Людзі жыта зьбіраюцца сеяць, а яны чорта ў балоце ідуць шукаць.

— Ня чорта, а сена,—паправіў яго Лявон.

— Каб вы сабе вяроўкі на горла пазнаходзілі, каб вы там захлынуліся, каб вы...

Лявон больш ня слухаў гэтых „каб вы“, і нічога не адказваў Якімку. Ён добра ведаў натуру цесьця. З ім спрачацца ня варта.

Гурт людзей увачавідкі радзеў, рассыпаўся. А праз колькі хвілін каля школы засталося толькі чалавек пяць нязгодных. Яны жвава махалі рукамі, грызіліся, крычалі, і траха ня вылі ваўкамі на тых, што паслухаліся Міляўскага, які павёў іх у чортава балота, пакінуўшы неадкладную работу на полі ў такі гарачы час.

— Каго-ж гэта мы слухаем! Міляўскага? Што ён ведае ў гаспадарцы? Альбо галота гэтая, кавалак басяка—Лявон? З іх работы, кажу я, піва ня будзе...—хваляваўся больш за ўсіх Якімка.

— Нам свой колгас патрэбен, вось што,—сказаў цішком Цімох,—тады будзе толк, пане ты мой,—кончыў ён і абвёў усіх пытальным поглядам.

— Праўду Цімох кажа,—жвава падхапілі астатнія.

Выказаная Цімохам думка ўсім вельмі спадабалася. Гэта-ж ня трэба лепш, свой колгас. Пяць чалавек ёсьць—і даволі, на што яны больш.

Застаеццa толькі выразаць патрэбны кавалак зямлі, аформіць справу і ўсё добра. Мужчыны так абрадаваліся гэтай думцы, што зусім забылі на гэты час і пра балота, і пра Міляўскага, і пра сяўбу. Яны доўга яшчэ стаялі каля школьнага будынку, меркавалі пра свой новы колгас. Заранeй выбралі сабе за старшыню Якімку, вызначылі палетак (навозы, самае лепшае поле), тут-жа склалі і плян будучай работы ў сваім новым колгасе „нязгодных“... А колгас парашылі назваць „Новы шлях“, што, па думцы Якімкі, не зашкодзіць, а, наадварот, начальству спадабаеццa, і пры такой умове лягчэй будзе пусьціць у ход справу...

## VI. Трахім вярнуўся дахаты

Бацька Сьцёпкі Трахім вярнуўся праз месяц. Яму па суду далі пяць гадоў турмы ўмоўна. Суд узяў пад увагу яго поўную несьвядомасьць, беднасьць, шчырае пакаяньне і тое, што Трахім стаў сьляпою ахвярaю кулака Вінцэся, ды зусім мякка аднёсься да яго ўчынку. Трахім на судзе доўга каяўся, плакаў і прасіўся. Ён перад усімі хваліў свайго сына Сьцёпку, што той зрабіў правільна, калі адрокся ад бацькі, ратуючы колгас.

Але, вярнуўшыся дахаты, Трахім ніяк ня мог шчыра, як раней, глянуць у вочы ні людзям, ні сваім. Ён адчуваў сябе тут, як чужы і непатрэбны.

Сьцёпка цяпер так захапіўся работаю, што ніколі і ня стыкаўся дома. Ён ні разу нават не пагаварыў з бацькам аб усім, што здарылася. Усё гэта зьвязвала Трахімавы рукі, і ён адчуваў сябе дома не гаспадаром, а лішнім, дакучным, госьцем.

Пражыўшы так некалькі дзён госьцем, Трахім пачаў думаць і аб рабоце. Юзік з маткаю працавалі ў колгасе. Аднаўляць ранейшую ўласную гаспадарку Трахім больш ня зьбіраўся. Але што было рабіць? Як адважыцца пайсьці ў колгас ды прасіцца, каб прынялі на работу?

— Колгасу рукі патрэбны,—ганяла яго жонка,—ідзі, пагавары. А можа і ты да людзей далучышся, калі прымуць? Дзе-ж ты дзенешся...

— Ня прымуць, мусіць...—скупа адказваў задуменны Трахім, апусьціўшы ўніз вочы.

На гэтым гаворка іх і скончылася.

А назаўтра Трахім усё-ж ня выцерпеў. Пашоў да Міляўскага. Міляўскі ўжо загадзя добра ведаў Трахіма, хоць у вочы яго і ня бачыў. Выслухаўшы Трафіма, ён сказаў:

— На работу—калі ласка. А вот, што да прыёму ў колгас, аб гэтым падумаем на праўленьні...

І з таго часу Трахім пачаў хадзіць на Галае балота. Кожны дзень, выходзячы з дому на работу, ён неяк міжвольна прыпыняўся каля Вінцэсевай хаты, занятай цяпер Лявонам Кушнерам, нешта думаў, круціў галавою.

Вінцэся разам з сям'ёю і Баравіком выслалі. А ўся яго гаспадарка адышла пад колгас.

## VII. Піонэрскі колгас

К канцу лета пляц каля курынага шалаша стракаціўся сотнямі піскілівых стварэньняў. Страшэнны гармідар узьнімалі яны тут, асабліва калі надыходзіла пара карміць іх. Кураняты не маглі стоўпіцца ў адным месцы, пішчом лезьлі ва ўсе шчыліны, на агароды. Хлопцы разрываліся, даглядаючы іх. Яны насілі ў драўляных вёдрах ваду, разьлівалі яе ў карытцы, часта мянялі на сьвежую, падгатаўлівалі крупяную кашу, даглядалі, каб усе кураняты былі накормлены і напоены. Але работы з кожным днём прыбывала і прыбывала. Кураняты расьлі, а разам з гэтым расла і работа. Аднак Сьцёпка ніколі не адчуваў стомы. Наадварот, яму здавалася, што тут якраз і не работа. Гэта ня тое, што араць камяністыя горы. Такая работа радавала яго, захапляла.

Аднаго разу Сьцёпка сказаў Юзіку:

— Чаму-б нам не завесьці яшчэ трусікаў?

— Ну, тут і гэтай чарадзе рады ня даць,— скрывіўся быў Юзік.

— Гэта не бяда. На гэта ў нас ёсьць атрад, які пакуль што нічога ня робіць для колгасу. У атрадзе 20 піонэраў, і калі кожны будзе працаваць так, як мы, тады сьмела можна да гэтай чарады прыбавіць яшчэ сотню-другую трусікаў.

— І не адных трусікаў,— зацікавіўся потым Юзік,— а качак, гусей..

— Ды мы тут свой піонэрскі колгас арганізуем,— загарэўся новымі размахамі работы Сьцёпка.— Вось што. Давай, Юзік, пагаворым аб гэтым на савеце атраду. Калі згодзяцца, праўленьне напэўна не пашкадуе нам якой сотні, каб купіць на развод трусікаў. Пра качак і гусей сёлета гаварыць позна. А вось трусікі—гэта можна.

— Ты праўду кажаш, Сьцёпка. Мы часта на савеце атраду думаем аб грамадзкай рабоце піонэраў. Выбіраем іншы раз зусім бескарысную работу, а на тое, аб чым ты гаворыш, забываемся. Гэта-ж і будзе асновай работы атраду. Канешне аб гэтым варта пагаварыць. І ня толькі пагаварыць—зараз-жа зрабіць.

* * *

Сьцёпка за апошні час на многа пасталеў. Усё перажытае пачынала пакрыху зглажваць сваю вастрату. Ён заўважаў, як з кожным днём памалу разбураецца сьцяна недаверлівасьці, што вырасла была між ім і колгасьнікамі ў нядаўныя жудасныя дні. Яму даравалі цяжкую віну перад колгасам, прынялі яго з маткаю ў сваю сям'ю.

Але пакутныя думкі ўсё ж не пераставалі трывожыць Сьцёпку. „Якгэта я ня мог адважыцца раней, колькі шкоды нарабіла колгасу мая нерашучасьць і палахлівасьць перад бацькам. Бедны, мілы дзядзька Язэп..." Вобраз Язэпа, як жывы, часта выплываў перад Сьцёпкам, адным з ві-

ноўнікаў яго сьмерці. Здаецца, ён паранейшаму такі-ж жвавы, вясёлы, з ціхай, ласкавай і прыемнай усьмешкай, нібы хоча сказаць Сьцёпку: „Ня сумуй, хлопча, што зробіш, на тое вайна, вайна з рэшткамі ворагаў, за лепшую будучыню для ўсіх вас...“ Цяжка Сьцёпку думаць пра гэта. Вялікія пакуты грознымі навальніцамі хвалююць яго маленькае сэрца. Вочы—кругленькія, чорныя вугольчыкі, з гаручымі іскрамі—туманяцца ад нявыказанага жалю за мінулае.

У Язэпа засталася жонка і трое дзяцей. Большы хлопчык Віця—піонэр, разам са Сьцёпкам у атрадзе. Сустрэчы з ім і сям'ёй загінуўшага дзядзькі Язэпа—цяжкія для Сьцёпкі сустрэчы.

Аднаго разу Сьцёпку захацелася неяк напомніць Віцю пра бацьку, як-небудзь пакаяцца перад сваім таварышам, сказаць тое, што яго часта прымушала так многа пакутваць, бо выказанае гора становіцца лягчэйшым

Было гэта перад зборам атраду. Тады штосьці надоўга спазьнілася павадырка Стэфка. Сьцёпка сам першым падышоў да Віці.

— Нешта Стэфкі няма,— загаварыў ён моцна, бо кругом вельмі шумелі і дурэлі дзеці.

— Яна, мусіць, купацца пабегла пад млын? Сёньня гарачыня такая,— адказаў Віця, аглядаючы Сьцёпку, нібы бачыў яго ўпяршыню.

Сьцёпка ніколі не адважваўся загаварыць так сам-на-сам да Віці, сьмела гледзячы яму ў вочы. Віця ведаў і адчуваў, што Сьцёпку цяжка маогул з ім гаварыць.

У гэты час дзеці дружна зарагаталі.

— Так, так, маладзец Воліся,— крычалі піонэры.

А Воліся, расчырванеўшыся, ляжаў наверсе на Зьмітраку, трымаў яго моцна абедзьвюма рукамі за шыю, прыціскаў да зямлі і прыгаварваў:

— Ну, будзеш дужацца са мною? Сіляка гэткі аб'явіўся!

Зьмітрок самы гарэзны піонэр, любіць дурэць, нікога не прапусьціць, каб не зачапіць. Бярэцца дужацца з кожным, хоць рэдка каго ўдавалася пакаціць. Але ніколі не здаецца Зьмітрок, гонару ня траціць.

— А ўсё-ж такі і ты ляжаў на зямлі,— кажа ён, устаючы.

— Але хто падыспадам?

— Мы ляжалі разам,— апраўдваецца Зьмітрок, каб ня страціць гонару перад усімі.

У школу зайшла павадырка Стэфка.

— Што, зноў дужаецеся? Дакуль гэта ты, Зьмітрок, будзеш гарэзіць? Глядзі, каб болей ня прышлося гаварыць аб табе на савеце атраду?—палаяла павадырка Зьмітрака.

— Гэта ня я, а Воліся дужаўся...

— Ну, глядзі, ты ніколі не вінаваты, у цябе ўсё другія вінаваты...

Стэфка заклікала дзяцей да парадку і пачала праводзіць сход.

Сьцёпку так і не ўдалося пагаварыць з Віцем.

— Сёньня нам, дзеці, трэба абмеркаваць вельмі важнае пытаньне,— пачала Стэфка.

Дзеці сьцішыліся. Цікава, якое-ж гэта важнае пытаньне? Яны даўно прасілі Стэфу організаваць паход у колгас „Чырвоны прамень“, пад граніцу, дзе можна будзе ўбачыць многа цікавага, асабліва-ж сапраўдных жывых жандараў, пра якіх яны так многа чулі апавяданьняў ад старэйшых. Мусіць, пра гэта і будзе сёньня гаворка.

— Наш атрад, дзеці, яшчэ дагэтуль не знайшоў свайго пэўнага месца ў колгасе,—гаварыла далей Стэфка.—А гэта вельмі кепска.

— Праўда, што цікава. А дзе-ж ён, наш атрад, калі не ў колгасе?— перапыніў яе Зьмітрок.

— Ціха, Зьмітрок, лепш паслухай, потым будзеш гаварыць,—дакорліва ўпікнула яго Стэфка і казала далей:—Мы больш займаліся рознымі гутаркамі і гульнямі, чым карыснай і для сябе і для колгасу работаю. Праўда, кожны з нас у паасобку не гуляе, сёе-тое робіць. Але ўвогуле нашай работы ня відаць. І вось мы на савеце атраду парашылі злучыць усю нашу работу. Мы парашылі ўзяць шэфства над гадаваньнем курэй і цялят у колгасе. Больш дакладна пра гэта нам раскажа Юзік. Мы яго і паслухаем. Толькі адна ўмова—слухаць уважліва і не перапыняць, як гэта робіць Зьмітрок.

— Я-ж і слухаю гэтак уважліва, як ты кажаш,— не сьцярпеў, каб не адгаварыцца Зьмітрок.

— Ну, гавары, Юзік,— дала слова павадырка Юзіку.

Юзіка дзеці заўсёды слухалі лепш, чым нават Стэфку, бо лічылі, што Юзік больш ведае ня толькі за іх, але і за ўсіх у колгасе. Ён-жа адзін пакуль што з усіх вучыцца ў местачковай сямігодцы. Яшчэ няма ніводнага чалавека ў колгасе, які вучыўся больш за Юзіка. Апрача таго, Юзіку даручана такая работа, якую ня кожны мог-бы рабіць і з старэйшых. Яго работа ўжо набыла славу. Да яго часта прыяжджае нават сам аграном, гутарыць з ім, як з дарослым, навучае, дае розныя цікавыя кніжкі па гадоўлі курэй. Чаму-ж не паслухаць Юзіка?

Юзік узяў у рукі маленькі кавалачак сьпісанай паперкі і пачаў расказваць.

— За гэта лета мы вывелі праз наш невялічкі інкубатар каля тысячы куранят. Гэта справа самая выгадная і прыбытковая для колгасу. Страты на курэй у нас пакуль што зусім невялікія. І вось уявеце сабе, колькі птушынага мяса мы зможам даць дзяржаве толькі за адно лета? Але-ж на гэтым спыняцца нельга. Усё даводзіць аб тым, што гэтую справу мы павінны пашыраць і разьвіваць далей. Аднак, за курамі патрэбен догляд. Покуль што мы спраўляліся траха што ўдваіх—я і Сьцёпка. Цяпер-жа нам трудна даць рады, апрача таго, увосень я іду вучыцца. І, мусіць, пойдзе таксама і Сьцёпка. Вось атраду і трэба падумаць—хто застанецца на наша месца?

— Мы!—загаманілі піонэры.

— Я так і думаю. Увесь атрад павінен узяцца і адказваць за гэтую работу. Але на ўвесь атрад работы будзе малавата. Мы аб гэтым таксама думалі на савеце і парашылі, каб піонэры ўзялі шэфства ня толькі над курамі, а і над цялятамі, якіх цяпер даглядаюць нашы маткі. Мы гэтым самым аслабанім ад работы сваіх матак, якія змогуць рабіць іншую работу.

— Вось гэта праўда! Чаму дагэтуль так не зрабілі?—не сьцярпеў Віця.

— Зробім, зробім, яшчэ ня позна,— сьцішала яго Стэфка.

— Ну, здаецца і ўсё,— скончыў Юзік.

— А пра трусікаў?—напомніў яму Сьцёпка.

— Ага, я чуць не забыўся. Мы гаварылі з Міляўскім і ён дэкляраваў нам адпусьціць грошы на развод трусікаў.

— Ой, якія яны харошанькія!—замітусілася піонэрка Волька.— Я бачыла іх у Сымона...

— Такіх, як у Сымона, мы разводзіць ня будзем,— казаў Юзік.— У яго трусікі дробныя і гадуюцца пад печкаю, у норах. Мы-ж разьвядзем вялікіх, буйнай пароды і наробім для іх клетак.

Трусікі, здавалася, найбольш зацікавілі ўсіх. Пасыпаліся выкрыкі, збор зашумеў.

Потым, калі Юзік скончыў, гаварылі ўсе. Трудна было супакоіць дзяцей. Гаварылі без парадку, колектыўна, але гэтае выказваньне было яснае: усе за тое, каб атрад зараз-жа ўзяўся за такую работу.

Калі ўсе нагаманіліся ў вахвоту, папрасіў слова і Сьцёпка.

— Даць Сьцёпку выказацца!

— Няхай гаворыць Сьцёпка!—згаджаліся ўсе, хоць ня было цярплівасьці слухаць тады, калі хацелася кожнаму гаварыць самому.

Сьцёпка ніколі не выступаў на зборах атраду. Усё саромяўся, баяўся, што нічога цікавага не скажа і з яго будуць сьмяяцца. Так і сёньня. Увесь час ня спускаў ён з думак свае прапановы, усё ніяк ня мог адважыцца, каб устаць і сказаць, што думае. І ўжо, калі канчаўся збор Сьцёпка перамог сваю нясьмеласьць. Ён пачырванеў, загарэўшыся сьвежым румянцам, сэрца затахкала так, што вось-вось выскачыць з грудзей. У першую хвіліну Сьцёпка раптам як-бы забыўся, аб чым меўся гаварыць, ніяк ня мог вылучыць галоўнага з таго, аб чым думаў.

— Ну, мы слухаем, Сьцёпка,— напомніла яму Стэфка, што трэба пачынаць.

Перасохшы Сьцёпкаў язык раптам нібы адарваўся ад паднябеньня і заварушыўся. Ён сам, здавалася, ня чуў у гэты час свайго голасу, бо гаварыў блытана і нясклядна. Сьцёпка больш думаў, чым гаварыў, таму і нясклядна ў яго выходзіла. Піонэры ў першыя хвіліны слухалі яго неахвотна. Нічога цікавага. Усё гэта ім вядома. Але, калі Сьцёпка загава-

рыў аб Галіцы, сяўбе і аб тым, што атрад павінен абаясьціць сябе ўдарным і выклікаць на гэта сваіх бацькоў, усе заціхлі. Многія лавілі Сьцёпкавы словы ня толькі вушамі, але і шырока разьзяўленымі ратамі.

— Мы ведаем,— канчаў сваю прапанову Сьцёпка,— па газэтах, што піонэры ня толькі ўмеюць сьпяваць і маршыраваць, а і рабіць вялікую карысную работу. Атрады выклікаюць сваіх бацькоў—рабочых і колгасьнікаў—на спаборніцтва. І гэта многа дапамагае ў працы. Так павінны зрабіць і мы. У нас, у колгасе, працы многа. А ці-ж усе добра, па шчырасьці, да адказу працуюць?—Не,— сам-жа, адказаў Сьцёпка на сваё запытаньне.—А трэба, каб усе працавалі якраз да адказу. Тады мы і балота асушым, і засеяць пасьпеем. Мы возьмем на сябе абавязак акуратна даглядаць курэй і цялят, а бацькі—асушыць балота і да восені ўсеяцца. А раз бацькі падпішуць з намі такі дагавор, яны будуць старацца не паддацца нам,— скончыў Сьцёпка.

Цяпер уся чырвань з яго твару змылася, і Сьцёпка сам у сабе заўважыў вялікую перамену. Канчаў ён ня так, як пачынаў. Ніякай палахлівасьці і ценю не засталося.

Стэфка пахваліла прапанову Сьцепкі, а піонэры выказалі сваю згоду з яго думкамі гучнымі воплескамі. І тут-жа Стэфка прагаласавала Сьцёпкаву прапанову. Усе згадзіліся. А для складаньня дагавору па сацспаборніцтву выбралі камісію, куды першым кандыдатам увайшоў Сьцёпка.

## VIII. Каля царквы на Іспаса

На Іспаса млынар Ёсель прывёз пад Борскую царкву прадаваць садавіну. Ніколі гэтага з ім ня было...

Кожны год у гэты дзень ужо з даўных каля царквы адбываецца бойкі гандаль садавінаю. Набожныя людзі на Іспаса ўпяршыню разгаўляюцца новым ураджаем фруктаў. Пасьля абедні яны з прагнасьцю накідваюцца на фрукты, спачатку ядуць спрытна, потым, набіўшы аскому, часта зноў месяцамі не бяруць у рот садавіны,— такою яна становіцца адваротнай.

Якімка Бандарчук быў добра знаёмы з млынаром Ёселем. Калі скончылася абедня, ён падышоў да Ёселевага возу, прывітаўся за руку і зрабіў пачын. Купіў фунт сьпелых сапяжанак.

— Хвацкія ў цябе сапяжанкі,— пахваліў Якімка Ёселевы грушы.—Нават ня лішне сопкія. У мяне крыху было, дык, падлы, вельмі-ж сопкія, у рот ня возьмеш без вады. Гадасьць, а ня груша.

— От, Якімка, і гэтых зараз ня будзе... Еж, пакуль не адабралі,— адказаў, паглядаючы на бакі, Ёсель.

— Яно праўду ты кажаш,— згаджаўся Якімка,— ужо-ж адабралі. Пане ты мой, працаваў, працаваў лета і ўсё на чорта лысага... на Міляўскага працаваў...

— Ці бачыш? Як-жа гэта?—нібы нічога ня ведаючы, цікавіўся Ёсель.

— А так, не захацеў яму служыць, а цяпер надзелу не варочаюць. Ужо з тыдзень, як выбыў з кагалу іхняга і майго мне не аддаюць. Ня толькі я, ёсьцяка яшчэ такія.

— А-а, вот як, табе твайго не аддаюць?—хітра паддакваў Ёсель.— Што-ж—жабраваць ідзі...

Да возу падыходзіла больш людзей. Былі тут хаўрусьнікі Якімкі, быў і Трахім.

— Самі вінаваты,— кажа Ёсель,— каго вы слухаеце? Што ён—гаспадарку ведае? Я яго знаю... Ён-жа ў Цімкавічах каналупам быў, а цяпер з людзей шкуры хоча пазлупліваць... Маўчэце толькі, маўчэце яму, ён вас усіх да торбы давядзе... Каго вы слухаеце? Кожны каналуп, паскудзтва, вамі камандуе... Ён мне сам казаў, што шкуры з коняй лупіў...— хітра ілгаў Ёсель.

Такія весткі пра Міляўскага мужчыны пачулі ўпяршыню, хоць і бяз гэтай характарыстыкі ненавідзелі яго тыя, што слухалі Ёселя.

— Гэта-ж узяў, гад, за горла і—канец... Чаго людзей баламуціш? Балота яму захацелася...— расьпінаўся Цімох Гарэза.

Яго падтрымлівалі і ўсе нездаволеныя, што тут сабраліся.

Толькі што ў царкве поп сказаў вялікую казань, у якой праклінаў ад імя бога ўсіх антыхрыстаў, што зводзяць у зман праваслаўны люд. Імя Міляўскага ён не ўспамінаў, але ўсім было вядома, пра якога гэта антыхрыста ідзе гаворка. Поп многа разоў успамінаў пра колгасы— д'ябала насланьнё, пры антыхрыстаў, якіх сам чорт пасылае, каб спакусіць веруючых.

Млынар Ёсель гаварыў тое-ж што і поп Куродым. Гэта адразу выклікала да яго прыхільнасьць і павагу з боку тых, што сабраліся сюды маліцца і разам з папом прасіць у бога паратунку.

Ёсель менш за ўсё цікавіўся гандлем. Убачыўшы, што ўсе захопленыя адной гутаркай, спачуваюць яму, Ёсель прыгаршчамі даставаў з возу яблыкі і грушы ды раздаваў іх прысутным так, дарэмна, прыгаварваючы:

— Ежце, ежце, добрыя людзі, усёроўна канец сьвету прыходзіць... Грошай на той сьвет не забярэш...

Ёсель быў задаволены. Ёсьць яшчэ людзі, якія яму спачуваюць! Ён не памыліўся, калі выбраў сваім штабам дзеля змаганьня царкву. Сюды зьбіраюцца якраз тыя, хто яму патрэбен. Толькі з гэтай пазыцыі можна яшчэ змагацца супроць „Перамогі“.

Трахім слухаў Ёселя з вялікім хваляваньнем. Гэта-ж Ёсель гаворыць тое самае, што і Вінцэсь, што і Баравік... Праўда, яму, Трахіму, тут нібы спачуваюць. Якімка часта гаворыць, што Трахіма крыўдзяць, прымушаюць зноў быць парабкам у колгасе, як некалі ў Вінцэся, і што трэба Трахіму трымацца рукі гаспадароў, каб ня быць парабкам. Трахім на ўсё гэта маўчыць і толькі нешта заўсёды думае сам пра сябе. За тыя дні, калі ён сядзеў у турме, Трахім многа перадумаў, шмат аб чым гаварылі з ім

у раёне, і ён зразумеў быў, што глыбока памыляўся, што ў яго нічога агульнага ня можа быць з ворагамі беднаты. Але калі вярнуўся назад ды зьвязаўся з Якімкам, зноў пачаў мяняцца. Нейкае зачарованае кола завярцелася на яго жыцьцёвай дарозе, і ён, сарваўшыся з зямлі, круціцца ў гэтым коле, ня могучы з яго вызваліцца.

Трахіму да болю нясьцерпна было насіць у сабе далей свае трывожныя думкі. Ужо даўно хацелася параіцца з кім па шчырасьці, але з такім чалавекам, які б зразумеў яго, і дапамог у такія трудныя хвіліны. Толькі-ж, апрача Якімкі, ня было ў яго такіх блізкіх знаёмых прыяцеляў. Колгасьнікі глядзяць на Трахіма ўсё яшчэ коса, як на свайго ворага, а не таварыша.

І ў той жа дзень, вярнуўшыся з царквы, Трахім парашыў пагаварыць аб усім са Сьцёпкам.

Ён гаварыў дрыжачым голасам, нібы яго трэсла ад сібірнага холаду. Сьцёпка надзвычайна быў зьдзіўлены ад такой бацькавай перамены. Значыцца, бацька сапраўды хоча вярнуцца ў сваю сям'ю, ён перамяніўся і на Сьцёпку ня злуецца, наадварот, як-бы просіць у яго, малога, дапамогі парваць з мінулым, такім чорным і жудасным, ды ўзыйсьці на новую дарогу беспаваротна.

— Навошта-ж ты ходзіш да Якіма? Што ён табе—прыяцель які, ці сваяк!—сказаў Сьцёпка.

— А да каго мне было ісьці. Адзін толькі ён і спачуваў маёй бядзе, а іншыя так сабе... Для ўсіх я быў чужым і зьненавідным. Нават сям'я і тая адвярнулася...

„Але, усё гэта праўда,—думаў Сьцёпка, слухаючы бацьку.—З бацькам ніхто ніколі не гаварыў аб гэтым сур'ёзна, апрача Якімкі. Але Якімкава спачуваньне вяло яго зноў назад, да ранейшага. Можа я сам больш вінаваты ў бацькавай бядзе і пакутах цяперашніх, чым ён,—я абыходзіўся з ім, як усе іншыя, з таго часу, калі бацька вярнуўся з турмы..."

Нявымоўны жаль агарнуў Сьцёпку. Гэта-ж зноў праз яго, як думалася яму, магла адбыцца такая трагэдыя, і яшчэ мо' куды большая, чым тады... Гэта-ж зноў бацькавымі рукамі рыхтаваліся ворагі ўзарваць колгас...

* * *

Назаўтра Сьцёпка з бацькам зайшлі да Міляўскага. Міляўскі з увагаю выслухаў Трахіма.

— Я веру, што табе было цяжка,—адказаў Міляўскі,—што ты ня мог адразу перамагчы ня толькі свайго цёмнага ўласьніцкага, але і націску сваіх-жа ворагаў, якія прыкідваліся перад табой шчырымі прыяцелямі ды кожны з іх стараўся выкарыстаць цябе для змаганьня супроць колгасу. Ты-ж для іх быў козырам,—ты бядняк. Мы, праўда, забыліся пра цябе, каму патрэбна была таварыская дапамога ўсяго колектыву. А наш вораг гэта скарыстаў. Але ўсё тое, што было, відаць, пашло табе на карысьць. Мне хочацца верыць, што ты ўжо наш

і болей ня зьвіхнешся на гэтай новай для цябе дарозе, на якую ты ўзыходзіш з сёньнешняга дня.

— Я... я з дарагой душы буду дзякаваць вам, таварыш... Мне брыдка перад вамі, брыдка перад усімі людзьмі. Я прашу ўзяць на ўвагу... Я не магу болей быць пасяродку... хачу да вас... у колектыў...

Трахім замоўк, выціраючы рукавом сьлязьлівыя вочы.

— Добра, Трахім, перастань, гэтым нічога не паможаш. Я сёньня-ж пагавару аб табе на праўленьні. Думаю,— ты ўжо наш. Твой сын таксама выявіў сябе за гэты час, як шчырага работніка, і гэтым значна зьмякчыў сваю цяжкую віну перад колгасам. Вы нам прынесьлі многа шкоды, але разам з гэтым і дапамаглі выявіць сапраўдных ворагаў, якіх мы бязьлітасна зьнішчаем і будзем зьнішчаць да апошняга.

## IX. На поўны ход!

На Галіцу прышлі многія з палахлівымі думамі. У першы дзень ачысьцілі балота—высеклі кусты ды зламжылі іх у сьціжарні.

— Няхай падсохнуць,—гаварыў Міляўскі.—Калі скончым работу, тады запалім іх усе адразу.

— Паразганяем усіх чарцей з Галіцы,—жартліва дапаўняў Лявон.

Чыстая, гладкая раўніна ўжо ня так палохала людзей. Балота адразу папрыгажэла, пазграбнела.

— Галіца падгалілася,—жартавалі мужчыны. Ужо ня сорам і людзям паказаць і самому пагдядзець.

— Яшчэ ня так закрасуе наша бабулька, калі адзенецца вясною ў новую зялёную сукенку,—радаваўся Міляўскі.

І з першага-ж дня пачала траціцца ў людзей вера ў непарушную сілу балота.

— Ня так чорт страшан, як яго малююць,—нібы апраўдваючыся, паўтараў Марцін, які вышаў на балота таксама неахвотна.

— Гэта так бывае: за што вялікае ні бярэшся, адразу нейк боязна. Нашто табе што, у мяне згніла была хата,—гаварыў у час абеду стары Мацей.—Колькі я перадумаў, колькі высушыў мазгоў,—страшна было прыступіцца. А потым—пачаў і скончыў. Так і ўсё.

— Ты кажаш хату. Нашто далёка хадзіць. Успомні, як мы колгас стваралі,—перапыняў яго Міхалка Саўчык.—Ты, і другі, і пяты, дзесяты—мала думаў? Нават, унь, удава Параска, у якой, як кажуць, ні кала, ні двара, і тая-ж, бачыш, доўга думала, пакуль адважылася ўступіць у колгас. А цяпер яна—самая шчасьлівая на сьвеце. А Трахім?..

— Трахіма Вінцэсь зводзіў.

— Зводзіў то зводзіў, гэта праўда,—трымаўся сваё думкі Міхалка,—але ж Трахім і сваю галаву мае... Гэта ўжо спакон веку ў нас так. Пакуль рукамі не абмацаеш—датуль ня верыш. Расказваў адзін мой знаёмы

з Старыны пра такі выпадак. Жыў у іх такі чалавек, што век ня мыўся. Дажыў да старасьці, а ў вадзе ня быў. Ня тое, каб у лазьні—у начоўках ніколі ня мыўся. Калі яму хто напамінаў пра лазьню, ён адказваў: „Мядзьведзь ніколі ня мыецца, а які дужы і здаровы“. І вось моцна захварэў гэты чалавек. Прывезьлі доктара. Той агледзеў, аслухаў і сказаў: „Занесьці хворага ў лазьню і харашэнька выпарыць. Калі не паможа, дык нічога не паможа“. Сыны хворага паслухаліся доктара. Старога сілком занесьлі ў лазьню і добра вымылі. Першы раз на вяку. І што-б вы думалі—стары ачуняў. Усё як рукою зьняло. Відаць, была моцная прастуда. Але пасьля гэтага ён ужо сам хадзіў у лазьню кожнае суботы,—так яна яму спадабалася.

Работа на Галіцы з першых дзён пашла спорна. Тэхнік Вішнеўскі зрабіў падлік і прышоў да вываду: каб асушыць балота, хопіць трох канаў. Галіца была акружана рэчкаю, лесам і з аднаго боку поплавам. Канавы павінны сьцягваць ваду ў рэчку. З гэтым згадзіліся. Падлічылі людзей. Было аж пяцьдзесят чалавек. Міляўскі зрабіў прапанову: скласьці пяць брыгад, кожнай вызначыць роўныя кавалкі і—хто скарэй.

На другі дзень балота заквахтала. Гострыя рыдлёўкі заўзята ўразаліся ў грудзі Галіцы. А на ўспушаным імху вырасталі чорных пухіры—пісагі.

Паразганяныя з балота яго вечныя адзіныя насельнікі—птушкі—кружыліся ў сіняве і з трывогай дзівіліся на гэтую, незразумелую для іх, работу.

Людзі, мокрыя, па калені ў гразі, ваяваілі з балотам. Кожная пядзя бралася з бою. Першыя перамогі абнадзейвалі людзей. І яны з яшчэ большым газартам накідаліся на чарговыя пазыцыі. Падшыхала ахвота—скарэй-бы да рэчкі!

* * *

Восень апускалася на палеткі павол, не сьпяшаючыся. Спачатку яна паслала на палёх сваю ценкую, шаўкавістую павуціну. Нейкія нявідочныя павукі снавалі на зямлі свае празрыстыя, кволыя, рэдкія сіты—палотны.

Убачыўшы першыя ніткі будучых палацён, людзі замітусіліся: „Ідзе восень, пара сеяць...“ У гэтым адчувалася і нейкая трывога, і спакойная сялянская радасьць.

Усё часьцей і часьцей над палямі кружацца гусі. Доўга плаваюць яны ў блакітнай сіняве, танцуюць свой звычайны адлётны танец, а потым чарада выбірае павадыра, які выстрайвае ключ і вядзе яго ў далёкі край, дзе вечнае сонца, дзе няма небясьпекі замерзнуць у лютыя маразы ад голаду і холаду. Звычайна гусі сьпяшаюцца, не чакаюць канца лета. Яны ведаюць, што прырода можа люта пажартаваць над імі, калі прапусьціць свой час. Бывае мароз захопіць раптоўна, неўспадзеўкі. Гора тады бястурботным!..

...Аднаго году зіма пачалася неяк увосень. Адразу-ж выпаў вялік сьнег, зямлю скавалі маразы. У той год яшчэ многа засталося нявыкапанай бульбы. Уся яна загінула марна. Гусей, што ляцелі з далёкае поўначы, гэтая раптоўная зіма захапіла ў Беларусі. Аднае ночы алёхаўцы былі разбуджаны дзікімі трывожнымі крыкамі гінучых гусей. Вялізная чарада іх даляцела да вёскі і тут асела. Гусі хаваліся пад страхі будынкаў, ратуючыся ад сьнегу і марозу. Праз нейкі час усе яны загінулі, здубянелі, бо мароз адразу схапіў іх, яшчэ гарачых, змораных вялікаю труднаю дарогаю. Алёхаўцы і цяпер часта ўспамінаюць тую восень, калі гусі самі прыляцелі на скавараду. Бяры толькі і смаж.

* * *

...Міляўскі першыя дні ня браў лішне на ўвагу таго, што шэсьць чалавек вышла з колгасу. „Адумаюцца, вернуцца. Работа новая і чакаць усяго можна. Тут нельга, каб усё гладка, як па працёртай дарозе“,— разважаў ён. Самае галоўнае—работа на Галіцы—на поўным ходу, працавалі там дружна і згодна.

Але чым больш адчувалася ў паветры восень, чым трывожней гаманілі, зьбіраючыся чародамі, пералётныя птушкі, тым большая трывога згушчалася і над колгасам. „Нязгоднікі“, як празвалі цяпер у колгасе групу Якімкі, настойліва насядалі на праўленьне, каб адвялі ім для засеву надзелы і вярнулі абагуленую жывёлу. Яны пусьцілі ў ход усё, каб узьняць і іншых супроць праўленьня, асабліва Міляўскага. І самым зручным часам для такой іхняе работы быў прыход восені. У земляробаў загаварыў прыродны інстынкт. Восень пачыналася—пара сеяць, бо сяўбы на зіму ніколі ніхто не адкладвае. Людзі суседніх вёсак распачалі сяўбу а „Перамога“ траціць увесь час на Галіцу. А ці будзе з гэтай работы карысьць? Спазьніцца з сяўбою, гэта значыла застацца на ўвесь год бяз хлеба.

Трывога нарастала з кожным днём. Праз нейкі час аб гэтым загаварылі голасна, рашуча, з абурэньнем... Большасьць была згодна кінуць зараз-жа Галіцу і перайсьці на сяўбу.

Міляўскі цэлымі днямі гайсаў, як няпрытомны, па палёх, па балоце, бегаў кожны дзень ў раён, прасіўся, угаварваў. Яму ўсё абяцалі прыслаць трактарную калёну з машына-трактарнай станцыі. Але дні імчаліся бегма, абмінаючы ўсялякія абяцаньні.

І раптам здарылася тое, чаго Міляўскі чакаў менш за ўсё. У адзін пагодны дзень большасьць на Галіцу ня вышла.

Якімка Бандарчук, вясёлы і радасны, бегаў па вуліцы і лемантаваў:

— Ну, не па-маему вышла? А што я казаў? Каго-ж вы паслухалі? Міляўскага? Гэтулькі, пане мой, часу і сілы пахавалі ў чортавым балоце!. Казаў-жа вам, дурням, з гэтага квасу піва ня будзе...

Мужчыны самі, без жадных загадаў праўленьня, пачалі запрагаць коняй. Тыя, што вышлі зранку на балота, варочаліся назад.

Міляўскі з старшыні апынуўся ў ролі простага сьведкі гэтага нечаканага здарэньня. Што заставалася рабіць? Угаварваць—ніхто не паслухае. Абяцаць дапамогі з раёну? Ужо абяцаў два тыдні... І заставацца з боку ад усяго, што рабілася, значыцца, прызнаць поўную няздольнасьць кіраваць колгасам... Тысячы розных думак мутусілася ў задуменнай сівай галаве друкара Міляўскага. Але ніводная з іх не давала надзейнай нарады.

Ашаломлены гэтым здарэньнем, ён зайшоў у сваю кватэру, прысеў за сталом і моцна задумаўся. Надыходзіў рашучы міг для справы, якую ён распачаў...

А на дзядзінцы перад школаю па-ранейшаму скакаў, як шустры хлапчук, вясёлы сёньня Якімка, а з ім і ўвесь склад новага колгасу. Як-жа было не радавацца? Сёньня сьвята на іхняй вуліцы! Міляўскі падаў і яго трэба было штурхануць так, каб больш ня ўстаў, і гэтым самым расчысьціць дарогу для новага колгасу Якімкі...

Паўлюк вярнуўся з работы апошнім. Ён, не пераадзяваючыся, забег да Міляўскага.

— Ну, чаго-ж ты сядзіш, стары?

Міляўскі нібы прачнуўся ад гэтага запытаньня.

— Проста ня ведаю, што рабіць... І ніколі гэтага са мною, чорт пабяры, ня было...— адказаў ён.

— Што рабіць? Зараз-жа хадзем у раён. І паставім пытаньне рубам—памогуць яны нам, ці не? Калі няма надзеі, спынім работу на Галіцы...

— Бачыш, ужо спынілі...

— Няхай едуць на поле. Вярнуць назад людзей сёньня нельга. Гэтым толькі можна пашкодзіць. Няхай пачынаюць араць клін, што каля лесу.

— Добра,—згадзіўся нарэшце ён.— Хадзем.

Калі Міляўскі абвясьціў, што работу на Галіцы яны на сёньня спыняюць і што ўсе павінны выехаць у поле, Якімка з сваім „колгасам" ня ведаў, дзе дзецца ад радасьці. Ён перамог! Ён-жа аб гэтым гаварыў тады, калі толькі пачыналі работу . . . . . . . . . . . . . . .

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

... Але, што гэта за гуд такі знаёмы плыве з-за- горкі?.. І што раз—усё зычней і выразьней чуваць гэты гуд... У кожнага на твары застыла радаснае пытаньне: „Няўжо трактары?"

Але, так і ёсьць. Вунь ужо выразна відаць яны на горцы каля лесу Куды-ж больш ім заходзіць, калі не ў „Перамогу"?

Міляўскі, убачыўшы трактары на іхняй дарозе, шчасьліва ўсьміхнуўся. І па гэтай усьмешцы ўсе зразумелі, што трактары паўзуць іменна ў „Перамогу". Значыцца, ён не абманваў, як пра гэта ўвесь час крычаў Якімка

і другія. Трактары ідуць! Трактары загудуць на іхніх палетках! Сяўба забясьпечана!

Роўным паяском паўзла калёна трактароў па вузкай прасёлкавай дарожцы, што вяла з мястэчка ў колгас. Калі параўнялася яна з грамадою, трактарыст з першага трактару запытаўся:

— Тут „Перамога“?

— Але, але, таварыш, тут!—траха ня ўсе разам адказалі яму.

Трактары спыніліся. Іх акружылі з усіх бакоў...

— Цяпер „Перамога“ пашла на поўны ход!—гаварыў узрадаваны Міляўскі, вітаючы трактарную калёну.

Запрэжаныя ў плугі колгаскія коні стаялі здалёку, натапырыўшы вушы, і зьдзіўлена, нічога не разумеючы, глядзелі на сваю замену...

## Заключэньне

Другая колгасная вясна прышла з новымі перамогамі. Рэчка ня здрадзіла. Галае балота зазелянелася густым роўным дыванам разам з усімі паплавамі. Дзіва адбывалася на балоце: у маі месяцы людзі спакойна ўзыходзілі на зялёнае, гладкае і шырокае балота, тупалі па ім, гайдаліся і—хоць-бы што,—балота трымае на сабе чалавека! Нават мыліцава струга, тая струга, пра якую вякамі складаліся жахлівыя лягэнды, падсохла, асунулася на грунт, і на ёй сям-там адскочыла дробная асака. Тры шырокія канавы зіялі глыбокімі чорнымі ранамі на грудзях Галіцы, як сьлед складанай і цяжкай апэрацыі. Усю ржавую вадзяністую твань—брудную, гнілую кроў балота—выссалі, як п‘яўкі, гэтыя раны.

Людзі прыходзілі сюды з суседніх вёсак і любаваліся адноўленай сенажацьцю. Дзівіліся з такога цуда, хвалілі колгас.

Міляўскі так захапіўся работаю, што ня меў ніколі вольнай хвіліны напісаць сваім друкаром, хоць пра іх колгас за апошнюю зіму часта друкаваліся маленькія, кароценькія заметкі за подпісам Юзіка і Сьцёпкі.

Жыцьцё станавілася шырокім, поўным і прывабным. Кожны дзень адкрываліся новыя і новыя даляглялы, куды імкнулася „Перамога“ ў сваім жалезным, няўхільным поступе. У кожнай драбніцы цяперашняй работы Міляўскі бачыў вялізарны сэнс, і гэта напаўняла яго цьвёрдаю вераю ў будучыню, дзеля якой варта жыць і змагацца. Бо тое, што яны робяць, гэта-ж і ёсьць фундамант будучыні. Час і ўпартая праца зробяць сваё. Абы гэты фундамант быў моцны і правільна закладзены. І тыя што закладаюць аснову, робяць найадказнейшую справу. Таму тут мала адных кіраўнікоў—патрэбна сіла і вочы мільёнаў, каб усё дагледзець, не прапусьціць ніводнай шчылінкі, куды вораг мог-бы закласьці свой разбураючы дынаміт.

Такая сіла нарастала з кожным днём.

Міляўскі перажываў лепшыя хвіліны свайго жыцьця. Ён апраўдаў надзеі паслаўшых яго таварышоў. Пачатак зроблены. Суседнія вёскі заварушыліся. Сельсавет пераходзіць на суцэльную колектывізацыю.

Млынар Ёсель разам з папом Куродымам былі сасланы, як сапраўдныя ворагі колгасу, яшчэ з восені. А на царкоўнай каланчы красаваўся чырвоны сьцяг. Крыху ніжэй, над дзьвярыма, вісела шырокая вялікая шыльда:

КЛЮБ
Борскага Сельсавету.

Сьцёпка з Юзікам цяпер разам бегалі ў сямігодку.

Менск—1930 г.

## 10 ТЫСЯЧ ГЭКТАРАЎ

**Клім Грыневіч**

МАЛЮНАК СТАРОГА БАЛОТА

Дзе бярозы ветрамі
Плёваюць лістоту.
Дзесяць тысяч гэктараў
Чорнага балота—
Зелянелі лотаці,
Часам зацьвіталі...
Воўк цыбатай постацьцю
Шчэрыўся
        У аддалі...
Журавіны плесьняю
Засьцілалі подал.
І жахлівых песень
Вандравала постаць...
І жахлівых песень
Ня сьціхалі рытмы...
Сьмерць заўсёды
        Несла
Злая малярыя...
А ваўчыха шэрая
Ад ціхуткіх шорахаў—
Зубы хціва шчэрыла
На атаву
        Зорак...
... Дзе бярозы ветрамі
Плёваюць лістоту—
Дзесяць тысяч гэктараў
Чорнага балота.

МАЛЮНАК ПРАЦЫ НА БАЛОЦЕ

Людзі
        ад ночы
                да раньня—
                        капалі,
Вазілі,
        грузілі,
                кідалі
                        карэньне...

Людзі—
ля моцных
чарпалак
пасталі,
З песьняю
поплеч
вяседьнай...
Яна-ж
зуравая—
расла,
маладзела
Пад сонцам
гарачым,
вялікім,
чырвоным...
... Канавы,
каналы—
радочкамі
беглі,
Прывабна,
прыгожа
і роўна.

ПРАЦЯГ ГЭТАГА МАЛЮНКУ

І так ад вечара—
да раньня
Зьвінелі песьні,
сьмех юнацкі..
Ноч замяняў—
ружовы ранак,
А ранак—
буйны шолах працы...
І дні плылі,
як тыя градкі,
Па тракце радасьці
і песень...
Штодзень выходзілі брыгады,
Каб гмахі буйныя узьнесьці...
Штодзень у шоласе
ударны
Узмахі піл і абухоў—
Напорна так
перараблялі

Краіну
сумную
імхоў...
І ноч зьмяняў—
ружовы ранак,
Праменьнем ноч
Ён залівау...
І зоры з сонечных
паўстанкаў
Праменьні
слалі
далавах...

## НОВЫ МАЛЮНАК БАЛОТА

Ручайкі—
паплылі,
пабеглі...
У шырэйшы за ўсе—
канал.
Распрасьцёрлася сонца белае.
Белае, як
вясна...
На балоце—
пасохлі лотаці,
Паламаўся,
апаў чарот...
Даль балота ўжо залоціцца
Дымным
золатам
трактароў...
Скрозь пасталі ўзгоркі—
насыпы
На ўзгорках
у копах торп...
Даль глядзіцца—
такая ясная—
Бы хусьцінка ў любай...
той...
Ручайкі
паплылі,
пабеглі...

Пасмамі валакна...
Распрасьцёрлася
сонца белае
І ўпала
у канал.

АПОШНІ МАЛЮНАК—ЭПІЛЁГ

Дзе красавік ветрамі
Пеніўся,
гайсаў,
Дзесяць тысяч гэктараў—
жоўтага аўса...
Шарушыць галоўкамі—
Залатымі
пёрамі.
Вецер ціха соўкае
гэту гладзь
вазёрную...
Зоры ноч расьсеяла
Жаўтаватым золатам...
Тэмпам буйным сьцеліцца
Працы нашай
моладасьць...
Дзе красавік ветрамі
пеніўся,
сайгаў:—
Дзесяць тысяч гэктараў:
Возера аўса.

Май 1931 г.
г. Менск.

## КРЫВАВЫ ЛІПЕНЬ

**Клім Грыневіч**

У памяці
не
заліпне,
і не закрэсьліцца
у
кнігах—
Крывавы
дваццатага
ліпень
Каля Дняпра
і
Нямігі...
Кулі
прасьвечвалі
сьцены,
Грызьлі
зубамі
фасады.
І ноччу
хавала
цемень
Сьмерць
за сваім
станам.
Што ім
хварэць
за тое,
Што сталі
заводы
і фабрыкі?!
Што ім
хварэць
за тое,
Што людзі
крывёю
харкаюць...

У калёнах
ідуць
салдаты,
Едуць
у сьлед
афіцэры...
Кулі пракалваюць
сьцены,
Зубамі
грызуць
фасады.
Вораг
узводзіць
дулы,
У балёнах
вязе
іпрыт
На рэспуб-
ліку
маладую,—
На краіну
вясны
і зары...
Што ім
хварэць
за тое—
Што
сталі
заводы
і фабрыкі!?
Што ім
хварэць
за тое—
Што
людзі
крывёю
харкаюць?!
Рэспубліка
ведае,
што—
Да сьмерці
патрэбна
біцца,

Каб ніў
    залаты
        прастор
Заўсёды
    рунеў
        каласіста...
Каб
    фабрык
        і домнаў
            пульс
Біўся
    заўсёды
        разьмерана—
У лівень
    студзёных
        куль
Рушаць
    яна
        ўпэўнена—
у бой
    за жыцьцё!
    за сьмерць—
Ворагу
    краю
        вольнага...
Каб
    каласіўся
        ячмень
На полі
    калгаскім
        заўзятым...
У памяці
        не заліпне
І не
    закрэсьліцца
        ў кнігах
Крывавы
    дваццатага
        ліпень
Каля
    Дняпра
        і Нямігі.

Чэрвень 1931 г.
Менск.

## ЛЯСЬНІК

Паўлюк Буравей

Да дню вызваленьня Беларусі ад белапалякаў

Ціхі шэпат асін і дубоў...
Шмат чаго ў гэтым шэпаце тоіцца.
На дубовых, карузлых гарбох
Упісаны—Зьмітраўка і Тройца...

І яны, з даўным даўна—гарбы
Пранізаны да шчэпачкі кулямі.
Тоне казка,—а праўды быль
Не адной пуцявіны абуранай.

То ня сон, а сьляды эпопей
Адшумеўшай мінуўшчыны даўняе...
. . . . .
З ціхім тонам праз зубы сабе
Напяваюць лісты песьню слаўную...

*

А Макар, як той згроблены дуб,
Пакарбачаны доўгімі бойкамі,
Перапоўнены скарбамі дум,
Аглядае дзялянкі звонкія.

Знае ён,—нішчуць лес напавал,
Не шкадуюць бяроз кудравых,
Толькі ноч—запявае піла,
Па калдобінах цёмных, ды ямінах.

А таму, ён так пільна глядзіць
Да пянька прытуліўшыся лісіцаю,
Побач з ім і яго Маладзік—
Сабачонка прыгожы—лысенькі.

Гляне ўзад,—на палянцы былой
Маладняк карагодам усьпеніўся,
Дзе зусім ня так даўно
Зарастала мясьціна верасам.

Прабяжыць па Макару настрой,—
Пацалуецца шчыра з падросткамі,
Загаворыць, як брат з сястрой
Пасьля доўгай жыцьцёвай ростані.

І з запалам прабеглым былым,
З пачуцьцёвымі хвілямі радасьці
Прагаворыць сасонкам малым:
— Падрастайце хутчэй, мае кадры!



А калі, заскігоча сава
І ноч вылупіць чорныя зрэнкі—
Задумёнасьць пачне хвалявацъ
З непамернаю сілай нейкай.

Шапку ўзьдзене на вочы Макар,
Вочы ўтупіць ў гушчарнік дубровы
І пачне на вусы ўсё матаць:
Што прайшоў, перажыў ў дні суровыя.

А як яшчарка шархне пад хваростам
Ці удод праляціць паміж гольля—
Зноў Макар малады і халосты,
Партызан, барацьбіт, комсамолец.

А як вяхне яго Маладзік
На зайчонку, а ці мо' на ліса—
Ўхопіць ён дубальтоўку, як цьвік.
І на варце трымае у высі.

Зноў яму ўсплывуць на экран
З грамадзянскае бойкі малюнкі:
Грабяжы... Кулямёты... Знарад...
Партызаны у лесе з клумкамі...

Тое ўсё, што Макар перажыў,
Тое ўсё, што дачасна скалечала,

Дзе героі галовы злажылі
На крывёю палёх аквечаных.

. . . . . .

А як ў ноч загамоніць лес,
Гаркнуць дзесьці начлежнікі песьні,
Зноў Макар у сябе увесь,
Маладзенькім сасонкам равесьнікам.

Зноў закідвае цераз плячо
Свайго сябра душы—дубальтоўку,
Намячае заданьне вачом,
Каб агледзіць усе сасонкі.

Раз абыйдзе і зноўку дамоў,
Маладзік памагае старому.
І жыцьцё сваё так аддамо
Для карысьці і росту дубровы...

Менск
24-V—31 г.

# КАЛЯ АДЧЫНЕНАЙ БРАМЫ

*(Працяг)*

**Доўгапольскі**

## X. Мобілізацыя

У апошнія два дні было золкае надвор'е. Дождж і вецер сагнаў сьнег. Зноў паказаўся голы і сьлізкі брук.

Брацкія могілкі прытуліліся да паркану. Вянкі і істужкі ўсмакталіся ў сырую зямлю навокал. Надмагільныя горкі паабсыпаліся і страцілі свой спэцыфічны магільны выгляд.

Рынак і шляхі, што вядуць да яго, былі залітымі і бруднымі ад талага сьнегу. Горад амаль што адрэзаны быў ад вакольнага сьвету. Ніводнай фурманкі не паказалася, ніводнага новага тавару.

Ужо другія суткі, як позьняцца пасажырскія цягнікі. Рамізьнікі кожны раз едуць на станцыю і кожны раз пустымі варочаюцца назад.

— Яшчэ на восем гадзін спазьніўся, дай божа, каб ён хоць пад раньне прышоў, сьмела спаць можна ісьці.

У комгасе сёньня быў цяжкі дзень. Фурманкі, якія павінны былі прывезьці дровы з суседняга лесу, вярнуліся пустымі.

— Рэчка разьлілася,—ні на санях, ні ў колах. Вышэй жывата па вадзе коні ішлі.

— Тут ніякія тлумачэньні, таварыш, не памогуць,—вышаў Ісроэл да фурманоў.— Больніца бяз дроў засталася, нават няма чым ваду прыгатаваць.

— Кажуць-жа табе, Ісроэл, ясна і выразна. Няма чаго нас на цыгуидар брацы. Мы сваіх коняй псаваць ня будзем. Мы маем у хаце жонку з дзяцьмі,—вышаў наперад Мошка, фурман.—Хлопцы, едзем да хаты.

— За кожную фурманку дроў вы атрымаеце паўпуда солі,—спакойна запрапанаваў Ісроэл,—адразу вярнецеся назад.

Фурманы пераглянуліся.

— Гэта вам у пуд абыдзецца,—сказаў Мошка і тужэй зацягнуў папругу.

— За кожны куб дроў вы атрымаеце тры пуды солі. Цяпер, або адразу выяжджайце, або вон адсюль,—сказаў Ісроэл і пашоў да сябе ў габінэт, моцна бразнуўшы дзьвярыма.

— Мы едзем,—сказаў Мошка, стукаючы пугаўём у дзьверы.

— Таварышы, не марудзьце, вышаў зноў Ісроэль да фурманоў. Да ночы вы павінны назад вярнуцца.

Ісроэл вярнуўся дамоў з комгасу калі ўжо цёмна было. Адчуваў ён пэўнае задаваленьне, па-першае, ад таго, што дровы для больніцы будуць, а па-другое, ён сёньня паёк атрымаў—адказны. Жонка заўважыла яго праз вакно і на радасьці дзьверы яму адчыніла.

— Цукар таксама?—спытаўся ён.

— Мёд, здаецца.

Жонка падрыхтавала сьвежую і сытую вячэру, пачаставала падарункамі і гаспадыню дому, якая ціха, няпрыкметна для чужых, разам з сваім старым, часам галадавалі.

Гаспадыня, шасьцідзесяцігадовая старая, зайшла падзякаваць за падарункі.

— Дзякую, дзеці, дзякую. Ведаеце, каго зараз вельмі шкада, гэта птушак, варон. Чалавек заўсёды як-небудзь сабе рады дасьць, але птушкі кожную раніцу чакаюць мяне: хто з іх вартуе мяне на паркане, хто на даху, хто на варотах. Калі я з цэбрам выходжу—цэлая вясельле на двары пачынаецца, крыльлямі лапатаць пачынаюць. Я выліваю цэбар—яны ўсе вакол зьбіраюцца, шукаюць, шукаюць... Але шукай дзень, шукай два—калі зараз шалупіна ад бульбы і тая каштоўная рэч... Калісь бывала на суботу я птушкам цэлы чыгун кашы навару... Так, калісьці было...

У дзьверы паказаўся сам стары, у рыпсавай шапцы, у чорным вельмі паношаным суботнім сурдуце, які ўжо даўно страціў свой сьвяточны выгляд.

— Ты мусіць забылася, што воск у печы, а печ моцна напалена.

— Так. Ён-жа мае рацыю, час ужо рабіць сьвечы на хануку [1]), заўтра-ж першая сьвечка.

— Яна кажа пра гэта Ісроэлу. Вельмі ў галаве яму твае сьвечкі ха-ха-ха.

Старыя вышлі з пакою і на парозе сустрэліся з Мондэкам і Вафнэ, маладым рабочым, які набыў славутасьць сваімі дасьціпнымі жартамі і выступленьнямі, яшчэ ў часе першых генэральных мітынгаў сіоністых.

—Я па вас прышоў. Атрымана тэлеграма,—патрабуюць 25 таварышоў членаў профсаюзаў. Трэба на фронт ісьці, таварыш Ісроэл.

Праз гадзіну жонка Ісроэла пакінула дзіця пад наглядам гаспадыні і пайшла ў клюб. Там ужо сабралася некалькі дзесяткаў таварышоў, якія жвава абгаворвалі пытаньне адносна мобілізацыі.

Тэлеграму сустрэлі з энтузіязмам. Больш дзесяці таварышоў запісаліся добраахвотнікамі, і настрой быў надзвычай узьняты і ўрачысты. Людзі былі падрыхтаваны да гэтага адказнага моманту.

[1]) Ханука—гэта яўрэйскае нацыянальнае сьвята, якое азначаецца тым, што ўвечары паляць сьвечкі ў гонар паўстаньня Макабееў за нацыянальнае вызваленьне яўрэйскага народу.

— Я іду, Ханка,—ляпнуў Мондык па сьпіне „гаспадыню“ клюбу, якая ў гэты вечар была нешта асабліва клапатлівай.

Дахаты Ісроэл прышоў блізка ля поўначы. Марозіла і ў твар біў нейкі сухі сьнег. На рагу ён сустрэў Глонца.

— Трэба на фронт ісьці, Ісроэл. А як вы, Ісроэл?—спытаўся Глонц.

Сьнег сыпаў цэлую ноч. Пасьвятлела ў вачох. У горадзе ўжо гаварылі адносна мобілізацыі. У камісарыхавай хаце сабраліся гандляры і, стоячы ў валёнках ля грубкі, паціралі рукі ад радасьці.

Глонца таксама мобілізавалі.

— Узялі ў работу, кажуць, таксама і бундаўцаў.

— А я паленаваўся-б на фронт пайсьці ў гэткую халадэчу... Сьцюдзёна. Сівер прабірае...

Камісарыха пальцам паказала на дзьверы пакою.

— Ваш сусед пайшоў... Яго таксама мобілізуюць.

— Замаўчэце спэкулянты,—сказала камісарыха.—Вы ня варты таго, што вас зямля трымае. Стаяць у валёнках ля грубкі, засмучоныя, спахмурнелыя, сорам вам.

Мобілізацыйны настрой ахапіў увесь горад. Стомленыя, напоўгалодныя маткі пацiху ад дзяцей лілі сьлёзы, і пачалі бялізну для дзяцей мыць, шкарпэткі рабіць, ватоўкі латаць.

Мобілізаваная група з сьвяточна-ўрачыстым выглядам разьвітвалася з сваімі нявестамі.

У кравецкай майстэрні спорна ішла работа. Додл падганяў усіх.

— Таварышы, кажушкі абавязкова павінны быць заўтра гатовы.

— Хіба калі скрозь усю ноч працаваць.

— Усю ноч. Мы, таварышы, таксама мобілізаваны, мы таксама салдаты.

— А газа?

— Хутка прынясуць лямпы і газу.

Былі ў горадзе таварышы, якія на нейкі час вярнуліся дахаты, параненымі і стомленымі. Яны расказвалі: тыфус, голад, і галоўнае, варта толькі яўрэю трапіць у палон, дык ён абавязкова падпадзе пад самыя лютыя катаваньні, пакуль не памрэ ад рукі гвалтаўнікоў. Усё-ж гэта ня стрымлівала маладых рабочых, якія рваліся на фронт. У вызначаны час усе яны зьявіліся ў камісарыят. Некаторыя таварышы зьявіліся нават на сход з рэвальвэрамі ў кішэні.

Мондык прышоў на сход адным з першых. У дзьвярах клюбу ён зрабіў круг алоўкам, адлічыў дванаццаць крокаў і крыкнуў:

— Хлопцы, сьцеражэцеся, страляю.

— Куля трапіла ў цэнтр кругу. Нос казытаў густы парахавы дым.

Можна было заўважыць, што ў клюбе многа кабет і вельмі мала хлопцаў. Мондак ня стрымаўся і з месца заўважыў:

— Хлопцы на печы ляжаць... Дайце зноў страляць буду. І ў другі раз таксама трапіў у цэнтр кругу.

## XI. Як гэта здарылася

Глонц ляжаў у сябе ў пакоі. Ён адчуваў сябе вельмі стомленым. У галаве муціла, і яму цяжка было падняцца з ложку.

Ён усё ўкручваўся ў байкавую коўдру і стараўся як-небудзь заснуць. Некалькі з мобілізаваных таварышоў засталіся яшчэ ў горадзе. А астатнія разьехаліся па вёсках з бацькамі разьвітацца. Таварышы Глонца па партыі—пераважна сялянскія дзеці, якія яшчэ моцна зьвязаны былі з уласьніцкай вёскай.

Пётра таксама да сябе ў вёску паехаў, у Лесарубаўку. Дні праз два ён мае вярнуцца назад.

Глонц успамінае Лесарубаўку. Нейкія цёплыя пачуцьці выклікае ў яго ўспамін пра вёску. Ён мацае рану на галаве, яна ўжо загойваецца.

— Хто вінаваты, што ён жыць застаўся? Шура. Яна, уласна, ад сьмерці яго выратавала. Ён успамінае ўсе падрабязнасьці гэтага здарэньня.

Бандыты зайшлі ў вёску раніцою. Сяляне ўжо малацілі. Яго, Глонца, ледзь пабудзілі. Ля яго ложку стаяла Шура.

— Бараджэй!.. Бандыты ў вёсцы. Забілі старшыню, таварыша Варкіна забілі.

Доўга разважаць ня было калі. Пётра адразу выскачыў з хаты. Яго, Пётру, яны ўжо ня зловяць.

Але Глонц, што тут з Глонцам рабіць? Да суседзяў бандыты ня зойдуць, але сусед сам даволі бандыцкага настрою. У сьвіране—няпэўны схоў. У старой царкве—таксама.

Шура з месца сарвалася і падышла да Глонца:

— Да бацькі ў сьвіран ня можна. Яны туды шукаць прыдуць... Маю добрае месца. Хутчэй сюды да мяне. Праз агарод ды ў школу, да настаўніка. Туды яны ня прыдуць. Дзьверы ў школе зачынены. Але я магу адчыніць іх.

З кухні яна ўзяла з сабой нож. Узяла акраец хлеба для Ўлана—сабакі настаўніка. Глонц намацаў у кішэні свой наган і разам з ёй пакінуў хату, шукаючы і мацаючы ў ранішняй цемры сьцежку, якая вядзе ў школу.

— Дай руку, ты тут без мяне ня трапіш... Я цябе ўпушчу ў школу, а ты замкніся. А як уздумаюць яны да настаўніка ісьці шукаць каго, дык яны да яго да хаты пойдуць, а ты тым часам, гэтай самай сьцежкай і да нас.

Сабака злосна і голасна забрахаў.

— Улан, Улан, ціха—заспакоіла Шура сабаку і кінула яму акраец хлеба. Хутка адчыніла яна нажом школьныя дзьверы, штурхнула Глонца ў школу і агародам вярнулася да сябе дадому.

Глонц доўга стаяў ля школьнага вакна. Ён пачуў тупат коняй. Яны набліжаюцца. Спыніліся ля школы. Два конных са стрэльбамі за пля-

чыма... Адзін конь з белай плямай на шыі... Гэта—конь Варкіна. Значыцца Варкін сапраўды забіты...

Глонц вынуў з кішэні рэвольвэр і падышоў да дзьвярэй. Улан злосна пачаў брахаць. Недзе рыпнулі дзьверы.

— Кажу табе, што тут нехта ёсьць,—пачуў Глонц.

Абодвы сышлі з коняй. Адзін падышоў да школьных дзьвярэй.

Моцна націснуў на іх—замкнёна.

— Станавіся ля дзьвярэй,—сказаў ён,—а сам да настаўніка пайду. Вартуй выхад—тут нехта ёсьць, сабака не дарма брэша.

Але Глонц ужо надумаўся што рабіць. Узяўшы ў правую руку наган, ён на пальцах падышоў да дзьвярэй. Асьцярожна падняў клямку і хутка адчыніўшы дзьверы, стрэліў раз, другі раз.

Чалавек, апрануты ў шэрае, упаў, як падкошаны. Як маланкай спаліць ускочыў Глонц у сядло, за вуздэчку падхапіў другога каня і пусьціўся галопам са школьнага двара.

— Іванчанка, Іванчанка,—пачуў Глонц голас з саду. Хутка нешта бліснула за вухам Глонца. Ён рукой намацаў гэтае месца—мокра, але Глонц яшчэ шпарчэй пагнаў каня. Адлегласьць паміж ім і кулямі, што наганялі яго, усё больш павялічвалася. „Каб дабрацца да гуты“, мігацела ў яго ў галаве.

Паміж Лесарубаўкай і гутай цягнуўся стары, густы лес. Дарога невялікая, усяго пяць вёрст, але небясьпечная: што куст—бандыт, што дрэва—вораг. І таму ён яшчэ мацней, яшчэ больш злосна гнаў каня. Ужо відны і аганькі рабочага пасёлку.

Ён пад'ехаў да фабрыкі, саскочыў з каня, галава нібы волавам налітая, уваччу—цямнее.

Калі да яго вярнулася прытомнасьць, ён убачыў ля свайго ложку групу рабочых і фабрычнага доктара.

— Чэрап цэлы. Рана лёгкая. Куля, сьлізнуўшы, закранула валасы і скуру—гаварыў доктар.

Калі Глонц разам з групай добра ўзброеных рабочых вярнуўся ў Лесарубаўку, ужо добра разьвіднела. Вёска хутка разабралася ў тым, што тут здарылася. Глонца вёска сустрэла як героя. Забітага бандыта Глонц ужо ў вёсцы не знайшоў,—уцякаючы бандыты яго забралі з сабою.

Конь Варкіна ўвесь час варушыў галавою і іржаў. Каля яго стаяў конь забітага бандыта. Сяляне з вялікай пашанай віталіся з Глонцам, які асабліва вызначаўся сярод усіх сваёй забінтаванай галавой.

У вёсцы адбыўся мітынг. Марудна і ціха зьбіраліся сяляне да таго месца, дзе ляжалі забітыя. Хутка падвезьлі трое саней, куды перанесьлі забітых.

Перад ад'ездам Глонц зайшоў да Пётры ў дом, дзе застаў Шуру. Убачыўшы Глонца, Шура нізка апусьціла вочы і густа пачырванела.

— Бывай здарова, таварыш,—падышоў Глонц да Шуры.

— Яны хацелі забіць настаўніка. Яны думалі, што гэта ён упусьціў цябе ў школу. Але адзін бандыт заступіўся за яго—яго вучань.

— Адзін з нас павінен быў быць забітым,—сказаў Глонц.

Увайшла Марыля, Шурына маці. Убачыўшы Глонца, яна пачала жагнацца і перапалоханая і злосная вышла з хаты. Глонц сябе адчуваў неяк няёмка, але Шура раптам сказала:

— Я разам з табою на пахаваньне пайду, туды, дзе забітыя.

Яны абодвы вышлі з хаты. У сенях ён зноў сустрэў Марылю.

— Бывайце здаровы,—падаў ён руку Марылі.

Моўчкі і сьпяшаючыся Марыля фартухом выцерла руку і падала яе Глонцу.

Калі процэсія кранулася з месца, сяляне і сялянкі пачалі жагнацца. Нейкая старая загаласіла. Уся сялянская маса стаяла як прыкутая, чакаючы, пакуль сані выедуць з вёскі.

Глонц сядзеў зьвесіўшы ногі сьпіной да каня і тварам да вёскі. Вось стаіць яна, Шура, паміж сялянамі і ніяк з яго вачэй ня спушчае, чакае і праводзіць яго, пакуль сані ня зьнікнуць у лясной густэчы.

## XII. Напярэдадні

Моцна пастукалі ў дзьверы.

— Уваходзьце,—адказаў Глонц.

У пакой увашла Ханка, расчырванелася ад хуткай хады і марозу ў таннай барашковай шапцы на галаве і ў кароткім сялянскім кажушку, які вісеў на ёй вузка і падзіцячаму.

Глонц узябраў яе рукі ў свае.

— Я прышла—ведаеце па што?

— У нас таварышы на ты гавораць.

— У нас таксама.

— А я магу?

— Ніхто вам не забараняе... У нас вечарына.

— Ляма? [1]).

— Не пасуе вам?

— З Ханкай, чаму не.

— Толькі бяз гіроніі.

— Можна з сабой праваслаўных таксама прывесьці?

— Бяз жартаў.

— Можна, значыцца, прыйсьці з праваслаўнымі?

— Толькі прашу бяз гіроніі...

— Вось заўзятая бундаўка.

— Каб вы прышлі.

---

[1]) Бундаўцы вечарыну звалі „лямай“.

— Калі прыйсьці?

— Заўтра, а дзевятай увечары.

— З таварышамі?

— З таварышамі.

— Дзе гэта вы такі прыгожы кажушок узялі?

— Ну, ну. Ня люблю я гэтага... Вы ўжо падрыхтаваліся да выезду?

— Яшчэ бялізны няма.

— А палатно маеце?

— Маю.

— Дайце сюды... Ня бойцеся, вашу бялізну мы асобна будзем шыць. Абодвы засьмяяліся.

— Ага! вы таксама ня хочаце цярпець. Ну дык перад адыходам дайце, Глонц, дайце вам пачапку прышыць да кажуха... Валяецца. У кашулі таксама гузікаў няма. Ня люблю я гэтага.

Белымі гострымі зубамі Ханка адкусіла кавалак ніткі і пачала на Глонцу ўшываць у кажушок гузік.

— Дзякую. Ведаеце што, Ханка, прыходзьце да нас і запоўніце анкету.

Ханка спынілася ў задуменьні.

Узяўшы пакунак матэрыялу для бялізны, ужо трымаючыся за клямку, яна напомніла:

— Вы можаце прывесьці з сабой пяць, шэсьць таварышоў, яны добрымі гасьцямі будуць.

На вуліцы Ханка сустрэла Ісроэла. Ён у руках трымаў ліст і ў вялікім замяшаньні чытаў яго. Ханка першая віталася з ім. Ісроэл яе вітаў даволі скупой ухмылкай і ня спыняючыся прайшоў міма яе з адкрытым лістом у руках.

Ён з Масквы ад Міхкі ліст атрымаў. Першы сказ—быў гэткі.

„... Таварыш Ісроэл. Я вышаў з „Бунду“... Я заву цябе „таварыш“, бо ведаю, што ў хуткім часе ты тое самае зробіш. Альбо мы працуем для рэволюцыі і тады мы павінны ўвайсьці ў партыю, альбо мы контрэволюцыянэры і тады мы палітычныя мерцьвякі...“

Ісроэл сваім вачом ня верыў. Усяго толькі два месяцы таму назад ён паехаў актыўным бундаўцам, а за такі кароткі час з ім здарыўся гэткі пераварот. Раз, другі, трэці раз ён прачытаў ліст, але тое самае. Так, яно гэтак. Гэта піша сам Міхка.

„... Яўрэйскі пролетарыят разгортвае надзвычайна вялікую работу, якраз таму ламанага граша ня варта вашая культурна-нацыянальная аўтаномія, якой вы дамагаецеся“.

Ісроэл узяўся за галаву. Міхка яму піша „вашая“. Злосны і маўклівы ён увайшоў у хату. Жонка думала, што гэты дрэнны настрой выкліканы тым, што ўчора Глонц спытаў яго: „А як вы, Ісроэл?“—таму яна сказала яму:

— Ведаеш што,—мобілізуйся. Я з сынам як-небудзь пражывем.

— З учарайшага дню ты як шалёны ходзіш.

Ісроэл крыху супакойся і сказаў:

— Міхка вышаў з Бунду.

— Я раней ведала, што гэтак яно будзе,—хутка пачуў Ісроэль у адказ.—Ён мне ўласна калісьці сказаў: „Бунд пад сабой ніякай глебы ня мае“.

Ісроэль адчуў сябе нібы пастарэлым на дзесяць год.

— ... „Я пачынаю адставаць ад сваіх таварышоў“ мільгацела ў мазгох: „тое, што мяне так узрушыла, мае таварышы чамусьці надзвычай спакойна ўспрымаюць“.

Ісроэль лічыў сябе значна вышэй сваёй жонкі. „Але ў агульным разьвіцьці яна ўсё-ж багацей за мяне. Я ўсяго толькі местачковы бундавец з старымі звычкамі і традыцыямі“,—сьвідравала яго.

Ён прысеў блізка да жонкі. Яна любіла яго. Ён гэта адчуваў.

— Шкадую толькі, што нутром я нешта да Міхкі ніякай варожасьці ня чую. Адчуваю, што паміж намі—бяздоньне, але ў гэты самы час...

У хату ўварваўся Додл.

— Я атрымаў ад Міхкі ліст,—ён зрабіўся бальшавіком. Вось ліст.

Міхка пісаў:

„... Я лічу, Додл, што ваш камітэт цалкам са ўсёй арганізацыяй павінен падаць заяву аб сваім выхадзе з „Бунду“ і ўвайсьці ў нашу бальшавіцкую партыю. Помні мае словы, Додл, лепей раней, чым пазьней“.

— Ён вуглі з агня зьбірае,—ускочыў Ісроэль. Нічога... Наша арганізацыя дае 12 таварышоў на фронт і чаму толькі дванаццаць? А з членаў профсаюзаў, а першыя тры добраахвотнікі, а брат Ханкі?.. Што мы не для рэволюцыі працуем? Хіба мы стаімо склаўшы рукі? А я? А мы ўсе? Я яму сёньня напішу... яму аж у вачох сьцямнее... Ваша партыя, наша партыя. Ён сабе месца знайсьці ня можа. Яго душыць...

Пакой стаў поўны людзей. Мондык, Ханка, са ўсёй камісіяй па арганізацыі вечарыны.

— Таварыш Ісроэль, нам не стае цукру і пшанічнае мукі,—сказаў адзін.

— Напішэце на нашым блянку, а я падпішу. Атрымаеце. Але арганізуйце, таварышкі, добрую вечарынку. Нашы таварышы заслужылі гэтага.

Увечары адбыўся сход гарадзкой бальшавіцкай арганізацыі, на якім былі амаль усе таварышы, якія езьдзілі ў вёску. Не ставала толькі некаторых мобілізаваных таварышоў, якія яшчэ крыху затрымаліся ў бацькоў.

Апошняя мобілізацыя, гэтак сама як і ўсе ранейшыя, асаблівага адбітку на організацыю не наклала. Пераважная большасьць бальшавікоў прызвычаілася ўжо да розных фронтаў і глядзела на сваю савецкую работу ў горадзе як на часовую работу, з якой ня сёньня-заўтра здымуць

Куды больш інтарэс на агульным сходзе выклікала пытаньне аб адносінах організацыі да Бунду і ў якой меры дапусьціць гэтую організацыю да адказнай савецкай работы.

Старшыня тутэйшай ЧК, таварыш Ґірушкін, выказаўся катэгорычна супроць прыцягненьня „Бунду“ да адказнай работы.

— У нашых шэрагах нам ніякіх прымірэнцаў ня трэба. Мы бяз іх абыйдземся.

— Таварышы, „Бунд“ штодзень лявее ды лявее. Ня можна, таварышы, забыцца пра тое, што ў бундаўскай організацыі ёсьць пэўная колькасьць адданых партыйных працаўнікоў і рэволюцыянэраў. Нам трэба зараз падкрэсьліць свае таварыскія адносіны да тых бундаўцаў, якія застаюцца тут на савецкай рабоце, і асабліва да тых бундаўцаў, якія мобілізаваны на фронт.

— Асобных можна дапусьціць, але толькі асобных, — згаджаўся Гірушкін.

Рад старых бундаўцаў быў пасьля сходу, прызначаны на адказныя пасады.

Ідучы з групай таварышоў са сходу паміж якімі былі і Пётра, і Гірушкін, Глонц сказаў:

— Хто мае жаданьне зараз зайсьці да бундаўцаў? У іх сёньня ляма.

— Што такое ляма?—спытаўся Пётра.

— Вечарына. У іх весела,—дакляраваў Глонц.—Чарку возьмуць.

— Што кажаш?—спытаўся Гірушкін.

— Кажу вось, сьвята ладзяць.

— Таму, што яны абываталі, а мы рэволюцыянэры,—сказаў Гірушкін: другім разам я-б пазваніў у аддзел і выслаў-бы да іх добра ўзброеную варту. Я наогул ня люблю меншавікоў.

— Якраз пагэтаму, таварыш Гірушкін, ты пойдзеш з намі,—пачула група нечы голас ззаду. Гэта гаварыў Ісроэл, які разам з сваёй жонкай ішоў на ляму.

Усе спыніліся і пасяброўску з імі прывіталіся.

— Падслухоўваеце, таварыш,—сказаў Гірушкін.

— Калі вы крычыце на ўвесь голас... Пойдзем з намі. Вы сваю прамову паўторыце перад таварышамі, якія заўтра на фронт ідуць.

— Зараз ня час сварыцца. Чаму вы гэтак позна ідзяце?

— Я ўжо там быў. Гэта я па жонку хадзіў: дзіцё не дало ёй раней пайсьці.

— Ва ўсякім выпадку, вас я асабіста ведаю,—сказаў Гірушкін. Вы і вашая жонка—добрыя таварышы. Сярод вас яшчэ багата добрых таварышоў.

І завярнуў у завулак.

Ханка нікому не гаварыла, што яна была ў Глонца, і ніхто ня ведаў што Глонц мае прыйсьці сюды з беларускімі таварышамі. Пра гэта ве-

далі толькі Ханкіны таварышкі, якія разам з ёю арганізоўвалі вечарыну, але і яны трымалі гэта ў вялікім сакрэце. Было ужо пасьля дзесятай гадзіны, і дзяўчаты думалі, што Глонц з сваімі таварышамі ўжо ня прыдзе.

Калі раптам адчыніліся дзьверы, і адзін за другім у клюб увайшлі пяць хлапцоў на чале з Глонцам,—іх прыход зрабіў надзвычайна вялікае ўражаньне на ўсю масу, якая, да рэчы кажучы, ужо была даволі пад мухай.

Додл, уласна ня ведаючы чаму, схапіў са стала бутэльку сьпірту і сунуў яе ў кішаню.

— Я ня ведаў, што вы гэта да нас у госьці прышлі. З вашым братам трэба асьцярожным быць,—крыху шчыра, крыху сьмяючыся сказаў ён.

За сталамі блізка з паўсотні таварышоў, Ханка, як жывое срэбра, бегала ад стала да стала, ад таварыша да таварыша і даволі часта падыходзіла да „бальшавіцкай фракцыі“.

Пачаліся песьні. Сьпявалі ўсе, седзячы за сталом, а Ісроэл расказаў гасьцям пра першыя гады барацьбы.

— Вось сядзіць стары бундавец. Ён увайшоў у рэволюцыйны рух у пачатку дзевяностых гадоў. Быў у Сібіры, добры рэволюцыянэр. Мы ўсе яго дзедам звалі. Ён таксама ня дрэнны прамоўца, па-яўрэйску, зразумела.

„Фракцыя“ яшчэ ніколі ня была ў гэткім шчыльным таварыскім атачэньні. Гэта ўсё былі маладыя бальшавікі, дзеці вёскі.

Сябры мае, як памру
Падносеце да магілак вольны сьцяг...

пачаў Додл і цэлая група за ім.

Маладая жанчына, таварышка, расплакалася. Яе Мондл заўтра таксама на фронт ідзе. Гэта здарылася зусім нечакана. Сароміліся госьці.

— Пампік, марку псуеш, крычаў Мондык з другога краю стала.

Дзед падняўся з месца, падышоў да жанчыны, якая плакала, і нешта па-сакрэту ёй сказаў на вуха. Бундаўцы засьмяяліся.

— Таварышы, скардзіўся дзед: яна яшчэ ня хоча. Вось гультайка.

За сталамі павесялела. Беларускія таварышы зацікавіліся дзедам.

— Стары таварыш,—сказаў Пётра, узяўшы шклянку ў руку, і паднёс яе старому.

— Браткі, сказаў стары, гэты хлапец робіць панашаму, пабундаўску.

— Тост, тост, дзед, скажы тост.

— Таварышы,—цьвяроза і выразна пачаў дзед.—Мы, бундаўцы, сустракаліся з расійскімі рэволюцыянэрамі альбо ў вастрозе, альбо ў Сібіры. У барацьбе мы надзвычайна рэдка сустракаліся з расійскімі рэволюцыянэрамі. Толькі пасьля Кастрычніка мы вышлі з вузкіх бундаўскіх межаў. Для нас адчыніўся шырокі сьвет. Сапраўднае адзінства сусьвет-

нага пролетарыяту пачалося толькі цяпер, пасьля Кастрычніка. Дык вось за гэтае адзінства я п'ю.

— Дайце мне, хлопцы, падыйсьці да „бальшавіцкай фракцыі".

Ён цалаваўся са ўсімі гасьцямі.

— А ты, Ханка, нешта занадта круцішся каля гэтых хлапцоў... З табой таксама цалавацца?.. Чаму не, наадварот.

Ляма падыйшла да кульмінацыйнага пункту. Скакалі, пелі. У апошні раз сьпявалі бундаўскую „Клятву", закусвалі „Інтэрнацыяналам", а пасьля зноў „Клятву" ў апошні раз...

. . . . . . . . . . . . .

. . . . . . . . . . . . .

. . . . . . . . . . . . .

А на двары ўжо разьвіднела.

## XIII. Рабочыя ідуць на фронт

Швачкі не маглі пасьпець за ноч кончыць бялізну для мобілізаваных таварышоў. Нават ня прыбраўшы пакой, дзе адбывалася вечарына, як толькі яна скончылася, Ханка разам з сваімі таварышкамі ўзялася за бялізну.

— Спаць сёньня ня прыдзецца, разважала Ханка, і не забывайцеся што роўна а першай гадзіне дэмонстрацыя выходзіць на вокзал, да дзесятай гадзіны раніцы работа павінна быць скончана.

Праз пару гадзін Ханка з пакункам бялізны бегла да Глонца.

Зіма ўвайшла ў свае правы. Мароз рыпеў пад нагамі. Глонц і Пётра толькі прачнуліся. Яны абодвы пакавалі свае рэчы. Пётра прывёз з хаты багаты кавалак сала, кавалак масла, кумпяк вэндліны і некалькі сялянскіх буханак хлеба.

— Ты гэта ўсё думаеш адзін зьесьці?—спытаўся Глонц Пётру.

— А ты, Глонц, хіба задавішся кавалкам сала? Ага, дарэчы кажучы, сястрыца Шурка цябе таксама на ўвазе мела. Во чорт! Я зусім быў запамятаў. Яна прасіла перадаць табе вось гэта... Што тут? Ці ня жыдоўскі бажок? Ха-ха-ха... Глядзі, Глонц, каб табе Мікола калі-небудзь за Шурку рэбры не паламаў.

Пётра адчуваў сябе пасьля бундаўскай лямы вельмі добра.

— Ну, а вы, таварыш, застаецеся тут у горадзе? Ня хочаце з нам на фронт ісьці?

— У мяне брат на фронце,—адказала Ханка, адчуваючы сябе неяк нясьмела.

Ханку хваляваў спакой Пётры. Яна па-яўрэйску сказала:

— Відаць не яўрэйскі пакутнік.

— Што тарабарыць гэты таварыш?

— Яна кажа, што ты хуліган.

— Не, я гэта не казала, наадварот, я кажу, што вы добры таварыш—і пачырванела.

Пётра засьмяяўся ўголас, паказаўшы пры гэтым поўны рот здаровых белых зубоў.

Глонц разьвязваў прысланы Шурай пакунак: рушнік у тры мэтры даўжыні з вышытымі берагамі. Разьняўшы рушнік Глонц убачыў у сярэдзіне пісульку, напісаную з абодвых бакоў блядым алоўкам.

— Пісульку ад дзеўкі атрымаў,—ня стрымалася Ханка.

Глонц не адказаў і спакойна паклаў пісульку ў кішэню да больш спакойнага часу.

— За бялізну перадайце ўсім таварышом маю шчырую падзяку.

— Мы не працуем за падзяку.

— Табе, Ханка, асабліва... Я ўжо аднойчы казаў, што ў нашай арганізацыі мала дзяўчат. І яшчэ раз кажу, што як вернемся з фронту, мы за вас, дзяўчат, возьмемся. Помні, Ханка.

Адчыніліся дзьверы, і ў пакой увайшоў Додл. Убачыўшы Ханку, ён неяк падаўся да дзьвярэй, але зрабіў спакойны твар і падаў Глонцу ліст.

Глонц прачытаў і спытаўся.

— Дняўным цягнікам?

Додл вокам міргнуў у бок Ханкі. Але яна гэта прыкмеціла.

— Не, нічога,—прамармытаў Додл.—Ёсьць чуткі...

— Скажы мне... Мы адНоскі лістоў ня маем.

— Слухай,—падышоў блізка да яе Глонц і ўзяў яе за руку:

— Ты, Ханка, рэволюцыянэрка, дык будзь рэволюцыянэркай.

— Хутчэй, хутчэй скажэце мне,—вырвалася яна з рук Глонца.

— Што здарылася з маім братам?

— Сёньня яго цягнікам прывязуць сюды.

— Паранены?

— Двух таварышоў сёньня прывязуць... забітымі.

Яе твар зьмярцьвеў. Ногі ў каленях пачалі падгінацца. Яна захісталася, але Пётра падхапіў яе на свае жалезныя рукі.

Пётра і Додл вазіліся з Ханкай, вярнулі ёй прытомнасьць, а Глонц бяз шапкі і кажушка выбег на мароз да доктара, які жыў насупроць іх.

За вакном ужо зьбіраліся суседзі, якія адразу па свойму склалі сабе малюнак таго, што тут здарылася.

— Ад радасьці, што на „чырвоны“ фронт, цэлую ноч пілі, потым „студзіліся“; гэтая „таварышка“ начавала тут, з імі.

— Утраіх... Ха-ха-ха.

— Ханка... Швачка...

— Яна ў іхным пакоі?

— У Глонца, там толькі прасынаюцца... Ха-ха-ха. Глонц, гэты Пётра з прадкому і гэта бундаўка.

— Каб іх усіх адна куля ўзяла.

— Першая куля Глонцу.

— Каб іх усіх забіла.

— Глянь у вакно, Додзік таксама там.

— Навіна!

Вышаў доктар. Па сяброўску прывітаўся ён з Алтаравай жонкай.

— Што гэта тут з маімі кватарантамі?—спыталася яна.

— Не „маімі", Яўгеньня Палікарпаўна. Нашымі, іхнімі... іхні таварыш забіты, брат забіты, дык ня хочуць цярпець... Памерці таксама ня хочуць—дык вось доктара цягаюць. Швачкін брат хацеў нас да соцыялізму прывесьці —дык вось доктар вінаваты.

У горадзе ўжо даведаліся, як Носка і яшчэ адзін яўрэйскі рабочы—першыя добраахвотнікі ў горадзе, былі забіты.

Вызваляючы лясныя пушчы ад панаваньня белабандытаў, чырвоныя атрады наносілі ім моцныя ўдары. Толькі аднойчы ўначы бандытам удалося абкружыць наш невялічкі атрад і захапіць яго. Адзін з афіцэраў у кароткай прамове сказаў, што беспартыйных салдат ён не кране.

— Яшчэ невядома наколькі праваслаўныя комуністы сапраўды комуністамі зьяўляюцца...

— Я комуністы,—вышаў з радоў адзін праваслаўны.

— Добра, ты пойдзеш з намі... Мы яшчэ пабачым. Ёсьць яшчэ комуністы праваслаўныя... А больш няма? Гэта зразумела. Зараз усе яўрэі наперад.

Ніхто не кануўся з месца.

— А ты,—зьвярнуўся афіцэр да Носкі і да другога яўрэя:—вылазьце наперад: вас я хоць у пацёмках пазнаю...

Разам з трыма палоннымі яны сьпяшаючыся адступілі і праз пару гадзін на ўскраі лесу знайшлі трупы двух забітых яўрэйскіх рабочых.

Зьбілі на скорую руку труны, паклалі іх у таварны вагон і павезьлі ў іх родны горад, вёрст 75 ад фронту.

Дэманстрацыя павінна была крануцца з плошчы, дзе былі брацкія магілкі. У поўдзень першымі прышлі на плошчу з чорным сьцягам краўцы, бо да іх саюзу належыў Носка. Прыйшла бундаўская організацыя са сваім сьцягам. Комуністы, міліцыя, два невялічкіх атрады чырвонаармейцаў, якія былі ў горадзе, і ўрэшце шчыльнымі радамі разам з оркестрам зьявіліся мобілізаваныя таварышы. Яны ўсе былі добра апрануты і яшчэ лепш абуты. Усе з сур'ёзнымі і прасьветленымі тварамі.

Уся плошча вакол выканкому была запруджана людзьмі, і ўсе працоўныя забыліся ў гэты момант пра свае асабістыя крыўды, забыліся пра тое, што яны галодныя, босыя, голыя, што ў хаце няма дроў, хлеба, нафты.

Перш чым дэманстрацыя кранулася з плошчы, два таварышы з бальхону выканкому трымалі кароткія прамовы.

З прамовай выступіў стары бундавец, славуты дзед. Ён сказаў:

— ... „Наш горад ня прымаў актыўнага ўдзелу ў рэволюцыі. На нашых могілках няма магіл рэволюцыянэраў, нашыя рабочыя не змагаліся на барыкадах, мы не зруйнавалі нашу турму, каб вызваліць адтуль політычных арыштаваных. Мы былі не рэво юцыянэрамі, а толькі спачуваючымі рэволюцыі, мы, уласна, жылі тут спакойным, абывательскім жыцьцём. Але моладзь... Рабочая моладзь... Яна рэволюцыйна... Наш горад таксама дае першы актыў. Гэта нашыя першыя героі, якія нам нясуць перамогу. Наперад, таварышы! Мы з вамі! А калі гэта патрэбна будзе, дык я таксама яшчэ здольны з вамі, з моладзьдзю, як гэтыя маладыя ахвяры, паміраць за рэволюцыю.

Процэсія з чырвонымі сьцягамі кранулася з плошчы.

Цягнік прыйшоў на станцыю адначасова з процэсіяй, і ўсе адразу кінуліся да апошняга таварнага вагона, які быў прыбраны зялянінай з чырвонымі сьцягамі. Атрад міліцыі адціснуў ад вагонаў увесь натоўп які рушыўся сюды, каб даць мажлівасьць падыйсьці мобілізаваным таварышом і сваяком...

Цягнік быў паўнюткі салдатамі, жанчынамі, рабочымі. Пасажыры туліліся на сходках вагонаў, віселі на буфэрах, на дахах вагонаў, моцна трымаючыся за халодныя, мёрзлыя кавалкі жалеза, якія дзе-ні-дзе тырчэлі ў вагонах.

— Каб усе цывільныя пасажыры адразу пакінулі вагон,—загадаў нейкі худзенькі чалавек.

Але ніхто з месца не крануўся.

— Каб усе цывільныя пасажыры адразу ачысьнілі вагон для мобілізаваных,—паўтарыў той самы голас.

Пачалі вылазіць з вагонаў з грузнымі пакункамі ў руках, на плячох, на грудзёх, скакалі праз вокны, карабкаліся на дахі суседніх вагонаў, стукаліся ў дзьверы глуха зачыненых вагонаў, успацелыя твары з сьлязьмі на вачох прасіліся:

— Пусьцеце нас, зьлітуйцеся.

Але праз вокны высоўваліся скамянелыя твары, якія гаварылі паказваючы рукамі:

— Няма... Там... Там... Вунь, у тых вагонах.

Раздаўся другі званок, але хлопцы не сьпяшаліся ўваходзіць у вагон. Глонц зайшоў да старшага дзяжурнага па станцыі і папрасіў на поўгадзіны затрымаць цягнік.

— Ня маю права. Няхай вашыя таварышы адразу ўвойдуць у вагон. Даю трэці званок.

— Таварышы, улазьце ў вагон,—вярнуўся Глонц ад станцыйнага начальства. Пачалі разьвітвацца. Глонц сказаў:

— Таварышы, мы ідзем на фронт, мы ідзем штурмаваць цытадэлі буржуазіі. Мы стаімо, таварышы, каля адчыненай брамы новага сьвет-

лага жыцьця. Дык давайце, таварышы, шырэй адчынім браму і мы пераможам.

Цягнік крануўся з месца і хутка пакінуў станцыю.

## ЧАСТКА ДРУГАЯ

### XVI. Разьдзел пра утылізацыю

Калман ня быў асабліва славутым чалавекам у сваім мястэчку, але даволі, каб пра яго ўсе ведалі. Ён быў служкаю ў сынагозе і краўцом адначасова. Дык ён забягаў ласкі ў багатых яўрэяў, якія займалі ганаровыя месцы ў сынагозе, і шыў для тых, хто ў яго сінагогальнай службе адыходзіў на другі плян. Быў у Калмана яшчэ трэці заробак—ён быў памоцнікам настаўніка ў талмуд-тойра 1).

Кожную пятніцу ён хадзіў па гораду з кружкай у руках. Ад кожных ста сабраных капеек ён браў дваццаць капеек сабе і восемдзесят аддаваў старому настаўніку—гаспадару свайму, які меў ад гораду паўнамоцтвы на ўсіх хлапчукоў, якія вучыліся ў талмуд-тойра; яўрэй з славутым імем, з рыжай барадой, зваспаватымі шыяй і рукамі.

Дык вось выконваючы ўсе гэтыя тры абавязкі, Калман раптам атрымаў загад расійскага генэралу: „На працягу дваццаці чатырох гадзін пакінуць мястэчка“. Уласна кажучы, загад атрымаў ня ён адзін, загад атрымалі ўсе местачковыя яўрэі. Але яму таксама давялося разам са ўсёй сям'ёй уцячы ў Дзьвінск, дзе ён пахаваў жонку і двух дзяцей. Неўзабаве ён зноў быў вымушаны разам з сваім сынам Яшкай уцячы і перабрацца сюды, на Беларусь, дзе сын яго ўзьняўся гэтак высока—аж да Глонца, а ён, Калман, упаў гэтак нізка.

А Додл-кравец бязупынна пашыраў сваю утылізацыю2), якая займала ўжо два кварталы, паступова высяляючы гарадзкіх кулакоў-багацеяў з іхніх кватэр, пакідаючы часам на цэлую кулацкую сямейку адзін-два пакоі. Додл даведаўся, што чырвонаармейцы вывозяць з гораду кравецкія машыны. З шумам і скандалам ён прышоў у вайсковы камісарыят.

— Гэта анархія,—крычаў Додл у габінэце ваеннага камісара.

— Там сядзіць у мяне моцная варта,—адказаў яму камісар.

— Няхай яны свае транты прышлюць сюды, я іх зьвярну ім адпрасаванымі, залатанымі. Во якая амуніцыя ў іх тады будзе! Усе машыны ў горадзе належаць утылізацыі. Глянь праз вакно, гэта-ж усё на маю галаву...

Гарадзкія балаголы езьдзілі са станцыі з фурманкамі, поўнымі розных лахманоў. Відаць былі бляшаныя гузікі ад штаноў, чырвоныя і бе-

1) Клерыкальная школа для бедных яўрэйскіх дзяцей, якая існавала па філёнтропічных сродкі.

2) Спэцыяльны аддзел савету, які ў часы ваеннага комунізму організоўваў кравецкія майстэрні, у якіх перашываліся розныя старыя рэчы: пальто, штаны, шынэлі.

лыя вярхі ад шапак, кавалкі афіцэрскіх шынэляў з залатымі гузікамі, кавалкі ваты.

Мошка балагол пугаўём вызваляў вялікую груду лахманоў ад вяроўкі, якая зьвязвала іх, аглядзеўся па бакох і выцягнуў адтуль старое паліто.

— З гэтага будзе кафтан,—сказаў ён.

— А вошы?

Усе балаголы згрузіліся вакол разьвязнага пакунку.

— Тут няма вошай.

— А куды яны падзеліся?

— Падохлі.

Другі стары балагол выцягнуў паліто з гвардзейскага сукна і паказаў яго балаголам.

— Няма тут вошай.

— Вось сядзіць адна,—паказаў адзін.

— Здохлая...

Фурманы яшчэ не пасьпелі схаваць пакрадзенае ў мяшкі з сенам і зноў завязаць пакунак, як сярод іх зьявіўся Додл.

— Ну адразу, рэб Мошка, пакладзеце назад на фурманку. Ці ведаеш што табе можна зрабіць за гэта?

Фурманы паціху разышліся да сваіх фурманак.

— Чаго ты, Додл, шкадуеш гэтыя лахманы... Яны на вакзале валяюцца і ніхто іх там узяць ня хоча.. Ты што, вошы нам шкадуеш?..

— Ніводзін волас не павінен прапасьці з гэтых фурманак, сказаў Додл і вырваў паліто з Мошкавых рук і ўціснуў яго назад у пакунак.

Але Мошка хутка зноў вынуў яго з пакунку і ўсунуў у свой мяшок.

Калі Додл увайшоў у вайсковы камісарыят, дык там ужо было падрыхтавана патрабаваньне, каб машыны, на якіх Калман „латаў рэволюцыю", былі адразу спэцыяльным чырвонаармейцам зьвернуты назад у горад.

— Колькі чалавек у цябе працуюць?—спытаўся камісар.

— Краўцоў і шапкароў—чалавек сто. Разам з чорнарабочымі, і з тымі, што гэтыя транты сартыруюць,—дзьвесьці... У горадзе больш дваццаці схаваных машын.

Камісар узяў кавалак паперы, склаў яго папалам і пачаў пісаць:

### ЗАГАД №......

#### Рэволюцыйнае патрабаваньне

Усе нажныя кравецкія машыны, якія знаходзяцца ў гарадзкіх грамадзян, павінны быць на працягу трох дзён зарэгістраваны ў камісарыяце. Уласьнікі кравецкіх машын атрымаюць ад вайсковага камісарыяту квітанцыю, што машыны ў іх забралі часова. Пры першай мажлівасьці яны будуць зьвернуты сваім уласьнікам.

Усе машыны, якія будуць выкрыты ў прыватных грамадзян, пасьля таго, як міне трохдзённы тэрмін, будуць конфіскаваны, а іх уласьнікі будуць лічыцца ворагамі рэволюцыі.

Усё-ж ня ўсе краўцы здалі аддзелу Утылізацыі свае машыны. Янкель „кароткастанны“ застаўся з сваёй машынай у хаце. Але даведаўшыся больш дэтальна пра гэты загад, Янкель нядоўга думаючы сказаў сваёй жонцы:

— Апраніся, апранай дзяцей—пойдзем.

Яны вышлі з хаты ўдвох... „Кароткастанны“ з дзіцём на руках, жонка яго з цяжарным жыватом, таксама з дзіцём на руках, а пяцёра дзяцей ішлі на сваіх уласных нагах.

Канцэлярыя шырока адчыніла дзьверы для кравецкай сямёркі. Адзін далажыў камісару пра прыход гасьцей.

— Як я ёсьць самы сапраўдны бядняк,—пачаў „кароткастанны“,—дык я не хачу быць ворагам рэволюцыі. Машыну сваю я даю, але есьці даваць гэтай сямейцы, таварыш камісар, ужо табе давядзецца.

— Ты, шэльма, дзяцей з вуліцы панаганяў,—раззлаваўся камісар.

— Божа барані,—умяшалася жонка ў іхную размову, паказаўшы рот усяго толькі з адным пярэднім зубам.

— Хіба вы ня бачыце, што яны ўсе ў бацьку ўрадзіліся... кароценькія...

— Таварыш камісар, хутка восьмы будзе. Дзесяць ротаў... таварыш камісар...

Камісар надзвычайна абураны і ўсхваляваны, зайшоў да сябе ў габінэт і выклікаў па тэлефону Додла.

— Ліха цябе, Додл, ведае... Усе яны тут у маёй канцылярыі.

— Чаго злуешся... У яго мы машыну ня возьмем... Мы яе толькі з а р э г і с т р у е м... Пашлі яго дахаты.

Цэлых тры дні Янкель „кароткастанны“ быў самым популярным чалавекам у горадзе. Сама утылізацыя пастукала яму ў вакно, каб „кароткастанны“ дакладна расказаў, як гэта адбылося.

— Няма чаго тут расказваць,—сказаў ён: узяў усю сваю „артылерыю“, жончын васьмімесячны жывот і сем калтужнікаў сваіх... дык ён уцёк ад мяне, як атручаны пацук.

— Ай „кароткастанны“, ай „кароткастанны“,—радаваліся краўцы.

— Давайце, таварышы, качаць яго.

— Вышэй, вышэй...

„Кароткастанны“ ледзь вырваўся з іх рук.

Адзін рабочы пачаў пець песеньку „Тылізацыю“, складзеную самімі рабочымі.

Пяе адзін, а ўся майстэрня, пакрываючы грукат дзесяткаў кравецкіх машын, падхоплівае прыпеўкай: Ля-дэ-ры-дэ-рам...

Наш кравецкі цэх наўзьдзіў
Ля-дэ-ры-дэ-рам...
Тылізацыю зрабіў і працуе колектыў
Ля-дэ-ры-дэ-рам...
І працуе колектыў,

Рот буржую зачыніў...
Рот буржую зачыніў...
Лад савецкі захваліў...
Маем мы савецкі лад
І шрапнэльнай кашы шмат.

Разам з ростам колькасьці машын узрастала песьня. Кожны дзень краўцы на работу прыходзілі з новымі радкамі, якія добра адлюстроўвалі настрой рабочых, хоць часам і былі накіраваны па адрасу сваіх уласных таварышоў.

Додл адпачыў-бы хоць
Ля-дэ-ры-дэ-рам...
Нас трымае ў кіпцюрох
Ля-дэ-ры-дэ-рам...
Бач пад пахаю халявы
У сталоўцы п'е ён каву—

Слава яму, слава!

— Салодзенькую каву з пшанічнымі булачкамі, дадавалі некаторыя слухачы... Дайце ім, таварышы, гэтым адказным.

Мысьліць ён, што утыль
Скарб яго вяльможны—
Цягне транты ён сюды
Панядзелак кожны.

А калі аднойчы здарылася, што ў майстэрні скралі некалькі маткоў нітак, дык краўцы гэтак прабіралі злодзея.

Не стае ў майстэрні нітак
Ля-дэ-ры-дэ-рам...
Гэта нечы ўжо здабытак—
Ля-дэ-ры-дэ-рам...

Сёньня утылізацыя была ў асаблівым настроі. Два аддзяленьні перайшлі працаваць на новы матэрыял—перашывалі новыя салдацкія шынэлі. Гэта выклікала радасьць і зьдзіўленьне.

— Няўжо-ж гэта яшчэ засталася з даваенных часоў?

Але Додл пераконваў, што ў Петраградзе зараз працуюць усяго толькі дзьве тэкстыльныя фабрыкі, а гэтыя шынэлі прызначаны для першага выпуску чырвоных камандзіраў, якія хутка скончаць школу ў Петраградзе.

Апрача гэтага сёньня ў канцылярыі раздавалі талёны на месячны вайсковы паёк—цукар, пуд жытняга хлеба, павідла, селядцоў, консэрвіраванае мяса ў каробках.

Вокны ва ўсёй майстэрні адчынены былі, а песенька „керанкі“ гучна раздавалася аж на вуліцы, дзе наводзіла жах на гарадзкіх абывацеляў і спэкулянтаў.

— Хлопцы, трэба толкам пець. Адзін пачынае, а астатнія падхопліваюць апошнія чатыры радкі... Матывам „Сахі“...

Пухавікі чароўныя,
Вы керанкамі поўныя,
Ёсьць шмат і мікалаеўскіх
Для гандляроў, для граеўскіх.
Для галачынскіх, баеўскіх,—
Што гандлююць ня цытрынай,
А салодкай сахарынай.

Яўрэі, праходзячы, спыняліся слухаць гэтую песьню, а кабеты, праходзячы каля майстэрні, успамінаючы свае маладыя дзявочыя гады, усьміхаліся пацiраючы нос і гутарылі.

— Керанкі з мікалаеўскімі... Хэ-хэ-хэ. Каб іх маланка спаліла...

— Халеры ім не стае.

— Царства Додла—запрудзіла ўсю вуліцу трантамі.

— Весела ім...

— Пайкі...

— А Шлёме гэта прыемна чуць?!.

— Хіба мала крыві ён з гораду высмактаў... Каб яго...

— А Шлёма, гаспадар гораду, усіх складаў, скляпоў, крам, ларкоў, уціснуты зараз разам са ўсёй сям'ёю ў адзін невялічкі пакойчык, прыціскаў да дзьвярэй левае вуха сваё, на якое ляпей чуў, і гаварыў:

Хай зубы парадзеюць,
Сівеюць валасы—
Хавай свае паперкі—
Вышэй няма красы.
Хай косткі перасохнуць.
Хай ногі, як кійкі—
Хавай свае паперкі—
Табе ўжо лёс такі.
Ліха вашай галаве,
Хто паперкамі жыве!

Шлёма падышоў да люстэрка і спужаўся свайго ўласнага твару.

— Глянь толькі,—паклікаў ён сваю жонку, якая корпалася каля жалезнай пячуркі:—я-ткі сапраўды пасівеў.

— Так, пасівеў,—пацьвердзіла яна.

— А пад вачыма падушачкі!..

— Так, падушачкі,—адказала яна... Хіба ты ня бачыш, што нам канец прышоў,—расплакалася яна.

Шлёму гэта не падабалася. Ён усё блытаўся паміж пакункамі, клункамі, рэчамі, настаўленымі адна на адну.

— Ня плач, ня плач, супакойваў ён жонку:—каб яны столькі кварэлі... Ізноў прыкладаў вуха да фарбаваных, зараз загаджаных жоўтых дзьвярэй.

У дзьверы стук—пужаюся,
Пужаюся, хаваюся...
Жыцьцё мае ты чорнае...
І ключ ніяк ня ўторкаецца...
Як выслухаем баечку
Пра нашу „чрезвычаечку"—
Дык лепей мо' ў утыль—
Забыць пра гэту быль.

Шлёма зноў ад дзьвярэй адышоў, аглядзеўся, зноў пераклаў пакункі, нешта намацаў у іх, звараную бульбу ў рот узяў, круціў і студзіў яе ў руцэ.

— Што тут робіцца? Тут у залі бацька пасху спраўляў. Тут у залі спыняўся маршал і віцэ-губэрнатар... Якому-небудзь краўцу сюды і блізка падыйсьці нельга было... А цяпер?.. Хіба толькі аніякага бога на сьвеце няма... Вось кажу табе: прыдзе на іх ліха, абавязкова павінна ліха прыйсьці...

Школьнікі, хлопцы і дзяўчаты, як вераб'і, запрудзілі вялікі ганак, панавешваліся на вокны і разам з краўцом сьпявалі:

— Лепшая спэкуляцыя—
Цяпер „утылізацыя".
Ня будзем больш журыцца,
Бо спакойна будзе жыцца.
За працу вось сумленную
Грошы плоцяць без сумненьня...
Працаваць ля машыны
Лепш цукру і сахарыны.

Быў у майстэрні адзін рабочы, які багата кашляў, дык ён пасьля ўсіх закончваў песьню так:

Жоўты як цытрына
Зробішся ля машыны.

Але сёньня яму жарты ў галаву ня ішлі. На кравецкай машыне ўжо ляжаў гатовы ордэр на паёк. Штамп „павялічаны вайсковы паёк" натхняў і выпростваў яго хворую сьпіну, лічбы пра колькасьць прадуктаў дражнілі яго. Гэты кравец адчуў сябе такім дужым і багатым, што і рукі яго сёньня з асаблівым імпэтам разганялі шырокія швы па машыне.

— Ну, што ты цяпер скажаш—жоўты як цытрына?—Зьвярнуўся да яго адзін малады рабочы, падсоўваючы яму ордэр пад нос.

— Дай працаваць, дай... А гэтых буржуяў, каб іх...

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Неўзабаве зьявіўся ў горадзе і Калман.

Ён увайшоў у канцылярыю утылізацыі прасіць работы.

— Патрэбны кравец. Але добры кравец, вы можаце краўцом працаваць?—спытаўся інструктар.

— Краўцуюць... А як-жа-ж?

— Краўцуюць,—гэта не адказ. Заходзьце ў майстэрню і гляньце, як народ працуе.

Але шум гэткай вялікай колькасьці машын і працавіты настрой неяк уціскаў і палохаў Калмана. Ён выскачыў з майстэрні і пайшоў у сынагогу.

— Чаго ты пустапасам ходзіш, рэб Калман? Хэйдар зрабі: кабеты зараз за гэта багата грошай плоцяць. А цябе „яны“ чапаць ня будуць. Ты-ж іхні чалавек... выбяры сабе сынагогу, набяры дзяцей і вазьміся за вучобу.

Праз некалькі дзён Калман адчыніў у карасьлівай сынагозе хэйдар.

## XV. Выкрылі хэйдар

Ніхто ніколі ня сьніў, што рэпрэсіі супроць хэйдараў прымуць гэткія вялікія памеры, што ў адну добрую раніцу адразу зачыняць усе хэйдары, што паразганяюць усіх вучняў па хатах, а настаўнікаў (мэламэдаў)—некаторых заарыштуюць, а астатнія будуць мець столькі няпрыемнасьцяй.

— Калісьці ад мэламэдаў вымагалі, каб ты меў „шайн“ [1]), дык ты ведаў, што маеш патрэбны дакумант.

— Падпіску, дай ім падпіску.

— Каб з міліцыяй прыходзілі, каб пратаколы складалі...

— Дык як, я гаспадар свайго дзіцяці, ці не?

— Карміў, паіў, выхоўваў яго, а гаспадарамі маёго гадаванца зусім яны зьяўляюцца... Додл—зараз твой гаспадар. Утылізацыя зараз твой гаспадар. Гэты, што прыехаў у акулярах, зараз над табой гаспадар... А ты... Ня маеш права тваё дзіця малітвам вучыць...

— Убачым, што яны з Калманам рабіць будуць.

— Што—бацька? Пашана да бацькі—дурніца ты... А сам Глонц, каб ён тут быў,—эх яшчэ горш было-б.

. . . . . . . . . . . . . . . .

. . . . . . . . . . . . . . . .

Пашыранае пасяджэньне бюро асьветы зацягнулася далёка за поўнач. Нязвычайна жвавыя спрэчкі разгарнуліся вакол двух пытаньняў: адразу забраць сынагогу маладых ці пачакаць? Адным ударам пакончыць з хэйдарам, ці...

— Так, мажліва, што мы сёньня яшчэ ня ўсіх дзяцей можам забясьпечыць школай, але зьнішчаць хэйдар гэта надзвычайна важная для нас справа—сказаў Ісроэл і перацягнуў на свой бок пераважную большасьць галасоў. Але ён адначасова выказаўся супроць таго, каб забраць сынагогу маладых.

[1]) Документ—патэнт на права выкладаць.

Супроць Ісроэля выступіў Додл.

— А я выказваўся за сынагогу маладых,—запальчыва сказаў ён. Сынагога маладых ёсьць продукт маладой буржуазіі: яна яе пабудавала, яна яе абсталявала, яна яе аздобіла. Тут іхняя база. Ніводнага бундаўскага сходу, трасца іх матары, мы за ўсе мінулыя пятнаццаць год там не маглі правесьці... У восьмым годзе, таварышы, калі я з гары сынагогі мясьнікоў бомбы пераносіў...

— Чакай, Додл, бліжэй да справы,— перапыніў яго Ісроэл.— Бомбы восьмага году ніякіх адносін да гэтае справы ня маюць...

— А я кажу, што яны якраз вельмі шчыльныя адносіны маюць да гае справы, якую мы тут вырашаем... Буржуазія праводзіла ў сынагозе сваю клясавую лінію...

— Бліжэй, бліжэй да справы.

— Гэта панская сынагога... Трасца матары... Мы забіраем бядняцкую сынагогі, мясьнікоў, галодную, малочную, каросьлівую.

Усе засьмяяліся.

— Каросьлівую сынагогу?—спытаўся загадчык яўрэйскага асьветнага бюро. Ён хусткай выцер акуляры і занатаваў у сваім блёкноце назвы сынагог.

— Каросьлівую сынагогу?—яшчэ раз спытаўся ён.

— Каросьлівую.

— Вы першы раз чуеце? Ёсьць гэтакая сынагога. Я, уласна, калісьці галаву разьбіў двум з сынагогі маладых, якія ніколі мне праходу не давалі: „ён ходзіць у каросьлівую сынагогу“.

— Каросьлівую... Каросьлівую... Ісроэл, у якую сынагогу ты калісьці з бацькам хадзіў? Здаецца у сынагогу маладых...

У залі зрабілася весялей.

Ухвалілі да барацьбы з хэйдарам прыцягнуць таксама і моладзь, якая ў іх вучыцца, і ў першую чаргу пачаць выціскаць ворага з ускраін гораду, з рабочых кварталаў, а пасьля ўжо за цэнтр узяцца.

У каросьлівай сынагозе, дзе Калман адчыніў свой хэйдар, гэтак сама, як і навакол гэтае сынагогі, было грязна і брудна; падлога ў гэтай сынагозе згніла, шыбы з вакон павыбіты, печкі патрэскаліся, дзьверы павыкручаны. У лесках, якія вялі на верх у жаночую сынагогу, не хапала сходняў—даводзілася падымаць нагу праз дзьве—тры сходні для таго, каб там урэшце паставіць нагу на сходню, якая даволі хісталася і кожную хвіліну пагражала трэснуць і скінуць на зямлю адважнага багамольца.

Калі камісія прышла ў сынагогу, Калман разам з сваімі вучнямі быў якраз наверсе. Адтуль добра чутны былі дзіцячыя галасы і настаўніцкі крык. Значыцца вораг нікуды не хаваўся і сам здаўся ў рукі.

Яны прыйшлі сюды ўтрох. Трое маладых рабочых, былыя талмудторэйнікі, падышлі да лесак, адзін з іх ужо хацеў падняцца наверх, але другі таварыш запранаваў другі плян: каб дзеці адразу не разьбегліся— трэба забраць лескі.

— Тады-ж прыдзецца іх адарваць. Яны-ж цьвікамі прыбіты.

— Цішэй, я таксама думаю, адарваць... Ш-ш-ш-ш... Ну, давайце рваць. Цягнеце, хлопцы, дружна, раз.

Зьверху лескі былі даволі моцна прыбіты. Давялося сходкі пацягнуць некалькі разоў. Але ў гэты самы час вучні пачулі, як нешта трашчыць, рыпіць і падняліся. Адчынілі дзьверы і ўбачылі з кім яны тут маюць справу.

— Асьцярожна, дзеці, мы тут прышлі вам сходні паправіць.

Калман пачуў размову. Ён таксама падняўся і падышоў да дзьвярэй. Пазнаўшы гасьцей, ён гэтак перапалохаўся, што ў яго аж язык адняло; ён хацеў кінуцца ўніз.

—Асьцярожна, рэбэ, асьцярожна, вы яшчэ разьбіцца можаце. Мы тут сходні разабралі,—даволі спакойным голасам сказаў адзін з прышоўшых таварышоў.

Два дзесяткі хлапчукоў кінуліся ўперад да выхаду. Хлопцам спадабалася здарэньне.

— Сходні разабраны. Рэбэ, яны сходні разабралі.

— Хлопцы, асьцярожна.

Комсамольцы на практыцы паказалі, якую перавагу дае фізкультурнае выхаваньне. Адзін над другім, другі над трэцім і гэтак хлопцы прабраліся наверх. Дзетвара сустрэла першага комсамольца з павагай. Зайшоў другі таварыш, трэці.

— А ну, хлопцы: падыходзьце сюды, раскажэце нам, чым вашыя бацькі займаюцца. Пачнем папарадку.

— Што твой бацька робіць?

— Кравец.

— А твой?

— Столяр.

— А твой.

— Шавец.

— А твой?

— Бляхар.

— А твой?

— Фарвар.

— А твой?

— Вадавоз.

— А твой?

— Вартавы.

— А твой?

— Бацька памёр.

— А маці? Што яна робіць?

— Маці падлогі мые, бялізну мые, людзям хлеб месіць.

— Ага. Значыцца буржуйка.

— Мая маці—пролетарыят, хацеў хлопчык выгарадзіць сваю маці.

Праз паўгадзіны прышоў сюды загадчык асьветнага бюро разам з некалькімі рабочымі.

— Прашу запомніць, што ў хэйдары выкрыты толькі рабочыя дзеці. Ніводнага дзіцяці заможных бацькоў,—сказаў загадчык.

Комсамольцы хутка зноў паставілі драбіну.

Маўкліва і спачуваючы дзеці праводзілі свайго настаўніка, які моцна пачырванеў і ўсхваляваны пакідаў іх.

А загадчык прысеў, зьняў з носа акуляры і пачаў гаварыць з дзецьмі.

— А са мной, што будзе?—спытаўся яго хлопчык, бацька якога памёр.

— А што ты хочаш, каб з табой было?

— Я ўжо раз казаў вам, што маці мая—пролетарыят.

— Дык ты хочаш, каб цябе ў школу прынялі?

Адзін з комсамольцаў узяў малога пад руку, але той спрытна высьлізнуў з яго рук.

— Ня люблю я гэткія штукарствы. Скажэце, што са мной рабіць будзеце?—не супакойваўся хлопчык.

— Добра будзе... Хочаце, дзеці, паглядзець яўрэйскую школу, а пасьля дахаты пайсьці?

Увесь хэйдар прыняў прапанову.

— Станавецеся па два ў рад...

Комсамольцы са ўсім хэйдарам пайшлі па вуліцы.

Кабеты ў кучкі зьбіраліся, гандляры высоўвалі свае галовы ў малітоўным адвечьні, каб паглядзець гэтую сваясаблівую процэсію.

— Ага! Кантоністы,—перапынялі малітву адны для таго, каб да вакна паклікаць другіх.

А камісарыха ў новых жоўтых камашах, па высокіх каблуках, гаварыла ўсім знаёмым і незнаёмым ў краме:

— Калмана са ўсім хэйдарам арыштавалі і ў вастрог адвялі.

— Дзяцей таксама?

— Ага, кажуць—усіх...

## XVI. Глеба падрыхтавана

Пасьля „гісторыі" ў вайсковым камісарыяце „кароткастанны" кравец зрабіўся гэроем дню, і ніхто не даваў яму вуліцу перайсьці. Ён павінен быў усім расказаць, як ён выратаваў сваю машыну. Але ўчора ў горадзе пераважна гаварылі адносна савецкіх „дачнікаў", адносна дзяцей комуны, якія выехалі ў Лесарубаўку на машынах бранявога атраду. Усе дзеці былі добра вымытыя, да поясу голыя і ехалі разам з сваімі кіраўнікамі, сярод якіх, як гусь у гусіным статку, вылучалася Надзея Львоўна ў летняй сукенцы і ў дачным капялюшыку, які ўдала маскіраваў сівыя валасы на яе галаве і надаваў ёй больш мужны і малады выгляд. Толькі

яшчэ ўчора камісарыха сабрала да сябе групу кабет, паказала ім свае жоўтыя камашы на высокіх абсацах, якія муж прывёз ёй з Петраграду, паказала ім сваю новую бацістовую сукенку, з якой выпіралі высокія і важкія грудзі. Учора яшчэ камісарыха па сакрэту сказалі ўсім:

— Ханцы-швачцы бог добрага мужа даў—хлопца з прадкому. Гэтая пара маланкай пранеслася на кані з гуты.

А сёньня ўсе гэтыя навіны, як эмолатыя снапы, страцілі сваё значэньне і вартасьць. Сёньня ўсе толькі і гавораць пра хэйдар каросьлівай сынагогі, сынагогі маладых, Калмана і Глонца.

— А я-ж ведала,—гаварыла Алтарыха доктару:—Глонцаў бацька—мэламэд. Гэта мне падабаецца,—сын комуністы, а бацька—мэламэд. Пролетарскае паходжаньне. Ха-ха-ха.

Алтар моцна „стаяў“ ужо на савецкай пляцформе, а жонка яго таксама; яна аднойчы ўжо іграла ў клюбе на сваім роялі, які калісьці быў у іх рэквізаваны музыкальнай сэкцыяй аддзелу народнай асьветы і быў перадазены для карыстаньня ў клюб.

Яна доўга і голасна сьмяялася. Ёй самой спадабалася гэтая думка.

— Ха-ха-ха, сын—комуністы, а бацька—мэламэд.

— Вось у тым і справа, сказаў доктар,—круцячы галавой.

А ў сынагозе маладых сёньня, у суботу, гэтак поўна, як быццам сабраліся слухаць славутага кантара. Але сёньня ніякіх кантараў у сынагозе няма. Натоўп сабраўся ў мужчынскай і ў жаночай сынагозе, каб паглядзець на амэрыканца, у модных вялікіх ды круглых рагавых акулярах, які ўчора прыехаў у горад і зараз сядзіць на ганаровым месцы разам з рабінам і пераглядаецца з камісарыхай, што сядзіць наверсе ўпёршыся сваімі грудзьмі ў балясы жаночай адкрытай галярэі.

Гандляры сынагогі маладых, якія сёньня сюды сабраліся маліцца адчувалі сябе вельмі няёмка. Дзесятак крамнікаў прышлі ў сынагогу заклапочанымі і зашмальцаванымі, што асабліва кідалася ў вочы на фоне тоўстага, гладка паголенага, багата і шыкоўна апранутага амэрыканскага госьця ў вялікіх і прыгожых акулярах. Нават рабін і той ня мог сёньня маліцца з заўсёдным запалам, увесь час паглядаючы ў бок свайго па-панску апранутага суседа.

— Тут ужо Гірушкіна рукі кароткі,—усьміхаліся гандляры, а часам і зайздросьцілі:—шэсьць касьцюмаў, а бялізны, мыла, одэколёну, зубных шчотак, электрычных ламп, салодкага малака, рафінаду, стэарынавых сьвечак, какао, кілек, шпрот, шакаляды, пшанічных коржыкаў, брытвы, варэньня, скрынкі яго ня менш 10 пудоў важылі: два фурманы ледзь здолелі прывезьці.

Фоля, новасьпечаны адвокат, у пераніцаваным пінжаку, трымаў у руках савецкі кодэкс законаў і пакрыўджаны, што амэрыканец не заўважае яго і паглядае ўсё наверх, на жаночую частку сынагогі, паказваў пальцам на пункты кодэксу і чытаў:

— Згодна вось гэтага параграфу яны ня маюць ніякага права ўжываць ніякіх рэпрэсій да нашай рэлігійнай вобшчыны.

Малітва падыходзіла ўжо к канцу. Фоліна кніжка пераходзіла з рук у рукі, пакуль, урэшце, не перайшла ў рукі рабіна, які сёньня скончыў малітву разам са ўсімі.

— Хто гэта такі Стучка?—пытаўся рабін.

— Стучка, вы, рэбэ, ня ведаеце, хто гэта такі Стучка?

— Шчасьце, што наш мэламэд заўчасна распусьціў хэйдар.

— Фоля-ж кажа, што яны, хэ-хэ-хэ, ніякага права ня маюць.

— Але—права... у тутэйшым выканкоме ён хоча права шукаць, у Гірушкіна з ЧК.

— Як паўсюды.

— Улада на мясцох.

— Рабунак сярод белага дню.

— Хто цябе рабаваў?

— Гэта я так сабе кажу.

— Дурань.

У гармідары і цеснаце ніхто не заўважыў, як Гімпель, барадаты яўрэйскі міліцыянэр, зайшоў у сынагогу, падняўся на ўзвышша, дзе чытаюць тору, выпрастаў шапку на галаве, два разы стукнуў па стале, заклікаючы да парадку, і сказаў:

— Рабін, кіраўнік і ўсё праўленьне сынагогі павінны адразу зьявіцца ў міліцыю.

Мёртвай цішынёй сустрэў сход міліцыянэрава паведамленьне, які ўсё яшчэ стаяў на ўзвышшы, выглядаючы пэрсанальна кожнага, каго ён выклікаў.

— А вы, рэбэ, таксама павінны прыйсьці ў міліцыю,—паўтарыў ён.

— Скажы мне, браце, чаму гэта раптам такая рэч?.. Паводле кодэксу законаў,—кажа Фоле,—браце...

— Што, Фолька, ты хочаш паспрачацца са мной, каб я табе тлумачэньне даваў, дык пойдзем са мной у міліцыю,—сказаў Гімпель.

— Трэба яшчэ ведаць за што.

— Кіраўнікі ведаюць за што. Тут справа адносна протоколу, што трымалі прыватны хэйдар.

— У такім разе чаго вы ад мяне хочаце,—прасіўся рабін,—і нэрвова шкроб сваю сівую бараду: ні я-ж кіраўнік, ні я-ж мэламэд...

— Чаго ты ад мяне хочаш?

Наверсе шумелі кабеты.

— Я яму тысячу раз казала,—няма чаго лазіць у праўленьне,—крычала камісарыха і разам з цэлай грамадой жанчын сайшла ўніз, у мужчынскую сынагогу.

— Гляньце, пане, пагладзіла камісарыха амэрыканца па рукаве—вось гэтак, пане, мы ту жывем.

Амэрыканец, спачуваючы, кланяўся ва ўсе бакі, ухмыляўся праз свае шырокія рагавыя акуляры, узяў нос у свае рукі, усунуў два пальцы ў ноздры, пасьля вынуў хустку, зноў усунуў яе ў ноздры і выцягнуў адтуль сухога казала.

— Скажэце мне, чаго гэта глядзіць Амэрыка?—сказаў рабін, азіраючыся па бакох.—Што, Амэрыка ўжо зусім ніякага значэньня ня мае?

— Так, рэбэ, Амэрыка... Вы, што, некалі былі ў Амэрыцы?

— Амэрыка, гэта не Эўропа і не Савецкая Рэспубліка. Ва ўсякім выпадку вы ад мяне, рэбэ, адразу даляры атрымаеце,—і, пагладзіўшы пінжак, ізноў сунуўшы хустку ў нос, ён пакінуў сынагогу.

— Вось як жывуць,—са смакам сказала камісарыха.

---

Раней, чым наладзіць суд над хэйдэрам, трэба было падрыхтаваць глебу. Змаганьне супроць хэйдара павінна было набыць шырокую популярнасьць. У гэтую барацьбу трэба было ўцягнуць шырокія працоўныя масы.

Гэтак было ўхвалена на апошнім пасяджэньні яўрэйскага асьветнага бюро. Было ўхвалена таксама, каб у суботу, пасьля работы, Ісроэл выступіў на рабочым сходзе ў майстэрні Утылізацыі.

У майстэрнях Утылізацыі засталося працаваць яшчэ дзьве гадзіны. У суботу работу канчаюць на дзьве гадзіны раней.

На зялёных варотах утылізацыйнага двара вартавы аддзелу народнай асьветы наклеіў вялікі плякат дагары нагамі. Рабочыя ўсё-ж прачыталі: „Даклад „Чаму мы супроць хэйдара“. Выступіць т. Іскроэл“.

— Калі яны ўсё нагамі дагары робяць,—сказаў адзін стары кравец, паказаўшы пальцам на няправільна наклеены плякат.

— Чаго яны хочуць ад мэламэдаў?

— Ні хэйдэра, ні школы ня будзе зараз.

— Школа зараз ня вучыць.

— Школа, якая там школа. Пастухоў яны выгадуюць з нашых дзяцей.

— Дык ты за хэйдэр?

— Хто табе кажа, што я за хэйдар?.. Але чаму гэта ў бальшавікоў такая палітыка: раней яны ўсё зробяць, чаго захочуць, а пасьля ўжо прыходзяць да рабочых і байкі расказваюць... Кажы, Додзька, ты-ж калісьці бундаўцам быў.

— Канешна дрэнна, што ня прыходзяць да цябе спытацца,—сказаў Додл, падняўшы кавалак мануфактуры... Гэта не павінна валяцца на падлозе... Шкада, што петраградзкі пролетарыят ня прышоў да нас краўцоў спытацца ці трэба рабіць Кастрычніцкую рэволюцыю, ці не... Хэйдар вас калекамі зрабіў—дык гэта мала вам... Сьвядомы рабочы ва ўсякія часы застаецца барацьбітом, рэволюцыянэрам, ён ня пытаецца... Калі мне давялося з гары ў сынагозе бомбы цягаць, я не хадзіў ні да каго раіцца.

— Раскажы, Додл, раскажы, як гэта з бомбамі было.

Гадзіньнік паказаў дзьве гадзіны, і рабочыя, кінуўшы працу, пачалі рыхтавацца да сходу.

Радасным і вясёлым прышоў Ісроэл на сход. Рабочыя сшчэ не насьпелі сабрацца, і ён сеў гутарыць з некаторымі рабочымі.

— Мо' выйдзем, таварышы, у Шлёмаў сад, пад яблыні сядзем,— запрапанаваў Ісроэл.

Уся Утылізацыя выйшла ў сад. Расьселіся па лаўках, а каму не хапіла месца, сеў проста на зялёнай траўцы.

Ісроэл прышоў да рабочых узброены сакавітым і сьвежым абвінавачым матэрыялам супроць хэйдараў. Здаровыя і мясістыя сказы прасіліся ў масу. Ён добра ведае сваю аўдыторыю, і аўдыторыя таксама даволі ўжо даўно ведае свайго дакладчыка і даволі чула рэагавала на асобныя месцы яго дакладу.

Ісроэл пачаў сваё выступленьне, як гутарку людзей добра паміж сабой знаёмых. Зусім няпрыметна яго голас узьнімаўся ўсё вышэй ды вышэй! На тым баку паркану сабралася ўжо даволі суботняй публікі. Рабочыя перабіраліся праз дзіравы паркан сюды, на сход, і далучаліся да краўцоў з Утылізацыі.

Сход набыў, такім чынам, выгляд адкрытага мітынгу.

— Так, мы будзем судзіць хэйдэр...

— Гэта будзе надзвычайны суд, дзе аднаго прымаюць за злачынцу і судзяць па законах, даўно ўжо вызначаных грамадой. Мы будзем судзіць хэйдар, як установу, якая вельмі перашкаджала яўрэйскай рабочай клясе больш энэргічна і заўзята змагацца са сваімі клясавымі прыгняталынікамі.

... Дзе прычыны таго, што значная частка яўрэйскіх рэволюцыянэраў пераходзіць у катэгорыю „былых“, заўчасна траціць сваю энэргію, волю да барацьбы? Дзе прычыны таго, што наша пролетарская інтэлігенцыя вылучае з свайго асяродзьдзя такую вялікую колькасьць ныцікаў і опортуністых? Чым тлумачыць, што некаторыя яўрэйскія рабочыя часам падупадаюць пад дробна-буржуазныя настроі і ілюзіі?

— У першую чаргу ў гэтым вінаваты адукацыя і выхаваўчая сыстэма, вінаваты талмудторы, яшыботы і хэйдары... Хіба ня сорам нам, што сярод яўрэйскіх рабочых мы часам яшчэ знаходзім прыхільнікаў хэйдара, што рабочыя яшчэ часам пасылаюць сваіх дзяцей у хэйдар? І хіба ня сорам нам, што сёньня я яшчэ павінен вас агітаваць супроць хэйдара?

. . . . . . . . . . . . . . .

. . . . . . . . . . . . . . .

На апошнім паседжаньні бюро асьветы Додл урачыста паведаміў:— У майстэрнях Утылізацыі глеба падрыхтавана — за хэйдар аніводнага голасу.

*(Далей будзе).*

# ДУМЫ

## Цім. Зарэчны

Бываюць думы, што волава—важкія, цягучыя,—і не страхануць іх, не аслабаніцца ад іх—блытаюцца пад нагамі, што дзераза, спавіваюць галаву, што сон пасьля цяжкай працы,—думы ахмяляючыя, алавяныя,—думы што бронза: пры чатырохзначных градусах распадаюцца яны на мільёны молекул, пры нулі—злучаюцца ў камок са шчыльнасьцю, якой ня бывае на зямлі, з вагою, якую, напэўна, ня мае зямля (каб можна было ўзьняць яе на рукі)...

Думы—што бронза, а бронза—што мільёны молекул: не працаваць тады,—плаваць у сваіх думах—ня ў чоўне—душагубцы і не на караблі, плаваць у самім сабе, у штормах і смэрчах сваіх дум: дадзена-ж чалавеку думаць!.. і часам тоне ён у сваіх думах—ня вытрымліваюць плечы і падае галава—на жвір, у домну, у градусы ўзбунтаванае лявы...

... Пакой Наталіі—небагаты: ложак—за шторамі, яго ня відаць; стол накрыты абрусам,—у самым кутку, каля акна; на стале—бюст Леніна, кніжкі,—кніжкамі абкладзены паліцы, здаецца няма сьцяны з дрэва, сьцяна складаецца з кніжак. Абкружаная кніжкамі і думамі—сама ў думах—на канапе сядзіць Натальля,—і кніжка вывалілася з яе рук—на падлогу, пад ногі. Глядзець на Натальлю—у чорным аддзеньні, стройную, пругкую, з сінімі кругамі пад вачыма і—думаць—яе-ж думамі:

„... Ёсьць людзі, на якіх няма пылу вякоў,—ім нечага страсваць з сябе,—яны з прагнасьцю ўсмактваюць жывіцельныя думы; гэтыя думы не ляжаць на іх грузам,—яны сыстэматызуюць, падпарадкаваюць сабе гэты груз;—груз раскладаецца на пэўныя месцы—паліцы,—і ня цісьне людзей пыл вякоў, як другіх, патонутых у гэтым пыле.

...„Пыл і думы!—Гінуць людзі ад залішніх дум і думы ад пылу, але-ж дадзена чалавеку думаць! Ёсьць людзі, якія ўмеюць падпарадкаваць думы, яны зьяўляюцца іх гаспадарамі, а таму і лёгка ім з думамі і, напэўна, радасна, бо радасьць—сястра вясны, а вясною—у хмельным красавіку—думы з крыльлямі—і ляцяць яны—у маладосьць!

„... Дадзена-ж думаць чалавеку!—аднаму—думамі, што бронза, другому—лёгкакрыласьцю, што пух, трэцяму—чужы груз несьці на сваіх плячох, чацьвертаму—ніяк ня думаць: ні ўласнаю бронзаю ні чужадумнасьцю,—жыць,—абыякасьцю, абываталем...

„... Чужы груз несьці на сваіх плячох,—ісьці ў бездарожжа узьлескамі, лясамі, хмызьнякамі,—прыйсьці да возера ў завірухах, узьняць высока груз над галавою, да сонца,—і кінуць—у бяздоньне, у глыбіню—назаўсёды!—цяжкі і мулкі груз спадчыны.

... Думаць чалавеку—думамі, што бронза... (і няма яму часу думаць: стук—стук у дзьверы: „Хто-ж гэта можа ў такі позьні час?“).

Натальля ўсхапілася, падняла кніжку з падлогі і пашла да дзьвярэй.

Хто там?..

Восень—самы лепшы час году. Восеньню дні перапоўнены паўнакроўнасьцю, а палі—сьпелаю пазалотаю сонца; восеньню-ж нарадзілася вясна: у кастрычніку, у суровыя ночы сямнаццатага году—у цемры, у дажджох, у навальніцах рэволюцыі.

Восеньню памірае прырода—у ціхай задуме, пажоўклых лістох клёну—бяз енку, бяз крыкаў, так умее паміраць толькі прырода. Падаюць лісты, кружацца на вятру,—павуціньне плыве па празрыстым паветры, косы апушчае на зямлю і спавівае імі палі,—і па гасьцінцу, таксама спавітым павуціньнем, ідзе чалавек—бяз дум, бяз мысьляў—парожная скрынка ад сярнічак. Чалавек не заўважае празрыстасьці восені, яе пераліваў колераў—з сіняга ў жоўты, з жоўтага—у бялёсы; берагі яго старога цела—яшчэ пругкага, як іржаўлены дрот, і дзябёлага, як выцягнутая з дна возера гняціна, перапоўнены атрутай зласьцівасьці—горкай, як палын, і калючай, як перасьпелы дзядоўнік.

Чалавека—парожнюю скрынку ад сярнічак—завуць Лукашом Лявонавічам Карчагай. Ідзе ён з мястэчка Яравога,—быў у райкоме партыі, у райвыканкоме,—ніхто не задаволіў яго стараньні. З прычыны зласьлівасьці на сьвет божы зайшоў Карчага да былога шынкара Хвядоса, заказаў самагону,—з тытунём, з перцам, з гарчыцай—выпіў гэта залпам, з бутэлькі,—па целу разьлілася муць і туманнасьць, Хвядос стаў на галаву—угару нагамі. А потым усё неяк праваліілася,—засталася парожнасьць і злосьць.

Здавалася—дарога на выбоінах і на карэньнях. Цяжка ступалі ногі па зямлі, лісты шамацелі пад нагамі—і ад гэтага павялічвалася злосьць. Калі падыйшоў блізка да свае мясцовасьці, не павярнуў, як звычайна, на зарослую муравою сьцежку да свайго хутара, а пайшоў дарогай, міма гуты—яна гудзела і ўздрыгвала (і старое цела пранізвалася гострымі іголкамі, і з іголак капала іскрыстымі кроплямі злосьць), пашоў у рабочы пасёлак, у дом тэхнічна-адміністрацыйнага пэрсаналу (там была кантора і кватэры некаторых тэхнічна-адміністрацыйных супрацоўнікаў).

Кватэра Лесавецкага была даўно знаёма Карчагу,—мела яна два акны—у прасторы, у бязьмежнасьці,—мела ідэальную акуратнасьць—ні пылінкі, ні паперкі на падлозе, хоць і ня было ў Лесавецкага жанчыны—жыў адзін, трыццаціпяцігадовы бабыль,—сам прыбіраў, зьмятаў, раскладваў,—сам, адзін і з ім—адзіноцтва мужчыны, нявыразнае і заха-

ванае. Карчага падышоў да дзьвярэй, пастукаў; ніхто не адказаў. Другі раз пастукаў, трэці,—адно гулкае рэха заставалася ад стукаў і—цішыня. Падумаў: „Напэўна дома няма“,—і ціха, з паніклай галавой, пайшоў назад.

— Лукаш Лявонавіч! — якім чынам? адкуль? — перад вачыма вырас Лесавецкі,—у акулярах, у скуранай куртцы, з партфэлем,—і Карчага замяшаўся,—ні то ўсьмешка, ні то расчараваньне пакрывіла яго вусны, і смутная цень прамільгнула па твары Карчагі, хоць і не заўважыў гэтага Лесавецкі.—Адкуль-жа, старына? Чаго ты маўчыш?—здаецца сьмяяўся, здаецца насьміхаўся Лесавецкі, і Карчага адчуў сябе ніякавата, як быццам абарвалася нешта, ці адпусьціў нехта туга нацягненую струну, і невядома было: ці добра гэта, ці дрэнна, ці проста сярэдняе нешта між гэтымі двума полюсамі. А потым устрапянуўся, ажывіўся,—твар пераварыўся ў шырокавяшчальную ўхмылку,—загарыў:

— Браніслаў Віктаравіч—я так шукаў вас, так шукаў... Ведаеце, я быў сёньня ў Яравым, хадзіў па гэтых райкомах, райвыканкомах, яшчэ па нейкіх установах з прыстаўкаю рай,—а раю-ж, ведаеце, і кот не наплакаў!.. Вось хадзіў, ня выхадзіў, прыбіўся да вас... Скажаце, вы не заняты сёньня? Мы-ж ня бачыліся з вамі цэлых два дні...

— Два дні,—перабіў Лесавецкі,—у нашых умовах, у наш бурны час тэрмін вялікі... Мы жывём гадзінамі, хвілінамі, часам сэкунда вырашае лёс гадоў, а то, калі хочаце, вечнасьці (вядома, пры пэўнай адноснасьці),—мы ў тэмпах, у буры,—і два дні—тэрмін вялікі: за два дні на месцы Карпатаў могуць быць акіяны... Але аб гэтым пасьля... Давайце цяпер зойдзем на мяне, да бабыля, як вы кажаце...—кажучы гэта, Лесавецкі адмыкаў дзьверы,—ключы зьвінелі, і лязг іх здаваўся іржаўленым, хрусткім, быццам па целе шклянога страшыдлы вадзілі жорсткім дыямэнтам.

— А ключы, бачыце, скрыгочуць зубамі...—усьміхнуўся Карчага.

— Як жыцьцё наша...—зусім сур'ёзна адказаў Лесавіцкі.

Урэшце дзьверы адчыніліся і яны-ж зачынілі за сабою, замкнулі—Карчагу і Лесавецкага.

... Ніхто не адгукваўся, ціха і спакойна было за дзьвярыма.

— Хто там?—зноў запытала Натальля.

— Гэта я, Лесавецкі.

— Чаму ў такі позьні час?

— Яшчэ толькі адзінаццаць гадзін, зусім ня позна,—у мяне пільная справа.

— Ніякіх пільных спраў: убачыце заўтра на гуце.

— Натальля Лукашоўна,—я не магу... Пільна справа патрабуе.

— ...патрабуе таго, каб вы зараз-жа пайшлі спаць...

— Натальля Лукашоўна...

— Я магу адчыніць. Што ў вас за справа?

Адамкнула дзьверы і адчыніла. Лесавецкі ў бліскучай куртцы—дождж, як з цэбра на вуліцы—прайшоў у пакой і, не распранаючыся, сеў на канапе. Твар яго быў стомлены, цьмяны, і сам ён увесь—сярэднягa зросту, паджары—трымаў на плячох стопудовы цяжар бяскрылай замораныасьці. Выняў папяросу, закурыў; дым лёгкімі ўзьвівамі ўзьняўся да столі.

Лесавецкі маўчаў, маўчала і Натальля. Яна ведала, што ў яго ніякай пільнай справы няма, што ён прышоў зусім з іншае прычыны, і аб гэтай прычыне—такой-жа цьмянай і заморанай, як і Лесавецкі,—думаць Натальлі не хацелася. Заўсёды, калі яна сустракала Лесавецкага, акуратнага і, здавалася ёй, сухаватага, бяскроўнага, з нечым смуглым і захаваным, у яе зьяўлялася нездавальненьне на некага ці на нешта, недзе ў глыбіні трапяталі смутныя, без абрысаў і формы, адчуваньні, і яна абрывала яго, калі ён пачынаў гаварыць.

— Натальля Лукашоўна...

— Ну,—ведаю, ведаю...

— Нічога не ведаеш, Натальля!—Лесавецкі ўзьняўся, на твары яго зъявілася чырвань—не маладосьці а перасьпеласьці,—плямамі, з цьмяна сінімі жылкамі, і ён усхвалявана, з абрывамі, з новымі, дасюль нячутымі інтонацыямі загаварыў, замахаў рукамі—(і ў словах, і гэстах (здавалася) ён тоне, блытаецца і губіць сябе):—Нічога ня ведаеш, Натальля! І ведаць ня будзеш! Пра тое-ж, што ведаеш, ня будзем гаварыць. Ты ня любіш мяне,—пра гэта мы ведаем абодвы, нам цяжка пра гэта гаварыць. Але-ж ты павінна паверыць, што я люблю цябе, хоць ты гэтага ніколі ня зробіш, бо—няма ў цябе веры, згубіла ты яе, і шкада цябе за гэта, хочацца дапамагчы,—а ты — адштурхваеш, гоніш.— Шкада цябе, Натальля.

— Шкадуюць жывёлу, сабаку, я-ж—чалавек!—і прашу цябе пра гэта не гаварыць, твая дапамога мне непатрэбна!..—скарагаворкай, спачатку высока, а потым ніжэй і ніжэй адказала Натальля, і Лесавецкі—у цьмянасьці і ценях ад шторы—адчуў непатрэбнасьць далейшае гутаркі. Але разгон быў вялікі, думы важкія, і Лесавецкі—па інэрцыі—з крутаяру ляцеў уніз,—магчыма ў бездань, магчыма (па інэрцыі) зноў на гару, на кручу,—гаварыў:

— Толькі што быў у мяне твой бацька. Даўно яго ня бачыў,—думаў, што выехаў куды, а сёньня, увечары, сустрэў яго ў калідоры,—зайшлі да мяне. Ён быў у мяне гадзіны паўтары, і за гэты час шмат чаго расказаў. Бацьку свайго, Натальля, ня ведаеш ты. Ён такі няшчасны і прыбіты,—выратуй яго, затрымай,—ты ўсё можаш,—а то позна будзе, Натальля!.. Бацька твой што сокал з падрэзанымі крыльлямі... Яму дапамога цяпер патрэбна. Ты-ж яго дачка, дапамажы!.. Ну, было ў вас там нешта, гэта-ж даўно, Натальля, пра гэта забыта...

Натальля стаяла каля сьцяны, рукамі абапёршыся аб брыж стала, глядзела ў вакно, на дождакам залітую вуліцу, на ліхтар, што вісеў у цемені, успамінала: у дваццатым, у дні голаду і тыфусу, дзяўчынай, дзіцянём яшчэ, кінула бацьку, з партызанамі пайшла ў лес,—варыла ім страву, зьбірала грыбы, перавязвала раны параненым; прывыкла да крыві, да гулу гармат; дні былі асьвістаны кулямі, забалочаны багавіньнем, паглынуты пушчаю, і людзі былі—у суровасьці, у небясьпецы,—непадобныя да гэроеў і—гэроі. Былі там сяляне з вакольных вёсак—у растаптаных лапцях, у падраных анучках, босыя;—былі і рабочыя гуты—задымленыя, абветраныя, у лахмоцьці. Была ў лясох і балотах з вясны да сярэдзіны лета; пасьля, калі адгрымелі гарматы—на гуце, у гулах і перaборах, каля тапільнае печы. Бацька быў тады на гуце за галоўнага інжынэра. Нешта раз прышоў да яе, сказаў, каб зьвярнулася дамоў; не пашла, бо помніла: дома—у роднай хаце—зласьлівасьць бацькі—на ўсіх, на ўсё, на ўсякага, і хмурасьць, і душу выядаючы сум,—бег-бы ад іх вуліцамі, гародамі ў трасяніну балот!—хоць-бы апошні раз, хоць-бы назаўсёды, абы ня бачыць навіслай у хаце варожасьці, абы ня дыхаць аблітым жоўцю патрам, абы ня быць на гэтым кавалку зямлі!—(маці шкада—маці ў сьлязох і няшчасьці). Не пашла назад у хату,—бацька прасіў, загадваў, пагражаў звальненьнем з гуты; праўда,—на другі дзень ня далі работы,—плакала і ня ведала, што рабіць; заступіліся рабочыя, тыя, што партызанілі!—зноў пачала працаваць,—бацьку прагналі і больш з ім—хоць і сустракалася—не гаварыла. Потым паехала вучыцца,—сем год ня была на гуце—лябараторыям і кнігам аддала маладосьць, і зноў прыехала сюды—у глуш, у балоты,—хоць і ня пушчалі, пасылалі на вялікую гуту, у горад.

— Ну, Талі, дапамажы бацьку... ён просіцца на гуту... Чаму ты маўчыш?

— Прэч адсюль, прэч!..—ускрыкнула Наталія і ў яе закружылася галава,—сінія, чырвоныя, цьмяна-ружовыя кругі засланілі Лесавецкага,—ён праваліўся ў туманах балота, у багавіньні;—няма яго—парожнасьць і лёгкасьць у целе, і словы:—Прэч адсюль, прэч!—адыйдзіце!..

Лесавецкі вінаваты стаяў каля дзьвярэй, Наталія ніцма ляжала на канапе і плакала наўзрыд. Лесавецкі ведаў: падыйдзі да яе, пачні ўгаварваць—прагоніць, задушыць (так яму здавалася), ён пераступаў з нагі на нагу, адчуваў сваю дробнасьць, нязначнасьць для Наталі і ненавідзеў сябе; здавалася: сам задушыў-бы сябе:—„Чаму жыць, для чаго?"—стаяў каля парогу, глядзеў на Натальлю,—потым сказаў:

— Я пайду Наталія, ня буду пра гэта гаварыць...

Наталія нічога не адказала, ён зьнік за дзьвярыма. Ішоў завулкамі, перавулкамі; дождж імжэў дробны, восенскі, як і тысячу год таму назад, магчыма—на такой-жа самай зямлі, магчыма—у гэткую васеньнюю ноч. Прышоў на кватэру, не распранаючыся лёг на ложак—першы раз у жыцьці—бруднымі ботамі на белую коўдру.

... Думы—што бронза,—і Наталія ў думах—дадзена-ж думаць чалавеку! За акном, на вуліцы—вецер і дождж,—і ў дажджы, у завірусе—вясна,—суровая, хмельная, буяная,—ідзе яна праз балоты, сьнегапады, марозы—бурнымі патокамі—у шуме, у сонцы—вясна.

За вясну можна памерці, можа рынуцца ў вір галавой—у бяздоньне, у домну, у ляву,—страляць і расстрэльваць,—зіму на штыхі падымаць—высока да сонца!—каб спаліла сонечнасьць яе, ператварыла ў сівасьць—сівую, як галубы!—у мільёны малекул,—і каб малекулы бунтавалі мільёнамі кілёват энэргіі— у марозах, сьнегападах, вятрох!

Думы—што бронза, і абвалы дум—жудасныя, што лява з крутаяру:—які Гэркулес затрымае абвалы?—не ўцячы, не схавацца—дагоняць, зломяць, ператвораць у тую-ж ляву: будзеш мільёнамі малекулы ламаць, крышыць, руйнаваць,—і ня ты ўжо, а мільёны малекул тваіх: ты ператворышся ў кавалак растопленае лявы,—лява застыгне, кавалак закапаецца ў зямлі,—на паверхні, на зямлі—вырасьце куст жымаласьці.

Наталія на канапе, ніцма, у думах, у сонечнасьці і вятрох, у маровах і вясьне: дадзена-ж думаць чалавеку!—і калі чалавек моцны—адзінка магутнейшай, узыходзячай па ганках да вышынь жыцьця масы,—ён не загіне, плячо ў плячо будзе ісьці разам з усімі — праз равы, крутаяры, балоты,—на гару, на горы, на Эльбрусы,—усё вышэй і вышэй—да сонца—у сонечнасьць і вясну!

Студзень, 1931 г.
г. Менск.

# ВАЯВЫЯ ЗАДАЧЫ ПРОЛЕТАРСКАЙ ЛІТАРАТУРЫ СССР

**Л. Авербах**

## Ад гуртка да кіраўніцтва савецкай літаратурай

Работа нашага пленуму распачалася не з дакладу пра чарговыя задачы ЎсеААПП і не са справаздачы нашага сакратарыяту, але з абмеркаваньня творчых пытаньняў. Думаецца што гэта выпадковая зьмена парадку дня выражае не выпадковыя, а *асноўныя* тэндэнцыі разьвіцьця пролетарскага літаратурнага руху.

Творчая дыскусія ўжо заняла галоўнейшае месца ў штодзеннай дзейнасьці асоцыяцыі пролетарскіх пісьменьнікаў. Увага да проблем творчага мэтоду і далей будзе з кожным днём узрастаць. Гэта—галоўнейшыя пытаньні нашай работы. Рабочая кляса, пісьменьнікамі якой зьяўляемся мы, чакае перш за ўсё твораў, крытычных артыкулаў, тэорытычных работ па сутнасьці, а не па поваду; вялікага мастацкага бальшавізму, а ня дробных адпісак другараднымі творамі. Краіна, якая ўступіла ў пэрыод соцыялізму, мае права на высокую літаратурную продукцыю, якая нічога ня мае супольнага з багатай продукцыяй каля літаратурнага парадку.

Гэтыя бясспрэчныя палажэньні асабліва важна падкрэсьліць зараз, у зьвязку з наяўнай і значнай зьменай становішча Ўсесаюзнага Аб'яднаньня Асоцыяцыі Пролетарскіх Пісьменьнікаў і ўсіх яго (УсеААПП) нацыянальных атрадаў. *Мы былі раней адным з літаратурных гурткоў, адным з літаратурных напрамкаў, аднэй з ліку іншых літаратурных організацый. Мы сталі сёньня шырокім і масавым літаратурным рухам, аб'яднаньнем усіх пролетарскіх пісьменьнікаў Савецкага Саюзу, вядучым атрадам усёй савецкай літаратуры, галоўнай каляёнай міжнароднай організацыі рэволюцыйных пісьменьнікаў.*

Ці дастаткова ўсьвядомлена ўсімі намі зьмена становішча нашай організацыі? Ці зроблены намі патрэбныя вывады. Што патрэбна нам пераглядзець для таго, каб справіцца з нашымі новымі і куды больш труднымі задачамі? Аглянемся назад. Чаму мы—адзін з гурткоў калісьці—захаваліся, як цэлае, сталі цэнтрам прыцяганьня для новых бальшавіцкіх кадраў, ператварыліся ў партыйнае ядро на літаратурным фронце. *Гэта здарылася таму, што мы ня ставілі сябе ў становішча якойсьці школы, ці школкі, таму, што ўсю працу мы вялі і вызна-*

*чалі ў суадпаведнасьці з задачамі партыі і на аснове яе генэральнай лініі, таму, што мы ўсьведамлялі вопыт гэтае барацьбы, імкнучыся не адрываць нашу тэорыю ад нашай практыкі, таму што мы падходзілі да літаратуры, як да часткі культурнай рэволюцыі, таму, што мы адны з першых стварылі масавы рух на адным з вучасткаў ідэолёгічнай барацьбы.* Было ў нас пры гэтым і шмат памылак, шмат недахопаў, шмат прарываў і ўпушчэньняў—нашы заслугі нікольні не зьяўляюцца прыроджанымі якасьцямі нашага характару, мы іх выпрацоўвалі з цяжкасьцямі, з хваробамі, часам з сэктанцкімі скрыўленьнямі, але *кіраўніцтва партыі* забясьпечыла перавагу нашых плюсоў над нашымі мінусамі. Такім чынам мы сталі на сёньня асноўным правадніком лініі партыі ў галіне мастацкай літаратуры. Гэта кладзе на нас найвялікшую адказнасьць, якая далёка ня ўсімі намі ўсьведамляецца ў належнай ступені.

Гутарка ідзе аб адказнасьці за ўсю пролетарскую літаратуру. Гутарка ідзе аб адказнасьці за бальшавіцкае правядзеньне бальшавіцкай літаратурнай політыкі, за консолідацыю ўсіх мажлівых кадраў, за ход барацьбы супроць ухілаў ад ленінізму ў галіне мастацтва, за сваячасовую сыгналізацыю партыі становішча на нашым адрэзку клясавага ідэолёгічнага фронту. Гутарка ідзе аб адказнасьці за выкарыстаньне літаратуры, як зброі барацьбы рабочае клясы. Гутарка ідзе аб адказнасьці за ўздым мастацтва на ўзровень задач, якія прад'яўляе эпоха соцыялістычнай рэконструкцыі. Гутарка ідзе аб адказнасьці за ўсю савецкую літаратуру. Гутарка ідзе аб адказнасьці за якасьць літаратурнай прадукцыі.

Вялікая адказнасьць! Ці будзем мы варты яе? У нас сёньня больш правоў, але ў нас—і гэта галоўнае!—значна больш абавязкаў. Пачуцьцё найвялікшай адказнасьці трэба паказаць не ў парадку фарысейскай трапатні і пабожнай дэклярацыі. Пачуцьцё найвялікшай адказнасьці трэба паказаць на практыцы, для пасьпяховасьці нашай практыкі—ва ўсёй штодзеннай працы. Гэтае пачуцьцё найвялікшай адказнасьці павінна знайсьці сваё выражэньне перш за ўсё ў павялічэньні ўвагі да творчай прадукцыі і творчых пытаньняў.

Мера ўсьвядомленьня намі павялічанай адказнасьці павінна стаць мерай нашага прасоўваньня па шляху да творчай гегемоніі савецкай літаратуры. У галіне літаратурна-політычнай нам належыць вядучая роля, але мы яшчэ не дасягнулі творчай гегемоніі пролетарскай літаратуры. Іменна ў гэтым надзвычайна складанае становішча УсеААПП. Іменна для гэтага надзвычай шкодна будзе найменшае параўвялічэньне нашых посьпехаў. Іменна для гэтага асабліва недапушчальна найменшая пыха. Сутнасьць справы заключаецца ў неабходнасьці забясьпечыць прасоўваньне да творчай гегемоніі ў як найкарацейшыя яе гістарычныя тэрміны—усе патрэбныя ўмовы для гэтага маюцца!

Іменна для гэтага, у прыватнасьці мне думаецца, што мы правільна зрабілі, унёсшы зьмены ў парадак абмеркаваньня пытаньняў, якія стаяць перад намі, і паставілі на першае месца творчую дыскусію. Мы ведаем, аднак, што творчыя пытаньні можна ўсьвядоміць і разьвязаць толькі выходзячы з агульных і асноўных пытаньняў ленінскага вучэньня аб культурнай рэволюцыі. Мы—ідэйна-выхаваўчая організацыя—зьяўляемся адным з баявых атрадаў пролетарыяту. Інтарэсы яго палітычнай барацьбы—крытэрыі праверкі ўсёй нашай працы ў галіне мастацтва. Стварыць вялікае мастацтва бальшавізму—вось наша задача!

## Культурная рэакцыя і культурная рэволюцыя

Мы—пленум савету ЎсеААПП—самым фактам існаваньня нашай організацыі супрацьстаім культуры буржуазіі, культуры выміраючай буржуазіі, культуры нацыянальнай варожасьці, культуры паразытычнага загніваньня капіталізму. Гэтае супрацьстаўленьне прыватнае выражэньне барацьбы двух сьветаў, краёў імпэрыялізму і краіны, якая ўступіла ў пэрыод соцыялізму, духоўнага крызісу ў культурнай рэволюцыі, якая ўсё больш і больш пашыраецца і паглыбляецца.

Аб крызісе культуры ў буржуазных дзяржавах гаворым ня толькі мы, комуністы. Крызіс іх кулвтуры прызнаюць і вучоныя прыказчыкі клясы капіталістаў. Крызіс іх культуры змушаны констатаваць і соцыялфашысты, як правыя, так і „левыя“. Вось, напрыклад, нядаўна зьявіўся артыкул Отто Баўэра, адмыслова прысьвечаны пытаньню, якое нас цікавіць. Гэты артыкул называецца: „Сусьветны духоўны крызіс“. Баўэр гаворыць аб гэтым крызісе без падзелу сьвету на краіны капіталізму і СССР. Баўэр замазвае і адмаўляе прынцыпіяльную розьніцу ў іх становішчы. Баўэр хоча гаварыць не пра духоўны крызіс пад прыгнётам імпэрыялістычнай буржуазіі, але пра сусьветны духоўны крызіс—тым самым ён ня будучы ў стане абвергнуць наш культурны росквіт, адлюстроўвае толькі ступень і сілу духоўнага крызісу капіталізму, даючы меру і глыбіню свайго—баўэраўскага перапалоху перад супярэчнасьцямі навакольнай рачаістасьці. Разважаючы, як рэакцыйны дробны буржуа, Баўэр ня мае магчымасьці што-небудзь супроцьставіць рэволюцыйнай крытыцы сучаснага капіталізму.

Баўэр піша: „Тэхніка—гэта фатум нашай культуры... Містэр Бабіт возіцца вечарамі каля аўтомобіля, служачы—з матацыклетам, рабочы—з апаратам бяздротавага тэлеграфу. Людзі прасякаюцца мацнейшымі інтарэсамі да ўсяго, што мае адносіны да тэхнікі... І ўсё-ж такі—чым больш мы ўслаўляем пераможны ход тэхнікі, тым жудасьнейшым нам выдаецца сьвет, які стварае гэтую перамогу. Рабочы—каля ланцужка. Дзень за днём, гадзіна за гадзінай, хвіліна за хвілінай у вечнай аднастайнасьці, у бязупыннай паступовасьці ўсё тых-жа рухаў. Служачы—

каля рахунковай машыны, якая замест яго робіць запісы і вылічэньні, яго жыцьцёвая задача—весьці лік кліентаў, прозьвішчы якіх пачынаюцца на літару „С".

Бауэр нявыразна і між іншым бармоча далей пра тое, што соцыялізм інакш выкарыстоўвае тэхніку, але гэтыя барматаньні зьяўляюцца толькі новым доказам дробнабуржуазнай панікі Бауэра перад наступленьнем тэхнікі, наступленьнем, якое выражае конфлікт паміж вырасшымі ужо вытворчымі сіламі і капіталістычнымі вытворчымі адносінамі.

Тэхніка ніколькі не зьяўляецца фатумам нашай культуры—іх культура прыходзіць у супярэчнасьць з магчымым і неабходным выкарыстаньнем тэхнікі, яны палохаюцца разьвіцьця тэхнікі,—мы ёю цешымся: „бальшавікі павінны аўладаць тэхнікай!" Сталінскі лёзунг ня толькі дырэктыва для практычнага дзеяньня,—гэта лінія маладой і перамагаючай клясы, здольнай аўладаць тэхнікай і заставіць яе служыць сабе, у процівагу лініі адміраючай клясы і яе лёкаяў, якія палохаюцца тэхнікі, і якія ня маюць сілы пры капіталістычным спосабе вытворчасьці ператварыць людзей з нявольнікаў машыны ў яе гаспадароў.

Паніка перад тэхнікай настрайвае Бауэра пэсымістычна. Ён сумна разважае: „Вядома, узьнікае новая навука. Але што яна зможа даць масе адукаваных людзей? Паўвекавая пазнавальна-крытычная праца расчаравала нас: прыродазнаўства не разьвяжа ніякіх сусьветных загадак". Адно гэтае развжаньне Бауэра зьяўляецца доказам іх духоўнага крызысу. Гаворачы аб тым, што тэхнічнае і позытыўнае мышленьне забівае мышленьне гуманітарнае, Бауэр хоча адчыніць дзьверы і адчыняе іх для агностыцызму, для росквіту містыкі, для ўваскрашэньня сярэднявяковага забабону на аснове разьвенчаньня навукі.

Недарма сучасная Германія, напрыклад, ведае процэсы новых алхэмікаў. Прыпомнім пра нейкага Таўзэндэ, якога судзілі ў Мюнхэне ў студзені 1831 году за махлярства. Таўзэнд, цалкам цёмны чалавек, „адкрыў" магчымасьць ператварэньня сьвінца ў золата. Для эксплёатацыі гэтага вынаходзтва было створана спэцыяльнае акцыянэрнае таварыства з капіталам у 750.000 марак. Сярод акцыянэраў быў буйны прамысловец Альфрэд Манэсман, два прынцы, Шэнбург і Вальдэнбург і генэрал Людэндорф! З Таўзэндам вёў перагаворы старшыня германскага рэнтнага банку, які на судзе заявіў: „Перажыўшы на сваім вяку вынаходкі радыё і рэнтгена, я ня лічыў немагчымым і адкрыцьцё Таўзэнда". Цікава што на даходы таўзэндаўскага таварыства разьлічвалі нацыяналістычныя партыі.

Недарма ня толькі ў сучаснай Германіі знахаром аддаецца перавага перад дактарамі і „інтуіцыі" алхэмікаў і знахароў даецца перавага перад ведамі—гэта па сутнасьці справы апраўдваецца і Бауэрам. Ягоная пропаведзь нявер'я ў навуку, у матэрыялістычную навуку, у навуку, якая ўсё больш даказвае ісьціну і сапраўднасьць марксызму, абарона буржуазнай культурнай рэакцыі супроць культурнай рэволюцыі пролетарыяту.

Больш за ўсё палохаецца Бауэр таго, што „ўсё сваё нездавальненьне культурай нашага часу яны (і „тэхнікі“ і „інтэлігенты“— *Л. А.*) пераносяць таксама на політыку“. І ў другім месцы: „Адных фантастычныя ўяўленьні аб сусьветнай рэволюцыі прываблівають да бальшавізму, іншых прываблівае фашызм сваімі брэднямі аб рэволюцыі нацыянальнай“. Так, справа абстаіць іменна так, варожыя сілы полярызуюцца. Супроцьстаяць адзін аднаму комунізм і фашызм. І, маючы намер адарваць пытаньні політыкі ад пытаньняў культуры, Бауэр выкрывае сябе, як „соцыялістычнае“ крыло фашызму, як аднаго з агіднейшых прадстаўнікоў соцыял-фашызму, які прапаведвае культурную дэмократыю і мірнае ўрастаньне ў соцыялістычную культуру над апекай дзяржаў буржуазіі, якія фашызуюцца.

Усё, што можа прапанаваць Бауэр—гэта дэмократыя і духоўная свабода. Гаворачы аб духоўнай свабодзе, ён узьнімаецца нават да патосу сантымэнтальнага і сьлязьлівага, гаворачы аб дэмократыі, ён пачынае голасна дэклямаваць,—фальшыва, з манатоннай хадульнасьцю, націскаючы пэдалі фрэзэрства,—тым больш узьлётнага, чым больш зьнясільнага. Ягоная „духоўная свабода“—гэта псэўдонім уцякацтва ад неабходнасьці выбіраць паміж двума лягерамі і ўтончаны сродак барацьбы за гегемонію буржуазіі над тымі, якія хістаюцца. Ягоная „дэмократыя“ гэта сяяньне ілюзій аб магчымасьці сядзець паміж двух крэслаў. Ягоныя артыкулы аб духоўным крызісе няўхільна ператвараюцца ў адзін з дакумэнтальных сьвядоцтваў гэтага крызісу.

Духоўны крызіс характарызуе і буржуазнае мастацтва. Літаратура пабіваецца „чтивом“, мастацкасьці—нават калі вызначаць яе крытэрыямі клясычнага буржуазнага мастацтва—супроцьстаіць перамагаючая халтура поліцэйшчыны, крымінальнай авантюршчыны, бульварнай сэксуальнасьці. Там-жа, дзе яшчэ захоўваюцца прэтэнзыі на мастацтва, няўхільна пануе ўпадніцтва, крахаборчаскі псыхоаналіз, паводка дробных пачуцьцяў і дробных думак.

М. Дзюво ў даволі вядомым і ўплывовым журнале пісаў у жніўні 30 году. „Крызіс роману, крызіс поэзіі, крызіс нават роспачы, якая ператварылася ў шэранькую старасьць, ледзь здольную на выпадковыя ўзьлёты... У выніку ўжо няма ні твору, які пакінуў-бы глыбокі сьлед, ні моральных проблем. Дадам яшчэ, рызыкуючы паказацца парадоксальным: адсутнічае нават роспач“. Цалкам ортодоксальна буржуазны акадэмік Шомэ пісаў па сутнасьці тое самае ў лютым 1931 г. „Пошукі прыгод, падарожжы, накідзь далёкіх краін, выяўленьне пачварных тыпаў, нахіл да нязвыклых, ненормальных выпадкаў, спробы адшукаць няўхільнае ап'яненьне—усё гэта паказвае нам грамадзтва, дзе асноўнае імкненьне пісьменьнікаў, калі не чытачоў,—гэта уцяканьне ад сябе. Між іншым, гэтыя зьявішчы тыповыя ня толькі для Францыі. Падобныя сымптомы мы бачым у англьскай і нямецкай літаратуры. Ва ўсім сьвеце

адчуваецца недамаганьне, якое можа быць вытлумачана нэрвовым патрасеньнем, выкліканым вайной і яе вынікамі.

Не ва ўсім сьвеце недамаганьні. Але ў іх „недамаганьне“ бясспрэчна. Але ў іх мастацтва гіне бязумоўна—і гэта надзвычайна дэманструецца літаратурай расійскай эміграцыі. Там маюцца вядомыя ў мінулым празьвішчы, а што яны далі?

Прывяду некалькі ілюстрацый. Вось што піша З. Гіпіус [1]).

БЫТЬ МОЖЕТ

*Г. В. Адамовичу.*

Как этот странный мир меня тревожит!
Чем дальше—тем все меньше понимаю!
Ответов нет. Один всегда: „быть может“
А самый честный и прямой—„не знаю“.
Задумчивой тревоге нет ответа.
Но почему же дни ее все множат.
Как родилась она. Откуда. Где-то,
Не знаю где—но есть ответ...
быть может.

*З. Гиппиус.*

Верасень 1930 г. (стар. 212).

„Чым далей—тым усё менш разумею“, можа быць ёсьць адказ, а можа і няма, найбольш сумленна будзе адказаць „ня ведаю“. І вось другі яе верш:

Хорошая погода.
Травы, травы, тростники
на сухой вершине...
Почему бы тростники?
Ни ручья здесь, ни реки,
вся вода в долине.
Небо каждый божий день
равно голубое.
Почему бы каждый день,
и куда девалась тень?
что это такое?
Для того, чтоб обмануть
свод нябес так ясен,
соблазнить и обмануть
убедить кого-нибудь
что наш мир прекрасен.
Не поддамся этой лжи,
знаю, не забуду:
мир кругом лежит во лжи...
Ворожи, не ворожи—
не поверю чуду.

*З. Гиппиус.*

(стар. 210).

[1]) Современные записки, XXXV, Париж, 1930 г.

Ці патрэбны да гэтага коментарыі? Гэта поэзія соцыяльнай безнадзейнасьці, поэзія гніеньня, поэзія распаду. Мы ўспрыймаем гэтыя вершы, як пародыі, нам здаецца, што пад імі павінен быць подпіс Архангельскага, і побач павінны быць малюнкі Кукрыніксаў, але не, гэта паказальны прыклад іхняга сьветаадчуваньня, адзін прыклад на выбарку. А вось яшчэ другі:

Мир испорчен, как туман,
Рифма—горестный обман.
Эхо з берегов иных.
Ангельский ответ на стих,
Замирает сладкий звук,
Падает перо из рук,
Черный ветер к нам летит,
Прядь волос он шевелит
Над высоким смертным лбом—
Будет тишина кругом,
Пеплом заметен наш путь.
И замерзнет в трубке ртуть.
Тучи снежных мотыльков,
Прилетают с облаков,
Голубеет вечный лед,
Роза, где твой летний мёд.

*Анд. Ладинский.*

(таксама „Современные записки").

Гэтыя лірычныя дэклярацыі дэкаданса таксама сваясаблівая палітычная поэзія—але дарэмна думаць, што яна патрэбна буржуазіі для схіленьня галавы перад „чорным ветрам", ці для ўзгадаваньня пасыўных адносін да сьвету, ці для непрацiўленьня бальшавiцкаму злу. Сьвет ня моцны, як туман для Ладзінскага таму, што ёсьць бальшавікі, „мір кругом лежит во лжи" ва ўяўленьні Гіпіус з-за таго, што яна—Гіпіус—не ўладарніца душ сярод інтэлігенцкіх вярхоў Санкт-Пецярбургу, а мізэрная прыжывалка і папрашайка на эміграцыі. І можам сьмела запэўніць Гіпіус, цудаў сапраўды ня бывае—варажы, не варажы, а пэрспэктывы ў яе з Ладзінскім мала спрыяючыя, якія ні якім чынам ня схіляюць да оптымізму.

Ня ўпадніцкую, але ваяўнічую літаратуру спрабаваў і спрабуе стварыць фашызм. Вядомы спробы Мусоліні насадзіць сваю літаратуру. Але, на жаль!—ідэямі фашызму не апладняюць літаратуры—не выпадкова ў італьянскіх выданьнях белетрыстыкі цалкам пануюць *чужаземцы. Перакладная халтура—вось што вызначае літаратурны воблік фашыцкай Італіі!*

Заняпад усяго буржуазнага мастацтва змушаны прызнаць і Бауэр. „А новае мастацтва?—ставіць ён запытаньне ў цытаваным намі артыкуле.—Ці-ж сучасныя романы і тэатральныя п'есы, тэхніка якіх конкурує з фільмай, не зьяўляецца толькі сымптомам мэханізацыі духоўнага жыцьця?"—у запытальнай форме адказвае ён сам сабе. Зьместам слова

„мэханізацыя“ тут зьяўляецца ідэйнае ўбоства, мастацкая другараднасьць канвеернай вытворчасьці стандартнага „чтива“, зьніжэньне шырокага мастацтва да запатрабаваньняў містэра Бэбіта, вузкалобага і провінцыяльнага абывателя, які захапляецца разьлічанай на яго і на яго узроўні знаходзячайся масавай амэрыканскай фільмай. Отто Бауэр з тым большым абгрунтаваным мае права на рэзкую кваліфікацыю сучаснай літаратуры. Чым больш прыкметны няўдачы II Інтэрнацыяналу і ўсіх яго сэкцый у галіне літаратуры, дзе асноўныя кадры пісьменьнікаў, выхадцаў з рабочае клясы, ідуць пад сьцягі Комуністычнага Інтэрнацыяналу.

Сэнатор Джыовані Жэнтыле, якога можна было-б назваць філёзофскім правадыром італьянскага фашызму [1]) піша ў артыкуле Дух і фашызм). Фашызм у культуры накіраван супроць сьвецкага інтэлектуяльнага і лібэральнага характару мінулай культуры, ён імкнуўся да зьнішчэньня супярэчнасьці між словам і справай, між тэорыяй і практыкай, між чалавечай істотай і адчуваньнем бацькаўшчыны.

Фашызм—новае паўстаньне чалавека да цэльнасьці і да непарушнага адзінства ўсіх энэргій. Фашызм нецярпімы, як кожная рэлігія, і як кожнае рэлігійнае вучэньне, фашызм хоча напоўніць сабою ўсё духоўнае жыцьцё індывідуума“.

Фашызм сапраўды нецярпімы. На-днях вядомы італьянскі дырыжор Тосканіні на канцэрце у гор. Болёньне адмовіўся выканаць фашысцкі гімн, мотывуючы сваё адмаўленьне не політычнымі прычынамі, а тым, што ў яго складзена програма сур'ёзнага концэрту. У адказ на гэта адзін фашыст даў Тосканіні моцную аплявуху. Буржуазны друк аддае гэтаму інцыдэнту шмат увагі і „Пополё д' Італія“,ворган, які непасрэдна кіруецца братам Мусоліні, горача вітае ўчынак фашыста. Вось якая нецярпімасьць фашызму на практыцы, кулачная расправа, як вышэйшы аргумэнт. Які повад для крывадушных уздыханьняў аб духоўнай свабодзе і дэмократыі.

У заяве Жэнтыле цікавым зьяўляецца ня толькі просты зварот да рэлігіі—мы, моў, супроцьсьвецкага характару мінулай культуры—і ня толькі паход супроць розуму і навукі—мы, моў, супроць інтэлектуальнага характару мінулай культуры. Тут Жэнтыле, па сутнасьці справы, як і Бауэр, толькі адлюстроўвае фактычна культурную рэакцыю, якая адбываецца ў краінах капіталізму. Лятуценьні аб цэльнасьці і адзінстве—спроба ў галіне „духу“ компэнсаваць сябе за рэальную раздвоенасьць, прамежнасьць, творчую імпатэнцыю, упадніцтва. У Жэнтыле цікавым зьяўляецца заклік да адчуваньня бацькаўшчыны. Нацыянальнае, культ нацыі—займае галоўнейшае месца ва ўсіх выступленьнях фашыстаў на культурныя тэмы.

---

[1]) Ён, паміж іншым, у мінулым супрацоўнік Бэнэдэто Крочэ, чыя эстэтыка, як вядома, грунтавалася на інтуітывізьме і ірацыяналізьме.

Якой-жа будзе, напрыклад, культурная тэорыя нямецкага фашызму?

У яе аснове ляжыць расавая тэорыя. Уся сусьветная гісторыя—барацьба арыйцаў і сэмітаў. Барацьба кляс, гэта, моў, выдумкі яўрэяў. Так, духоўны крызіс у наяўнасьці. Выхад з яго ў перамозе інтуіцыі над ведамі. Выхад з яго ў ваяўнічым нацыяналізьме, у прыгнечаньні аднэй нацыяй, другіх, аднэй, вышэйшай расай усіх іншых рас.

„... у кожным нэгры, і нават у самым дабрадушным дрэмле зьвер і першабытны чалавек, якога нельга ўціхамірыць ні сталетнім нявольніцтвам, ні знадворна ўспрынятай цывілізацыяй. Усякая асыміляцыя, усякае выхаваньне павінна цярпець крах наткнуўшыся на расавыя асаблівасьці, якія нарадзіліся з крыві. Для гэтага цалкам зразумела, што ў паўднёвых штатах жалезная неабходнасьць прымушае белую расу палохаючым, можа нават, жорсткім чынам выступаць супроць нэграў. І вядома, большасьць нэграў, пакараных судом Лінча, нікольві ня шкода“. („Нацыяналь сацыялістышэ Монатсгефтэ“ за 30 г., № 4).

Суды Лінча дэмонструюцца, як шлях да культурнага прогрэсу і выхад з сучаснага тупіку. Чарнасоценнае мракабесьсе—вось програма. Але *фашызацыя культуры*—гэта факт, а нічуць ня брэдні звар'яцеўшых крэцінаў. Мы, на вялікі жаль, мала і зусім недастатковa паказваем у нашым друку *наступленьне культурнай рэакцыі в яе разнастайнымі формамі ўсхваленьня судоў Лінчу,*—а як-жа гэта можа дапамагчы сапраўднаму ўсьведамленьню размаху нашай культурнай рэволюцыі!

## Расавая тэорыя на практыцы

Зірнем на суседнія з намі буржуазныя краіны. Ці-ж практыка іх нацыянальнага ўціску не зьяўляецца своеасаблівай рэалізацыяй расавай тэорыі? Імпэрыялізм наогул няўхільна вядзе да ўзмацненьня нацыянальнага ўціску ў розных формах. Падзел сьвету на народы прыгнечаныя і народы прыгнечваючыя яшчэ больш паглыбляецца. Буржуазія „малых“ нацый стараецца не адставаць ад самых мацёрых імпэрыялістаў і ці-ж мы ня ведаем, якое становішча нацыянальных меншасьцяй у Польшчы, у Румыніі, Фінляндыі? Ці варта прыводзіць прыклады таго, як польскія памешчыкі і капіталісты, абходзяцца з украінцамі і беларусамі, якія жывуць зараз за межамі Савецкай Украіны і Беларусі? Ці варта даваць прыклады прымусовай полёнізацыі? Ці-ж не вядома, напрыклад, што ў Галіцыі з 2420 украінскіх школ пры аўстрыйскім урадзе да 1925 году засталося 617 школ і ўрад Пілсудзкага зачыніў яшчэ 217? Ці-ж не вядома, што ня толькі няма казённай школы для украінцаў і беларусоў, але што руйнуюцца і ўсе іхнія прыватныя культурна-асьветныя ўстановы? Ці-ж можа зглядзіцца з нашай памяці разгром такіх нават не комуністычных організацый, як украінская „Просьвіта“ ці „Беларуская Грамада“? А Румынія? Давайце параўнаем Малдаўскую Аўтаномную Савецкую Рэспубліку з Бесарабіяй!

Калі так абстаіць справа ў саміх „культурных“ краінах, то лёгка сабе ўявіць становішча ў колёніях, там расавая тэорыя праводзіцца на справе яшчэ больш ня прыкрыта. Няма чаго дзівіцца з пропаганды судоў Лінча. Такая пропаганда закладзена ў абставінах імпэрыялізму. Такая пропаганда няўхільна прыходзіць на дапамогу практыцы, узмацняючагася нацыянальнага ўціску. Гэтай прапагандзе не супроцьпаставіць балбатню аб духоўнай свабодзе і дэмократыі. Гэтай прапагандзе дасьць адпор сіла сусьветнай пролетарскай рэволюцыі, якая вядзе за сабой прыгнечаныя народы. Гэтай пропагандзе тэорыі і практыцы нацыянальнага ўціску супроцьстаіць наша свабодная дзяржава 150 народаў, наш свабодны Саюз раўнапраўных рэспублік!

## Свабодны саюз роўнапраўных рэспублік

Пры імпэрыялізьме няма іншага шляху да разьвязаньня нацыянальнага пытаньня, акрамя пралетарскай рэволюцыі. Вопыт СССР ужо *неабвяргальна даказаў правільнасьць нацыянальнай політыкі Леніна і Сталіна!*

І ў нас ня толькі юрыдычная дэклярацыя раўнапраўя ўсіх народаў, якія насяляюць краіну нашага Саюзу. *У нас на справе праводзіцца лінія як мага большага адхіленьня іх фактычнай няроўнасьці, створанай у мінулым.* Тэорыі і практыцы нацыянальнага ўціску імпэрыялізму ў нас на справе супроцьпастаўлена тэорыя і практыка вольнай сумеснай працы раду нацыянальных рэспублік.

Параўнайце бюджэты саюзных рэспублік. Вось тэмпы росту ў 31 г. ў параўнаньні з 30 годам: РСФСР—31 2 проц.; УССР—32,9 проц.; БССР—35,6 проц.; ЗСФСР—50,9 проц., УзбССР—61,8 проц.; Туркменская ССР—87,1 проц.; Таджыкская ССР—108,5 проц. Чым больш адсталая краіна ў мінулым, тым вышэйшыя тэмпы росту яе бюджэту.

Вось зводка пра ход колектывізацыі на 20-е мая—сярэдні процант колектывізацыі 51,9. Па УССР—64,1 проц. колектывізаваных гаспадарак, па Узбэкістану—63,9 проц. па такіх адсталых калісьці нацыянальных абласьцях, як Марыйская—32,1 проц., Чувашская—26,1 проц., Калмыцкая—31,1 проц., Казакская—53,8 проц., Кіргіская—43,6 і г. д. [1]).

Прынцыпова падобны-ж характар маюць даныя аб індустрыялізацыі. Географічная карта пяцігодкі адлюстроўвае напружаную барацьбу за прамысловае разьвіцьцё калісьці самых прыгнечаных царскіх колёній.

---

[1]) К моманту вёрсткі кнігі мы маем на ўвазе даныя на 1 ліпеня: процант колектывізацыі па ўсім СССР ровен—55,1; па УССР—65,7; па УзбССР—64.4; па Туркменістану—55,0; па Таджыкістану—27,6; па нацыянальных вобласьцях: Марыйцы—34,3, Чувашы—27,5, Калмыкі—41,3, Кіргізы—43,9, Башкіры—5 ,6 і г. д.

*Турксіб, Днепрабуд, Баку ня толькі прыклады соцыялістычнай індустрыялізацыі, але і ілюстрацыя нашай нацыянальнай політыкі.*

Вазьмеце культурныя паказальнікі! Параўнайце ахоп дзяцей школьнай сеткай зараз і да вайны. У Беларусі, першай з саюзных рэспублік, якая пачала праводзіць усеагульнае навучаньне, да рэволюцыі вучылася 56 проц. дзяцей школьнага ўзросту, а зараз ахоплена школьнай сеткай звыш 91 проц. дзяцей да 8-гадовага ўзросту. Колькасьць няпісьменных з 68,5 проц. у 1920 годзе зьнізілася зараз да 13 проц. і ў гэтым годзе будзе праведзена ліквідацыя няпісьменнасьці ўсіх грамадзян ва ўзросьце ад 8 да 45 гадоў. Кніжная продукцыя Беларусі расьце па колькасьці назваў: 1929 г.—331; 1930 г.—1006, 1931 г.—2777; па тыражу—1929 г.—2001 тыс. экз.; 1930 г.—7863 тыс. экз.; 31 г. 18521 тыс. экз. У Арменіі, дзе дарэволюцыйны ахоп дзяцей школьнай сеткай раўняўся 12,3 проц. пачатковая школа ахапляе 100 проц. дзяцей у гарадох і 78,4 проц. у вёсцы. У Грузіі, якая мела ў мінулым 43 проц., у большасьці раёнаў ужо ў гэтым годзе будзе цалкам ажыцьцёўлена ўсеагульнае навучаньне дзяцей ад 8 да 11 год. Ва Узьбекістане ў школах лікбезу колькасьць вучняў дасягнула ў 30 г.—354886 чал., павялічыўшыся з 29 году ў 20 разоў (тэмпы вышэйшыя, чым у РСФСР). Агульная колькасьць школ ва Узьбекістанскай ССР з 804 у 1924-25 г. узрасла да 2454 ў 1929-30 г. (на 105 проц., прычым кішлачная школьная сетка дала павялічэньне на 362 проц. (з 561 да 2034). Колькасьць вучняў з караных нацыянальнасьцяй у 30 годзе даходзіць да 70,2 проц. (супроць 63 проц. ў 1926-27 г.).

У Таджыкістане 1931 г. маецца 1300 школ, якія ахапляюць 50000 дзяцей (павялічэньне ў параўнаньні з папярэднім годам у 3 разы). А колькасьць новых унівэрсытэтаў? А колькасьць ня проста вучняў, але тых, якія вучацца іменна на сваёй мове? А такія культурныя мерапрыемствы як новы цюркскі альфабэт—гэтая гіганцкая, цікавая справа, якой павінна значна больш займацца ўся савецкая грамадзкасьць!

У нашу задачу не ўваходзяць прывядзеньне такіх прыкладаў,—гэта павінна быць тэмай спэцыяльнага дакладу. Ды ў прыкладах няма патрэбы. Кожны з прысутных можа прывесьці дзесяткі і сотні прыкладаў, узятых з уласнага вопыту, з назіраньняў у сваёй рэспубліцы. *Культурная рэволюцыя разгортваецца ня толькі ў раней адносна перадавых, але і самых забітых калісьці народаў.* Людзі растуць не па днях, а па гадзінах—наш культурны ўздым робіць патрасаючае ўражаньне на кожнага пабочнага наглядальніка. Ці-ж не зьяўляецца высока сымболічным малюнак туркменкі, узьбечкі, казачкі на трактары—*на трактары*, які ідзе на зьмену першабытным прыладам апрацоўкі зямлі, *жанчыны* на трактары ў краінах, дзе калісьці была жаночая няволя, і дзе мы яшчэ нядаўна былі ў разгары барацьбы за зьняцьце якой-небудзь паранджы!

## Будучыня нацый, будаўніцтва соцыялізму і нацыянальная культура

Гіганцкія дасягненьні нацыянальнай політыкі Леніна — Сталіна ніскольні ня зьнімаюць неабходнасьці ўзмоцнена займацца нацыянальным пытаньнем, а трэба казаць, што і да сучаснага моманту прыходзіцца сустракацца з недаацэнкай нацыянальнага пытаньня і з недастатковай увагай да яго, і горш за ўсё, што часам гэта спрабуюць нават тэарытычна абгрунтаваць, падводзіць пад гэта якуюсьці „тэорытычную базу“, вышукваць для гэтага якіясьці „ідэолёгічныя абгрунтаваньні“. Між тым, перад намі стаіць тут вялікая колькасьць практычных задач і мноства недаволі распрацованых тэорытычных пытаньняў. Думаецца, што тэорытычнае падсумаваньне нацыянальнай політыкі і ў прыватнасьці разьвіцьця нацыянальнай культуры зьяўляецца адным з найбольш яскравых падмацаваньняў правільнасьці ўказаньняў тав. Сталіна на адставаньне тэорыі ад рэволюцыйнай практыкі.

*Усесаюзнае аб'яднаньне асоцыяцый пролетарскіх пісьменьнікаў павінна па сапраўднаму займацца ўсімі асноўнымі пытаньнямі нацыянальнай культуры, бяз гэтага яно ня здолее забясьпечыць сапраўды інтэрнацыянальнае выхаваньне пісьменьнікаў усіх народаў Савецкага Саюзу.*

Якой-жа будзе лінія нашага далейшага разьвіцьця? У нас зараз створаны магчымасьці свабоднага росту ўсіх 150 народаў. У нас зараз маецца Саюз вольных і раўнапраўных рэспублік, прычым унутры іх вылучана шэраг нацыянальных аўтономных вобласьцяй. У нас, далей, ня ўсе нацыі склаліся да Кастрычніка,—ёсьць такія, якія складаюцца ў нацыі ўжо пасьля Кастрычніка пад гегемоніяй пролетарыяту. Што-ж гэта адступленьне ад пролетарскага інтэрнацыяналізму, адобраньне нацыяналізму, рэвізія ленінізму ці, наадварот, умацаваньне міжнароднага адзінства працоўных, наступ на нацыяналізм, пераможнае правядзеньне ў жыцьцё прынцыпу бальшавізму?

Ленін пісаў: „Мэтай соцыялізму зьяўляецца ня толькі зьнішчэньне раздробленасьці чалавецтва на дробныя дзяржавы і ўсялякай абасобленасьці нацый, ня толькі зблiжэньне нацый, але і зьліцьцё іх. І далей: „Падобна таму, як чалавецтва можа прыйсьці да зьнішчэньня клясаў, толькі праз пераходны пэрыод дыктатуры прыгнечанай клясы, падобна гэтаму да няўхільнага зьліцьця нацый чалавецтва можа прысьці праз пераходны пэрыод поўнага вызваленьня ўсіх прыгнечаных нацый, г. зн. іх свабоды аддзяленьня“.

*У пэрспэктыве—зьліцьцё нацый, гэта наша мэта, гэта наш шлях, гэта зьліцьцё няўхільна, але якісьці водгук расавай тэорыі, але замаскаваньне вялікадзяржаўніцтва, але соцыял-нацыяналізм выкрываецца там, дзе адмаўляецца вызваленьне і росквіт нацый на шляху разьвіцьця і для гэтага поўнага зьліцьця.* Ленінская пастаноўка пытаньня ўсім

сваім вострывам накіравана супроць найменшай спробы апраўдаць нацыянальны ўціск меркаваньнямі будучага зьліцьця нацый і перавагай буйных дзяржаў. Старая ленінская пастаноўка пытаньня аб праве нацый на самавызначэньне аж да адлучэньня выкрывала любы манэўр вялікадзяржаўнага шовініста. Ленінская пастаноўка пытаньня, няўхільна ставіла нацыянальную проблему рэволюцыйна, бяручы яе як складаную частку пролетарскага наступу на капіталізм і падрыхтоўваючы саюз пролетарскай рэволюцыі з прыгнечанымі народамі супроць імпэрыялізму.

Зусім іншую пастаноўку пытаньня мы знаходзім у тэорэтыка соцыял-імпэрыялізму Г. Кунова. У сваёй апошняй кніжцы „Марксава тэорыя гістарычнага процэсу, грамадзва і дзяржавы“ (том II), ён піша: „Прынцып нацыянальнасьці высоўвае дваякага роду пытаньні: па-першае, пытаньні аб праве на незалежнае нацыянальнае існаваньне, шматлікіх асколкаў тых народаў, якія на працягу кароткага ці доўгага пэрыоду гралі пэўную ролю на гістарычнай сцэне, але нарэшце былі праглынуты той ці іншай з больш моцных нацый, якія былі ў стане, дзякуючы сваёй большай жыцьцяздольнасьці, перамагаць больш значныя перашкоды.

У вачох прыхільнікаў гэтага прынцыпу нацыянальнасьці ня мае вагі ні значэньне данага народу для Эўропы, ні яго жыцьцяздольнасьць. Для іх румыны і валахі, якія ніколі ня мелі ўласнай гісторыі, якія ня мелі яшчэ патрэбнай энэргіі для таго, каб стварыць сваю гісторыю, маюць такое ж самае значэньне, як і італьлянцы, якія маюць двухтысячагадовую гісторыю і непамерна большую жыцьцёвую сілу. Па іх думцы, валійцы і мэнксмэны (гэлы вострава Мэна на Ірляндзкім моры) маюць калі-б яны таго пажадалі, як-бы гэта было недарэчна, такое-ж права на політычную самастойнасьць, як і ангельцы. Усё гэта ёсьць глупства“.

Зразумела, што разважаньні Кунова ўяўляюць сабой тэорыю, якая абгрунтоўвае права аднэй нацыі на прыгнечаньне другой, тэорыю, якая абгрунтоўвае імпэрыялістычны нацыянальны ўціск ілжывымі меркаваньнямі аб культурнай перавазе аднэй нацыі над другой, тэорыю, якая абгрунтоўвае ня курс на свабоднае зьліцьцё нацый, але прымусовую асыміляцыю драпежнікамі прыгнечаных.

Тэорыю Кунова—практыка імпэрыялізму, тэорыю Леніна—практыка Савецкага Саюзу. Што-ж паказвае наша практыка? *Што мы назіраем—адаленьне нацый, ці іх збліжэньне? Росквіт нацыянальнай культуры цягне за сабой адзінства працоўных у барацьбе за соцыялізм, ці іх нацыяналістычную разьмяжоўку?* Адказ патрэбен ня проста ў парадку тэорытычнай цікавасьці,—адказ вызначае рад пытаньняў практычнай політыкі.

І вось мы спаткаемся ў т. Дзіманштэйна з выразным сьцьвярджэньнем таго, што наша політыка разьвіцьця нацыянальных культур няўхільна прыводзіць да ўсё большых адрозьненьняў і да пэўнага аддаленьня аднэй нацыі ад другой.

„У пытаньні аб жыцьці культур гэтая супярэчнасьць складаецца ў тым, што, з аднаго боку, мы самі вядзем вельмі вялікую інтэрнацыянальную выхаваўчую работу ў напрамку зблiжэньня паміж нацыянальнасьцямі, умацаваньня іх братэрства, але ў той-жа самы час, мы вядзем таксама ў пэўным сэнсе вялікую нацыянальную работу, воляй-няволяй, якая аддаляе нацыі ў пэўных адносінах адну ад другой, аддаляе культуру аднэй нацыі ад культуры другой". („Вестн. Ком. Акад." № 31).

Мне-ж думаецца, што гэта сьцьверджаньне тав. Дзіманштэйна мае пагрэшнасьці, між іншым, у адрыве форм ад зьместу і недаацэнкай вызначаючай ролі зьместу. У тав. Дзіманштэйна мы сустракаемся з незразуменьнем формулы тав. Сталіна аб разьвіцьці культур, нацыянальных па форме і соцыялістычных па зьмесьце. І гэта неразуменьне, вядома, ў значнай меры грунтуецца на тым, што няма яскравай пастаноўкі пытаньня аб нацыі, што разуменьне нацыі не бярэцца ў дастатковай меры гістарычна конкрэтна. Аб якой нацыі ідзе гутарка? Па якім шляху разьвіцьця ідзе гэтая нацыя? На якім этапе гэтага шляху яна знаходзіцца? *Якая кляса стаіць на чале гэтай нацыі і на колькі моцна і мацнее яе кіраўніцтва? У гэтым сутнасьць справы, бо пытаньне аб аддаленьні ці зблiжэньні квітнеючых нацыянальных культур у нашых умовах ёсьць пытаньне аб сіле і ступені пролетарскага кіраўніцтва нацыянальна культурным жыцьцём у сувязі з ходам і глыбінёй соцыялістычнага будаўніцтва. Што перамагае ў барацьбе, якая адбываецца ў кожнай нацыі—ці пролетарскі інтэрнацыяналізм ці нацыяналістычная контррэволюцыя—гэтым вырашаецца пытаньне аб аддаленьні ці зблiжэньні. Хто каго?*

Калі дакладна разумець сэнс выступленьня тав. Дзіманштэйна, атрымліваецца, што наша праца па разьвіцьці нацыянальных культур, гэта значыць праца, якая забясьпечвае іх разьвіцьцё па шляху соцыялістычнага інтэрнацыяналізму, у той-жа час аддаляе адну нацыю ад другой. Гэта вельмі сур'ёзная памылка, з якой лёгічна павінны выцякаць ці непагадныя адносіны да аўладаньня нацыянальнай формы і ўліку яе, ці прыніжэньне барацьбы за пролетарскі зьмест усялякай і кожнай нацыянальнай культуры.

Вядомая формула тав. Сталіна—гэта формула барацьбы за шлях разьвіцьця, формула, якая органічна зьвязана з ленінскімі ўказаньнямі на дзьве культуры ў кожнай нацыянальнай культуры, на тое, што мы адну культуру атрымліваем, як спадчыну, а другую адкідваем, што мы да ўсёй мінулай культуры падходзім без найменшай пагарды тым вопытам, які накоплены чалавецтвам, але і не адмаўленьня ад крытычнага рэволюцыйнага падыходу, да гэтага вопыту.

Ленін і Сталін навучаюць, што да кожнай нацыянальнай культуры, як і да кожнай нацыі, трэба абавязкова падыходзіць гістарычна конкрэтна. *Наогул* аб нацыянальнай культуры, аб нацыянальнай культуры

ў цэлым, як гэткай, адыходзячы ад клясавай барацьбы за гегемонію ў нацыянальна-культурным працэсе можа балбатаць і балбоча ці клясавы вораг пралетарскай культурнай рэволюцыі, ці яго агентура ў нашых радох. А між тым у нас працягваецца і куды больш яшчэ абвастраецца барацьба за гегемонію пролетарыята ў культурным разьвіцьці тэй ці інш. нацыі, таго ці інш. народу, тэй ці інш. рэспублікі. Гэта—адна з найбольш складаных форм клясавай барацьбы. Тут патрабуецца надзвычайная пільнасьць, настарожанасьць, няпрымірымасьць Вазьмеце-ж пераважную колькасьць выданьняў па фольклёру (ці, як раней гаварылася, па народнай творчасьці). Ва ўсіх рэспубліках—у дзевяці выпадках з дзесяці, вы выкрыеце ігнараваньне ці не разуменьне наяўнасьці ў фольклёры твораў розных эпох, розных клясаў, рознага соцыяльна-культурнага асяродзьдзя. Гэта ігнараваньне, ці неразуменьне яго клясавай прыроды, ігнараваньне ці неразуменьне вядзе да ўсваеньня ня крытычных адносін да нацыянальнай культуры мінулага і гэта служыць толькі на руку ворагам будаўніцтва пролетарскай культуры. А мы зацікаўлены ў культуры, якая ствараецца на практыцы і для практыкі соцыялістычнага разьвіцьця данай нацыі—і гэта генэральная лінія росту нацыянальных культур у нашым Савецкім Саюзе, лінія перамаганьня нацыянальнай замкнёнасьці, лінія, якая разьбівае лупіну нацыянальнай абмежаванасьці, лінія, якая выкарчоўвае самазадаволены провінцыяналізм і вузкалобае месьніцтва, лінія, якая перамагае ў барацьбе, лінія, за якую мы б'емся—і ў галіне культурнай вырашаючай пытаньне: хто каго?

З гэтага пункту гледжаньня павінна быць скрытыкавана, напрыклад установка тав. Гірчыка, які піша, што „на фронце нацыянальна-культурнага будаўніцтва асноўнай задачай работы сярод пролетарыяту зьяўляецца падвядзеньне пролетарскай базы пад украінскую культуры“[1]).

Дадзена „украінская культура“—гутарка ідзе аб тым каб „падвесьці“ пад яе пролетарскую базу. Што-ж гэта за украінская культура наогул, без аналізу яе клясавага зьместу? Чаму нічога не гаворыцца тут тав. Гірчакам пра неабходнасьць крытычных адносін да мінулай украінскай культуры і аб яе клясавай перапрацоўцы? Ці-ж разгортваньне нашай культурнай рэволюцыі не павінна характарызавацца барацьбой суцэльнага подыходу да якіхсьці суцэльных нацыянальных культур? *Утварэньне нашай новай культуры цалкам не заключаецца ў падвядзеньні пролетарскай базы пад старую культуру, ці, як гавораць некаторыя, ва ўкараненьні пролетарскага зьместу ў нацыянальную культуру. Гутарка ў нас ніколькі ня ідзе аб нейкім простым прыстасаваньні рабочае клясы данай нацыянальнай культуры—гутарка ідзе аб клясавай барацьбе за зьмест і напрамак усяго культурнага разьвіцьця.*

[1]) Е. Ф. Гірчак, „На два франты ў барацьбе з нацыяналізмам“, стар. 149. Гэтую кніжку, аднак, бязумоўна трэба раіць чытачам. (*Л. А.*)

Можна прывесьці рад „тэорый“, якія маюць аналёгічныя памылкі тав. Гірчака. Напрыклад, зусім нядаўна тав. Бэдыя, Заг. культпропам ЦК Партыі Грузіі, выступіў са спэцыяльным артыкулам аб тэатральных спрэчках навакол колектываў Ахмэтэлі і Марджанава. Я зараз ня маю намеру ўмешвацца ў гэтую дыскусію, ня гледзячы на яе цікавасьць і значнасьць. Зараз нас цікавяць некаторыя агульныя меркаваньні тав. Бэдыя. Ён піша: „Толькі ва ўмовах Савецкай улады стала магчымым разьвіцьцё сапраўды нацыянальнай культуры, інтэрнацыянальнай па зьместу і нацыянальнай па форме“.

Аб якім інтэрнацыянальным зьмесьце тут ідзе гутарка? І пры капіталізьме няўхільна адбываецца процэс інтэрнацыяналізацыі і ламаньня нацыянальнай замкненасьці і абмежаванасьці. Няўжо ў гэтым спэцыфічнасьць становішча пры Савецкай уладзе?

У тав. Бэдыя, як відаць, не абмоўка. Ен піша далей: „...вядомы сьпяктакль „Анзор“, у якім практычна праламляецца лёзунг тав. Сталіна аб узаемасувязі інтэрнацыянальнай тэматыкі і нацыянальнай формы“.

Адсутнасьць клясавай характарыстыкі, тут яшчэ больш відавочна— памылка тав. Бэдыя тут яшчэ больш паглыбляецца. Нават калі дапусьціць, што гаворачы аб інтэрнацыянальнай тэматыцы, тав. Бэдыя думае аб пролетарскім зьмесьце, дык і тады яго формулёўкі ня будуць правільнымі. Няўжо ў нас ідзе гутарка пра *ўзаемасувязі* міжнароднай пролетарскай культуры з нацыянальнай формай? Ці-ж ня ясна, што мы тут маем справу з выразнай мэханічнай пабудовай? Ці-ж невядома, што *ў нас ідзе гутарка не аб узаемасувязі зьместу і формы, але аб вызначэньні формы зьместам?*

Некаторым здаецца, што пытаньне аб пролетарскай культуры вырашана, як толькі ажыцьцёўлены пераклад на нацыянальную мову твораў клясыкаў марксызму-ленінізму. Гэтая пачварная вульгарызацыя толькі на руку і вялікадзяржаўным і мясцовым шовіністам. Для мясцовых такая тэорыя зьяўляецца вельмі зручным сродкам адбаярыцца ад сапраўднай барацьбы за пролетарскую культуру супроць нацыяналістычных буржуазных элемэнтаў,—гатова, моў, ужо ажыцьцёўлена, „узаемасувязь“. Вялікадзяржаўнікам такая тэорыя служыць мосьцікам да разважаньняў аб тым, што, моў, пытаньне аб разьвіцьці нацыянальных культур зводзіцца толькі да прыстасаваньня да мясцовых умоў культуры вялікарускай, напрыклад, культуры, якая больш ці менш улічвае сваясаблівасьць абстаноўкі, пераносу ў другую нацыю—інакш кажучы, пролетарская культура зьяўляецца для данай адсталай нацыі як штосьці ўжо цалкам гатовае, другімі створанае і што патрэбна толькі перакласьці на мову данай нацыянальнасьці.

Але-ж зусім не аб гэтым ідзе гутарка ў тав. Сталіна, які гаворыць аб культуры соцыялістычнай па зьмесьце і нацыянальнай па форме. Тав. Сталін робіць высновы з ленінскага ўказаньня на тое, што куль-

*тура інтэрнацыянальная нікольні не зьяўляецца культурай без нацыянальнай, што мы ідзем і прыдзем да зьліцьця нацый, але што сёньня яшчэ мы далёка ня зжылі нацыянальнай формы культуры.* Але нацыянальная культура нічуць нераўняецца рэакцыйнай утопіі аб усіх прыміраючай агульна-нацыянальнай культуры, якая злучае ў адно цэлае ўсіх грамадзян аднэй нацыі, у процівагу ўсім грамадзянам іншай нацыі, разважаць такім чынам, гэта азначае ўцякаць ад асноўнага і ўсеакрасьляючага значэньня клясавай барацьбы, якая падзяляе чалавецтва не па прынцыпу нацыянальных адзнак і розьніц.

Але ў той-жа час, уцякаць ад рэальнага значэньня нацыянальнага пытаньня, ад розьніцы мовы, быту, культуры, псыхолёгіі, ад неабходнасьці забясьпечваць соцыялістычнае разьвіцьцё ў нацыянальных формах—азначае ліць ваду на млын шовіністычных элемэнтаў,—ізноў такі, як мясцовых, так і вялікадзяржаўных, паўтараючы старыя памылкі Р. Люксембург, К. Радэка, Н. Бухарына.

Разьвіцьцё культуры, нацыянальнай па форме і пролетарскай па зьмесьце, вядзе да аб'яднаньня пролетараў усіх нацый і да ўсё большага „аддаленьня" іх ад „сваіх" буржуа.

Іменна такое разьвіцьцё культуры можа гарантаваць пролетарыяту ролю авангарда і гегемона ў адносінах да ўсёй масы працоўных да барацьбы супроць недабіткаў сярэднявякоўя і супроць рэштках і зародышаў капіталізму. Іменна такое разьвіцьцё культуры забясьпечвае ўцягненьне ў соцыялістычнае будаўніцтва мільёнаў калісьці прыгнечаных, эксплёатуемых, забітых. Іменна толькі такое разьвіцьцё нацыянальных культур можа прывесьці і прывядзе нас да адзінага чалавецтва комуністычнай грамады. Іменна такое разьвіцьцё нацый і нацыянальных культур спрыяе выразнасьці клясавага разьмежаваньня і клясавай барацьбы супроцьстаўляючы клясы там, дзе некаторыя хацелі-б супрацьставіць нацыі ва ўгоду „сваёй" буржуазіі. Вось, як разважаў О. Бауэр, яшчэ да вайны:

„Хоць паміж ангельскімі і нямецкімі рабочымі і існуюць пэўныя зносіны, усё-ж далёка не нагэтулькі цесныя, як сувязь паміж ангельскім рабочым, і ангельскім буржуа, які жыве ў адным і тым-жа горадзе, якія чытаюць адны і тыя-ж газэты, адны і тыя-ж плякаты, якія ўдзельнічаюць у адных і тых-жа палітычных падзеях і справах спорту, якія нярэдка ўступаюць адзін з адным у зносіны, калі ня проста, дык укосна, праз розных пасярэднікаў паміж капіталістамі і рабочымі. Мова зьяўляецца зброяй зносін. Калі-б паміж ангельскім і нямецкім рабочым існавалі больш цесныя зносіны, чым паміж ангельскім буржуа і ангельскім рабочым, дык агульную мову павінны мець не ангельскі буржуй з ангельскім рабочым, а ангельскі рабочы з нямецкім рабочым. („Нацыянальныя пытаньні і соцыял-дэмократыя", стар. 116).

Гэтая тэорыя, якая загадзя падрыхтоўвае і апраўдвае здраду інтэрнацыяналізму партыямі II Інтэрнацыяналу ў 1914 годзе. Гэта тэорыя,

якая прыкоўвае пролетарыят да калясьніцы імпэрыялістычнай буржуазіі. Гэта тэорыя супрацьстаўленьня рабочай клясы розных нацый у імя адзінай агульна-нацыянальнай культуры, з агіднай чартаўшчынай аб нацыянальнай супольнасьці, як супольнасьці лёсу. Гэта тэорыя адмаўленьня будучага зьліцьця нацый, зьліцьця заўтра, якое дапушчае барацьбу за іх органічнае зблiжэньне. Супроць гэтай тэорыі тады-ж выступіў тав. Сталін.

„Але злучнасьць і адзінства нацыі падае ня толькі дзякуючы расьсяленьню. Яно падае яшчэ ўнутры дзякуючы абвастрэньню клясавай барацьбы. На першых стадыях капіталізму яшчэ магчыма гаварыць аб „культурнай супольнасьці“ пролетарыяту і буржуазіі. Але з разьвіцьцём буйнай індустрыі і абвастрэньнем клясавай барацьбы „супольнасьць“ пачынае таяць. Нельга сур'ёзна гаварыць аб культурнай супольнасьці нацый, калі гаспадары і рабочыя аднэй і тэй-жа нацыі перастаюць разумець адзін аднаго. Аб якой „супольнасьці лёсу“ можа быць гутарка, калі буржуазія прагне вайны, а пролетарыят абвяшчае „вайну вайне“? Ці можна з такіх супроцьлеглых элемэнтаў арганізаваць адзіны, арганізаваць паміж-клясавы нацыянальны саюз? Ці-ж можна пасьля гэтага гаварыць аб'яднаньні ўсіх членаў нацыі ў нацыянальна-культурную супольнасьць?“

Вось ваяўнічая бальшавіцкая лінія! Бауэр гаворыць аб агульнай мове нямецкага буржуа і нямецкага рабочага, а Сталін гаворыць, што яны перастаюць разумець адзін аднаго. Бауэр спрабуе працягнуць ідэйку аб пяршынстве нейкага агульна-нацыянальнага над клясавым, а Сталін паказвае прыорытэт клясавага і змагаецца за яго. Бауэр „вырашае“ нацыянальнае пытаньне ў інтарэсах імпэрыялізму. Сталін вырашае нацыянальнае пытаньне ў інтарэсах пролетарскай рэволюцыі і на яе аснове— так, як толькі і можа быць зараз вырашана нацыянальнае пытаньне.

Вось чаму, далей, *сталінская ўстаноўка на разьвіцьцё нацыянальных культур, ёсьць устаноўка на поўнае зьвяржэньне буржуазіі і ліквідацыі яе ўплываў, ёсьць устаноўка на гегемонію пролетарыяту ў нацыянальна-культурным будаўніцтве, ёсьць устаноўка на мобілізацыю сіл для соцыялістычнага вырашэньня пытаньня хто каго ў кожнай рэспубліцы і ў кожным народзе.* Адмаўленьне ад лёзунгаў нацыянальнай культуры ва ўмовах дыктатуры пролетарыяту зьяўляецца капітулянствам перад ныцыянальнай культурай у мінулым панаваўшай клясы, зьяўляецца сэктанцкай недаацэнкай неабходнасьці гегемоніі пролетарыяту над найшырэйшымі масамі працоўных, ёсьць неразуменьне таго, што будучая адзіная культура вырастае не з схэматычнага аб'яднаньня ўсіх мінулых нацыянальных культур і курсу на іх занепад, але з іх росквіту, і з ператвараньня ўсяго каштоўнага, што маецца ў іх і зрабіць здабыткам усяго чалавецтва з адбору і сынтэзаваньня ўсяго лепшага ў кожнай нацыянальнай культуры.

Вырашэньне пытаньня хто-каго ў галіне нацыянальнай культуры цалкам, у канчатковым выпадку, вызначаецца вырашэньнем гэтага пытаньня ў агульным балянсе клясавых сіл у краіне. Мы ўступілі ў пэрыод соцыялізму. У бягучым годзе пяцігодкі, у яе трэцім і рашаючым годзе, мы дабудоўваем фундамэнт соцыялістычнай экономікі. З пункту гледжаньня ўнутраных суадносін сіл пытаньне аб перамозе соцыялізму ўжо вырашана і забясьпечана і гістарычна вырашана і пытаньне аб некапіталістычным разьвіцьці калісь самых адсталых нацый—мінуючы капіталізм, яны ідуць проста да соцыялізму пад кіраўніцтвам пролетарыяту, але гэта ніколькі не азначае магчымасьці проста ўзяць і адкінуць пытаньне хто-каго.

Ня гледзячы на нашыя рашучыя і рашаючыя посьпехі, клясавы вораг няўхільна працягвае змагацца за сваё вырашэньне пытаньня хто-каго. Мы яшчэ знаходзімся ў паласе абвостранай, клясавай барацьбы,— і ў самых новых, тонкіх і вышуканых формах!—барацьбы, якая прыкметна абвастраецца ў прыватнасьці ў галіне культуры, барацьбы тым больш цяжкай, чым слабейшая пролетарская праслойка ў данай краіне. У гэтых умовах няма ніякіх падстаў да паслабленьня ўвагі да нацыянальнага пытаньня. Рэконструкцыйны пэрыод нічуць ня зьнімае з усесаюзнага пролетарыяту займацца нацыянальным пытаньнем. Тав. Сталін на XII зьезьдзе партыі так вызначае яго клясавы зьмест: „У чым клясавая сутнасьць нацыянальнага пытаньня? Што такое клясавае нацыянальнае пытаньне? Клясавая сутнасьць нацыянальнага пытаньня ў тым вызначэньні ўзаемаадносін—я кажу аб нашай абстаноўцы, савецкай— у вызначэньні ўзаемаадносін паміж пролетарыятам былой дзяржаўнай нацыі і сялянствам былых прыгнечаных нацыянальнасьцяй. Тут мы маем справу з пытаньнем устанаўленьня правільных узаемадносін паміж пролетарыятам былой дзяржаўнай нацыі, які ўяўляе сабой найбольш культурны з пластоў пролетарыяту ўсёй нашай фэдэрацыі і сялянствам, пераважнай большасьці сялянства нацыянальнасьцяй калісьці прыгнечаных. У гэтым клясавая сутнасьць нацыянальнага пытаньня“.

З гэтага пункту гледжаньня, натуральна, нашы тэмпы колектывізацыі і індустрыялізацыі становяцца перад намі ў якасьці асновы тэмпаў далейшага замацаваньня зблізжэньня нацый. Але, можа быць, іменна гэтыя тэмпы зьнімаюць нацыянальнае пытаньне ў рэконструкцыйны пэрыод? Можа быць, калі мы пасьпяхова вырашаем задачу пераводу сялянства на рэйкі соцыялістычнага шляху разьвіцьця—тым самым ужо абгрунтоўваецца адхіленьне нацыянальнага пытаньня хоць-бы, напрыклад, расійскім пролетарыятам.

Але, папершае, *нацыянальнае пытаньне ня зводзіцца да сялянскага пытаньня*—падобнае зьвядзеньне сьведчыла-б аб яўным і грубым спрашчэньні проблемы больш складанай і ўсебаковай, і, падругое, *посьпехі соцыялістычнага будаўніцтва і бальшавіцкія тэмпы зьвязаны*

*з правільным, ня толькі ў мінулым, але і ў будучыні вырашэньнем нацыянальнага пытаньня і ўвагай да яго.*

Спробы „зьняцьця“ нацыянальнага пытаньня ў большай частцы азначаюць шовіністычную агрэсію ў мінулым вялікадзяржаўнай нацыі, а то часамі і провакацыю клясавага ворага ў калісьці прыгнечанай нацыі

Нацыянальны нігілізм, якім часта ня той дык іншы задаецца, варожы лініі нашай партыі. Няўвага да нацыянальнай проблемы і насьміханьне над ёю не дае патэнту на інтэрнацыяналізм. Інтэрнацыяналізм заключаецца ва ўмелым правядзеньні на практыцы партыйнага курсу на ўздым нацый і росквіт іх культуры на шырокім шляху будаўніцтва соцыялізму. Інтэрнацыяналізм заключаецца ў барацьбе супроць вялікарасійскага шовінізму, як галоўнай небясьпекі, і супроць мясцовых шовінізмаў. Інтэрнацыяналізм заключаецца ў барацьбе супроць нацнігілізму, які часта зьяўляецца маскаваньнем барацьбы супроць нацыянальнай політыкі партыі, невыпадкова такі законченны вялікадзяржаўнік, як Ваганян, таксама прыкрываўся нігілізмам.

Я, моў, стопрацэнтны інтэрнацыяналіст і напляваць мне з высокага дрэва на ўсякія там нацыянальныя пытаньні. Трэба проста казаць, што гэта разважаньне найлепшы і найвялікшы доказ неахайных адносін да інтэрнацыяналізму і зьдзекваньня над тым, лепшы і найвялікшы доказ нежаданьня быць інтэрнацыяналістам у практыцы нашай штодзеннай работы, лепшы і найвялікшы доказ таго, што трацкісцкі тэорэтык Ваганян выступаў на справе слугой капіталістычных элемэнтаў, якія засталіся ад мінулых часоў, якія жадаюць аднавіць колішнюю дзяржаву вялікадзяржаўнай расійскай нацыі. Іменна гэтым элемэнтам у першую чаргу на руку разухабісты нацыянальны нігілізм, у тым ліку і падобнага тыпу, скажам, як выступленьні украінскага лефа Шкурупія.

Г. Шкурупій не пярэчыць супроць нацыянальнай культуры і нацыянальнай літаратуры—„па колькі яшчэ ня зжыты нацыяналізм, гэтыя вучасткі мастацтва маюць поўнае права на існаваньне“—значыць разьвіцьцё нацыянальнай культуры і ўвага да нацыянальнай формы—гэта ўступка на беднасьць, гэта—паблажлівасьць старэйшага ў адносінах да малодшых, гэта—філёнтропія перарослых нацыяналізм у адносінах да тых, якія яшчэ ня зжылі нацыяналізм. Шкурупій моцна пераконаны, што ён бязумоўна ўжо перарос,—і гэта яго ўпэўненасьць выклікае ў нас няўпэўненасьць у тым, ці-ж здолее калі-небудзь Шкрупій дарасьці да бальшавіцкага інтэрнацыяналізму. Зразумела, што яго нацыянал-нігілістычная дэклямацыя цешыць іменна тых, хто стаіць за ваганянаўскім „Інтэрнацыяналізмам“.

Надзвычай характэрна, што ў галіне нацыянальнага пытаньня асабліва зьбліжаюцца правыя, „левыя“ ўхілістыя, асабліва выкрываецца іх опортуністычная сутнасьць. Больш таго: у галіне нацыянальнага пытаньня

асабліва выкрываюцца ўсе гэтыя ўхілы, як выражэньне націску клясавага ворага, які ператварае опортуністаў у сваю простую агентуру.

## Аб вялікарасійскім шовінізьме, як галоўнай небясьпецы

Вазьмеце ўхілы да вялікадзяржаўніцтва, ухілы да адмены партыйнай політыкі ліквідацыі няроўнасьці нацый у ажыцьцяўленьні іх роўнапраў'я, ухілы да аднаўленьня адзінай і недзялімай матушкі Русі. Паслухайце вялікадзяржаўніка, калі ён становіцца шчырым і паспрабуйце адрозьніць яго ад зьменавехаўца. Яны ня толькі змыкаюцца: ня толькі гавораць на агульнай мове,—часам проста не разьбярэш, дзе кончыўся зьменавехавец і дзе распачаўся вялікадзяржаўны „комуніст".

Пры чым разважаньні вялікадзяржаўных комуністаў можна прыраўнаць ня толькі да зьменавехаўцаў, але нават і да позыцыі, якую займаюць рускія эмігранты па нацыянальнаму пытаньню. Надзвычай цікава сачыць за дыскусіяй, напрыклад, паміж меншавікамі грузінскімі і меншавікамі расійскімі,—дзе грузінскія меншавікі не без падстаў абвяшчаюць расійскіх меншавікоў прыслужнікамі лягеру вялікарасійскіх імпэрыялістаў.

Аднак, у нас рэдка прыводзяцца прыклады вялікадзяржаўніцтва часам і ня прыкметнага, які часта маскуецца, але на практыцы часта сустракаецца. Я казаў, напрыклад, аб расавай тэорыі, як аснове ўсіх разважаньняў фашыстаў на культурныя тэмы. А вазьмеце выпушчаную ў Чачне працу па пэдолёгіі нейкага Знаменскага, які сьцьвярджае, што чачэнскія дзеці ад нараджэньня ня здольны да вышэйшай псіхычнай дзейнасьці і да ўсваеньня ведаў. А вазьмеце заявы некаторых расійскіх вялікадзяржаўнікаў, якія мелі месца ў Туркменістане пры організацыі Туркменскага мастацкага тэхнікуму, аб тым, што туркменская моладзь—таксама ад прыроды—пазбаўлена слуху і здольнасьці мастацкага сьветаўспрыняцьця. І далей: у Баку проф. Еўлахаў на ганаровым сходзе ў Бакінскім Унівэрсытэце з „вучоным" выглядам казаў, што цюркі па сваіх інтэлектуальных здольнасьцях ня могуць падрыхтаваць вучоных профэсараў. Пацешна, што праца Знаменскага ў парадку культурнага прогрэсу выдана па ведамству Наркамасьветы...

Як бачыце, нацыяна істычная сволач выступае часам нават зусім адкрыта, хаця часта гэтыя разважаньні ў стылю расавай тэорыі прыкрываюцца нават марксыцкай фразаолёгіяй. А ці-ж невядомы таварышам шматлікія прыклады супраціўленьня расійскага настаўніцтва корэнізацыі школ у тых ці інш. рэспубліках? А ці-ж не вядома, што гэтае частае супраціўленьне пераходу на мясцовую нацыянальную мову носіць выразна вялікадзяржаўны характар?

Ці ж невядомы, далей, прыклад, які прыводзіўся на XVI партзьезьдзе тав. Кагановічам, які паказваў на пяцігодку Дзяржпляну СССР, у якой

зя было вылучана пытаньне аб падрыхтоўцы нацыянальных кадраў? Ці з галіны нам яшчэ больш блізкай—ёсьць такі тэатральны крытык і драматург—Глебаў, які тым-сім лічыцца навет тэорэтыкам.

Гэты Глебаў некалькі раз выступаў па пытаньням нацыянальнага тэатру, у тонах недапушчальнага *захвальваньня ўсіх нерасійскіх тэатраў, захвальваньня, за якім хаваецца барскае пахлопваньне па плячу*, захвальваньне, якое характарызуе сыстэму правядзеньня Олімпіяды тэатраў.

Я лічу неабходным проста сказаць, што на гэтай Олімпіядзе, з боку ня толькі Глебава, але і з боку большай часткі нашых тэатральных крытыкаў, было праяўлена зусім недапушчальнае захвальваньне, зьвязанае з гэтым самым барскім пахлопваньнем па плячу (воплескі). Характэрна што гэтае захвальваньне вяло адначасова і няўхільна да змазваньня клясавай барацьбы, якая інтэнсыўна разгортваецца па ўсім тэатральным фронце, ва ўсіх рэспубліках Савецкага Саюзу.

Тон быў у крытыкаў самы „інтэрнацыянальны". Вось, моў, якія мы добрыя, што нам расійскі тэатр, прыехалі тэатры з іншых рэспублік і вось, як мы іх добра спатыкаем! А на самай справе, інтэрнацыяналізму тут няма і на грош, а вялікадзяржаўнай брыдоты хоць адбаўляй.

Ці яшчэ прыклад: толькі што вышла кніжка: „Мастацкая культура савецкага ўсходу" (выд. „Акадэмія", 1931 г.). Гэтая кніжка ўяўляе сабой самае вульгарнае ўваскрашэньне буржуазнай концэпцыі пра Ўсход наогул і пра Захад наогул. Гэта па сваёй сутнасьці кніжка формалістычная. Тут і гутаркі няма пра клясавую барацьбу ў мастацтве, як не гаворыцца ў ёй аб клясавым характары мастацтва наогул. Эмоцыянальным стрыжнем усіх разважаньняў адносна нацыянальнага мастацтва, зьяўляецца ўсё тое-ж самае барскае зьдзіўленьне і пахлопваньне: вось, моў, якія малыя і якія адсталыя народнасьці, а глядзіш у іх усё-ж такі цікавае мастацтва. Адзінае соцыялёгічнае абгуленьне, да якога ўзьнімаюцца аўтары, гэта разьдзяленьне мастацтва на мастацтва „вышэйшае" і мастацтва „народнае". Ці варта крытыкаваць падобную „соцыялёгію"? Прывяду толькі адно разважаньне нейкага Зумера пра вехі разьвіцьця мастацтва Азербайджана. Гэта ў канцы артыкулу—найбольш, так сказаць, лірычна-ўзьнятае месца ў разважаньнях Зумера: „Старая культура дэнацыяналізавала вярхі, расшчапляла мастацтва на панскае і мужыцкае, вызначала з гары пагардныя адносіны да няўмелага саматужніцтва". Новаму мастацтву Азербайджана, якое разьвіваецца пад знакам нацыянальнага адраджэньня, патрэбна ўлічыць вопыт і гэтага мудрага, у сваёй прастаце нізавога „мастацтва" (стар. 102).

Аказваецца, што асноўны грэх старой культуры,—таксама сваяасаблівая фармулёўка, як нібы „старая культура" была чымсьці адзіным,—у тым, што яна, гэтая старая культура расчаплялася на панскую і мужыцкую. Сэнс атрымліваецца такі: вось, моў, у мінулым была клясавая

барацьба, а зараз, пры будаўніцтве новага мастацтва, трэба яе ўхіляцца. У будучыні, моў, не расшчапляйцеся!

Які нязносна-фальшывы тон разважаньняў аб мастацтве, „мудрым в своей простоте“. Апрача таго, на ўсёй кніжцы ляжыць пячаць страху перад новай культурай, якая нібы, у сваём разьвіцьці адкіне на бок і пахавае ўсё тое цікавае, сваясаблівае, што аўтары гэтага збор ніку вы крылі ў мастацтве „Савецкага Ўсходу“.

Ці патрэбна даводзіць, што ў гэтай кніжцы мы знаходзім адзін з відаў вялікарасійскага шовінізму? (голас з месца „і глупства“).

— Не, гэта ця глупства. *Вялікарасійскі шовінізм зусім ня звычайнае глупства. З пункту гледжаньня клясавага ворага, гэта адно з самых разумных сродкаў яго барацьбы.* Прычым клясавы вораг умела карыстаецца зброяй нацыянальнай розьні, вельмі часта ўмела і разумна (галасы: „Правільна“. *Воплескі*).

Ці вазьмеце такі прыклад вялікарасійскага нацыянальнага шовінізму, як праца пераверзаўцаў у Беларускім дзяржаўным унівэрсытэце. Гэтыя пераверзаўцы ня толькі псавалі студэнцтва прапагандай меншавіцкага антымарксыцкага літаратуразнаўства свайго настаўніка, але і ўсе прыклады пры выкладаньні яны бралі толькі з расійскай літаратуры, праяўляючы самыя пагардныя адносіны да ўсіх прапаноў хоць-бы ілюстраваць свае палажэньні вопытам беларускага мастацтва.

Цікава адзначыць, між іншым, што пераверзеўшчына ў радзе рэспублік, напрыклад, і ў Грузіі, змыкалася з мясцовым шовінізмам, што можа быць вытлумачана, пераверзеўскім адмаўленьнем актыўнага ўмяшаньня ў разьвіцьцё мастацтва, пераверзаўскім вучэньнем аб фатальнай замкнёнасьці мастака пэўным кругам вобразаў і г. д. Як-бы ўсе гэтыя Саўсуны і Фохты не перафарбоўваліся, як-бы яны зараз не вілялі і не манэўравалі разам з іншымі пераверзаўцамі, з партыйным білетам, ці беспартыйнага білету,—да іх усіх трэба надоўга захаваць насьцярожанасьць і недаверлівасьць, правяраючы іх не на адной, а на некалькіх дыскусіях.

Гэта асабліва адносіцца да *пераверзаўцаў з партыйным білетам.* Аднак былі такія партыйцы, якія рад год вучыліся толькі для таго, каб у выніку стаць ортодоксальнымі вучнямі меншавіцкага профэсара (Беспалаў, Гэльфанд, Зонін, Кін і інш.).

Трэба ім, як мага дапамагчы зжыць свае памылкі і перабудавацца, але чым менш мы будзем пры гэтым выяўляць лібэралізму і даверлівасьці, тым менш памылак мы зробім.

Пры гэтым, вядома, цалкам ня ўсе былыя пераверзаўцы здолеюць перабудавацца—і найбольш безнадзейныя ў ліку іх іменна тыя, якія дадаткова выкрываюць сябе, по лініі нацыяналізму,—напрыклад, у Беларусі.

Вазьмеце далей працу вядомага слупа акадэмічнага знаўца Ўсходу Бартольда, аб гісторыі культурнага жыцьця Туркестана, якая вышла

ў 27 годзе ў выданьнях Акадэміі Навук. Колёнізацыя расійскім царызмам Сярэдняй Азіі, стаіць перад ім у выглядзе ідылічнай дапамогі народаў больш перадавых народам больш адсталым. Кауфманы, і Мураўёвы і Курапаткіны аказваюцца ледзь не каханымі дабрачынцамі сярод насельніцтва, культуртрэгерамі. А вазьмеце мовазнаўчую дыскусію. Але ці ня будзе за шмат гэтых прыкладаў? (галасы: „Не, просім").

Трэба сказаць, што мы мовазнаўчай дыскусіі аддалі мала ўвагі, бадай не займаліся ёю зусім, а між тым пытаньні мовы зусім непасрэдна ўваходзяць у галіну нашай працы. Мы павінны тут выступаць не ў якасьці пабочных *наглядальнікаў*, але ў якасьці аднаго з бакоў са сваёй лініяй, са сваім пунктам гледжаньня, са сваей політыкай.

Як раз у момант нашай асабліва напружанай барацьбы з „Літфронтам" была ўтворана група „Языкафронт", група, якая сваёй назвай пераклікалася з нашымі сумнай памяці літфронтаўцамі.

Гэтая группа „Языкафронт" зрабіла рад вельмі сур'ёзных памылак ідэолістычнага і формалістычнага характару, памылак, якія выцякаюць у прыватцасьці з уплыву на некаторых прадстаўнікоў гэтай групы індаэўропэйскіх тэорый. Адзін з выдатнейшых тэорэтыкаў гэтае групы, тав. Данілаў, зрабіў апрача таго некаторыя памылкі яўна вялікарасійскашовіністычнага характару. Ён проста адмаўляў асаблівасьць украінскай мовы—што там ужо казаць, напрыклад, аб беларускай мове.

Прычым развагаваньні тав. Данілава насілі знадворна надзвычай левы характар. Моў, інтэрнацыяналізуецца мова, моў, ідэйны зьмест расійскага і украінскага рабочага той-жа самы і г. д. і т. п.

Трэба сказаць, што сам тав. Данілаў павінен быў нарэшце заявіць, што яго „левая" фраза аб інтэрнацыяналізьме мовы хавала ў сабе выразна права-рэакцыйную справу, падмяняючы інтэрнацыяналізм русіфікацыяй.

У нас бывае так, што некаторыя блытаюцца інтэрнацыяналізмам з русіфікацыяй. Тэорэтыкам, прапаведнікам і аполёгетам падобнай „блытаніны" і выступаў як раз Ваганян.

Аднак, калі ўжо ў выніку мовазнаўчай дыскусіі т. т. пісалі рэзолюцыі аб яе выніках, дык у іх зноў здарыўся грэх—яны забыліся выпукліць пытаньне аб вялікадзяржаўным ухіле!—Гэта іх уласная далікатная формулёўка: забыліся выпукліць! А між тым, іменна галіна мовы павінна характарызавацца барацьбой комуністаў супроць усякага вялікадзяржаўніцтва. Цікава, што як-раз яфэтычнай тэорыі акадэміка Мара, тэорыі, якую ня толькі можна, але патрэбна крытыкаваць, будуючы марксыцкае мовазнаўства,—гэтай тэорыі бязумоўна ўласьцівы інтэрнацыяналізм. Іменна ў галіне мовы будзе на справе правярацца інтэрнацыяналізм кожнага тэорытычнага працаўніка, іменна ў галіне мовы трэба ўмець спалучыць барацьбу за пролетарскую культуру, за міжнароднае адзінства рабочае клясы, з улікам нацыянальных форм і найвялікшай увагай да яе.

Надзвычай сваясаблiва выяўляецца вялiкарасiйскi шовiнiзм [1]) на музыкальным фронце. Папярэдзiм з пачатку таварышоў з саюзных рэспублiк, што дастаўшчыкi цыганшчыны, фокстротшчыны, i джаза, дастаўшчыкi халтуры, якiх зараз гоняць з РСФСР, перасяляюцца да iх.

Таварышы, будзьце на варце! На вас коцiцца яўнае лiха!

Расiйская асоцыяцыя пролетарскiх музыкантаў якая мае пэўныя падставы ганарыцца посьпехамi сваёй барацьбы супроць гэтай публiкi, павiнна куды цясьней зьвязацца з пролетарскiмi музыкальнымi органiзацыямi iнш. рэспублiк, для таго, каб у прыватнасьцi замацаваць i сваe перамогi ў РСФСР. Але гэта пэўнае адхiленьне ў бок.

Вялiкарасiйскi шовiнiзм вельмi часта ў галiне музыкi маскуецца сваяасаблiвым „нацыянальным" аддзеньнем. Вазьмеце большую частку так званых песенек Кiнто, песенек тыпу Ала-Верды, цi „Гулiнджана", так званых яўрэйскiх (адэскiх) песенек, так званых маларасiйскiх. Усе гэтыя песьнi нi што iншае, як пародыя на нацыянальную музыку, просты зьдзек над ёю, не замаскаванае праяўленьне вялiкадзяржаўнiцтва.

Аднэй з форм праяў падобнага вялiкадзяржаўнiцтва, зьяўляецца, напрыклад, праца па так званаму выкарыстаньню ўсходнiх мотываў групы композытараў дарэвалюцыйнага i нават рэволюцыйнага пэрыоду. Такiя композытыры, як Рахманiнаў, як Васiленка, як Iпалiтаў-Iваноў, як Глiер, да Ўсходняй музыкi падыходзяць, як да якойсьцi экзотыкi, знарок падкрэсьлiваючы i русiфiкуючы яе, зьнiшчаючы яе асаблiвасьцi, скажаючы яе ў асноўным.

Асаблiва кепска абстаiць справа з музыкальнай адукацыяй у тых саюзных рэспублiках, дзе раней былi расiйскiя консэрваторыi, як, напрыклад, у Тыфлiсе. Па большай частцы яны ня толькi былi раней, але зараз засталiся цэнтрамi расiйскага шовiнiзму.

У галiне корэнiзацыi дзяржапарату ў саюзных рэспублiках, у галiне ўтварэньня нацыянальна-пролетарскiх кадраў мы дасягнулi вялiчэзных посьпехаў. Пры чым тут наш рух наперад iдзе з узрастаючымi тэмпамi. Аднак усё зроблена далёка недастаткова. Тут працу трэба ня толькi працягваць наперад, але як мага ўзмацняць, улiчваючы, што спробы затрымаць тэмпы, якiя бярэ партыя ў корэнiзацыi яўна iдуць з асяродзьдзя расiйскiх вялiкадзяржаўнiкаў i тых спэцыяльных пластоў, якiя за iмi стаяць.

## Супроць спробаў паслабiць барацьбу з вялiкадзяржаўнiцтвам

Я, таварышы, лiчу патрэбным прывесьцi рад прыкладаў, якiя iлюструюць неабходнасьць ня толькi ня здымаць, але нават узмацняць барацьбу з галоўнай небясьпекай у галiне нацыянальнай палiтыкi—з небясьпекай вялiкадзяржаўнага расiйскага шовiнiзму.

[1]) А бывае i не расiйскi вялiкадзяржаўны шовiнiзм—гэта шовiнiзм больш моцнай i буйнай нацыi ў адносiнах да нацыi больш слабой i нязначнай, якая жыве на яе тэрыторыi.

Я лічыў гэта патрэбным зрабіць у прыватнасьці і дзеля таго, што ў нас маюцца спробы здымаць пытаньне аб вялікадзяржаўным шовінізьме, як аб галоўнай небясьпецы. Прычым гэтыя спробы ня ўсе проста і груба могуць быць выкрыты, некаторыя з іх вельмі старанна маскуюцца.

Падобную адносна хітрую тэорыю ўтварыў, напрыклад, П. Іонаў. Гэтаму таварышу не шанцавала і не шанцуе ў галіне распрацоўкі культурных пытаньняў—у свой час ён быў у бухарынскай школе, адмаўляў клясавасьць культуры, прапагандаваў тэорыю культуры грамадзка-эканамічных формацый з 120 процэнтнай адданнасьцю Бухарыну, крычаў аб заміраньні клясавай барацьбы і г. д. і т. п. У свой час мы напостаўцы яго разьбілі, але гэты вурок не пашоў яму на карысьць, і пры абмеркаваньні нацыянальнай проблемы ва ўмовах рэконструкцыйнага пэрыоду Іонаў заявіў наступнае: калі „левы“ ўхіл у большасьці выпадкаў уяўляе сабой ні што іншае, як маскаваньне „левай“ фразай вялікадзяржаўніцтва, дык правы ўхіл зьяўляецца скатваньнем да выразнага наяўнага нацыяналізму. Для „левых“ нацыя і нацыянальная культура,—гэта мінулае і перажытае. Для правых нацыя і нацыянальная культура,—наадварот, апошняя і вышэйшая існіна („Заря Востока“, 14-XII-28 г.).

Моў, ухіл да мясцовага шовінізму—гэта правы ўхіл, а ўхіл да вялікадзяржаўнага шовінізму—гэта левы ўхіл, а які-ж ухіл галоўны?—Правы! Значыцца, галоўная небясьпека не велікадзяржаўны, а мясцовы шовінізм. Гэта наскрозь ашуканчае разважаньне. Тут няма сапраўднага вызначэньня соцыяльнай базы таго ці інш. ухілу, тут дурнаватая дзіцячая гульня ў такія вызначэньні,—бо іменна тут, па сутнасьці справы, якраз ігнаруюцца, недаацэньваюцца, неправільна характарызуюцца тыя клясавыя сілы, якія могуць стаяць за так званым „левым“ і так званым правым ухіламі ў галіне нацыянальнай політыкі. Іонаў наогул ня ўмее разьбірацца ў зьмесьце тэрміну „галоўная небясьпека“—увесь час здаецца, што ён разважае арыфмэтычна: моў, на галоўную небясьпеку 70 проц. удараў, на „не галоўную“—30 проц. Гэта зноў такі тая-ж самая гульня ў політыку, якая адмаўляла няўменьне разьбірацца ў пастаноўцы пытаньня для ўсяго саюзу наогул, у няўменьні прыстасаваць гэтую політыку да кожнай нацыянальнай політыкі, няўменьне разьбірацца ў тым, што напрамак галоўнага агню, які накіроўвае партыя, выплывае з аналізу сапраўднага становішча.

А калі так падыйсьці да пытаньня аб ухілах, дык цалкам падцьвердзіцца правільнасьць партыйнай лініі ў напрамку галоўнага ўдару супроць вялікарасійскага шовінізму, галоўнай небясьпекі, што зусім не азначае якога-небудзь паслабленьня барацьбы супроць мясцовых шовінізмаў. Об'ектыўна разьважаньні Іонава ўяўляюць сабой спробу зьмякчыць барацьбу з расійскім вялікадзяржаўніцтвам, і, натуральна, што такая спроба павінна спаткаць рашучы адпор, з боку ўсёй нашай усеапаўскай організацыі і ў першую чаргу з боку саміх расійскіх комуністаў. Трэба проста

сказаць, што на літаратурным вучастку ідэолёгічнага фронту, мы, расійскія комуністы, займаліся гэтым да гэтага часу зусім недастаткова, чым вядома, нярэдка затруднялі барацьбу нашых таварышоў у інш. рэспубліках супроць іх мясцовага шовінізму.

## Мясцовы шовінізм і яго стык з нацыянал-дэмократамі

*Мясцовы шовінізм, зьяўляючыся вельмі часта рэакцыяй на шовінізм расійскі, ва ўмовах клясавае барацьбы, якая зараз адбываецца, яўна выкрываецца, як простае выражэньне націску клясавага ворага, таго клясавага ворага, які ў прыватнасьці і асабліва добра ўмее выкарыстоўваць у сваіх інтарэсах усякую рэакцыю на рэшткі расійскага вялікадзяржаўніцтва.* Не выпадкова, што ўхілы ад генэральнай лініі партыі ў саюзных рэспубліках амаль заўсёды спалучаюцца з ухіламі ў галіне нацыянальнай політыкі.

Гаворачы пра вялікадзяржаўны шовінізм, мы ўжо адзначалі, на тое, што настроі комуніста-вялікадзяржаўніка змыкаюцца з настроямі зьменавехаўца, ці контр-рэволюцыйнага эмігранта. Калі гутарка ідзе аб мясцовых шовінізмах, ды і тут трэба констатаваць простае зрастаньне нацыяналістычных ухілаў у нашай партыі з нацыянал-дэмократычнымі контррэволюцыйнымі організацыямі, і далей, з нацыянальнай эміграцыяй за межамі.

На жаль, наш агульны друк, аддаючы пэўную ўвагу расійскай эміграцыі, амаль цалкам не займаецца эміграцыяй грузінскай, цюркскай і г. д., а між тым на гэтую нацыянальную эміграцыю імпэрыялістычныя краіны пакладаюць вялікія надзеі пры падрыхтоўцы плянаў інтэрвэнцыі.

Асноўная нота, якая характарызуе ўсю гульню нацыянальнай эміграцыі—гэта нічым незамаскаваны *зусім зоолёгічны нацыяналізм.* Вось, напрыклад, у грузінскім эмігранскім журнале „Тэтры Гэоргі“ пішуць аб расійскім народзе—расійскі народ наогул і ў цэлым!—наступнае: „Расійскі народ ніколі не дасягне вышэйшай цывілізацыі, далей жалудку яго ідэалы ня ідуць. Мережкоўскі называе расійцаў п‘яніцамі, забойцамі і хамамі. Падобны народ ня можа мець якую-небудзь культурнасьць. У наступных № № мы абгрунтуем, што расійскі народ сапраўды цалкам пазбаўлены ўсялякай цывілізацыі, і, калі вышэйшыя пласты расійскага народу і засвоілі што-небудзь, то толькі дзякуючы насьледваньню шляхам капіраваньня“. „Вы дзеці і прадстаўнікі той часткі нацыянальна-занепаўшай Грузіі, якая прадавала сваю бацькаўшчыну за чыны і цемлякі, за эполеты пристава ці стражніка, ці на мышленьне хуліганаў Пляханава—Чарнова—Леніна і за інтарэсы расійскіх політычных партый“.

Гэта сапраўды зусім зоолёгічны нацыяналізм да апошняй ступені азьвярэўшых людзей. Але вядома, што падобныя разважаньні не зьяўляюцца выключэньнем. Можна прывесьці вялікую колькасьць зусім аналёгічных прыкладаў з журналаў ня толькі грузінскай, але і цюркскай,

армянскай і іншых нацыянальных эміграцый. Напрыклад, у татарскім журнале „Мільлі-юл“ пропагандуецца сьціплая ідэя аб неабходнасьці ўтварэньня вялікай пантуранскай дзяржавы, якой павінна належаць уся Волга, увесь Урал, уся Сібір, якая будзе блакірвацца, з аднаго боку з цюркскімі рэспублікамі Сярэдняй Азіі, а з другога—разам з імі орыентавацца на Турцыю. Пры чым у гэтым журнале друкуюцца ня толькі артыкулы на гэтую тэму, але нават і вершы.

У гэтых адносінах не адна нацыянальная эміграцыя не зьяўляецца хоць трохі больш дабрачыннай. Затрымаемся толькі на разважаньнях небезьвядомага Ноя Жорданія, які на працягу раду гадоў стаяў на чале і зараз стаіць на чале грузінскага меншавізму, выклікаючы ў некаторых нават падобнасьць пэўнай пашаны. Вось, моў, глядзеце, які ідэйны чалавек, колькі год вядзе адну і тую-ж лінію, якая вытраманасьць і прынцыповая пераконанасьць! Нядаўна, аднак, стала вядомым, што ў дзейнасьці гэтага сівагаловага Ноя Жорданія былі такія моманты, чаго-б ён зусім не хацеў бачыць апублікаваным у друку. Я кажу, аб выкрытай сувязі Жорданія з царскай ахранкай. Лінія паважнага чалавека знайшла ў факце сувязі з царскай ахранкай сваё канчатковае ідэйнае завяршэньне. Гэты Жорданія, у журнале „Промэтэй“—аб'ядналым органе Закаўкаскай эміграцыі напісаў артыкул пад об'ектыўна гістарычнай гэткай навукова-дасьледчай назвай „Старонка расійскай гісторыі“. Філёзофія гісторыі наступная: Вось жыла-была Маскоўская Русь. Краіна гэтая была неўпарадкаваная, не наладжаная, у дастатковай меры неахайная, і для таго, каб скласьціся, была прымушана ў свой час прыклікаць варагаў. Пасьля зьявіўся Пётра I, паспрабаваў у якасьці агента эўропэйцаў эўропэізаваць Пецярбург, Пецярбург супроцстаўлены ўсёй Маскоўскай Русі. Наступная дата—Кастрычнікавая рэволюцыя. Кастрычнікавая рэволюцыя была паўстаньнем Маскоўскай Русі супроць Пецярбургу. Кастрычнік, моў, гэта ёсьць нішто іншае, як рэванш Старой Маскоўскай Русі, як скіданьне чужацкага для расійскага народу эўропэізаваньня, як перамога тэй анархіі, да якой, моў, па сваёй прыродзе няўхільна цягацее той самы расійскі народ, характарыстыку якога ў журнале грузінскіх фашыстаў мы ўжо чулі.

Жорданія піша: „Другая Расія карыстаецца гэтым, каб паўстаць у Кастрычнічку. Гістарычная дуэль заканчваецца паражэньнем Эўропы з усёй яе Пецярбургскай працай і аднаўленьнем Маскоўскай Русі з яе політычным і экономічным гвалтам. Расійская грамада, у якасьці актыўнай політычнай сілы, організаванай і здольнай кіраваць сабой, больш ня існуе“.

Вывады зусім ясныя. У пачатку гісторыіі маскоўскай Русі былі варагі і зараз патрэбны варагі для таго, каб у гэтай краіне шырокай, багатай і неўпарадкаванай утварыць адпаведна эўропэйскі рэжым. Ясна, што гэтая філёзофія гісторыі зьяўляецца ні чым-іншым як гісторыяй філёзофіі

інтэрвэнцыі, як падрыхтоўкай ідэолёгічнага апраўданьня інтэрвэнцыі, простай пропагандай неабходнасьці інтэрвэнцыі.

Уся „нацыянальная“ эміграцыя, у тым ліку і грузінскі меншавізм толькі і жывуць з падачак ад вайсковых організацый, якія падрыхтоўваюць інтэрвэнцыю. І не выпадкова, што тая частка Заходня-Эўропэйскага капіталістычнага друку, які зьяўляецца агентурай імпэрыялістычнай ваеншчыны, якая падрыхтоўвае інтэрвэнцыю, аддае шмат увагі нацыянальнаму пытаньню, у нас у Савецкім Саюзе, праходзячы моўчкі, ёсьцьведама, каля нашых вялічэзных посьпехаў і найвялікшых дасягненьняў у гэтай галіне, і, пераўвялічваючы найменшыя недахопы ці промахі ў той ці інш. Савецкай рэспубліцы.

Зьменавехаўства было ня толькі расійскай зьявай,—зьменавехаўства ў своеасаблівай форме мела месца амаль ва ўсіх рэспубліках Савецкага Саюзу. Пры чым, у тых рэспубліках, якія былі калісьці царызмам у той ці іншай меры ўціснуты, там зьменавехаўства насіла выразна-нацыяналістычны характар дапушчэньня думкі аб тым, што можна будзе выкарыстаць Савецкую ўладу ў данай рэспубліцы для буржуазнага нацыянал-дэмократычнага разьвіцьця у данай нацыі.

Падобна, як проф. Устралаў, разьлічваў на тое, што гаворачы аб інтэрнацыяналізьме, бальшавізм выканае функцыі зьбіраньня і захаваньня адзінай недзялімай Расіі, падобна рабілі стаўку украінскія, беларускія і іншыя. Устралавы ставілі стаўку на паступовае перараджэньне Савецкай улады, на паступовы але верны адыход ад політыкі інтэрнацыянальнага збліжэньня, на няўхільны рост дзяржаўнага значэньня нацыяналістычнай інтэлігенцыі. І падобна-ж, як разгортваньне соцыялістычнага будаўніцтва ў нашай краіне, політыка выкарчоўваньня карэньняў капіталізму і ліквідацыі кулацтва як клясы штурхнула ня толькі промпартыю, але і меншавікоў на шлях простай падрыхтоўкі інтэрвэнцыі, падобна-ж і *нацыянальнае зьменавехаўства шпарка прайшло шлях ад нацыянал-дэмократызму да яўнага нацыянал-фашызму, да ўсё-больш выразнага служэньня інтарэсам падрыхтоўкі інтэрвэнцыі супроць Савецкага Саюзу і да ўсё большага выкрыцьця буржуазна-кулацкай сутнасьці сваёй соцыяльнай праграмы.*

Невыпадкова за апошні час мы выкрылі такую організацыю як СВУ на Украіне, як групоўку раду былых беларускіх міністраў, як султангаліеўшчыну ў Татарыі, і інш. падобнага тыпу групоўкі амаль ва ўсіх саюзных рэспубліках.

Трэба азначыць, што амаль усюды гэтыя контр-рэволюцыйныя нацыяналістычныя групоўкі мелі сваю агентуру ў радох нашай партыі, а султан-галіеўшчына, напрыклад, амаль цалкам складалася з комуністаў.

Розныя рэспублікі, розная абстаноўка, своеасаблівыя гістарычныя шляхі разьвіцьця і амаль усюды адны і тыя-ж ідэі, адны і тыя-ж уста-

моўкі, адна і тая-ж палітыка. Соцыялёгічная законамернасьць адчуваецца з выключнай сілай і паказальнай пасьлядоўнасьцю!

Вазьмеце вы ідэолёгію ўсіх гэтых нацыянал-дэмократычных груповак і організацый. *Усіх іх аб'яднае барацьба за буржуазны шлях разьвіцьця сваёй нацыі, у прыватнасьці пад прыкрыцьцем адмаўленьня клясавай дыфэрэнцыяцыі, моў, наш народ адзіны, наш народ уяўляе нешта цэлае, наш народ ня ведае ніякай клясавай барацьбы, моў, наша нацыянальная самабытнасьць у тым і заключаецца, што мы не прыстасаваны ні да якага соцыялізму.*

Вось параўнаўча ня так даўно, на адным з вельмі адказных сходаў Грузіі пісьменьнік Гамсакурдзія заявіў наступнае: „Дзе ў нас буржуазія? У нас было ўсяго $1^1/_2$ спэкулянта і буржуа, вы адабралі іх маемасьць, некаторыя ператварылі ў палацы рабочых, частка эміґравала, іншыя спачываюць у магілах. Пытаюся, каго-ж мы абараняем, у чым выражаецца наша абарона“. Тут цікава ня толькі тое, што чалавек адмаўляе наяўнасьць сур'ёзнага клясавага распластаваньня ў выніку ўсёй мінулай грузінскай гісторыі. Цікава і тое, што ён спрабуе зрабіць адгэтуль вывады што да літаратуры. Моў, буржуазіі ў нас ня было, а калі і была, дык зусім маленькая і вы яе ліквідавалі. Адкуль-жа буржуазны ўплыў у літаратуры, адкуль-жа могуць быць буржуазныя пісьменьнікі? Буржуазных пісьменьнікаў няма, усе мы проста грузінскія пісьменьнікі!

Я не сумняваюся ў тым, што амаль у кожнай саюзнай рэспубліцы, лёгка адшукаць падобнага Гамсакурдзія прычым, ягоныя выступленьні такія-ж тусклыя, панурыя і аднастайныя, як прамовы гэтага Гамсакурдзія грузінскага.

Ці, возьмем, напрыклад, кніжку нейкага Ганшына, калі не памыляюся, члена партыі, зьвязанага з султан-галіеўшчынай, пад назвай „Дні рэволюцыі“, кніжку выданую да дзесяцігодзьдзя Кастрычнікавай рэволюцыі, у якой Ганшын піша аб клясавым расслаеньні ў былой Уфімскай губэрні. Што атрымліваецца ў Ганшына? Усё літаральна татара-башкірскае сялянства адносіцца да беднякоў і сераднякоў, а кулаччо складаецца з немцаў, латышоў, украінцаў і расійцаў. Тая-ж самая ідэйка—мы адзіная нацыя, у нас няма клясавага расслаеньня, а калі і былі якія-небудзь там буржуі, кулакі, дык гэта з іншых нацый, якія спрабавалі над намі панаваць.

Ці-ж непадобны характар носяць усе разважаньні украінскага акадэміка Ефрэмава?

Ці-ж ня тое самае прапаведвалі ўсе беларускія нацыянал-дэмократы, змазваючы клясавую сутнасьць беларускага гістарычнага процэсу, ідэалізуючы беларускі фэўдалізм, выдаючы дробна-буржуазныя ідэалы гандляра, кулака за самабытнасьць беларускага народу?

*З усім гэтым ва ўсіх нацыянал-дэмократычных груповках, непарыўна зьвязана ідэя аб мэсіянстве сваёй нацыі, і далей, пераўвялі-*

*чэньне яе самабытнасьці.* Вазьмеце, напрыклад, разважаньні ўсіх армянскіх нацыяналістаў, якія спрабуюць выдаваць армянскую нацыю за адзінага выказьніка заходняй цывілізацыі на Ўсходзе, за мэсію, які паказвае шлях усім народам Усходу. А ці-ж невядома, якое месца займала ідэя мэсыянства украінскай нацыі ва ўсіх пабудовах тэорэтыкаў і практыкаў СВУ? Ці-ж невядома, што настроі украінскага мэсыянства з асаблівай выразнасьцю праявіліся ў прыватнасьці, і ў разважаньнях Хвылёвага, пра якога мы будзем гаварыць далей, у якога гэтая нацыяналістычная тэорыя мэсыянства прыкрывалася комуністычнай фразэолёгіяй.

Усе гэтыя ідэолёгічныя бryndзюлькі аб самабытнасьці і мэсыянстве служылі толькі для падрыхтоўкі і для апраўданьня справы орыентацыі на капіталістычныя краіны. Ці-ж невядома, у якой ступені СВУ орыентаваўся на агіднейшыя імпэрыялістычныя элемэнты ў Польшчы? Ці-ж беларускія нацыянал-дэмократы хаця крыху адставалі ў гэтых адносінах ад СВУ? Іх вопыт, вопыт беларускіх нацыянал-дэмократаў з гэтага пункту гледжаньня асабліва цікавы. Вось ужо быццам маем закончаных беларускіх патрыотаў! Вось ужо нібы людзі, для якіх нацыянальнае—стаіць вышэй за ўсё. Вось быццам ужо людзі, якія гатовы перагрызьці горла ўсякаму, які замахваецца на самастойнасьць Беларусі. А на самай справе—верныя служкі Пілсудзкага. Успомніце, як апявалі яны яго, калі польская армія захапіла Менск. Прыпомніце ўсю справу гэтай мізэрнай групкі Ластоўскага, Чаржынскага, Некрашэвіча, Лёсіка і інш. Аднак усе іх паводзіны, найменшыя выгібы іх тактыкі, кожныя адценьні іх формулёвак,—усе яны вызначаліся ходам і інтарэсамі вайсковай клікі Польшчы, якая жадала быць галоўнай зброяй імпэрыялістычнай інтэрвэнцыі супроць краін, якія будуюць соцыялізм.

Гэтая орыентацыя на капіталістычныя краіны надзвычай выразна выявілася і ў галіне культурнай работы, якой усе нацыянал-дэмократычныя групоўкі сугуба займаліся.

Вазьмеце, напрыклад, ізноў такі працу беларускіх нацыянал-дэмократаў у галіне мовы. Ці-ж ня прызналіся Лёсік і Чаржынскі ў тым, што пры акадэмічнай працы над беларускай мовай, яны ставілі сабе адну задачу, барацьба з русіцызмам, усялякае падтрыманьне і адабрэньне полёнізму, гэта значыць, моў, беларускай культуры больш небясьпечна Масква, а ня Польшча. Прычым, у дзейнасьці гэтых беларускіх нацыянал-дэмократаў можна знайсьці простыя прыклады таго, як псавалася беларуская мова для забясьпечаньня большага ўплыву мовы польскай. І тут расшыфроўваўся рэальны сэнс распаўсюджанай па раду рэспублікі тэорыі барацьбы двух культур—культуры расійскай, культуры мясцовай, як спрабавалі формуляваць нацыянал-дэмократы,—а на справе культуры пролетарскай і культуры не нацыянальнай, але нацыяналістычнай, гэта значыць буржуазнай. Тут і расшыфроўваўся рэальны сэнс гэтай тэорыі, як абгрунтаваньне і зацьвярджэньне орыентацыі на суседнія капіталі-

стычныя краіны, у працівагу Саюзу і далейшаму збліжэньню працоўных усіх народаў.

У пытаньнях нацыянальнай культуры ўва ўсіх нацыянал - дэмократычных, як іх прынята называць, а па сутнасьці справы іменна нацыянал-фашысцкіх груповак і плыняў таксама была адна агульная лінія—*гэта лінія барацьбы за буржуазна-нацыяналістычнае разьвіцьцё нацыянальнае культуры.* Ідэолізацыя свайго мінулага, романтычнае ўтварэньне залатога веку ў сваёй нацыі, штучная фабрыкацыя нацыянальных герояў і ўтварэньне іх культу, ператварэньне самабытнасьці ў поўную абасобленасьць і асаблівасьць данага народу,—усё гэта ў аднолькавай ступені характэрна і для украінскіх, і для беларускіх, і для грузінскіх, і для армянскіх, і для цюркскіх нацыяналістаў. Адна гэтая аднатыповасьць іх тэорый—найвялікшае, выкрыцьце пераўвялічэньня імі сваёй нацыянальнай самабытнасьці!

*А вось наступнае зьвяно, якое зьвязвае сабой усе іх тэорыі. Гэта адмаўленьне значэньня Кастрычнікавай рэволюцыі для разьвіцьця нацыянал най культуры і спробы ўстанаўленьня пераемнасьці нашай работы, работы, пролетарскай рэволюцыі, з нацыянал-дэмократычнымі плынямі да рэволюцыі.* Вазьмеце Узьбекістан. Ці-ж невядомы шматлікія спробы вывесьці нашу работу па ўтварэньню ўзьбекскай пролетарскай культуры, усю нацыянальную культурную работу савецкай улады ва Узьбекістане не з Кастрычнікавай рэволюцыі, не з міжнароднага вопыту ўсёй рабочае клясы, не з інтэрнацырнальных ідэй бальшавізму, не з, гаворачы словамі Леніна, элемэнтаў культуры дэмократычнай і ў процівагу культуры буржуазнай, раней панаваўшай, але з джадзідзізму з гэтай плыні буржуазна-лібэральнай узьбекскай інтэлегенцыі. Аб тым-жа самым гаворыць і беларускі вопыт. Ці-ж не спрабавалі беларускія нацыянал-дэмократы ўстанавіць простую пераемнасьць усёй нашай работы з „нашаніўствам,“ з гэтай плыні кулацкай буржуазнай інтэлігенцыі? Кастрычнікавая рэволюцыя, такім чынам, ператвараецца ў іх не ў адыходны пункт свабоднага разьвіцьця пэўнага народу, не ў пачатковы пункт барацьбы за перамогу ў яе нацыянальна-культурным разьвіцьці пролетарскай культуры, але ў адзін з эпізодаў, больш ці менш важных, але ў кожным выпадку, які ня меў вызначаючага і рашаючага значэньня.

Гэтыя стопроцэнтныя патрыёты ўжо ў дастатковай ступені выкрыты, па-першае, як агентура імпэрыялізму, як прыхільнікі ліквідацыі вольнага існаваньня сваёй краіны, як пропагандысты адыходу з СССР для пераходу ў кабалу да чужынцаў, да капіталістаў,—хай будзе любая форма нацыянальнага ўціску свайго народу, але толькі каб была надзея на капіталістычнае разьвіцьцё і ўладу буржуазіі. Яны выкрыты, па-другое, як людзі, заўсёды і калі хочаш гатовыя на любыя блёкі з расійскімі чорнасоценцамі, з расійскімі вялікадзяржаўнікамі, з расійскімі шовіністымі

абы можна было ў чым-небудзь адваяваць буржуазны шлях разьвіцьця супроць шляху соцыялістычнага.

Ці-ж невядома, як захоўваўся Ефрэмаў на выбарах ва Украінскую Акадэмію Навук? Які, моў, незаплямлены і ваяўнічы патрыот! А ці-ж не блёкаваўся ён з усімі расійскімі чорнасоценцамі для таго, каб правaліць украінскіх вучоных комуністаў пры выбарах у Акадэмію? Ці-ж невядомы блёкі беларускіх нацыянал-дэмократаў з кандрацьеўцамі і з промпартыяй, якія нікольki ня маюць намераў гарантаваць якое-небудзь свабоднае разьвіцьцё самастойнай Беларусі ў будучыні? Ці-ж невядома, што украінскі фашысцкі поэт Маланюк, напісаў узьнёслую поэму аб Гумілеве—найбольш выдатным і буйным прадстаўніку імпэрыялістычных імкненьняў расійскай буржуазіі ў галіне поэзіі? Ці-ж невядома, што яго поэма была надрукавана ў журнале, які рэдагаваўся асноўным ідэолёгам украінскага нацыянал-фашызму Данцовым?

Інтарэсы клясавай барацьбы падпарадкваюць сабе ўсё. Узьнёслая балбатня аб мэсыянстве данай нацыі і ўся іншая нацыяналістычная бязглудзіца бяз цяжкасьцяй адкідаецца на бок, як толькі пачынаецца гутарка пра рэальна-жыцьцёвыя інтарэсы буржуазна-кулацкіх элемэнтаў. Інтарэсы барацьбы супроць пролетарскай рэволюцыі вызначаюць у нацыянал-дэмократаў „все и вся“. Самабытнасьць абараняецца і абгрунтоўваецца толькі так і толькі ў той ступені, у якой магчыма яе накіраваць супроць соцыялістычнага будаўніцтва. Так і ёсьць, *што ўсе гэтыя нібы барацьбіты за незалежнасьць сваіх народаў на справе аказваюцца простымі здраднікамі справы вольнага разьвіцьця сваіх народаў паколькі толькі пролетарская рэволюцыя можа гарантаваць і ўжо гарантавала сапраўдную незалежнасьць усім калісьці прыгнечаным народам і краінам.* Так ўсе гэтыя нацыянал-дэмократычныя, нібы патрыёты, выступаюць, як звычайныя здраднікі вольнага разьвіцьця сваіх народаў, змагаючыся за нізьвяржэньне савецкай улады і за панаваньне імпэрыялістычнай інтэрвэнцыі. Такім чынам зноў і яшчэ раз дэмонструецца, што ва ўмовах імпэрыялізму, толькі пролетарская рэволюцыя можа вырашыць нацыянальнае пытаньне.

Зразумела, што няма чаго дзівіцца, калі высьняецца, што ўсе гэтыя нацыянал-дэмократычныя групоўкі найцясьнейшымі вузламі зьнітаваны з нацыяналістычнай эміграцыяй, вельмі часта працуючы паводле яе непасрэдных дырэктыў. Тут, вядома, дзівіцца няма чаго. Цікавей тое, што ўсе гэтыя групоўкі і організацыі зрасталіся, ці спрабавалі зрастацца з нацыяналістычнымі ўхіламі сярод тых ці іншых савецкіх ці партыйных працаўнікоў. Пры чым ёсьць частыя выпадкі, якія сьведчаць ня толькі аб своеасаблівых політычных блёках і ідэйным збліжэньні нацыяналістычных ухілаў у нашых радох з нацыянал-дэмократычнымі, гэта значыць па сутнасьці справы, нацыянал-фашысцкімі організацыямі, але і выпадкі прасякненьня ў нашыя рады звычайнай агентуры нацыянал-фашызму.

Тав. Наумаў, робячы даклад аб султан-галіеўшчыне ў Комакадэміі, прывёў нядаўна выяўлены факт гутаркі Султан Галіева з буржуазным цюрскім нацыяналістам Валідавым, які знаходзіцца зараз у эміграцыі. Высьвятлілася, што Валідаў проста казаў Султан Галіеву, калі той зьвярнуўся да яго за дырэктывамі аб сваіх далейшых паводзінах, што, моў, ты, Галіеў, крыху за надта пасьпяшыў з пераходам да бальшавікоў, што яшчэ ня ўсё было страчана, што ісьці на такі крок можна і павінна было толькі ўжо ў апошні момант. Султан-Галіеў—гэта простая агентура клясавага ворага,—маюцца і такія!

Але ёсьць і людзі суб'ектыўна ня кепскія, людзі, якія ніколькі не зьяўляюцца простай агентурай клясавых ворагаў, людзі, якія жадаюць быць комуністамі, але аб'ектыўна на справе, якія змыкаюцца з нацыяналістычнымі, контр-рэволюцыйнымі элемэнтамі. З гэтага пункту гледжаньня нельга знайсьці лепшага прыкладу, як гісторыя Хвылёвага на Украіне. Ці варта прыпіманаць аб тэорыі Хвалёвога...? (галасы „варта, просім“).

Я спынюся толькі на некаторых момантах. „Даёш Эўропу, прэч ад Масквы“,—вось яго цэнтральная ўстаноўка. Хвылёвы пытаецца ў сябе: вось наша украінская літаратура пачынае ісьці па ўласнаму шляху разьвіцьця, на якую-ж з сусьветных літаратур, яна павінна ўзяць курс, і Хвылёвы адказвае: „У кожным выпадку не на расійскую. Гэта рашуча і бяз усякіх агаворак. Ня трэба зьмешваць нашага політычнага саюзу з літаратурай. Ад расійскай літаратуры, ад яе стыляў украінская поэзія павінна, як мага хутчэй уцякаць... ідэі пролетарыяту нам і без маскоўскага кіраўніцтва вядомы. Наадварот, гэтыя ідэі, мы, як прадстаўнікі маладой нацыі хутчэй адчуем, хутчэй выльлем у саадпаведныя вобразы. Наша орыентацыя на Заходня-эўропэйскае мастацтва, ня яго стыль, на яго прыёмы“.

Тут перш за ўсё кідаецца ў вочы патрабаваньне ня зьмешваць політычны саюз з літаратурай. Што гэта—вульгарнае жаданьне адрываць культуру ад політыкі? Ёсьць і гэта. І гэта зьвязана, вядома, з перавялічэньнем самабытнасьці украінскага народу, з ідэяй яго мэсыянства, што выразна прашчупваецца ў разважаньнях аб тым, што, моў, Украіна як маладая нацыя, хутчэй адчуе і глыбей выкажа ідэі пролетарыяту, чым маскоўскае мастацтва. Няма сэнсу крытыкаваць пастаноўку пытаньня аб маскоўскім мастацтве і аб заходня-эўропэйскім мастацтве наогул,—без клясавай характарыстыкі, без вызначэньня этапаў іх разьвіцьця, без ўменьня крытычна вылучыць адно і адкінуць другое. Але па сутнасьці справы ў гэтых разважаньнях Хвылёвага хаваецца найвялікшае нявер'е ў магчымасьць разьвіцьця украінскай літаратуры,—быццам даная літаратура разьвіваецца шляхам орыентацыі на якую-небудзь іншую літаратуру, нібы гэтая орыентацыя вырашае ўсё, нібы сутнасьць справы не ў соцыяльным асяродзьдзі, якое формуе гэтую літаратуру і не ў яе ідэйных

ўстаноўках, але ў орыентацыі на Маскву ці Заходнюю Эўропу. Сам Хвылёвы заявіў: „Вы пытаецеся, якая Эўропа? Бярыце якую хочаце,—мінулую, сучасную, буржуазную, пролетарскую, вечназьменную“. Гэтым разважаньнем Хвылёвы дадаткова вытлумачыў клясавы сэнс супрацьстаўленьня Масквы і Заходня-Эўропэйскага кіраўніцтва. І чым больш Хвылёвы гаварыў аб якой хочаш Эўропе, тым больш выразным стала яго імкненьне орыентавацца на культуру буржуазную супроць культуры пролетарскай.

Цікава, што орыентацыя на Эўропу цудоўна спалучалася і перапляталася ў Хвылёвага з надзвычай пэсымістычнай ацэнкай усяго захаду з прэтэнцыёзным і малапісьменным вучэньнем аб азыяцкім рэнэсансе. Хвылёвы пісаў: „Заходняя грамадзкасьць натуральна ідзе да стану духоўнай імпатэнцыі. Творчая энэргія вычарпана, яе хапіла толькі на два пэрыоды. Міне шмат вякоў, калі Эўропа ізноў распачне сваю слаўную гісторыю“.

„Вялікая праўда зямлі,—сонца ўстае на ўсходзе“—патэтычна дэкламаваў Хвылёвы, дэманструючы няўменьне перамагчы самыя элемэнтарныя буржуазныя концэпцыі Захаду і Ўсходу, як такія, Захаду і Ўсходу супроцьстаўляемых адзін аднаму. Але Хвылёвы ня проста супроцьстаўляў Усход Захаду. Не, гінучаму Захаду Хвылёвы супроцьстаўляў—мэсыянскую ролю Украіны: „Пры чым-жа тут Украіна? А пры тым, што азіяцкае адраджэньне цесна зьвязана з бальшавізмам і пры тым, што свабодная культура бальшавізму можа ярка праявіцца толькі ў маладых Савецкіх рэспубліках, і ў першую чаргу пад блакітным небам паўднёва-ўсходняй рэспублікі комун, якая заўсёды была арэнай грамадзянскіх сутычак, якая ўзгадвала ў сваіх буйных стэпах тып рэволюцыйнага конквістадора.“

Сам Хвылёвы, пасьля пэўнага адрэзку часу, так ахарактарызаваў ідэйную сутнасьць свайго ўхілу:—„Хвылёвізм“—гэта тэорыя барацьбы супроць КП(б)У, якая (тэорыя) утворана пад уплывам ідэолёгіі украінскага ваяўнічага фашызму, пад уплывам ідэолёгіі тэй урбанізаванай украінскай буржуазіі, якая лятуціць стварыць вялікую імпэрыялістычную дзяржаву“.

Гэта было сказана ў асноўным правільна хоць і ў гэтай формулёўцы і выпаў украінскі кулак, які меў вельмі істотныя адносіны да аформленьня таго нацыяналістычнага ўхілу, які быў у КП(б)У у форме „хвылёвізма“ ці ў форме „шумскізма“. Але ня гледзячы на тое, што нават тав. Хвылёвы сам ужо аддаў пад рэзкую публістычную крытыку свае мінулыя памылкі, намі мала зроблена для таго, каб вопыт барацьбы з хвылёвізмам зрабіць здабыткам нашага ўсесаюзнага пролетарскага літаратурнага руху.

Вазьмеце артыкулы і выступленьні Данцова, параўнайце іх з артыкуламі і выступленьнямі Хвылёвага, вельмі часта вы ня знойдзеце розьніцы.

*Стык паміж нацыяналістычным ухілам і нацыяналістычнай контррэволюцыяй* у наяўнасьці, інакш і быць ня можа—гэта закладзена ў абстаноўцы абвостранай клясавай барацьбы.

У такіх выпадках мала простага супрацьстаўленьня нацыяналізму інтэрнацыяналізму. *Не, трэба абавязкова выкрываць клясавы зьмест таго ці іншага нацыяналістычнага ўхілу*, ставячы ленінскае пытаньне—„куі продэст“—каму выгадна. Пры гэтым ад нас патрабуецца і найвялікшая беражлівасьць і найвялікшая ідэйная няпрымірымасьць, якія адзін аднаму не супярэчаць. Пры кожнай праяве нацыяналістычных ухілаў, ці нацыяналістычных настрояў мы павінны выкрыць і паказаць ня толькі куды растуць гэтыя ўхілы і настроі, але і адкуль яны растуць, але і чым яны харчуюцца. Ці ня цісьне што-небудзь у нас саміх,—адрозьніваючы буржуазную фронду супроць пролетарскай дыктатуры і мяцежную агентуру клясавых ворагаў ад таварышоў, якія памыляюцца, але можа быць, якія выражаюць рэакцыю на тыя ці іншыя непераможныя ўплывы расійскага вялікадзяржаўніцтва. Апраўдываць нацыяналістычныя памылкі і такога паходжаньня няма ніякай патрэбы, вытрыманы бальшавік здолее пабальшавіцку, па-інтэрнацыянальнаму, па-пролетарску рэагаваць на праявы расійскага вялікадзяржаўніцтва. Але гутарка і ня ідзе аб якім-небудзь апраўданьні падобных памылак. Гутарка ідзе аб самай няпрымірымай барацьбе з імі, зьвязанай, вядома, з адваеваньнем на наш бок усіх тых, якія хістаюцца, якія могуць быць карысны справе будаўніцтва соцыялізму

*У галіне нацыянальнай культуры асабліва адчуваюцца нацыяналістычныя ўплывы. Іменна тут клясавы вораг спрабаваў нярэдка ня толькі абараняць заваяваныя ім позыцыі, але нават і наступаць, прыбягаючы да самых разнастайных формаў маскаваньня, перафарбаваньня, мімікрыі і манэўраваньня.*

Разгорнутае соцыялістычнае наступленьне не магло не актывізаваць нашай работы ва ўсіх нацыянальных рэспубліках і па ўсім фронце мастацтва—і літаратуры, і музыкі, і тэатру, і жывапісі, і нават архітэктуры. Падрасьлі ўжо нашы кадры, паглыбелі лініі клясавага размежаваньня, больш сур'ёзнымі сталі патрабаваньні, прад'яўляемыя да мастацтва ва ўмовах пашырэньня і паглыбленьня культурнай рэволюцыі. Я не сумневаўся ў тым, што ў спрэчках т. т. прывядуць вялікую колькасьць прыкладаў клясавай барацьбы, якая адбываецца тут. Прывяду толькі некалькі ілюстрацый.

Возьмем галіну архітэктуры. Ці-ж невядома, што прадстаўлены ў свой час архітэктарам Струкавым проэкт Менскага вакзалу быў адхілены Інстытутам беларускай культуры, якім у той час кіравала нацыянал-дэмократыя, прычым Струкаву было прапанована распрацаваць новы проэкт у духу князкіх харомаў у Беларусі, якія, моў, выяўляюць беларускі нацыянальны стыль. Ці-ж невядома, што, напрыклад, у Таджыкістане Дом дэхканіна пабудаваны, як пануры гмах фэўдальнай эпохі,

якi складаецца з блытанага спалучэньня раду пабудоў з глухiмi сьценамi, з невялiкiмi прадоўжнымi вокнамi ў аднэй частцы, цi—з вялiкiмi, царкоўнага тыпу, вокнамi ў iншых частках? Цi-ж невядома, напрыклад, што мост Бегавацкай iрагацыонай застаўкi ў Сярэдняй Азii цалкам вытрыманы ў стылю фэўдальнай архiтэктуры i багата аздоблены мiнарэтамi i куполамi? Цi-ж невядома з практыкi i Азербайджана, i Грузii, i Армении такiя факты, калi за нацыянальную архiтэктуру, i за нацыянальчы архiтэктурны стыль прыпадносiцца сярэднявякоўе i царкоўшчына? Гэта прыватны прыклад, якi падмацоўвае абсолютную правiльнасьць тэй характарыстыкi ўхiлу да мясцовага нацыяналiзму, якую даваў тав. Сталiн на XVI зьезьдзе партыi:

„У чым сутнасьць ухiлу да мясцовага нацыяналiзму? Сутнасьць ухiлу да мясцовага нацыяналiзму заключаецца ў iмкненьнi адасобiцца i замкнуцца ў рамках сваёй нацыянальнай лупiны, у iмкненьнi абаранiцца ад вялiкарасiйскага шовiнiзму шляхам адыходу ад агульнага струменя соцыялiстычнага будаўнiцтва, у iмкненьнi ня бачыць таго, што зблiжае i аб'яднае працоўныя масы нацыянальнасьцяй СССР, i бачыць толькi тое, што можа iх разлучыць адзiн ад аднаго.

Ухiл да мясцовага нацыяналiзму адлюстроўвае нездавальненьне аджываючых клясаў калiсьцi прыгнечаных нацый рэжымам дыктатуры пролетарыяту, iх iмкненьне абасобiцца ў сваю нацыянальную дзяржаву i заснаваць там сваё клясавае панаваньне“.

## Лiтаратурная агентура клясавага ворага

*У галiне мастацтва барацьба, якая iдзе па шляху разьвiцьця нацыянальнай культуры, за вырашэньне пытаньня „хто каго“, адчувaецца з асаблiвай сiлай iменна таму, у прыватнасьцi, што тут, у галiне мастацтва, маюць вялiчэзнае значэньне пытаньнi нацыянальнай формы.*

Невыпадкова выкрыцьцё ўсiх тых нацыянал-дэмократычных арганiзацый, аб якiх iшла гутарка вышэй, справаджалася i выкрыцьцём iх ячэек у галiне лiтаратурнай. Трэба сказаць, што ня толькi ў РСФСР, але i ва ўсiх Саюзных Рэспублiках лiтаратура наогул зьяўляецца найбольш перадавым i вядучым усё мастацтва атрадам. А iменна ў гэтай галiне мастацтва перш за ўсё выкрыта дзейнасьць буржуазных нацыяналiстычных элемэнтаў.

Калi нашы украiнскiя т.т.—ВУСПП i „Маладняк“—змагалiся з нэоклясiкамi, цi калi нашы беларускiя т.т. змагалiся з „Узвышшам“ i „Полымем“, цi калi нашы татарскiя i башкiрскiя тав. дзёрлiся з групай „Джiгiтан“, цi калi нашы ўзбэкскiя таварышы дзёрлiся з групай „Кзыл-Калям“, то, таму-сяму гэта здавалася лiтаратуршчынай, бойкай спаборнiчуючых плыняў, а мо' нават i асабiстымi непаразуменьнямi, асабiстымi разьлiкамi—адным словам выцягвалi ўсю тую абывательскую бязглуздзiцу, якую

у такіх выпадках гаворацъ людзі, якія не разумеюць, ці не жадаюць разумець клясавай барацьбы, якая адбываецца на літаратурным фронце. А ці-ж цалком пасьля процэсу СВУ ня высьветлілася—чым зьяўлялася групоўка нэоклясікаў. Ці-ж не зразумела зараз, што гэта была літаратурная ячэйка СВУ. Ці-ж можна недаацэньваць наступную заяву самога Ірчэнка: „Я будаваў свае творы так, што яны малявалі савецкае жыцьцё з адмоўнага боку, надавалі ёй адмоўныя рысы, неарганічныя, а зусім выпадковыя, маляваў факты так, што ў іх змазваліся асноўныя пэрспэктыўныя лініі Савецкага будаўніцтва, у першым выпадку быў варожым, а ў другім—далёкім ад асноўных жыцьцёвых струменьняў, быў адарваным ад галоўнай дзейнай масы, сёнешняга актыўнага грамадзяніна“.

Ці-ж не заявіў пры гэтым Ірчэнка, што ўсё гэта было простым вынікам апрацоўкі яго украінскімі нацыянал-фашыстамі? Ці-ж ня было гэта прызнаньне найвялікшым трыумфам тых нашых украінскіх таварышоў, якія яшчэ да процэсу СВУ выкрывалі буржуазны і нацыяналістычны сэнс роману Ірчэнка „Вытворчыя сілы?“

Ці-ж невядома зараз, пасьля выкрыцьця ў Беларусі контррэволюцыйнай організацыі нацыянал-дэмократаў, што нашы беларускія напостаўцы, што Беларуская асацыяцыя пролетарскіх пісьменьнікаў вяла правільную бальшавіцкую лінію, змагаючыся супроць „Узвышша“ і „Полымя“, атрымліваючы за гэта ад таго-сяго мянушку людзей нецярпімых, людзей, якія не жадаюць спрацоўвацца з нібы папутнікамі, людзей, якія займаюць позыцыю групоўшчыны і недапушчальнай абасобленасьці.

Але, таварышы, пры гэтым трэба сказаць, што практыка клясавага ворага перасягала прычаканьні і характарыстыкі нават самых вытрыманых і ваяўнічых бальшавіцкіх крытыкаў і публіцыстых. Гэта-ж у іх—у Беларусі, напрыклад, справа даходзіла да таго, што так званыя нацдэмы загадзя знарок разьмяркоўвалі ролі ў дыскусіях, даручаючы адным выступаць супроць, а іншым—за, даручаючы адным кіраўніцтва аднэй організацыяй, а іншым—другой. Такую складаную сыстэму звычайнай провокацыі такую сыстэму загадзя вызначанай гульні ў ортадоксію і апазыцыю цяжка была дапушчаць. Зараз зусім ясна, што правы былі беларускія таварышы і журнал „На літпосту“, калі яны дзёрліся супроць „Узвышша“ і „Полымя“ (Шушканоў: „а што тут рабіў Літфронт?“.) Па пытаньні аб Літфронце я спынюся пазьней, прычым трэба адразу адзначыць, што пытаньне тав. Шушканова цалкам на мейсцы, бо Літфронт быў надзвычай паказальнай групоўкай і тут.

А вазьміце „Джыгідзян“, ці ў перакладзе на расійскую мову, групоўку „Большой Медведицы“. Невыпадкова адным з галоўнейшых момантаў ідэолёгіі гэтай літаратурнай групоўкі была пропаведзь аб тым, што барацьба клясаў у татарскай вёсцы—гэта выдумка, аб тым, што 99% татарскай нацыі—працоўныя і г. д. сьцьверджаньні, якія, так

сказаць, складаюць усесаюзную ўласнасьць усіх нацыянал-дэмакратычных плыняў.

А вазьмеце „Кзыл-Калям“ ува Узьбекістане. Ці-ж невядома зараз, што гэта было літаратурнае аддзяленьне контр-рэволюцыйнай „Касімаўшчыны“? Ці-ж невядома, што ў пропаведзі нацыянальнай самабытнасьці некаторыя так званыя тэорэтыкі гэтай групоўкі накшталт Іногамова даходзілі да заяў аб тым, што, бачыце, да корану трэба адносіцца, як да найвялікшай культурнай каштоўнасьці—не ў пляне гістарычнага інтарэсу, але як відаць, у пляне актуальна-навучальным, ці можа нават у сувязі з пытаньнем аб праемсьцьвеннасьці культурнага разьвіцьця.

І „Узвышша“ і „Кзыл-Калям“, напрыклад, абвяшчалі сябе пролетарскімі літаратурнымі організацыямі, таксама як у пэўны час расійскі „Перавал“ абвяшчаў сябе організацыяй Рабоча-Сялянскіх Пісьменьнікаў і ледзь не прадстаўніком пролетарскай літаратуры. Такім чынам і нацыяналістычныя плыні ў галіне літаратуры, усе гэтыя нацыяналістычныя літаратурныя організацыі, якія зьяўляюцца ячэйкамі, ці аддзяленьнямі контр-рэволюцыйных згуртаваньняў, усе яны ўмелі складана і працу легальную і нелегальную спалучаць, усе яны выпрацавалі складаную сетку прыёмаў такога зьдзіўляючага прыстасаваньня да нас, у якіх блізарукія людзі бачылі іхняе набліжэньне да нас, але якія для іх зьяўляліся формай абароны сваіх поглядаў і пропаганды буржуазнай ідэолёгіі. І тут мы таксама нярэдка назіраем, як нацыяналістычныя ўхілы ў нашых організацыях, у асацыяцыях пролетарскіх пісьменьнікаў зрасталіся з гэтымі нацыяналістычнымі згуртаваньнямі тыпу „Кзыл-Калям“, ці „Узвышша“. І тут мы таксама маем факты пранікненьня ў нашы рады людзей, якія абсолютна чужыя пролетарскай ідэолёгіі.

Прыпомніце, напрыклад, што на першым зьезьдзе пролетарскіх пісьменьнікаў у склад Праўленьня РАПП быў вылучаны нейкі Гайнан Хайры, якога мы лічылі башкірскім пролетарскім пісьменікам, але які аказаўся чалавекам, якога трэба гнаць,—чым хутчэй і рашуча, тым лепш і правільней!

## Шкодніцтва на ідэолёгічным фронце

Таварышы, клясавая барацьба ў галіне ідэолёгіі адбываецца не толькі ў форме распаўсюджваньня варожых ідэй і супроцьстаўленьня ідэям культуры пролетарыяту ідэй культуры буржуазіі. *І на ідэолёгічным фронце мы маем звычайнае шкодніцтва*—не ў шырокім сэнсе гэтага слова, калі пад шкодніцтвам разумеецца ўсякая пропаганда антымарксысцкіх тэорый ці поглядаў, накіравана супроць будаўніцтва соцыялізму ў нашай краіне. Не, я кажу пра шкодніцтва ў больш вузкім і акрэсьленым сэнсе гэтага слова. Варта азначыць, што шкодніцтва ў галіне культуры,—шкодніцтва ў вузкім і непасрэдным сэнсе гэтага слова, паўтараю,—захоплівала іменна тыя галіны, якія ўяўляюць сабой матэрыяльную базу культурнай рэволюцыі. Пошта і тэлеграф, кнігараспаўсюджаньне

кіно,—тут, на гэтых вузлавых вучастках культурнага фронту ўжо выкрыта шкодніцкая дзейнасьць.

У кіно, напрыклад, на працягу раду год існавала шкодніцкая група, прадстаўнікі якой захапілі асноўныя опэрацыйныя пасады Саўкіно. Загадчык пракатам быў шкоднікам. Заг. тэхніка-экономічна-плянавым аддзелам быў шкоднікам, Заг. экспортна-імпартным аддзелам—шкоднікам, і г. д.

Што рабілі гэтыя людзі? Яны зрывалі тэхнічную і сыравінную базу, саботуючы будаўніцтва пленкавай фабрыкі і вытворчасьць гукавой кіноапаратуры ў СССР. Яны знарок стваралі дыспрапорцыю ў нашай кіновытворчасьці, напрыклад, разьдзьмухаючы будаўніцтва кіноатэльле, ствараючы перавытворчасьць кіноатэльле, прычым кіноатэльле надзвычай раскошных і такіх, якія ў выпадку зьмен патрабаваньняў да іх найменш паддаваліся-б перабудове. Цікава, што ў Заходняй Эўропе кіноатэльле, напрыклад, скажам, у фірмы Штаакен, збудавана ў старых ангарах, якія на выпадак вайны зараз-жа будуць ізноў пératвораны ў тыя-ж самыя ангары. А ў нас будавалі ледзь не палацы, ды яшчэ да таго-ж такія, у якіх нельга займацца вытворчасьцю гукавых кіно-фільм. Гэтыя людзі, далей, тармазілі разьвіцьцё і, па сутнасьці справы, зрывалі працу масавай вясковай і рабочай кіно-сеткі,—і па лініі кадраў, і па лініі праката, і па лініі забесьпячэньня. Гэтыя людзі павышалі тыраж недобраякаснай продукцыі, зацiскаючы вытворчасьць і пракат актуальна-палітычных фільмаў. Рызьзё, якое спаткала вострую ацэнку з боку Савецкай грамадзкасьці, друкавалася імі ў вялікай колькасьці экзэмпляраў, а лепшыя Савецкія карціны, найбольш мастацка-каштоўныя і ідэолёгічна карысныя, друкаваліся ўсяго ў некалькіх экзэмплярах. Гэтыя людзі на справе праводзілі курс на залежнасьць нашай кінематографіі ад кінематографіі буржуазнай, курс на звычайнае падпарадкаваньне Савецкай кіновытворчасьці буржуазным фірмам.—Праводзячы гэту сваю лінію, яны заключалі ўмовы з горшымі буржуазнымі фірмамі— і ўмовы выразна кабальнага характару.

Кінематографія Савецкай дзяржавы, кінематографія краіны пролетарскай дыктатуры, кінематографіі краіны, якая будуе соцыялізм з ласкі гэтых людзей ня толькі не памагала Заходняму пролетарскаму кіно, але працавала з найбольш агіднымі буржуазнымі кіно-фірмамі, з якім-небудзь Скляруцам, былым удзельнікам у забойстве Розы Люксэмбург і Карла Лібкнэхта. Стваралася такое становішча, што наша Французскае Поўпрэдзтва было прымушана пісаць у Саюзкіно, што, моў, да Вас едуць т.т. з пролетарскай кіно-організацыі французскай, дакажэце ім, што вы не контр-рэволюцыянэры. І, вядома, усе гэтыя шкоднікі, як мага спрабавалі гэта даказаць, выкарыстоўваючы перш за ўсё тых комуністаў, якія ўмеюць штампаваць паперкі, але не жадаюць унікаць у сутнасьць справы.

Гэтыя шкоднікі зьдзекваліся над усякімі спробамі плянаваньня кіно-вытворчасьці, дасягаючы вельмі істотных посьпехаў у дэзарганізацыі гэтага плянаваньня і кампрамэтавалі яго перад усёй масай кіно-працаўнікоў. Варта адзначыць тое, што гэтыя людзі зусім не жадалі ставіць сябе ў становішча консультантаў-спэцыялістаў, якія займаюцца вузкім кругам пытаньняў, тэхнічных дарадчыкаў пры комуністах—не, усе яны захоўваліся такім чынам, што заўсёды і ўпарта ўплывалі і на ідэолёгічную лінію Саўкіно.

Вазьмеце, таварышы, нашы напостаўскія выступленьні па пытаньням што да кіно. Вазьмеце рэзолюцыі нашых сходаў і пленумаў. Вазьмеце, напрыклад, брашуру Кіршона пад назваю „На кінопасту“. Можна сказаць бесьпераўвялічэньня: *шмат з таго, што выкрыта зараз у выніку выкрыцьця гэтай шкодніцкай організацыі намі ўжо казалася раней,* намі адзначалася, намі высувалася супроць лініі кіруючых працаўнікоў Саўкіно. Праца шкоднікаў праходзіла ў шмат якіх мясцох настолькі адкрыта, што часам нават дробязі, выкрытыя зараз, намі зазначаліся.

Ну, добра, шкоднікі рабілі сваю шкодніцкую справу. Клясавы вораг—на тое і клясавы вораг! А дзе-ж былі і што рабілі комуністы, адказныя за работу Саўкіно? Мне здаецца, што гэта адно з найбольш істотных пытаньняў, калі гутарка ідзе аб выкрыцьці шкодніцкіх організацый у галіне ідэолёгіі, дзе патрабуецца надзвычайная і асаблівая клясавая пільнасьць. Нікому ня ўдасца абвергнуць таго факту, што кіруючыя работнікі Саўкіно ня толькі не прыслухоўваліся да нашай крытыкі, але наадварот абаранялі шкоднікаў. Дзе прычыны падобнага зьявішча? Яны хаваюцца перш за ўсё ў тэй няўвазе да тэхнікі і ў надзвычайнай даверлівасьці ня толькі да спэцыялістаў, і нават ня столькі да спэцыялістаў, колькі да ілжэспэцыялістаў, да буржуазных бізмісмэнаў-дзялкоў, да шустрых маладых людзей з амэрыканскім выглядам. Гэтыя прычыны, далей, у тым, што шмат якія комуністы-работнікі Саўкіно—спэцыфіку буржуазнай кіно-вытворчасьці, спэцыфіку капіталістычнай кіно-індустрыі бралі за спэцыфіку кіно наогул. Гэтыя прычыны, далей, у тым, што шмат якія партыйцы Саўкіно заразіліся тым гандлярскім, тым комэрцыйным духам, аб якім гаварыў Сталін у прыстасаваньні да пэўных зьвеньняў нашай коопэрацыі. Ці-ж ня памятаюць таварышы таго факту, што адзін з буйнейшых працаўнікоў Саюзкіно ў адказ на нашу ідэолёгічную крытыку продукцыі Саўкіно заявіў, што ідэолёгія ідэолёгіяй, а мы павінны перш за ўсё думаць аб кашальку? Ці-ж невядома, што некаторыя кіруючыя работнікі Саўкіно са страшэнна салідным, паважным і мудрым выглядам падсьмейваючыся над „мальчишеским“ задорам напостаўцаў, на справе праводзілі ня столькі клясавую, сколькі касавую лінію, не разумеючы таго, што іх практычная ўстаноўка на касавую лінію была нічым іншым, як выражэньнем клясавай лініі шкоднікаў.

(*Працяг будзе*).

# УДАРНІК ПРЫШОЎ У ЛІТАРАТУРУ

*(Крытычныя наказкі аб пролетарскай літаратуры)*

**Н. Кабакоў**

Сучасны этап пераходнага пэрыяду зьяўляецца апошнім этапам барацьбы сацыялізму з капіталізмам унутры нашай краіны. Разгорнуты наступ сацыялізму па ўсім фронце ўжо караным чынам зьмяніў суадносіны клясавых сіл. Ва ўсёй народнай гаспадарцы сацыялістычны сэктар мае перавагу, а гэта азначае, што мы ўжо блізкі да завяршэньня пабудовы фундамэнту сацыялістычнай экономікі ў нашай краіне. У пэрыяд нашых посьпехаў у галіне сацыялістычнай рэканструкцыі сельскай гаспадаркі, калі партыя высунула пытаньне аб ліквідацыі кулацтва, як клясы на базе суцэльнай калектывізацыі, у пэрыяд пераможнай рэалізацыі пяцігодкі ў чатыры гады, у пэрыяд разгортваньня бальшавіцкіх тэмпаў у нашым сацыялістычным будаўніцтве—пралетарскае мастацкае слова, як вострая зброя клясавай барацьбы, набывае асабліва важнае значэньне.

Ніякага сумненьня няма ў тым, што пралетарская літаратура ўсяго Саюзу, у тым ліку і наша пралетарская беларуская літаратура, мае за апошні час вялікія дасягненьні, але мы не перамаглі яшчэ ні ў якай меры яе адставаньня ад патрабаваньняў краіны, якая ўступіла ў першы пэрыод сацыялізму. Усё наша будаўніцтва адбываецца зараз у ўмовах шалёнага супраціўленьня рэштак капіталістычных элемэнтаў.

У газэце „Праўда" ад 19 красавіка мы чытаем: „Перад пралетарскай літаратурай і літаратурнай крытыкай стаяць вялізарныя задачы. Удасканаліваючы свае творчыя мэтады, шырока асьвятляючы мэтад сацыялістычнага будаўніцтва, мабілізуючы масы, аўладаючы тэхнікай, пралетарская літаратура павінна бязьлітасна выяўляць варожыя клясавыя ўплывы, узьнікаючыя на грунце гэтых уплываў настроі ўпадніцтва, мяшчанскага індывідуялізму; павінна рашуча змагацца з апартунізмам, адставаньнем, „упрощенством", з уплывам „меншавіствуючага ідэалізму", з традыцыямі вароншчыны, пераверзаўшчыны, лефаўшчыны. Пралетарская літаратура знаходзіцца зараз на шляху непасрэднай барацьбы за яе гегемонію. Прасоўваючыся па гэтым шляху, пралетарская літаратура павінна асабліва рашуча змагацца за мастацкую якасьць, за павышэньне яе ідэёвага ўзроўню.

Ясна, што дзеля таго, каб пролетарская літаратура была зьвязана з нашым сацыялістычным жыцьцём, каб яна была насычана сацыялістычна значымымі фактамі аб нашым будаўніцтве, мы павінны па-бальшавіцку паставіць пытаньне аб падрыхтоўцы новых літаратурных кадраў з рабочай, калгаснай і саўгаснай моладзі. Толькі пры ўмове пасьпяховага вырашэньня праблемы кадраў для пралетарскай літаратуры, мы справімся з задачай бальшавізацыі і ўнядрэньня новай рабочай тэматыкі ў нашу пралетарскую літаратуру. Вось чаму пытаньне аб уцягненьні рабочых-ударнікаў у літаратуру зьяўляецца зараз нашай галоўнай задачай, самай актуальнай задачай літаратурнай палітыкі на даным этапе. Толькі ўцягнуўшы рабочых-ударнікаў у літаратуру, мы сапраўды зможам перабудаваць нашу літаратуру ў адпаведнасьці з задачамі рэканструкцыйнага пэрыяду і здолеем ліквідаваць адставаньне мастацкай творчасьці ад баявых бягучых задач нашай сацыялістычнай рачаіснасьці.

За апошні час у пралетарскай літаратуры ўсяго Саюзу, а таксама ў беларускай і яўрэйскай літаратуры, стаў паказвацца рабочы-ўдарнік, але ўсё-ж такі апошкі зьяўляецца пакуль-што рэдкім госьцем. Мы пакуль што зусім недастаткова працавалі ў гэтым напрамку.

Яўсэкцыя БелАПП можа азначыць за апошні час цэлы шэраг дасягненьняў у галіне набліжэньня яўр. пралетарскай літаратуры да задач рэканструкцыйнага пэрыяду, у галіне барацьбы за ліквідацыю адставаньня літаратуры, у галіне ўцягненьня рабочых ударнікаў у літаратуру. Трэба з вялікім здавальненьнем адзначыць, што за май і чэрвень м-цы г. г. у шэрагі яўсэкцыі БелАПП улілося больш 20 рабочых-ударнікаў, частка якіх ужо друкавала свае творы ў газэтах і часопісах. Мы маем зараз яўрэйскі літаратурны гурток пры друкарні імя Сталіна, які рыхтуе зборнік твораў пісьменьнікаў—рабочых. Гэта—вялікае дасягненьне, якое мы павінны замацаваць і разьвіць. Вопыт працы гэтага гуртка мы павінны перанесьці і ў іншыя гурткі.

Усё гэта гаварыць аб тым, што рабочая кляса ўключаецца ў літаратурны рух, што ўдарніцкі рух стаў прасякаць у літаратуру, а гэта самае важнае, самае асноўнае.

Выдатны яўрэйскі поэта *Харык*—член БелАПП'у—напісаў (праўда, пакуль-што надрукаваны толькі некаторыя часткі) новую поэму, у якой адлюстроўваецца барацьба партыі, рабочай клясы за сацыялізм. У гэтай поэме мы маем рэдкія па сваёй эмоцыянальнай насычанасьці, палітычнай актуальнасьці і клясава-пралетарскай накіраванасьці вершы аб торфе, а кожны з нас добра ведае, наколькі нам, асабліва ва ўмовах БССР надзвычайна важнай зьяўляецца тарфяная праблема.

Поэта *Юдэльсон* (таксама член яўсэкцыі БелАПП'у) напісаў новую паэму „Камбінат“, у якой малюе нашы дасягненьні ў галіне індустрыялізацыі краіны, у галіне калектывізацыі сельскай гаспадаркі. Асабліва

ўдаўся аўтару паказ дапамогі пралетарыяту ў калектывізацыі сельскай гаспадаркі.

У сэнсе аўладаньня тэхнікай, актуальнасьці тэмы і ўнядрэньня рабочай тэматыкі мы можам указаць яшчэ на твор яўрэйскага пісьменьніка *Альбэртона* (Украіна) „Шахты“ з жыцьця яўрэйскіх рабочых на Донбасе.

Усё гэта зьяўляецца лепшым довадам таго, што яўрэйская пролетарская літаратура ў пэўнай ступені павярнулася тварам да новых задач рэконструкцыйнага пэрыяду.

У цяперашнім нашым артыкуле мы хочам асабліва спыніцца на паказе таго, як ударнік-рабочы прасякае ў яўрэйскую пралетарскую літаратуру, як гэты сьветлы струмень творчай энэргіі і актыўнасьці ўліваецца ў адзінае рэчышча масавага пролетарскага літаратурнага руху і як гэта новае, сапраўды, пралетарскае, *ударніцкае* ўплывае на разьвіцьцё нашай пралетарскай літаратуры, на выпрацоўку дыялектычна-матэрыялістычнага творчага мэтаду.

*З прыходам ударніка-рабочага, літаратура апранулася ў сталь, бэтон, паркет.* Рабочы-ўдарнік прынёс у літаратуру сапраўды рабочую тэматыку, рабочую жывую мову з усімі яе адценьнямі, мы ўбачылі завод, фабрыку, у сталёвых радкох іх пачуялася музыкальнасьць, рытм машыны, конвэера, прышло новае „важкае“ рабочае слова, сакавітая поўнакроўная мэтафора. Творы маладых рабочых-пісьменьнікаў клясава-палітычна завостраны.

Праблема аўладаньня тэхнікай—гэта адна з важнейшых нашых праблем ня толькі для рабочых на заводзе, калгасьнікаў на полі, але і для пісьменьніка, калі ён хоча даць нам поўны малюнак нашага сацыялістычнага будаўніцтва. А да гэтага часу нашы, нават пралетарскія, пісьменьнікі, плавалі на паверхні таго, аб чым яны пісалі, ня ведалі і ня цікавіліся тэхнікай, тэхнічнымі працэсамі, дробязямі таго, аб чым яны пісалі. Таму і творы не маглі мець таго ўплыву, на які мы павінны былі разьлічаць.

А што гэта так, мы зараз-жа пастараемся давесьці.

Перад намі ўрывак з аповесьці маладога пачынаючага яўрэйскага пісьменьніка, які прыйшоў у літаратуру непасрэдна ад станка, з пахам вапны, цэмэнту, рабочага-ўдарніка т. *Мотэ Дзяхцяр.* Урывак носіць крыху трафарэтную назву „На рыштаваньнях“. Гэты ўрывак прысьвечаны „Камсамольскаму калектыву Беларускага Дзяржаўнага Будаўнічага Трэсту“. Аўтар паказвае нам, як муляры-будаўнікі ахоплены агромністым творчым энтузіязмам і пры дапамозе новых мэтадаў камуністычнай працы—сацспаборніцтва і ўдарніцтва—змагаюцца за выкананьне прамфінпляну, будуюць сацыялізм.

Што новага ў гэтым урыўку маладога таленавітага пісьменьніка? Новае заключаецца ў тым, што ўсё апавяданьне з самага пачатку да канца прасякнута сапраўдным, непадробленым пралетарскім аптымізмам, шчы-

расьцю, мастацкай праўдзівасьцю, і таму так моцна ўплывае на вас, таму заволодвае нашымі пачуцьцямі і думкамі. Аўтар з вялікай мастацкасьцю малюе, як рабочыя праводзяць сацспаборніцтва, як яны ўцягваюцца ў ударніцкі рух. Урывак прасякнуты вапнай, цэмэнтам, цэглай,— тут усё рухаецца тачкамі, каронкамі, ломамі, рыдлёўкамі, чытаючы ўрывак вы адчуваеце, што *папалі к муляром, будаўнікам.* Тут сапраўды пролетарская атмосфэра, перад вашымі вачыма вырастаюць волаты—муры, хоць аўтар асабліва многа вам аб гэтым не гаворыць, вы бачыце людзей, якія „ўласнымі рукамі і плячамі валялі, прасавалі, штурхалі, каменьні насілі, будавалі“.

— Да Акцябрскага сьвята камяніца павінна быць гатова,— так гаварылі паміж сабой муляры. І словы цяжкія, *бэтонныя* словы рваліся з гартані, патрасаючы паветра.

— Тэмпы!—вось за што змагаліся муляры.

І калі на сходзе рабочых з прамовай выступіў прадстаўнік Будтрэсту, дык рабочы Тэвель, у якога язык „круціцца вельмі туга, як лапата ў каронцы цэмэнту“, сказаў:

— Коратка і ясна, будзьце спакойны, таварыш, перадайце там ад імя будаўнікоў, што плян будзе выкананы. Мы запэўняем, што яно і будзе.

І чытач сапраўды ўпэўнены, што плян будзе выкананы.

Калі мы зьвярнем увагу на творчы мэтад, на мастацкія сродкі гэтага маладога пачынаючага пісьменьніка, дык нам перш за ўсё кідаюцца ў вочы тыя ўдалыя мэтафары, якімі ён карыстаецца. Гэтыя мэтафары, гэтыя параўнаньні ўзяты непасрэдна з рабочага жыцьця, гэта мэтафары ад варштату, параўнаньні сакавітыя, удалыя, таму яны ўтвараюць такое моцнае ўражаньне на чытача, таму яны дапамагаюць чытачу лепш уявіць сабе тыя вобразы, якія аўтар малюе. Вось некаторыя яго мэтафары: „ногі, як кароткія стандары“, „яго нос дапасоўваўся да твару, як прыпілаваны ўдоўж і ў шыр“, „ён робіць кіслую міну, быццам мазутам нос памазалі“.

Аўтар дае нам вобраз старога рабочага-спэцыяліста Юдкі, які баіцца „згубіць мулярскі гонар“.

Аб мулярох, сацыялістычным будаўніцтве пішуць у апошні час і нашы, так сказаць, „кадравыя“ паэты, пісьменьнікі, члены БелАПП'у. І вось цікава параўнаць іх творчасьць з першай літаратурнай спробай, з дэбютам рабочага-ўдарніка *Дзяхцяр.*

Беларускі паэта *Астапенка,* член БелАПП'у, таксама пісаў аб мулярох, аб рыштаваньнях. Вось вам узорчыкі таго, як Астапенка піша аб мулярох, аб рыштаваньні:

Мур высокі і весела цэгла
У муляровых руках зьвініць
Хутка будуць тут сьцены цэхаў
І заводзкіх вакон агні [1]).

---

1) З. Астапенка—Краіне, 1931 г., ст. 30.

І далей:

Ну і цэгла—
Легкі звон—
Узрастае
У бэтон.

І вось паэта толькі і арудуе славамі „цэгла“, „мур“. І амаль што ў кожны радку гэтыя-жа словы сустракаюцца: „Нашу *цэглу*, нашу сінь“, „Ну-ж вы, хлопцы! Болей *цэглы*“ і г. д. Бачыце, духу не хапае, няма, як кажуць, „слов для выражения“ і таму мы ня верым словам паэты, калі ён кажа:

Знаю—
Край мой ідзе ў змаганьні
За машыны, за кожны мур.
Узьнімаюцца рыштаваньні
Цытадэльлю вялікіх бур.

Гэта-ж толькі словы, схэма, а давесьці гэтага, пераканаць нас у гэтым паэта ня мог, бо ён гэтых муляроў бачыў толькі здалёку, ён не азнаёміўся з працэсам мулярскай працы.

Тое самае трэба сказаць і пра другі верш Астапенкі „З песень пра муляроў“. Бачыце, шыльда зноў самая распралетарская, самая, можна сказаць, р-р-р-э-канструкцыйная: песьні аб мулярох, чаго лепей трэба а як пачытаеш, дык адразу адчуваеш, што нічога мулярскага няма, тут зноў паўтараюцца тэхнічныя тэрміны „цэгла“ „цагліна“, зноў рыштаваньні, а працэсу будаўнічай працы, энтузіязму рабочых няма, ёсьць схэма, набор слоў, але гэтыя словы мёртвыя, яны нікога і нікуды няклічуць, яны нічога не гавораць.

Стаяць муляры на ўзвышшы...
Угары рыштаваньні растуць.
І вежы, сьпяваючы зычна,
Да вольнага сонца кладуць.

Вы адчуваеце тут фальш, неяк язык у Астапенкі круціцца вельмі туга, як „лапата ў каронцы цэмэнту“. Што гэта за вобразнасьць такая „паэтычная“—„У гары рыштаваньні растуць“ ці „І вежы, сьпяваючы зычна“.

І далей:

А цэгла маўчыць і бялее
І сохне на сонцы цэмэнт.
І з цэглай узрастаюць надзеі
На вышках узьведзеных сьцен.

Альбо вазьмеце ў паэты Маракова, ёсьць у яго паэма „Муляр“ І вось, што мы чытаем:

Звон малаткоў, размахі кельны,
Жывой рукой
У глушы пустэльні
Узьняты волаты-муры...
І дзень уставаў
У кветках вапны
І быццам мора ў час зары
Дзявяты вал
Нясло на лапах
Жыцьцю паўстаўшых падарыць.

І далей чытаем:

І Нюрын там,
Як волат-муляр,
У сям'і ўзрастаючых муроў
Для іх аддаў
Пачуцьцяў чуласьць
І маладых жаданьняў кроў...

Альбо:

Муры за мурамі ўзрасталі жывей.

І тут, як бачыце, акрамя слоў: „цэгла“, „мур“ і „волат - „муляр“ нічога няма.

Гэтая-ж адсутнасьць тэхнічнай мовы, гэтае-ж нежаданьне падрабязна азнаёміцца з тэхнікай дае сябе адчуваць у паэме яўрэйскага паэты *Юдэльсона* „Камбінат“. У поэме ёсьць верш „Канвеер“, дзе аўтар хоча нам мастацкі-вобразна паказаць канвеерную сыстэму, але-ж нічога ня выходзіць, бо і ў яго слоў не хапае, няма тэхнічных ведаў.

У гэтых адносінах нашым старым і маладым кваліфікаваным пісьменьнікам ёсьць шмат чаму вучыцца ў нашых дэбютантаў, рабочых-ударнікаў, якія прыйшлі ў літаратуру.

Вось другі рабочы—мэталіст—бляхар *Рува Рэйзін* надрукаваў верш „На будоўлі“, які насычаны пафасам нашага сацыялістычнага будаўніцтва. *Рэйзін* у вельмі яркіх фарбах малюе нам дзяўчыну—маляра Фаньку, якая скончыла прафшколу і ўпяршыню палезла на дах. За гэтай Фанькай палезьлі на дах і другія дзяўчыны.

Фані цяжка было, калі яна паступіла ў прафшколу, з яе хлопцы сьмяяліся, шушукаліся.

А майстар гаварыў з нейкім сарказмам, з усьмешачкай:

— Дык вы, таварыш дзяўчына, хочаце быць маляром?

— Дык вы палезеце на дах і будзеце фарбаваць?

Хлопцы паглядалі прагна на Фаніну касу, на яе талію і ціхутанька сьмяяліся.

І вось Фанька на даху „паміж малярамі хлапцамі“.

Вочы—чорныя іскры,
Шчокі—сьветла-ружовыя,
Паміж малярамі—хлапцамі
Вецер калыша яе адзеньне.

Аўтар мастацка-вобразна, з усёй паэтычнай моцнасьцю, насычанасьцю момантамі сацыялістычнай рэканструкцыі, паказваючы размах новых мэтадаў сацыялістычнай працы, заражае нас бадзёрасьцю, радасьцю грандыёзнай будоўлі, настройвае вас на сацыялістычны лад. З асобым замілаваньнем поэта Рэйзін дае нам вобраз маляркі Фані. Гэта сапраўды мастацкі вобраз, які ўтварае моцнае ўражаньне.

Мы хочам падкрэсьліць, што рабочы-ўдарнік, гэты энтузіясты сацыялістычнага будаўніцтва па-новаму, па-камуністычнаму, падыходзіць да гэтай „проклятой“ праблемы любві. Рабочы-паэта не аскет, ён не адмаўляецца ад любві, ён—„от міра сего“, але ён і ў любві, у асабістым, у лірычнейшых з лірычных момантаў любві бачыць агульна-пралетарскае, любоў не засланяе ад яго рэволюцыйную пэрспэктыву. Тут любоў паставлена на службу сацыяістычнаму будаўніцтву. У гэтым асаблівасьць пралетарскага сьветапогляду, у гэтым асаблівасьць творчага мэтаду пралетарскага паэты, дыялектычна-матэрыялістычнага мэтоду, які ўсе зьявы бачыць і малюе ў іх супярэчнасьцях, дае зьявы ў тым выглядзе, у якім яны знаходзяцца зараз, але паказвае, куды гэтыя зьявы растуць, дае зьявы ў іх руху.

Такі-ж сьветапогляд і творчы мэтад рабочага-пісьменьніка *Дзяхцяр*, які з вялікай мастацкасьцю, у некалькіх штрыхох дае нам прыгожы вобраз работніцы будаўніцы Анюткі.

Вось тое новае, што прынёс рабочы ўдарнік у нашу літаратуру: бадзёрасьць тону, сацыяльную лірыку, сапраўды пралетарскую тэматыку, веру ў перамогу сацыялізму, неабходнасьць падначаліць сваё асабістае агульным задачам нашай вялікай эпохі. Я не магу адмовіць ні сабе, ні чытачу ў вялікай прыемнасьці прывесьці некаторыя вытрымкі з вершу Маскоўскага рабочага-ўдарніка кандытарскай фабрыкі МОСПО *Васіля Сямякіна* (надрукованы ў адным з №№ часопісі „Прожектор № 1 за 1930 г.).

На работе,
Как в схватке жаркой,
Быць ударницей—
Это честь,
Веселее лопата шаркай
Калачей
Под руками
Не счесть.

Вот такую
Любить и нежить...
Вот с такой
Коротать часы...
Слово скажет,
Как тесто отрежет
И положит его на весы.

У стола
С ней работая рядом,

Думал:
Кроется в чувствах гроза:
Пробежит по бригаде взглядом
И мои повстречает глаза.

Что-ж
С любовью
Работать не плохо.
Солнца
Брызги кипучие—пей.
Пусть скулят,
Что наша эпоха
На любовь
Всех эпох
Скупей.

И любить,
И работать будем
Мы—
Борьбой закаленные люди,
У стропил,
У станков,
У печей.

Вось вам тут лірыка, інтымнейшая лірыка рабочага-ўдарніка, сапраўды пралетарскага пісьменьніка, паэты, вось вам лірыка, насычаная пралетарскім зьместам, накіраваная ўёсй сваёй вастрыней на службу рабочай клясе.

Вось як трэба пісаць, вось як рабочы ўдарнік, які прыйшоў і ў беларускую, і ў расійскую, і ў яўрэйскую літаратуру, піша. Гэта мэтад дыялектычна-матэрыялістычны.

А вось яшчэ адзін рабочы-ўдарнік—сталяр упяршыню надрукаваў свой верш „Паркэтная машына". У гэтым вершы паэта марыць аб тым, каб замест пілы і іншых сваіх прымітыўных прыладаў, з якімі ён працуе, была машына, якая-б вырабляла паркэт, тады і прадукцыйнасьць працы паднялася ў шмат разоў. І вось калі-б гэтыя мары спраўдзіліся-бы, тады

Я ўзьлезу на вышэйшы маяк гораду
І адтуль буду рапартаваць:
Таварыш Сталін, наш правадыр Сталін,
Ты клікаў нас аўладаць тэхнікай—
Дык мой долг і гэтай цытадэлю аўладаць
Таму, што і я бальшавік.

Усе гэта творы рабочых-ударнікаў, якія мы тут разабралі, былі надрукаваны ў падвойным № 4—5 часопісі „Штэрн", 1931 г. У гэтым-жа нумары мы маем вельмі цікавыя па свайму зьместу апавяданьні з рабочага жыцьця *Ш. Гарэліка* (Бабруйскі рабочы-ударнік, друкаваўся ўжо

некалькі раз), *Ш. Ізраэліта* (рабочы-мэталіст з Віцебску, даўно піша. Ёсьць і вершы маладога таленавітага рабочага-паэты *Г. Швэдыка*.

З гэтымі дасягненьнямі яўсэкцыя БелАПП рыхтавалася прыйсьці на Ўсесаюзную нараду яўрэйскіх пралетарскіх пісьменьнікаў, якая адкладзена на восень г. г. Дасягненьні, бязумоўна, значныя, але ўсё-ж ня зусім дастатковыя. Трэба, каб рабочыя-ўдарнікі, якія прышлі ў літаратуру, больш вучыліся аўладаць дасканала мэтадам дыялектычнага матэрыялізму і тэхнікай мастацтва, бо бяз гэтага немагчыма нашай пралетарскай літаратуры рухацца па шляху заваёвы гегемоніі.

Рабочы-ўдарнік прышоў у літаратуру. Пачатак зроблены, але мы ні ў якім разе ня можам на гэтым супакоіцца. Трэба з яшчэ большай рашучасьцю ўцягваць рабочых-ударнікаў у літаратуру, трэба і надалей працягваць сваю барацьбу за генэральную лінію партыі, супроць правага і „левага“ апартунізму ў пытаньнях літаратурнай палітыкі, яшчэ больш упарта змагацца за выпрацоўку дыялектычна-матэрыялістычнага творчага мэтаду пралетарскай літаратуры.

## РАБСЕЛЬКОРАЎСКІ РУХ У ЗАХОДНЯЙ БЕЛАРУСІ

**А. Салагуб**

„Две як заўсёды трыумфуе біч, толькі слупкі новыя, незалежныя“.

*Рычард Стандэ.*

Найбольшага разьвіцьця і напружаньня рабселькораўскі рух Заходняй Беларусі дасягае ў час магутнага абуджэньня нацыянальна-клясавай сьвядомомасьці рабоча-сялянскіх мас, серадняцтва і беднаты Заходняй Беларусі пад час „Грамады“. Гэты час, калі працоўныя Заходняй Беларусі пераканаліся канчаткова, што нічога не атрымаць працоўным масам ад фашысцкага ўраду Польшчы.

Пасьля славутага майскага перавароту ў 1926 годзе, рабоча-сялянскія масы Заходняй Беларусі ўбачылі сапраўдны твар „народнага гэроя“ Пілсудзкага. Каму невядомы той шалёны тэрор, нацыянальны ўціск, які распачаўся пасьля майскага перавароту, асабліва на зямлях Заходняй Беларусі, так званых „крэсах усходніх“. Масавыя арышты правадыроў перадавой часткі сялянства і рабочай клясы, якія стаялі на пляцформе клясавай барацьбы за рабоча-сялянскі ўрад у Польшчы, за аб'яднаньне Заходняй Беларусі з БССР.

У кароткіх рысах мы спынімся аб тэй вялікай ролі рабселькораўскага руху Заходняй Беларусі.

У самых глухіх кутках Заходняй Беларусі дасылаюцца допісы ў цэнтр нацыянальна-вызваленчага рэвалюцыйнага руху З. Б.—Вільню. У гэты час (1926—27 г. г.) існавалі газэты і часопісы левага—радыкальнага напрамку, так званая грамадаўская прэса. Аб чым пішуць рабселькоры Заходняй Беларусі?

Сацыяльна-клясавы, нацыянальны ўціск—вось тэматыка гэтых допісаў.

Белапольскія акупанты добра ведаюць, што чым вышэй будзе ўзьнят культурны ўзровень працоўных мас Заходняй Беларусі, тым вышэйшай будзе клясавая самасьвядомасьць сярод рабочых і серадняцка-бядняцкай часткі вёскі. Тым цяжэй будзе польскім наезьнікам—культуртрэгэрам—паленізатарам накінуць працоўным масам сваю „культуру“, а разам з „культурай“ накінуць на працоўныя масы эксплёатацыю, няволю, бізун.

Пасьля дзікага разгрому „Грамады“ фашысцкі ўрад Польшчы павёў курс на поўную ліквідацыю якіх-бы там ні было беларускіх рабоча-

сялянскіх арганізацый, якія нічога супольнага ня мелі з душыцелямі беларускіх працоўных мас у Заходняй Беларусі—Аўстроўскімі, Луцкевічамі, Акінчыцамі, а паколькі ТБШ было ў руках радыкальных, дык увесь гнеў азьвярэлыя трутні польскага фашызму выліваюць на бязьвінныя таварыствы школьных гурткоў.

Вось як апісвае вясковы карэспандэнт Заходняй Беларусі налёт паліцыі ў вёску Вострава, Старавейскай воласьці, Слонімскага павету, „21 красавіка 1929 г. зьявілася да нас паліцыя і „нязнаны" у цывільным з дэцызыяй ад п. Ваяводы Навагрудзка, узялі ўсе паперы нашага гуртка т-ва беларускай школы, а ў бібліатэцы-чытальні патрабавалі выдачы ўсіх кніжак. Кніжкі папхалі ў мяшкі, шафу запячаталі, уставіўшы туды ўсе партрэты беларускіх пісьменьнікаў. Была нядзеля, дзень ясны, школьнікі з кніжкамі ў руках прыйшлі іх мяняць на новыя—бачаць: іх уцеху і радасьць бяруць, шафа пустая і апячатана. А дзеткі ў адзін голас: „на што ўзялі нашы кніжкі, наш сьвет, наша шчасьце?" Ды са сьлязьмі магутна засьпявалі: „Ад веку мы спалі".

Гэта адзін нязначны допіс аб дзікім гвалце польскага фашызму, паліцэйшчыны над ТБШ—гэтай культурна-асьветнай арганізацыі Заходняй Беларусі.

А вось як, напрыклад, апісвае карэспандэнт пра падатковы цяжар у Заходняй Беларусі:

„Маянткавы" падатак без маёнтку (вёска Старавесь, Старавейскай гміны, Слонімскага павету).

„Пры ўвядзеньні гэтак званага „маянткавага" падатку, налажылі на мяне маючага 5 дз. зямлі (сенажацьцю і пашай)—69 злотых вышэй памянёнага падатку. Ня маючы чым заплаціць, з аднаго боку, лічучы налажэньне на мяне гэтага падатку беспадстаўным,— з другога боку, я яго не плачу.

У лістападзе 1928 прыехаў сэквэстратар і апісаў маю сьвіньню, але я не прадаў, бо ніхто ня купіў. У лютым 1929 г. прыехаў другі сэквэстратар і апісаў за гэты самы падатак карову.

Цікава, чаму сялян, маючых 5 дз. зямлі, сэквэстратары апісваюць апошнюю жывёліну, а абшарнікаў і фабрыкантаў, якія маюць 750 млн. залегласьці „маянткавага" падатку, яны не зачапаюць". П. М. („Сьвет" № 4, 13/VII 1929 г. Вільня).

Пасьля імпэрыялістычнай вайны прыфрантовая паласа Заходняй Беларусі не атрымала ніякай палёгкі ад фашысцкага ўраду Польшчы. Яшчэ да сёньня палеткі прыфрантовай паласы зрыты акопамі, бліндажамі, зямлянкамі, аблытаны калючым дротам, закіданы рагаткамі. Насельніцтва, якое не пасьпела за кароткі час прабываньня Чырвонай армії і савецкай улады ў Польшчы адбудаваць сваіх хацінак, дык да сёньня жывуць у сырых, зацьвіўшых бліндажох, дзе пануе надзвычайная бядота, галеча і голад-

Гэтыя людзі сапраўды кінуты на паступовае ўміраньне. Вось як апісвае карэспандэнт пра жыцьцё батракоў Ашмянскага павету.

Батракі нашай вёскі асуджаны на паступовае выміраньне. Ёсьць іх у нас 6 чалавек. Маюць яны па палове дзесяціны, збожжа, што яны зьбяруць з гэтай $^1/_2$ дз., ім хапае толькі на месяц, а пасьля яны прымушаны ісьці да пана ў парабкі, дзе іх пан няэьмерна эксплёатуе: зімой яны ўстаюць ад пятухоў (1—2 г. уначы) і ідуць малаціць панскае збожжа і малоцяць да самага вечара. Летам ім прыходзіцца працаваць на пол. ад усходу да заходу, а нават і ўначы. Плата-ж самая мізэрная. Працуюць яны толькі за тое, што пан пракормлівае іх сям'ю. Некаторыя пакідаюць і ходзяць у Вішнева сячы лес, дзе ў вялікія маразы некаторыя, не маючы добрага абутку і адзеньня, паадмаражвалі пальцы на нагах, насы, вушы. Працуюць па 10—12 гадзін у дзень. Дзеці гэтых батракоў прымушаны ісьці служыць да пана за бясцэнак, дзе яны таксама бяз літасьці эксплёатуюцца.

Фашысцкі ўрад у сваіх афіцыёзах фанабэрыцца сваімі дапамогамі беднаце. А вось сапраўдны малюнак гэтай дапамогі. Карэспандэнт Вялейкага павету піша аб тым, як за мізэрную дапамогу галодным, за крошкі з панскага стала, сялян прымушаюць адпрацоўваць у гміне.

*Голад і адработкі*—пад гэтакім загалоўкам друкуецца заметка аб гэтай дапамозе.

Сумна жывецца бедным і галодным сялянам. Няма чаго есьці, няма адкуль здабыць куска хлеба. У запасе ні граша і заработку таксама няма. Часамі ёсьць дзе-небудзь заработак, але ня ўсім. Хутчэй той пойдзе на заработак, хто мае хоць кавалак хлеба,—ня маючы чаго есьці, трудна зарабляць. Дапамога была, але вельмі дзіўная. Больш атрымаў той, хто мог-бы і так пражыць. А ёсьць такія, якім трэба было даць, бо і да таго ня было чаго есьці, дык тым зусім не дасталося. Хто атрымаў дапамогу, дык таго прымушаюць адрабляць. Войт нашай гміны дае загады ўсім галодным, якія атрымалі дапамогу, ісьці на гмінныя работы. Калі зьявяцца галодныя сялянкі і сяляне, ён прымушае раўняць пляц каля гміны і абгараджваць яго, ды шмат іншых работ. Апрача таго, гоніць да працы над гміннай дарогаю. Расставіўшы на рабоце, гэты войт ставіць над адрабляючымі прыганятага, які цалкам падпарадкоўваецца войту. Часам ёсьць і такія здарэньні: хто, атрымаўшы дапамогу, хадзіў на заработак да пана-войта на дарогу, ці іншую работу, дык пры аплаце войт заработак залічвае за дапамогу.

Лепш тым адрабляць, хто меў хоць трохі хлеба, а той, хто нічога ня меў і ня мае, таму вельмі цяжка адрабляць. „Начальнікі“ нашы зусім не зварочваюць увагі, што сяляне галадаюць. Ведаюць добра, што нічога няма на пражыцьцё, а прымушаюць рабіць многа, чаго непатрэбна. Прымушаюць бяліць хаты, зрабіць парадак у дварох, калі камень ляжыць, дык трэба вынесьці, шмат іншых работ. Войт настрашыць, хто ня выканае

гэтых загадаў, дык зробяць за яго кошт, а потым з яго спагоняць. Сяляне ня хочуць выконваць гэтых загадаў, але пад прымусам некаторыя ўжо пабялілі хату, а больш ня хочуць, бо ведаюць, што ў пабеленай хаце галодным не ўсядзіш. А падаткі сваім чарадом не даюць пакою. Не зважаюць на тое, што сяляне нічога ня маюць на пражыцьцё, самі прадаюць каровы, ратуючыся ад галоднай сьмерці; паны войт і пісар ад выгады аж пабралі наперад пэнсію, і кажуць, што ім яшчэ трэба.

Таксама рада ўхваліла на беларускую гімназію ў 1928 г. грошы, дык пан войт ня выслаў і да гэтага часу, кажучы, што распусьціў грошы на іншыя патрэбы. Мы ведаем, якую ласку маюць такія паны, атрымліваючы штомесяц 350 і больш злотых, дык ім яшчэ мала, але як нам жыць, калі мы ні граша ня маем і хлеб зусім рэдка бывае? („Сьвет“ № 5, 1929 г.).

А вось пару слоў аб умовах працы на пабудове стратэгічных дарог, на так званых шарварках. Карэспандэнт Казлоўшчыны падае аб тым, як сяляне дзень у дзень ходзяць на работу.

Прымушаецца працаваць 10 гадзін у дзень, а ў некаторых мясцох нават вызначаецца колькасьць работы, якую трэба кожнаму зрабіць у дзень і калі хто ня можа вызначаную работу выканаць у дзень, дык ягоная работа гіне, бо дзень не запісваецца.

Як справядліва раскладзены шарварак, можна бачыць з наступнага прыкладу: М. Сіняк—удава, мае толькі 500 кв. саж. зямлі—вызначаны шарварак: конная фурманка, 3 пешых работнікі. Паня Лільпопава з маёнтку Падольле мае каля 2 тыс. дзесяцін—вызначаны шарварак толькі 90 фурманак. Варта адзначыць далей, што ў нас будуюць новую дарогу праз землі маёнткаў Лільпопавай, Ахрамінскага, праз якую ніхто з сялян ня будзе ніколі езьдзіць.

Уся палітыка польскага фашызму ў зямельным пытаньні—гэта палітыка на карысьць буржуазіі і кулацтва. Адбываецца прымусовая камасацыя—хутарызацыя, якая разбурае малазямельных сялян. Карэспандэнт з Крывіцкай валасьці, Вілейскага павету, піша:

„Вёска Задубеньне не хацела хутароў, але земскі камісар Вілейскага павету, дзякуючы сваёй спрытнасьці, сабраў патрэбны лік (10 проц.) ахвотнікаў, каб парэзаць Задубеньне на хутары. У гэтай вёсцы да пераходу на хутары хапала лесу, пашы даволі, а цяпер чуць ня ўсім прыходзіцца аддаваць скаціну на пашу, за што трэба плаціць 5—6 пудоў жыта і кожны дзень трэба ісьці за 2—3 версты даіць кароў. Дроў цяпер зусім ня маюць, бо ўвесь лес высеклі пры пераходзе на хутары. Усе вёскі, якія парэзаны на хутары ў Крывіцкай валасьці, былі скамасаваны са згоды меншай і багацейшай часткі гаспадароў“.

Тыя нязначныя вытрымкі, якія мы прыводзілі, сьведчаць аб тых жудасных умовах, у якіх знаходзяцца рабоча-сялянскія масы Заходняй Беларусі. Па гэтых допісах мы можам меркаваць аб становішчы Заходняй Беларусі пад Польшчай. З гэтых допісаў мы можам зрабіць вывад

аб значэньні рабселькораўскага руху ў Заходняй Беларусі. Рабселькоры—гэта арганізатары рэвалюцыйнай думкі ва ўмовах жорсткага белага тэрору, які пануе ў Польшчы. Рабселькор у Польшчы і Заходняй Беларусі знаходзіцца ў вельмі цяжкіх умовах. Допісы рэдка трапляюць у рэдакцыю, бо на пошце іх вылаўліваюць і зьнішчаюць. Пры тым, беларуская рабоча-сялянская прэса легальная цалкам зьліквідавана. На сёньня ў Заходняй Беларусі мы ня маем ні аднэй беларускай радыкальнай газэты, апрача падпольнага камуністычнага друку. Рабселькор Заходняй Беларусі—гэта не пасыўны наглядальнік і фіксатар падзей, здарэньняў, гэта актыўны ўдзельнік барацьбы за сацыяльнае і нацыянальнае вызваленьне з-пад уціску акупантаў.

## Фабрычна-заводзкі друк Заходняй Беларусі

Левая прафапазыцыя ў Польшчы ў апошнія часы мае ўсё большыя і большыя посьпехі сярод працоўных мас. Сёньня фабрыкі і заводы арганізуюць пратэсты супроць зьніжэньня заработнай платы, супроць нечалавечай эксплёатацыі рабочага. Легальнага друку ня існуе. На дапамогу ідзе фабрычна-заводзкі друк, вярней, гэта ня друк, гэта рукапісныя, ці адбітыя на шапірографе лістоўкі, у якіх рабочыя фабрык і заводаў выяўляюць усе свае крыўды, у якіх заклікаюць рабочыя масы Польшчы і Заходняй Беларусі організоўвацца на барацьбу супроць сацыял-здраднікаў, пэпээсаўцаў і нацыянал-фашыстаў—Луцкевіча. Астроўскага. За ўдзел у друкаваньні гэтых лістовак фашысцкі суд дае 3—4 гады катаргі. Але ня глядзячы на гэтакія катаржныя прысуды, рабселькораўскі рух заходняй Беларусі не паслабляецца, але, наадварот, расьце, узмацняецца і карыстаецца яшче большым посьпехам сярод працоўных гушчаў. Мы можам з упэўненасьцю сказаць, што ня ўдасца польскаму фашызму задушыць голас пратэсту мільённых мас працоўных Заходняй Беларусі. Набліжаюцца дні рашаючых схватак. Працоўныя Заходняй Беларусі выйдуць пераможцамі.

## КНІГАПІС

*Польска-расійскі слоўнік п. рэд. т. Юз. Краснага (Гиз 1931).*

Бязумоўна выданьне польска-расійскага як і польска - беларускага слоўніка зьяўляецца для нас неабходным. Паяўленьне такога слоўніка трэба вітаць.

Але-ж ад слоўніка, выданага савецкім выдавецтвам, апрацаванага пад рэдакцыяй старэйшага комуніста, т. Краснага, мы чакалі, што ён ня будзе мець такіх хібаў, якія мы, на жаль, у ім знайшлі. Разьвіцьцё польскай мовы ў буржуазна-памешчыцкай фашысцкай польскай рэспубліцы слоўнік успрыймае цалкам бяскрытычна, і на гэтай аснове ў ім няма слова „traktor", якое заменена самабытніцкім „ciągnik", зусім незразумелым для палякаў у СССР. (гэткіх прыкладаў магчыма знайсьці болей). Слоўнік нават не заусёды правільна перакладае польскія словы. Гэтак прыкладам слова „siny" перакладаецца „синий", тады як „siny" азначае толькі „синеватый" (ад марозу, ад удару), а „синий" гэта „niebieski" і „granatowy". „Człek" перакладаецца „человек" (лакей, слуга"), тады як гэткае значэньне можна мець толькі ў заядлых фэўдалаў. Фонэтычныя заўвагі ў канцы слоўніка зусім недастатковы.

Слоўнік прызначан для расійскага партыйнага і савецкага актыву, які сутыкаецца з польскай мовай. Тады ён павінен растлумачыць, як чытаюцца „prz", „krz" і „chrz". Аб гэтым ані ў § 3 (аб „rz"), ані ў §§ 14 і 15 (аб асыміляцыі) няма ніводнага слова.

У § 6 сказана, што „L"=„ль". Гэта недастатковa паясьняе расійцу, к чытаюцца „La", „Lo" і „Lu". Трэба было таксама сказаць, што польскае „L" цьвярдзей за расійскае, беларускае і украінскае „лв" і набліжаецца да французскага „L".

У § 13 не гаворыцца аб тым, як „ą" „ę" вымаўляецца перад „ć" і „dź", прыкладам „pięć", „bądź".

Трэба было сказаць і аб вымаўленьні „krawawy", „trwały", „krwi" (у Польшчы: „крфава", „трфалы", „крфі").

Хаця слоўнік прыводзіць і падвойныя літары, як dż, ch, cz, dz, dż, rz, sz) у гэтым ліку адну—„dź"—якая выражае палятальную афрыкату), аднак, ён у пераліку абзацы забывае аб 12 іншых палятальных зычных: bi, ci, dzi, fi, gi ki, mi, ni, pi, si, wi, zi.

Недахопы слоўніка неабходна паправіць у наступных выданьнях. У асаблівасьці трэба выкінуць „ciągnik" і да т. п. і ўвесьці „traktor", а побач з „czołg павінен быць і „tank". Трэба лічыцца і з польскім друкам у СССР, а не з аднэй толькі польскай рэспублікай.

**Дамброўскі.**

*„Борьба классов" массовый ежемесячный журнал общества историков-марксистов при Комакадемии ЦИК СССР. Отв. ред. М. Н. Покровский, ст. 120, цена 1 р.*

Таварыства гісторыкаў-марксыстых пры Камакадэміі ўрэшце рэалізавала пастанову Ўсесаюзнай канфэрэнцыі гісторыкаў-марксыстых аб вы-

даньні гістарычнае навукова-папулярнае часопісі (гл. Труды ВКИМ, т. I, ст. 611, п. d).

Нумар першы, які вышаў у сакавіку 1931 г., бязумоўна служыць задавальненьню даўно насьпеўшай патрэбы—рабочыя, калгасьнікі, савецкая грамадзкасьць, настаўніцтва павінны мець часопісь, якая-б знаёміла з апошнімі дасягненьнямі марксыцка-ленінскае навукі ў галіне гісторыі. Тым больш, што часопісь „Историк Марксист", які зьяўляецца таксама органам Т-ва Гісторыкаў-Марксыстых і Інстытуту Гісторыі пры Камакадэміі, абслугоўвае галоўным чынам спэцыялістых - гісторыкаў і больш падрыхтаванага чытача. Часопіс-жа „Б. К." разьлічваецца на масавага чытача.

Рэцэнзуемы часопіс „Б. К." падзяляецца на наступныя разьдзелы: а) гістарычны, галоўным чынам гіст. ВКП(б) і Кастрычнік і б) дакуманты, в) на гістарычным фронце, г) гісторыя ў літаратуры і мастацтве, д) як вывучаць гісторыю, е) хроніка.

Найбольш заслугоўвае ўвагі першы разьдзел, дзе зьмешчаны цэлы рад артыкулаў на больш актуальныя і палітычна важныя пытаньні сучаснай марксыцкай гістарычнай навукі.

Пралетарыят і калгасьнікі, вядучы гэраічную сацыялістычную будову, хочуць ведаць сваю гісторыю, саваё мінулае. І гісторыю трэба ведаць. У. І. Ленін па данаму поваду пісаў: „Для того, чтобы победить, нужно понять всю глубочайшую историю старого буржуазного мира" ці возьмем другія месца „Марксизм требует от нас самого точного, об'ективно проверенного учета соотношения классов и конкретных особенностей каждого исторического момента. Мы, большевики, всегда старались быть верными этому требованию, безусловно обязательному с точки зрения всякого научного обоснования политика".

М. Н. Пакроўскі ў перадавым артыкуле—„Ленин и История" паказвае, як У. Ільліч да кожнага пытаньня падыходзіў гістарычна, даваў бліскучы гістарычны аналіз тэй ці іншай грамадзкай зьяве,—у гэтых адносінах спадчына Леніна павінна служыць скарбніцай для гісторыка-марксыста і трэба ўсе сілы кінуць на распрацоўку Ленінскае спадчыны. Гэта неадкладная задача, бо без аўладаньня гэтымі тэорэтычнымі ведамі Ленінскай спадчыны мы ня можам узьняць гістарычную навуку на вышэйшую ступень.

У. І. Ленін пісаў: „Главное в учении Маркса—это выяснение всемирно-исторической роли пролетариата, как создателя социалистического общества"—у гэтых адносінах патрэбна даць сапраўды марксыцкую гісторыю масам. Гісторыя ёсьць палітычная навука і зусім слушна, як кажа Пакроўскі, „Гісторыя павінна служыць не для затуманьваньня, а для разьясьненьня асноўных пытаньняў палітыкі. Гістарычныя нагляданьні і абагульненьне ў Леніна трапляюцца амаль у кожным артыкуле, яны яшчэ далёка не падагулены і ўжываюцца толькі ў форме цытат і прыходзіцца толькі вітаць пажаданьне М. Н. Пакроўскага, які гавора: „Хорошо, если бы читатели „Борьбы Классов" занялись этим делом. Общими силами оно пойдет куда скорее, чем попытками отдельных литераторов." (ст. 7.)

М. Горкі зьмясьціў арт.—„Народ должен знать свою историю" Гэты лёзунг старое лібэральна-буржуазнае інтэлігенцыі ён вельмі ўдала інтэрпрэтуе, як спробу буржуазіі даваць такую гісторыю, якая затуманьвала галавы пралетарыяту, якая цалкам стаяла на службе буржуазіі. Таму вялікі пралетарскі пісьменьнік вітае распачатую працу асабліва па вывучэньні гісторыі грамадзянскае вайны і „историю победы великой правды воплощенной в рабочем классе".

Наступным зьмешчаны надзвычайна цікавы арт. Яраслаўскага „Ленін и НЭП".

Рэканструкцыя гаспадаркі і сацыялістычны наступ на ўсіх франтох, якi прыводзяць да завяршэньня яшчэ да канца пяцігодкі пабудовы фундаманту сацыялістычнай эканоміі, якi ужо зараз пытаньне „хто каго" на вёсцы вырашае на карысьць сацыялізму, як гэтае пытаньне ўжо вырашана ў горадзе,—усё гэта паказвае на колькі правыя апартуністы і левыя загібшчыкі, і контррэвалюцыйны трацкізм былі шкодны, рэвізуючы ўстаноўкі Леніна аб НЭП'е у 1921 г. і падрыве генэральнае лініі партыі ў сучасны момант. Тав. Яраслаўскі ў сваім артыкуле ўскрывае прычыны пераходу да НЭП'у, у вельмі выразнай форме дае адказ на пытаньне чаму ў апошнія гады партыя перашла да рашучае барацьбы супроць капіталістычных элемэнтаў, і ліквідацыі кулацтва як клясы на базе суцэльнае калектывізацыі. Апартуністы не зразумелі і не разумеюць дыялектыкі НЭП'у. „Путь Новой Экономической политики (піша Яраслаўскі), который был сначала вынужденным пуцём временного отступления, превратратился в путь победного социалистического наступления десятков миллионов рабочих и крестьян, об'единившихся для выполнения величайшей задачи построения социалистического общества. Какие бы ни были препятствия на этом пути мы их преодолеем и завершим этот путь полной победой социализма".

З других артыкулаў гістарычнага раьздзелу павінны адзначыць арт. „Конец меньшевизма", Е. Драбкінай „Грузинские меншевики и интервенцыя" і прыведзеныя Кастамаравым некалькі дакумантаў аб дзейнасьці контррэвалюцыйнага меншавізму ў 1917 г. Адбыўшыйся вядомы працэс меншавікоў канчаткова ўскрыў контррэвалюцыйную сутнасьць гэтае партыі перад усім сьветам паказаў твар сапраўдных ідэолёгаў буржуазіі. І як ня ўспомніць аб тым, што Ленін ужо на 2 зьезьдзе РСДРП вёў рашучую барацьбу з тымі, хто імкнуўся шырока расчыніць дзьверы партыі для ўсіх, хто толькі хацеў туды папасьці, і хаця ў той час партыя толькі афармлялася, была падпольнай, за прыналежнасьць да яе пагражала суровая кара. Ільліч прадбачыў, што ў партыю могуць пранікнуць элемэнты, якім патрэбна не пралетарская рэвалюцыя, якім рабочыя масы патрэбны для таго, каб па іх сьпінах дабрацца да ўлады. Ужо тады, як паказаў і жорстка крытыкаваў меншавікоў Ул. Іл., яны пляліся ў хвасьце буржуазіі (21 гл. Две тактыкі с-д., т. VIII, 62). Меншавікі заўжды прыніжалі ролю рабочае клясы, і інтарэсы пралетарыяту прадавалі буржуазіі.

З другога зьезду ня было ніводнага моманту, каб не выяўляўся сапраўдны твар меншавізму, як дробна-буржуазнай партыі. І пасьлякастрычніцкі пэрыяд як у нас, гэтак і замежамі меншавізм абярнуўся ў партыю контррэвалюцыі.

Значная частка часопісу прысьвечана 60-дзю Парыскае Камуны, і галоўным чынам таму новаму, што зроблена ў галіне вывучэньня Камуны і што прадстаіць яшчэ зрабіць. Лукін у арт. „Новое о Комуне", робячы падагуленьне досьледаў аб Камуне, падкрэсьлівае тыя цяжкасьці, якія стаяць на шляху гісторыкаў-марксыстых у справе больш глыбокага вывучэньня Камуны. Ня гледзячы на дасягненьні, марксыцка-ленінская распрацоўка Камуны яшчэ толькі пачынаецца ў бліжэйшы час, яна павінна пайсьці па лініі распрацоўкі асобных праблем на падставе яшчэ не скарыстаных крыніц. Але гэта ўпіраецца ў перашкоды. Напрыклад, сучасны рэакцыйны ўрад Францыі робіць усё, каб затрудніць савецкім гісторыкам-марксыстым доступ да архіваў і матар'ялам Нацыянальнага Архіву і Нацыянальнае Бібліотэкі. Аднак і ў нас ня ўсе матар'ялы аб Камуне скарыстаны, напр., у Ленінградзкай Публ. Бібліатэцы і

ў Інстытуце Маркса Энгельса ў Маскве. У часопісы таксама прыведзены некаторыя неапублікаваныя матар'ялы аб Парыскай Комуне — данясеньне царскага пасла Расіі аб Камуне.

Рэдакцыя часопісу правільна робіць, калі ўвяла аддзел—Як вывучаць гісторыю,—тут між іншым зьмешчана кароткая бібліяграфія аб Парыскай Камуне, але, на жаль, сухога пераліку гістарычных работ зусім мала для масавага чытача. Яму патрэбны некаторыя мэтадычныя паказаньні і невялічкая праграма з пытаньнямі і ацэнкай літаратуры. Тым болей, што часопіс заклікае рабочых калгасьнікаў, і студэнцтва да стварэньня гуртка чытачоў „Б. К."

Аддзел „На историческом фронте" надзвычайна патрэбны. Бо паказвае на канкрэтных прыкладах клясавую барацьбу на гістарычным фронце. Выразна даводзіць, што буржуазнае трактаваньне гісторыі, як „аб'ектыўнай навукі—ёсьць нішто іншае, як клясавая мана буржуазіі.—усё гэта неадкладна патрэбна.

Ц. Фрыдлянд у артыкуле „Казус" Матьезе" паказвае, як Матьез, які да нядаўняга часу лічыў сябе чуць не марксыстым і які многа зрабіў для асьвятленьня некаторых праблем вялікай Французскай рэвалюцыі,—у апошнія часы рэзка павярнуў фронт супроць марксызму. Гэты выразны прыклад сьведчыць аб тым, што ў умовах абвастрыўшайся у Зах. Эўропе клясавае барацьбы і сярод вучоных адбываецца рэзкая дыфэрэнцыяцыя. Хістаўшыйся ідэолёг дробнае буржуазіі Матьез выразна стаў на клясавыя рэйкі буржуазіі.

Мы ня спыняемся на аддзеле—гісторыя ў мастацтве і літаратуры, які даволі ажыўляе зьмест і ў масавай часопісі зьяўляецца неабходным, а таксама і на фото „факсыміле", якія раскіданы па ўсёй часопісі.

З разьдзелу—Хроніка, чытач заўсёды зможа азнаёміцца з бягучай працай дасьледча-гістарычных устаноў.

Як вышэй ужо зазначана, часопісь „Б. К" разьлічаны на масавага чытача. Думку рэдакцыі аб тым, каб на мясцох арганізоўваць гурткі „Б. К.", дзе-б праводзілася і некаторая дасьледчая работа, можна толькі вітаць і трэба толькі пажадаць, каб гэты нумар быў рэалізаваны. Апрача таго „Б. К." павінна адбіваць навукова-гістарычную працу ўсяго Саюзу і асабліва раней адсталых нацыянальнасьцяй, якія ня маюць ня толькі гістарычнае часопісі, але і распрацаванай сваей гісторыі.

Б. К. павінен стаць сапраўдным люстрам, які-б адбіваў усё разьвіцьцё марксыцка-ленінскае гістарычнае навукі у СССР, і ўцягваў-бы ў гэтую работу шырокія працоўныя масы. Настаўнік грамадавед, які зачастую адстае ад сучасных патрабаваньняў гістарычнае навукі, павінен знайсьці у „Б. К." патрэбныя адказы на жгучыя і актуальныя пытаньні мэтадалёгіі і конкрэтнай гісторыі і павінен зрабіць гэтую часопісь сваёй настольнай кнігай.

В. Скардзіс. К. Кернажыцкі.

# КУЛЬТУРНАЯ ХРОНІКА БССР

## Ударнікаў—у літаратуру

*Рэзолюцыя бюро Менгаркому КП(б)Б па дакладу сакратарыяту Менскай асоцыяцыі пролетарскіх пісьменьнікаў*

„Пралетарская літаратура становіцца ўжо магутным фактарам узьдзеяньня, выхаваньня, арганізацыі волі мас, пад'ёму працоўнага энтузіязму, ударніцтва, разьвіцьця ўсіх відаў сацыялістычнага спаборніцтва, барацьбы з прарывамі на працоўным фронце, з гультайствам, разгільдзяйствам, безгаспадарчасьцю..." („Праўда", ад 19-га красавіка 1931 году).

Беларуская пролетарская літаратура і яе асноўны атрад МенАПП пад кіраўніцтвам камуністычнай партыі, у асноўным спраўляючыся з гэтымі задачамі, на сёнешні дзень як у ідэёвых, так і творчых адносінах ставіцца вядучым літаратурным атрадам ва ўсёй савецкай літаратуры Беларусі.

МенАПП на фронце клясавай барацьбы, у змаганьні за генэральную лінію партыі ў нацыянальна-культурным будаўніцтве, у барацьбе з вялікадзяржаўным шовінізмам, як галоўнай небясьпекай на даным этапе, беларускім контррэволюцыйным нацыянал-дэмократызмам, у барацьбе за правільнае ажыцьцяўленьне ленінскай нацполітыкі—вырас і ўмацаваўся.

МенАПП мае рад выдатных перамог у барацьбе з меншавізмам у літаратуры, переверзіянствам, троцкізмам і іншымі буржуазнымі плынямі ў літаратуразнаўстве.

Значныя посьпехі мае МенАПП і на фронце пралетарскай літаратуры яўрэўскай, польскай, дзве нацсэкцыі МенАПП правялі барацьбу з клясава-варожымі праяўленьнямі ў літаратуры.

Творчы рост МенААП'у даў цэлы рад выдатных твораў пралетарскай літаратуры, якія адлюстроўваюць геройчны вопыт змаганьня на фронце індустрыялізацыі нашай краіны, калектывізацыі сельскай гаспадаркі і заслугоўваюць увагі партыйнай арганізацыі, камсамолу і ўсёй клясы.

Разам з усімі гэтымі дасягненьнямі мы маем у беларускай пралетарскай літаратуры, як і ва ўсім літаратурным фронце СССР, адставаньне пралетарскай літаратуры ад тэмпаў і задач, якія пастаўлены перад пралетарскай літаратурай, разгорнуты сацыялістычным будаўніцтвам.

Сучасны пэрыяд, пэрыяд уступленьня краіны ў сацыялізм, пэрыяд пераможнага наступленьня пралетарыяту пад кіраўніцтвам кампартыі на рэшткі капіталістычных элемэнтаў, пэрыяд ліквідацыі апошняй эксплёататарскай клясы ў краіне—кулацтва—стаіць перад пралетарскай літаратурай вялізарнай глыбіні, і важнасьці задачу. Пралетарская літаратура Беларусі павінна, шырока асьвятляючы вопыт сацбудаўніцтва, мабілізуючы масы, аўладаючы тэхнікай, змагаючыся з вялікадзяржаўным шавінізмам, нацыянал-дэмократызмам, меншавізмам, троцкізмам у літаратуры, павінна рашуча пера-

магчы буржуазныя тэндэнцыі сярод папутнікаў, ператварыць учарайшых папутнікаў пралетарскай літаратуры ў саюзьнікаў, а сёнешніх—у апору сацыялістычнай дзяржавы.

Сёнешні этап сацыялістычнага будаўніцтва ставіць перад пралетарскай літаратурай задачу паказаць краіне яе гэрояў, паказаць лепшых барацьбітоў за сацыялізм у нашай краіне.

Для хутчэйшай ліквідацыі адставаньня пралетарскай літаратуры ад тэмпаў сацыялістычнага будаўніцтва, трэба разгарнуць працу па закліку рабочых-ударнікаў у літаратуру. Пралетарскі літаратурны рух павінен папаўняцца сіламі, якія ідуць непасрэдна з фронту нашага сацбудаўніцтва, папаўняцца ўдарнікамі лепшых заводаў, фабрык, лепшых саўгасаў, камун і МТС.

„Талентаў у рабочай клясе і сялянстве непачатая яшчэ крыніца і багацейшая крыніца“—так пісаў Ленін.

Вось гэтыя крыніцы талентаў сярод рабочых мас і калгаснага сялянства павінна ўліцца ў рады пралетарскай літаратуры.

Заклік рабочых-ударнікаў у літаратуру дапамагае рабочай клясе ў заваяваньні гегемоніі, у аўладаньні каманднымі вышынямі на фронце культурнага будаўніцтва.

Бюро Менскага гаркому КП(б)Б прызнае невыстарчальную актывізацыю белаппаўскіх радоў, партыйных і прафэсыянальных арганізацый Менску ў справе закліку рабочых ударнікаў у літаратуру.

Бюро гаркому канстатуе, што справа закліку ўдарнікаў у літаратуру нават на найбольш буйных прадпрыемствах Менску (завод імя „Варашылава“, ф-ка „Кастрычнік“, завод „Камунар“, друкарня імя Сталіна, завод „Дрэваапрацоўшчык“ і інш.) праходзіць слаба, што на асобных прадпрыемствах Менску з боку прафсаюзных работнікаў, з боку некаторай часткі рабочых ёсьць шкодная недаацэнка беларускай пралетарскай літаратуры, як вострай зброі пралетарыяту і камуністычнай партыі.

Партыйныя калектывы літаратурна-лінгвістычнага аддзяленьня БДУ, Беларускай Акадэміі Навук, Белдзяржвыдавецтва, Бел. Аддзяленьня Цэнтравыдавецтва СССР, якія павінны былі ўсю сваю работу перабудаваць у адпаведнасьці з задачамі пастаўленымі перад пралетарскай літаратурай, кампартыяй, у справе закліку ў літаратуру нічога не зрабілі.

Бюро гаркому прапануе ўсім вытворчым калектывам Менску па сапраўднаму зьдзейсьніць палітычнае кіраўніцтва і дапамогу ў справе закліку ўдарнікаў у літаратуру на заводах.

Вытворчыя партыйныя калектывы павінны мабілізаваць на гэтую работу заводзкія шматтыражкі, культасьветы, заўкомы, камсамольскія калектывы з тым, каб яны справу закліку ўдарнікаў у літаратуру ўключылі, як састаўную частку ўсёй сваёй штодзеннай работы, арганізуючы літаратурныя брыгады, гурткі вакол шматтыражак, усямерна дапамагаючы менаппаўскім брыгадам у іх рабоце.

Бюро гаркому лічыць патрэбным зьвярнуць увагу партыйных калектываў Белдзяржвыдавецтва, Цэнтравыдавецтва народаў СССР, фракцыі гарсавету і калектыву Акадэміі Навук, нашых цэнтральных газэт на актывізацыю іх работы па выяўленьні новых творчых сіл з ліку рабочых-ударнікаў.

Канстатуючы, што МенАПП правёў вялізарную масавую работу па абслугоўваньні літаратурнымі выступленьнямі буйнейшых прадпрыемстваў і клюбаў Менску і выездамі па ўсёй Беларусі, ацэньваючы гэту работу, як заслугу МенАПП'у—бюро гаркому лічыць, што ў далейшым у масавыя выступленьні пралетарскіх пісьменьнікаў павінна быць унесена плянавасьць і вялікая арганізаванасьць. Выступленьні наладжваць, галоўным чынам, сярод рабочых мас буйнейшых прадпрыемстваў.

Бюро гаркому адзначае слабую сувязь МенАПП'у з Чырвонай арміяй і прапануе разгарнуць масавую работу ў Чырвонай арміі, актыўна і сыстэматычна дапамагаць БелЛАЧАФ у справе закліку чырвонаармейцаў, камандзіраў у рады БелЛАЧАФ'у.

Бюро гаркому даручае культпропу ГК у першай палове верасьня г. г. склікаць сход партыйнага актыву для прапрацоўкі пытаньняў аб становішчы на літаратурным фронце.

Усім партыйным і комсамольскім арганізацыям уключыць у плян работы на бліжэйшы пэрыод пытаньні літаратурнага руху па даным прадпрыемстве.

Прапанаваць усім газэтам фабрык і заводаў максымальна асьвятляць пытаньні работы і дзейнасьці літаратурных гурткоў і брыгад, уцягваючы іх у работу рэдакцыі, зьвязваючы іх з рабкораўскім рухам.

Прапанаваць фракцыям фабкомаў, ячэйкам КП(б)Б скарыстаць пісьменьнікаў і крытыкаў, якія ўжо працуюць на прадпрыемствах, для непасрэднай літаратурнай работы ў гуртках і брыгадах, лічыць гэту работу асноўнай партыйнай нагрузкай.

Паставіць пытаньне перад ЦК аб наладжаньні выданьня ў Менску падэкадна літаратурнай газэты.

Канстатуючы: а) што бытавыя жыльлёвыя і. матар'яльныя ўмовы, у якіх жывуць пралетарскія пісьменьнікі менаппаўцы, ні ў якай меры ня спрыяюць іх творчай рабоце, творчаму і палітычнаму росту, б) што Дом пісьменьніка знаходзіцца ў надзвычай дрэнным становішчы і не зьяўляецца месцам культурнага адпачынку і культурнай работы пісьменьніка, бюро гаркому пацьвярджае пастанову гарсавету аб уключэньні ў плян жыльлёвага будаўніцтва на 1932 год пабудову дому пад кватэры пісьменьнікам.

Сэктару кадраў у дэкадны тэрмін падшукаць таварыша на пасаду загадчыка Домам пісьменьніка.

Гарсавету ўключыць МенАПП на 1932 год у бюджэт гарсавету.

МЦРК пэрыядычна забясьпечваць прамтаварамі пралетарскіх пісьменьнікаў.

Гэту пастанову апублікаваць у друку.

* Брыгада МенАПП'у ў складзе З. Астапенка, Вольнага і Даўгапольскага працавала на працягу 2-х тыдняў на Добрускай папяровай фабрыцы. Разам з брыгадай ЦО КП(б)Б „Зьвязда"—т. т. Маньковым і П. Броўка--брыгада МенАПП'у выдавала штодзенна радыё-газэту, лістоўку бюлетэнь „За паперу", выдала 1 нумар шматтыражкі „Чырвоная бракамолка". Арганізавала і прыняла ўдзел у рабкораўскіх рэйдах на торфапагрузачную станцыю і коопэрацыйныя ўстановы. Змагалася за выкананьне прамфінпляну, з прарывамі і нядбайствам на фабрыцы.

Члены брыгады МенАПП прабылі на працягу некалькіх дзён таксама і на торф. заводзе „Шлях соцыялізму", дзе быў сабраны багаты матэрыял для газэты „Зьвязда".

* Брыгада з пісьменьнікаў Зарыцкага і Юдэльсона выехала на Кузбас у склад інтэрнацыянальнай брыгады з мэтаю азнаямленьня з вытворчасьцю і для напісаньня твораў пра гэрояў соцыялістычнага будаўніцтва.

* На папяровую фабрыку „Чашнікі" выехала брыгада студыі МенАПП, Зазека і Віталін, з мэтай ліквідацыі прарываў і напісаньня мастацкіх твораў з жыцьця рабочых.

* У Танежскую МТС выехаў студыец Сячко для ўтварэньня літ. гуртка Бел. АПП'у і з мэтай азнаямленьня з работай і жыцьцём МТС.

* Брыгада з пісьменьнікаў Зарэцкага, Скрыгана і Малашэнка выехала на Маскоўскі электра-завод, які скончыў пяцігодку ў $2^1/_2$ гады, для адлюстраваньня ў беларускай літа-

ратуры гэроізму рабочых электразаводу.

* Барыс Мікуліч працуе над аповесьцю „Наша сонца“ (аб барацьбе комсамолу супроць шовінізму, за культурную рэволюцыю, за рост, за кадры). Ён-жа рыхтуе для БДВ кніжку апавяданьняў „Таварыш, адолеем“.

* Зьмітрок Астапенка піша поэму „Добруш, 1931 г.“

* В. Казлоўскі здаў у БДВ зборнік вершаў „Слова аб юнай краіне“.

* Вышла з друку п'еса Блісьцінава „Агні Палесься“.

* Паўлюк Ананьнеў разам з А. Ушаковым здаў у БДВ зборнік вершаў „Рабочы пульс“.

* Уладзімер Сядура рыхтуе для друку зборнік крытычных нарысаў пра поэзію.

* *Дэлегацыя МенАПП у старшыні гарсавету т. Валодзькі.*

15 чэрвеня гэтага году дэлегацыя МенАПП у складзе т.т. Александровіча, Харыка, Лынькова, Барашкі, Астапенкі і Кучара наведала старшыню менскага гарадзкога савету— тав. Валодзьку і правяла з ім гутарку па пытаньні аб становішчы закліку рабочых ударнікаў у літаратуру па гор. Менску і аб матэрыяльна-бытавым становішчы пісьменьнікаў.

Старшыня дэлегацыі Андрэй Александровіч адзначыў, што заклік ударнікаў у літаратуру па гор. Менску праходзіць бяз удзелу савецкіх і профсаюзных організацый і патрэбен пералом для пасьпяховага разгортваньня заклíку.

Старшыня гарсавету прызнаў такое становішча ненормальным і абяцаў з боку Менгарсавету актыўную дапамогу. Пытаньне аб заклíку будзе абмяркована на сэкцыі Нарасьветы, гарсавет-жа на заклік ударнікаў у літаратуру адпусьціць сродкі. Па лініі матэрыяльна-бытавога становішча пісьменьнікаў тав. Валодзька абяцаў даць заданьне жыльлёвай коопэрацыі аб уключэньні ў будаўнічы плян 1932 году пабудову дому для кватэр пісьменьнікаў. Яшчэ да пабудовы дому гарсавет адпускае для пісьменьнікаў некалькі кватэр.

Гэтая-ж дэлегацыя мела адпаведную гутарку са старшынёю праўленьня Беларускага Дзяржаўнага Выдавецтва т. А. Некрашэвічам.

* *Усесаюзная нарада польскіх пісьменьнікаў у Менску.*

Сакратарыят ВОАПП склікае ў восені ўсесаюзную канфэрэнцыю польскіх пісьменьнікаў у г. Менску.

У орг. бюро па скліканьню ўсесаюзнай канфэрэнцыі польскіх пісьменьнікаў у якасьці прадстаўніка ВОАПП вылучаны тав. В. Сутырын. Сакратарыят ВОАПП прызнаў неабходным аднавіць выданьне польскага часопісу „Культура мас“, таксама прызнаў мэтазгодным стварыць пры МГУ польскае творчае аддзяленьне.

* *Конкурс на лепшую тэхнічную кнігу.*

Прэзыдыум БелМІБТ адобрыў пастанову Белдзяржвыдавецтва наконт абвяшчэньня конкурсу на лепшую тэхнічную кнігу.

Прэзыдыум прапанаваў усім інжынэрна-тэхнічным сэкцыям шырока папулярызаваць гэты конкурс з тым, каб прыцягнуць для ўдзелу ў ім усю масу інжынэрна-тэхнічных работнікаў. Для дапамогі аўтарам-рабочым, якія прымуць удзел у конкурсе, пры інжынэрна-тэхнічных сэкцыях вытворчых саюзаў будуць організаваны спэцыяльныя консультацыі. Прэзыдыум БелМБІТ зьвярнуўся да культсэктару ЦСПСБ з просьбай укомплектаваць бібліотэкі прадпрыемстваў тэхнічнай літаратурай.

* *БДТ2—у Маскве.* У Маскву прыехаў на гастролі другі Дзяржаўны Беларускі тэатр. У гутарцы з су-

працоўнікам ТАСС дырэктар тэатру т. Вольскі сказаў: „мэта прыезду— азнаямленьне шырокіх працоўных мас Масквы з дасягненьнямі культурнага будаўніцва БССР, а таксама абмен вопытам з тэатрамі сталіцы".

Усе спэктаклі закуплены рабочымі арганізацыямі, якія праяўляюць да беларускага тэатру вялізную зацікаўленасьць.

Тэатр таксама дасьць шэраг канцэртных пастановак на буйнейшых фабрыках і заводах Масквы і ў частках Чырвонай арміі. Спэктаклі адбываюцца ў памяшканьні Мастацкага тэатру 2. Тэатр правёў гастролі ў Маскве да 20 чэрвеня, а потым выехаў на некалькі гастроляў у Ленінград, дзе даў спэктаклі ў Выбарскім і Нароўскім палацах культуры.

* *У Ленінградзкай фабрыцы Белдзяржкіно „Савецкая Беларусь".*

*„Хто лепш"*. Здадзена мастацкаму Бюро фабрыкі агітпромфільма ў трох частках „Хто лепш" на тэму аб вытворчых манэўрах, як новай форме соцыялістычнай працы.

*„Дырэктар станку"*. Здадзена мастацкаму Бюро фабрыкі фільма „Дырэктар станку" на тэму аб новых мэтодах работы і новых адносінах рабочых да сваёй працы.

*„Ураган"*. Закончана на 10 дзён раней тэрміну карціна „Ураган" на тэму аб ролі пролетарскага друку ў справе соцыялістычнага будаўніцтва.

*„Як гэта будзе"*. Ударнай зьёмачнай брыгадай № 3 па карціне „Як гэта будзе", на тэму аб ролі Асоавіяхэму ў будучай вайне праводзіцца ў частках Чырвонай арміі вялікая політасьвет. кіно работа. Ладзяцца кіно вечары, даклады пра кіно, праводзяцца чыткі сцэнарыя і г. д.

Над карцінай узяла шэфства N-ская Кавалерыйская брыгада.

*„Сталёвы шлях"*. Прыехала з экспэдыцыі на Каўказе ўдарная здымачная брыгада па карціне „Сталёвы шлях" на тэму аб рэконструкцыі транспорту.

Брыгадай за час экспэдыцыі праароблена значная грамадзкая праца, праведзен цэлы шэраг кіно-вечароў, дакладаў, дыспутаў і інш.

*„Жанчына"*. Выехала ў экспэдыцыю ў мястэчка Койданава ўдарная здымачная брыгада № 6 па карціне „Жанчына" на тэму аб вобразе новай жанчыны, вырастаючай у соцыялістычным грамадзтве, па сцэнарыі Іванова.

Брыгадай заключана соцыялістычная ўмова з колгасам, дзе будуць рабіцца здымкі, на культурнае абслугоўваньне колгасьнікаў, утварэньне вечароў, спэктакляў, дыспутаў і г. д.

* Прэзыдыумам БАН зацьверджан склад дырэктарату Інстытуту Літаратуры і Мастацтва. А. Сянкевіч дырэктар Інстытуту, т. Дунец—намесьнік дырэктара і т. Бэндэ—вучоны сэкратар. Перад ІЛМ пастаўлена, як баявая задача, і складаньне падручніка па гісторыі беларускай літаратуры.

## КУЛЬТУРНАЯ ХРОНІКА РСФСР

У ліпені г.г. Савецкі Саюз наведаў славуты ангельскі пісьменьнік Бэрнард Шоу. Разам з Шоу прыехалі ледзі і лорд Астор, ангельскі палітычны пісьменьнік лорд Лоціэн і журналіст Тэнант. Ад мяжы да Масквы ангельскіх гасьцей праваджалі Хвёдар Гладкоў, профэсар П. С. Коган і прадстаўнік ОГІЗ І. Іонаў.

Ангельскія госьці наведалі маўзалей Леніна, аглядалі Крэмль, утварылі вялікую аўтамобільную паездку па гораду і пабывалі ў парку Культуры і адпачынку.

У гонар Бэрнарда Шоу адбыўся спэктакль у Камэрным тэатры. Ішла „Опэра Жабракоў“.

23 ліпеня ў раньні Бэрнард Шоу наведаў электразавод, дзе гутарыў з рабочымі і літгуркоўцамі. Другую палову дня Шоу правёў у доме адпачынку Цэкубу ў Вузкім і з вячэрным цягнікам выехаў у Ленінград.

У Ленінградзе Бэрнард Шоу са спадарожнікамі ў справаджэньні т.т. Луначарскага і Іонава быў спатканы на вакзале пісьменьнікамі на чале са Слонімскім і Лібедзінскім, А Талстым, Рафаілам. Шоу прабыў у Ленінградзе два дні, наведаў Эрмітаж, завод ВТУЗ імя Сталіна і піонэрскі лягер у Дзіцячым сяле.

* *Рост пралетарскай культуры ў Мардоўскай аўтаномнай вобласьці.* На тэрыторыі цяперашняй Мардоўскай аўтаномнай вобласьці да рэволюцыі знаходзілася пятнаццаць манастыроў на чале са славутай Сароўскай пустошаю, мелася больш за дзьве тысячы папоў і манахоў. У 1926 г. сярод мужчынскага насельніцтва было 18 проц. пісьменных, сярод жанчын—5 проц. Лічба пісьменных у пераважнай большасьці прыходзілася на папоў, кулакоў і манашак.

Цяпер у вобласьці тры газэты: „Эрзянь комуна“ (Эрзянская гаворка) „Одвеле“ (макшанская гаворка), „Красная Мордовия“ (расійская).

У вобласьці — трыццаць саўгасаў (збожжавых, жывёлаводчых і тэхнічных культур). У гэтую весну саўгасы засеялі 125 тыс. *га*. У вобласьці працуе 660 трактараў. Да чэрвеня ў колгасах аб'яднана 35 проц. бядняцка-серадняцкіх гаспадарак; даканца году колектывізацыя ўзрасьце да 75—80 проц — вобласьць у асноўным закончыць суцэльную колектывізацыю.

Разам з палітычным і культурным уздымам мардоўскага насельніцтва расьце і мардоўская літаратура. Організацыя пролетарска-колгасных пісьменьнікаў, якая існуе ў вобласьці, яднае (з ударнікамі-прызыўнікамі) каля 200 пісьменьнікаў. Апроч літстаронак на мардоўскай і расійскай мовах, у выданьні Цэнтравыдавецтва выходзіць шэраг зборнікаў. Мардоўская організацыя разьвівае работу над паказам ударнікаў соцыялістычнай вытворчасьці лепшых саўгасаў і колгасаў; упарта змагаецца з правымі, „левацкімі“ і нацыянал-шовіністычнымі тэндэнцыямі ў літаратуры, працуе над утварэньнем мардоўскай літаратурнай мовы.

Да першага свайго зьезду, які адбываўся ў чэрвені ў Саранску, мардоўскае ОПКП прышло ўжо з немалымі перамогамі. Організацыя вызвалілася ад русіфікатарскіх тэндэнцый, якія ў свой час прывялі да

таго, што мардоўскія пісьменьнікі існавалі ў мардоўскай аўтаномнай вобласьці на правах сэкцыі пры расійскай організацыі. У цяперашні час кіруючая роля забясьпечана за мардоўскімі пісьменьнікамі.

Мардоўская літаратура прайшла першы этап свайго разьвіцьця. Далейшая задача—няўхільная барацьба за творчыя і правільныя літаратурна-політычныя позіцыі, рашучы адпор правай кулацкай небясьпецы і „лявацкім“ загібам на фронце літаратуры.

* ЛОКАФ РСФСР і цэнтральная ваенная газэта „Красная звезда“ організуюць усесаюзны конкурс на лепшы твор (апавяданьне, нарыс, вершы) аб героі чырвонаармейцы-ўдарніку, аб лепшым стралку, аб варашылаўскім суботніку і комсамоле Чырвонай арміі.

Літаратурны конкурс будзе праведзен з 5 жніўня па 1 кастрычніка. За лепшыя творы будзе выдана 6 прэмій (3 першых прэміі і 3 другіх).

Журы конкурса абрана ў складзе т.т.: А. Фадзеева, В. Лугаўскага, С. Мсьціслаўскага, Нягробава (ПУРККА), Данілава (Комакадэмія), Д. Галовіна, Чыбісава, С. Вашэнцава і 1 прадстаўніка „Красной звезды“.

МасЛОКАФ уключаецца ў паход комсамолу за 100-процантнае ўцягненьне ва УсеЛКСМ рабочай і батрацкай моладзі, якая знаходзіцца ў шэрагах Чырвонай арміі. Пісьменьнікам—локафаўцам, якія знаходзяцца ў лягерах, даецца заданьне ўзяць удзел у гэтай кампаніі і напісаць нарысы пра лепшых комсамольцаў, чырвонаармейцаў-ударнікаў.

З 1-га жніўня сакратарыят МасЛОКАФ пачаў дэкаду творчага агляду абароннай мастацкай літаратуры.

* Міжнароднае аб'яднаньне рэволюцыйных пісьменьнікаў і ОГИЗ выпусьцілі да Міжнароднага чырвонага дня аднадзенную газэту „1-е жніўня“. Тыраж газэты 50 тыс. экз.

У газэце зьмешчаны артыкулы Максіма Горкага, Карла Радэка, Дж. Джэрманэто, Сяо, Фр. Вольфа, Майкл Голда, Бакалава, апавяданьні Анры Барбюса, І. Бэхэра, Бэла Ілеша, М. Кахана, Г. Хэзлопа і вершы: Э. Гінкеля, Э. Мадараса, Э. Фабры, А. Б. Магіл, Г. А. Пацёмкіна.

Апроч таго ў газэце зьмешчаны выказваньні шэрагу замежных пісьменьнікаў: Бэрнард Шоу, Тэодора Драйзэра, Э. Сынклера, Ромэн Роляна, І. Бэхэра, Людвіга Рэна, Оскар, Марыя Граф, А. Голічэра і В. Брэдэля па пытаньні аб іх адносінах да імпэрыялістычнай вайны.

Малюнкі і карыкатуры для аднадзеннай газэты зроблены амэрыканскімі мастакамі—Вільлямам Гронэр і Фрэдам Эліс.

* МАПП прыцягнула 20 таварышоў да работы па стварэньні твораў на комсамольскія тэмы.

Творчая група „напостаўская зьмена“ правяла нараду, прысьвечаную задачы стопроцантнага ахопу рабочай моладзі комсамолам. 32 члены „напостаўскай зьмены“ ўзялі абавязак у дэкадны тэрмін—да 1-га жніўня—падрыхтаваць зборнік і выклікалі ўсе творчыя групоўкі МАПП, ЛАПП і ўсіх організацый ВОАПП на спаборніцтва.

А. Жараў даў абавязак зрабіць у „Комсомольской правде“ 2 публіцыстычных выступленьні і напісаць у дэкадны тэрмін комсамольскую песьню і лёзунгі.

М. Сьвятлоў бярэ шэфства над двума літгурткоўцамі-ўдарнікамі і дае абавязак да 10 жніўня напісаць вершы і некалькі лёзунгаў.

В. Казін абавязаўся напісаць вершы пра комсамол.

Літгурток Электразаводу ўзяў абавязак выпусьціць у заводзкай друкаванай газэты 3 літстаронкі, прысьвечаныя комсамолу.

Найбольшую актыўнасьць праяўляе літгурток заводу імя Дзяржынскага. Літгурткоўцы выпускаюць у друкаванай газэце старонку моладзі,

пішуць шэраг твораў на комсамольскія тэмы.

* Усьлед за выехаўшай у Донбас (Крыварожжа) першай інтэрнацыянальнай брыгадай ВОАПП і „Известий ЦИК СССР“ нядаўна выехала ў Кузбас другая пісьменьніцкая брыгада ў складзе т.т. Апчук (яўсэкцыя ВУСПП), Шыян, Д. Чэпурны (украінскі „Молодняк“), Сар'ян (Армянская АПП), Ахундлі (Азэрбайджанская АПП і Гупэрт (нямецкі нарысіст).

У Сярэднюю Азію (Узбэкістан і Туркменістан) выяжджае пісьменьніцкая брыгада ў складзе т.т. Барашка, Хведаровіч, (БелАПП), Глебка („Узвышша“), Крыжаноўскі (Украінскі „Молодняк“) і Кушнероў (яўсэкцыя МАПП).

На торфараспрацоўкі (Шатура) выяжджае брыгада пісьменьнікаў П. Галавач (БелАПП) і Харык (Яўсэкцыя БелАПП).

* Усерасійскі саюз савецкіх пісьменьнікаў прыступіў да праверкі складу членаў саюзу. На бліжэйшым паседжаньні праўленьня ВССП будзе абгаварвацца сьпіс асоб, вызначаных да пэрсанальнай чысткі.

## УКРАІНСКАЯ КУЛЬТУРНАЯ ХРОНІКА

* У канцы мая адбылася вялікая падзея ў жыцьці навуковых колаў Кіева. Гэтая падзея выходзіць далёка за межы работы гэтых колаў, маючы вялічэзнае значэньне для ўсяго соцыялістычнага будаўніцтва на Украіне і ў цэлым Савецкім Саюзе. Мы гаворым пра адозву пяці вучоных акадэмікаў Усеукраінскай Акадэміі Навук: Багамольца—прэзыдэнта Акадэміі Навук, акадэміка Сымінскага, акадэміка Плотнікава, акадэміка Фаміна і акадэміка Патона.

У сваёй адозьве акадэмікі пішуць пра вялікія перамогі пролетарыяту на фронце сацыялістычнага будаўніцтва, пра вялічэзныя заданьні далейшай работы. „У баку ад гэтых гістарычных заданьняў нашай эпохі,—пішуць яны,—не павінна стаяць ніводная галіна нашага жыцьця, барацьбы і будаўніцтва і перш за ўсё навукова-дасьледчая работа"... „Жыцьцё даказала, што абсалютная большасьць навуковых работнікаў ідзе воплеч з пролетарыятам"... „Уся наша моц, уся наша ўвага павінны быць асяродкаваны на тэорэтычным марксыцкім апрацоўваньні проблем соцыялістычнага будаўніцтва і клясавай барацьбы пролетарыяту, непарыўна зьвязана са штодзеннай барацьбой нашай краіны за канчатковую перамогу соцыялізму".

Выходзячы з гэтага акадэмікі Багамолец, Патон, Сымінскі, Фамін, Плотнікаў, падхопліваючы адозву рабочых заводу „Бальшавік" пра аплату рахункаў Данбасу, абвясьцілі сябе ўдарнікамі соцыялістычнай навукі і дакляравалі ўсе свае сілы, волю, творчую думку, усе свае навуковыя веды аддаць на справу соцыялістычнага будаўніцтва і заклікалі ўсіх вучоных Савецкага Саюзу ўзяць ад іх прыклад.

Адозва пяці акадэмікаў-энтузіястаў адразу знайшла шырокі водгук у навуковых колах. У шэрагі ўдарнікаў уступіў увесь навукова-пэдагогічны склад кіеўскага машына-будаўнічага інстытуту. Аднагалосна прыняла заклік Усеукраінская навукова-батанічная нарада і інш.

Праз некалькі дзён мы мелі яшчэ дакумант выдатнай вагі.

* * *

* У Харкаве закончыўся 2-гі Усеукраінскі конкурс п'яністаў, які організавала Цэнтральнае праўленьне Укрфілу з мэтай выявіць найбольш здольных і цікавых музык і выкарыстаць іх у сваёй концэртнай дзейнасьці.

У конкурсе бралі ўдзел 23 п'яністы, прадстаўнікі Кіева, Харкава, Адэсы, таксама Ленінграду, якія атрымалі музычную асьвету на Украіне. Пасьля папярэдняга іспыту выявілася, што склад удзельнікаў конкурсу паказаў сябе моцным і высокім і перавысіў у значнай меры ўзровень першага Усеукраінскага конкурсу.

Адкрыты конкурс працягваўся 3 дні і выклікаў вялікую зацікаўленасьць з боку грамадзкасьці. Выявілася цэлая нізка цікавых п'яністаў, але-ж, як прызнала журы, ніхто з удзельнікаў у сваёй вольна падабранай програме не разьвязаў цалкам найважнейшай проблемы падбору матэрыялу, які поўнасьцю адпавядаў бы вымаганьням пролетарскай аўдыторыі. У зьвязку з гэтым журы ўхва-

ліла зьняць першую прэмію. Другую прэмію прызначылі п'яністу Эдэльману, які закончыў у 1923 г. Кіеўскую консэрваторыю па клясе профэсара Блюмэнфэльда, потым у 1929 г. муздрамінстытут імя Лысенка. П'яніст Эдэльман мае рознастайныя і сваясаблівыя здольнасьці.

Трэцюю прэмію падзялілі паміж дзьвюма п'яністамі: Рабая (Кіеў—Ленінград), Склоўскі, Сагалаў (Харкаў).

Апроч прэмій прызначана пяць пачэсных месцаў таленавітаму маладняку: Зак (Адэса), Обэрман, Бярдзічэўская (Кіеў), Саеўскі, Энштэйн (Ленінград—Харкаў).

З прычыны таго, што конкурс меў на мэце выявіць апроч п'яністаў, якія заслугоўваюць прэміі, наогул культурныя музычныя сілы Украіны, ухвалена шэраг п'яністаў выкарыстаць у рабоце Укрфілу.

* Адбыўся Ўседанбаскі зьлёт ударнікаў-рабочых, закліканых у літаратуру. 85 дэлегатаў ад 24 літаратурных забойскіх гурткоў з агульнага ліку 30 прыбылі на зьлёт.

Ня прыслалі сваіх дэлегатаў толькі тыя гурткі, што ня здолелі як належыць паставіць заклік, ня здолелі стаць на чале вялікага паходу пролетарыяту за аўладаньне мастацкім словам, як зброяю соцыялістычнай рэконструкцыі.

Работа зьлёту праводзілася патрох асноўных пытаньнях парадку дня: 1) даклад адказнага сакратара ВУСПП'у тав. Мікітэнка „Пролетарская літаратура на новым этапе барацьбы за гегемонію", даклад адказнага сакратара Донбасаўскай організацыі ВУСПП „Забою" т. Сямёнава—„Вынікі закліку і заданьні работы з ударнікамі-прызыўнікамі ў літаратуру" і даклад тав. Западзінскага—„Творчы твар і заданьні ўдарнікаў у літаратуры".

* * *

Нядаўна украінскія пролетарскія пісьменьнікі, члены ВУСПП'у, Аркадзь Любчэнка і Пятро Панч на запрашэньне організацыі са Славянску і па даручэньні ВУСПП'у выяжджалі ў Славянск. Там разам з літаратурнымі сіламі мясцовай філіі ўседанецкага „Забою" і з прадстаўнікамі мясцовай газэты „Бальшавік" пісьменьнікі організавалі некалькі выступленьняў на прадпрыемствах і на рабочым курорце.

Пісьменьнікі выступалі з дакладамі аб становішчы пролетарскай літаратуры, ролі рабочага-ўдарніка ў літаратуры і ўдзеле яго ў літаратурным процэсе. Чыталі пісьменьнікі і ўласныя творы.

За апошні час у Славянску заклікана да літаратуры 50 новых таварышоў, рабочых-ударнікаў.

* * *

* 22-га 27-га ліпеня ў Кіеве былі члены БелАПП'а Юр. Лявонны і С. Шушкевіч, якія выяжджалі на Украіну разам з групай студэнтаў БДУ для азнаямленьня з дасягненьнямі соцыялістычнага будаўніцтва братняй рэспублікі.

У Кіеўскам будынку літаратуры белаппаўцы сустрэліся з украінскімі пісьменьнікамі т. т. Кундзішам, Качурам і іншымі. У таварыскай гутарцы пісьменьнікі азнаёміліся з ходам закліку ўдарнікаў у літаратуру, з работай кіеўскага аддзяленьня фэдэрацыі аб'яднаньняў савецкіх пісьменьнікаў Украіны (ФОРПУ), а таксама з дзейнасьцю самога будынку літаратуры.


Дзяржаўная бібліятэка БССР

## ЗАМЕЖНАЯ ХРОНІКА

**Амэрыка.**

* *Новы раман работніцы—пісьменьніцы Мэры Хітон Ворс.* Вышаў новы раман работніцы Мэры Хітон Ворс „Страйк“. Тэма раману—забастоўка тэкстыльшчыкаў Паўночнай Караліны 19 29 году і яе прыдушаньне.

„Страйк“ Ворс расцэньваюць як шэдэўр маладой пралетарскай літаратуры і першазначнае зьявішча ў рабочай літаратуры Паўднёвых Штатаў Паўночнай Амэрыкі.

* *Клюб Джона Рыда.* Клюб Джона Рыда зьяўляецца цэнтральнай організацыяй усіх левых рэволюцыйных сіл, якія працуюць на культурным фронце Паўночна-Амэрыканскіх Злучаных Штатаў.

Клюб уступіў у новы год свайго існаваньня пад сьцягам узмоцненай актыўнасьці па ўсіх вучастках культурнага жыцьця.

Збор прац мастакоў, членаў клюбу, пасланы ў СССР, дзе будзе выстаўлены стараньнямі таварыства культурнай сувязі з заграніцай. Падобную выстаўку прац савецкіх мастакоў організуе клюб Джона Рыда з экспанатаў, якія прывёз вяртаючыся з сусьветнай конфэрэнцыі рэволюцыйнай літаратуры, якая адбывалася на Украіне, у Харкаве, Вільям Гропэр:

**Аўстрыя.**

* *Выстаўка матэрыялаў пяцігодкі СССР.*

У Ведні адбылася выстаўка матэрыялаў пяцігадовага пляну соцыялістычнага будаўніцтва ў СССР. На выстаўцы зроблен шэраг дакладаў пра экономічнае і культурнае жыцьцё ў СССР. Выстаўка і даклады былі організаваны „Таварыствам прыяцеляў СССР.“

* *Новая група пролетарскіх рэволюцыйных пісьменьнікаў.*

Надоечы ў Грацы ўтварылася група пролетарскіх рэволюцыйных пісьменьнікаў, якія ставяць мэтай выкрываць нявольніцкія ўмовы працы ў капіталістычных краінах і бараніць СССР.

* *Выданьне твораў украінскага композытара.*

„Uniwersal Verlag“ у Ведні выпусьціла творы вядомага украінскага композытара Вас. Барвінскага для фортоп'яна—6 мініятур і „Каханьне“.

* *Выданьне романсаў Ганса Айсьлера.* „Унівэрсальнае выдавецтва ў Ведні выдала романс композытара члена нямецкай комуністычнай партыі Ганса Айсьлера. Вялікім посьпехам карыстаецца яго вакальныя гумарэскі „Вырэзкі з газэт“.

* *З творчасьці рэволюцыйнага композытара Рудольфа Рэці.*

У пачатку гэтага году на 4-м рабочым канцэрце ў Ведні ўпяршыню быў выканаты твор аўстрыйскага рэволюцыйнага композытара Рудольфа Рэці на тэму „Приказ по армии искусств“ Ул. Маякоўскага. Твор меў вялізарны посьпех.

Рэці лічыцца ў Аўстрыі дужа левым, дужа рэволюцыйным композытарам.

Ня мала перашкод прышлося перадалець композытару пакуль ён дабіўся права на выкананьне сваіх твораў на рэволюцыйныя тэмы. Далёка не адразу соцыял-дэмократычная музычная організацыя згадзілася ўзяць для выкананьня і гэты яго твор.

„Приказ по армии исскуств“ зроблены ў стылю бурлівай гэроічнай музыкі. Выконвае сымфонічны ансабль і мешаны хор.

Разьмяшчэньнем барабанаў на хорах і паміж публікаю Рэці дасягнуў выключнага музычнага ўплыву на слухачоў. Ствараецца ўражаньне нібы слухачы аточаны зазыўным боем барабанаў з усіх бакоў.

Аўстрыйская прэса называе гэту рэч Рэці цалкам новай, якая паказвае яго высока разьвітую музычную здольнасьць.

„Рэволюцыйная композыцыя“ і тональнасьць даюць надзвычайна захапляючую музычную карціну. Рэці належыць да ліку цікавых асоб у новай экспэрымэнтальнай музыцы. Ён шчыры і самабытны. Яго харавая песьня захапляе слухача сваёю магутнасьцю (Ведэнская газэта „Morgen“).

Рэці напісаў некалькі рэчаў на творы Маякоўскага. Асноўнае з іх „Вялікі мітынг“ (150.000.000 „Маякоўскага). Гэта вялікая композыцыя, якая забірае цэлы концэртны вечар, напісана для выкананьня і духавым оркестрам і хорам, з удзелам мэлядэклёмацыі і салістаў.

**Нямеччына.**

* *Джэрмонетто—ганаровы член Бэрлінскай РПО цырульнікаў.*

Аўтар „Запісак цырульніка“ Джыовані Джэрмонетто атрымаў ад організацыі рэволюцыйнай профопозыцыі цырульнікаў Бэрліну прывітальны ліст з паведамленьнем аб абраньні Д. Джэрмонетто ганаровым членам Бэрлінскага РПО цырульнікаў.

**Францыя.**

* *Новае міжнароднае аб'яднаньне пісьменьнікаў і мастакоў.*

Анры Барбюс організаваў новае міжнароднае аб'яднаньне пісьменьнікаў і мастакоў, якое ставіць сабе мэтай бараніць СССР, высьветляць у чужаземным друку пытаньне соцыялістычнага будаўніцтва ў Савецкіх краінах. Паасобныя комітэты ўжо організаваны ў Францыі, Нямеччыне, Аўстрыі і Бэльгіі.

* *Новая кніжка Андрэ Мороа.* Вядомы романіст Андрэ Мороа (André Monrois) з перакананьня консэрватор католік, выдатны майстар біографічнага раману, нядаўна выпусьціў кніжку „Aspects de la Biographie“.

У гэтай кніжцы аўтар жанр біографічнага раману трактуе выключна з эстэтычнага боку. Ня гледзячы на такую аднабаковасьць і вузкасьць трактаваньня, кніжка не пазбаўлена ўдалых, трапных заўваг і нагляданьняў.

* *Політычныя п'есы ў парыскіх тэатрах.*

У парыскіх тэатрах ставіцца цэлы шэраг політычных п'ес. Угорская рэволюцыя і Бела Кун падаюцца ў п'есе Бэрнэра Цімэра „На берагох чырвонага Дунаю“, якая ідзе ў тэатры „Монпарнас“.

У тэатры „Атэльле“ ставяць п'есы „Ленін“—Франсуа Поршэ, аўтара п'есыз жыцьця і руху ірляндзкіх сынфойнэраў „Ноч у Ірляндыі.“

**Чэхаславакія.**

* Раман вядомага чэшскага сатырыка Я. Гашэка—„Прыгоды бравага салдата Швэйка“ вытрымаў у Чэхіі 11 выданьняў. На сёнешні дзень раман перакладзены на нямецкую, францускую, ангельскую, украінскую, расійскую, беларускую, польскую, швэдзкую, угорскую, голяндзкую, іспанскую і японскую мовы. На сцэне „Прыгоды Швэйка“ ідуць у Чэхаславаччыне, СССР, Нямеччыне, Польшчы і Югаславіі.

*Рэдакцыйная колегія* — **Ал. Сянкевіч, А. Некрашэвіч, Р. Мурашка, П. Галавач, С. Рычкоў,**

*Выдавец* — **Беларускае Дзяржаўнае Выдавецтва**

204218
30634

БДВ



АДДЗЕЛ ПАДПІСНЫХ І ПЭРЫЯДЫЧНЫХ ВЫДАНЬНЯЎ

# ПАДПІШЫСЯ НА 1931 ГОД

Тэлефон рэдакцыі 17-09
Тэлефон бюро падпіскі 17-12

АДЗІНЫ Ў БССР ІЛЮСТРАВАНЫ ДВУХТЫДНЁВЫ ЧАСОПІС ТЫПУ ЛЕПШЫХ ІЛЮСТРАВАНЫХ ЧАСОПІСАЎ СССР

# ЧЫРВОНАЯ БЕЛАРУСЬ

ПАД РЭДАКЦЫЯЙ МІХАСЯ ЧАРОТА

У „ЧЫРВОНАЙ БЕЛАРУСІ" НА ПРАЦЯГУ 1931 ГОДУ БУДУЦЬ ЗЬМЕШЧАНЫ:

**АПАВЯДАНЬНІ:** Авалава, З. Бядулі, С. Баранавых, Іл. Барашкі, Вольнага, Тараса Гушчы, Цішкі Гартнага, Платона Галавача, Даўгапольскага, Міхася Зарэцкага, Ізбаха, Васіля Каваля, Элі Кагана, Р. Кальтофэн, М. Кальтофэн, М. Лынькова, Ліманоўскага, Р. Мурашкі, Маўра, М. Нікановіча, Нёманскага, К. Чорнага, Міхася Чарота і інш.

**ПАЭМЫ І ВЕРШЫ:** А. Александровіча, Астапенкі, Янкі Бобрыка, П. Броўкі, М. Багуна, Алеся Звонака, Янкі Купалы, Якуба Коласа, Крапівы, Максіма Лужаніна, Валерыя Маракова, І. Плаўніка, Юлія Таўбіна, Ізі Харыка, Ул. Хадыкі, М. Хведаровіча, Міхася Чарота, С. Шушкевіча і інш.

**НАРЫСЫ І ФЭЛЬЕТОНЫ:** Бяліна-Падгаецкага, Бэндэ, Вольнага, Яўгена Жука, Цімоха Зарэчнага, Клімчука, Мікуліча, Васіля Сташэўскага, Шкадарэвіча, Х. Шынклера

**МАЛЮНКІ І ФОТО:** Ахрэмчыка, Азгура, Бразэра, Булычова, Вал. Волкава, Давідовіча, Кіпніса, Барыса Малкіна, Мазэлева, Ул. Семянякі, Салавейчыка, М. Філіповіча і цэлага шэрагу раённых карэспандэнтаў.

УСЯГО „ЧЫРВОНАЯ БЕЛАРУСЬ" ДАЕ Ў ГОД: звыш 1000 фотоздымкаў, якія ілюструюць социялістычнае будаўніцтва СССР і БССР, а таксама замежнае жыцьцё, звыш 300 малюнкаў лепшых мастакоў, звыш 200 апавяданьняў, вершаў і нарысаў.

„ЧЫРВОНАЯ БЕЛАРУСЬ" БУДЗЕ ВЫСЬВЯТЛЯЦЬ: самыя шырокія правы жыцьця, рэконструкцыйнага пэрыяду і магутнага сацыялістычнага наступу па ўсім фронце сацспаборніцтва і ўдарніцтва.

**УМОВЫ ПАДПІСКІ:**

| На 1 год | | На 6 мес. | | На 3 мес. | |
|---|---|---|---|---|---|
| р. | к. | р. | к. | р. | к. |
| 3 | — | 1 | 50 | — | 75 |

Асобны нумар каштуе **15 К.**

ПАДПІСКА ПРЫМАЕЦЦА: аддзелам падпісных і пэрыядычных выданьняў БДВ, Менск, Савецкая, 79, усімі кнігарнямі, кіёскамі і ўпаўнаважанымі БДВ, усімі паштова-тэлеграфнымі канторамі і крамамі спажывецкай каапэрацыі.




ЦАНА 1 руб. 50 кап.

1430

## АДКРЫТА ПАДПІСКА НА 1931 ГОД

НА ШТОМЕСЯЧНУЮ
БЕЛАРУСКУЮ ЧАСОПІСЬ
ЛІТАРАТУРЫ, ПОЛІТЫКІ,
ЭКОНОМІКІ, ГІСТОРЫ, КРЫТЫКІ

# „ПОЛЫМЯ“

X год выданьня

ПАД РЭДАКЦЫЯЙ:
А. СЯНЬКЕВІЧА, П. ГАЛАВАЧА,
А. НЕКРАШЭВІЧА, Р. МУРАШКІ,
С. РЫЧКОВА

X год выданьня

ЧАСОПІСЬ „ПОЛЫМЯ“ ВЫХОДЗІЦЬ ШТОМЕСЯЦ, 12 КНІЖАК НА ГОД, памерам кожная ў 10—12 аркушоў.

## УМОВЫ ПАДПІСКІ:

на 12 мес. . . . . . . . 10 руб.
„ 6 „ . . . . . . . 5 „ 50 кап.
„ 3 „ . . . . . . . 3 „

КОШТ АСОБНАГА НУМАРУ 1 руб.

ПАДПІСЧЫКІ, якія ўнясуць пры падпісцы поўнасьцю 10 рублёў, атрымаюць у 1931 годзе ДАРМОВЫ ДАДАТАК—літаратурна-мастацкую часопісь „УЗВЫШША“ за 1927 або 1928 год, па жаданьню.

НА ВЫПЛАТУ МОЖНА ПАДПІСАЦЦА:

ГАДАВЫМ ПАДПІСЧЫКАМ у 3 тэрміны: пры падпісцы—4 р. 50 к., да 1-га красавіка—3 руб. і да 1-га ліпеня—2 руб. 50 кап.

ПОЎГАДАВЫМ ПАДПІСЧЫКАМ у 2 тэрміны: пры падпісцы—3 р. 50 к. і да 1-га красавіка—1 руб. 50 кап.

ПАДПІСКА ПРЫМАЕЦЦА: У аддзеле падпісных і пэрыодычных выданьняў БДВ (Менск, Савецкая, 79, тэл. 17-12); Цэнтральнай Кнігарні Белдзяржвыдавецтва (Менск, рог Ленінскай і Савецкай); усімі гарадзкімі аддзяленьнямі Беларускага Дзяржаўнага Выдавецтва; аддзелам падпіскі пэрыодсэктару ГІЗ'у РСФСР (Менск, Савецкая, 54); усімі паштова-тэлеграфнымі канторамі і ўсімі кніжнымі крамамі спажывецкіх таварыстваў БЕЛКООП-САЮЗУ.